АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# БЕЛАРУСКАЯ АНАМАСТЫКА





МІНСК ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1977



## ПРАДМОВА

Анамастычныя даследаванні ў нашай краіне атрымалі ў апошнія гады даволі шырокае развіццё. Аб гэтым сведчыць выданне зборнікаў, манаграфій, спецыяльных слоўнікаў, даведнікаў, вучэбных дапаможнікаў, а таксама анамастычныя канферэнцыі, якія амаль штогод праводзяцца ў розных гарадах Савецкага Саюза.

Значны крок у вывучэнні анамастыкі роднага краю зрабілі і беларускія вучоныя. Падрыхтаваны працы па айканіміі Мінскай і Гомельскай абласцей, гідраніміі і айканіміі басейна Заходняй Дзвіны, мікратапаніміі Стаўбцоўскага раёна і паўднёвай часткі Мінскай вобласці, Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці, па гістарычнай і сучаснай антрапаніміі; даследаванні па тапаніміі Беларусі, па агульных пытаннях тапанімікі; тапанімічны слоўнік Беларусі. (Бібліяграфія па беларускай анамастыцы даецца ў канцы зборніка.) На завяршаючай стадыі знаходзіцца праца па даследаванню айканіміі Брэсцкай, Віцебскай і Гродзенскай абласцей, мікратапаніміі рада раёнаў Брэсцкай і Гомельскай абласцей. Такім чынам, беларуская анамастычная навука прадстаўлена, хаця не раўнамерна, даследаваннямі па ўсіх яе асноўных раздзелах. Ва ўсіх працах разглядаецца галоўным чынам лексіка-семантычны састаў утваральных асноў і словаўтваральныя тыпы ўласных назваў.

На сучасным этапе адной з важных задач беларускай анамастыкі з'яўляецца далейшае развіццё даследаванняў па гідраніміі, айканіміі, мікратапаніміі і антрапаніміі. Побач з вывучэннем структуры ўласных назваў больш увагі неабходна аддаваць даследаванню механізма матывацыі, асаблівасцей суіснавання і ўзаемадзеяння розных словаўтваральных тыпаў у канкрэтных рэгіёнах. На аснове аналізу лінгвістычных, гісторыка-

эканамічных і геаграфічных даных трэба даследаваць прынцыпы і працэс станаўлення словаўтваральных арэалаў, растлумачыць іх тэрытарыяльную абумоўленасць. Па-ранейшаму важнай задачай з'яўляецца збор новага матэрыялу па спецыяльных праграмах. Належнае месца ў анамастычнай навуцы павінна заняць лінгвагеаграфія.

Па-за ўвагай беларускіх вучоных не застануцца і важныя задачы распрацоўкі практычных пытанняў анамастыкі. Праўда, зараз гэта праца знаходзіцца ў пачатковай стадыі. Трэба шмат яшчэ зрабіць у сэнсе нармалізацыі шматлікіх назваў населеных пунктаў і водных басейнаў Беларусі і іншамоўных назваў. У нас яшчэ няма вучэбных дапаможнікаў па анамастыцы і добрых папулярных работ.

Гэты зборнік уключае працы, падрыхтаваныя аўтарамі ў 1973—1975 гг. Аўтары і рэдактар спадзяюцца, што чытач знойдзе ў зборніку цікавыя назіранні або патрэбны яму матэрыял.

*В. А. Жучкевіч*

# КОЛЬКАСНЫЯ І СТАТЫСТЫЧНЫЯ МЕТАДЫ Ў ТАПАНІМІЦЫ

Колькасныя і статыстычныя метады даследавання ўжываюцца ў тапаніміцы яшчэ даволі рэдка, хоць і ствараюць значныя магчымасці для абагульненняў і вывадаў. Эфектыўны яны пры апрацоўцы масавага тапанімічнага матэрыялу. У тых жа выпадках, калі даследуецца невялікі матэрыял, магчымасці колькасных метадаў абмежаваны. Прымяненне колькасных метадаў дазваляе выдзеліць важнейшыя асаблівасці тапанімічнага рэгіёна і яго сувязі з іншымі рэгіёнамі, выявіць характэрныя з'явы геаграфічнага, гістарычнага і лінгвістычнага аспектаў, сістэматызаваць матэрыял для тапанімічных карт і тапанімічнага раяніравання.

Элементы колькасных і статыстычных метадаў сустракаюцца часцей у рэгіянальных тапанімічных работах. Сярод іх варта ўспомніць працы Ю. А. Карпенкі «Прымяненне матэматычных метадаў у тапанімічных даследаваннях» (Тэзісы канферэнцыі. Чарнаўцы, 1960), «Магчымасці і межы статыстыкі ў вывучэнні тапанімічных назваў» (Тэзісы міжвузаўскай канферэнцыі па прымяненню статыстычных метадаў даследавання славарнага саставу мовы. М., 1961), працы У. А. Ніканава «Геаграфія рускіх суфіксаў» («Onomastica», № 9, 1959), «Невядомыя мовы Паочча» («Вопросы языкознания», 1960, № 5), нарэшце, працу Я. М. Паспелава «Матэматыка-статыстычныя метады ў тапаніміцы» («Вопросы географии», вып. 70. М., 1966), у якіх былі абгрунтаваны некаторыя статыстычныя метады.

Разгледзім коратка асобныя больш ці менш эфектыўныя прыёмы прымянення колькасных і статыстычных метадаў даследавання. Іх можна падзяліць на тры групы: 1) падлік і апрацоўка саміх тапонімаў, іх групоўка і размяшчэнне; 2) падлік і апрацоўка асобных прыкмет тапонімаў; 3) параўнанні, супастаўленні, выяўленне арэалаў, ізаглос і новых даных, непасрэдна не

ўспрымаемых у тапаніміі да яе статыстыка-матэматычнай апрацоўкі.

**Падлік, групоўка і статыстычная апрацоўка тапонімаў.** Падлік тапонімаў — першая і важнейшая ўмова прымянення колькасных і статыстычных метадаў. Ад яго ўзроўню і якасці ў значнай ступені залежыць поспех даследавання. Такі падлік вядзецца звычайна ў пэўным арэале — тапанімічным ці іншым, часцей за ўсё адміністрацыйным: па рэспубліцы, вобласці ці раёну. Да адміністрацыйных адзінак звяртаюцца таму, што тапанімічнае раяніраванне пакуль яшчэ справа будучага.

Але нават элементарная задача колькаснага ўліку тапонімаў не заўсёды простая справа. Такі ўлік для далейшай статыстычнай апрацоўкі залежыць ад характару саміх аб'ектаў. Не вельмі цяжка ўлічыць на тэрыторыі ў сотні тысяч кіламетраў усе гідронімы. Больш складанай справай з'яўляецца падлік назваў паселішчаў. Іх колькасць будзе рознай у залежнасці ад крыніцы — маштаба геаграфічнай карты, з якой узяты звесткі, ці ад паўнаты спіска населеных пунктаў. Найбольш поўныя спіскі таксама не даюць вычарпальнага матэрыялу не толькі з-за недасканаласці самога ўліку (асабліва ў раёнах з дробнымі паселішчамі хутарскога тыпу), але і па прычыне змен у рассяленні (узнікнення новых пунктаў, ліквідацыі старых). У апошнім выпадку ўлік ажыццяўляецца за пэўны (дакладна акрэслены) перыяд ці па стану на пэўную дату. Нарэшце, асабліва складаным з'яўляецца ўлік мікратапонімаў, крыніцай якіх могуць быць толькі палявыя запісы.

Колькасныя паказчыкі даюць магчымасць атрымаць цэлы шэраг характарыстык. Адна з іх — ступень развіцця тапаніміі. Пад гэтым тэрмінам трэба разумець колькасць назваў на кожныя 100 кв. км тэрыторыі. Яна таксама сведчыць аб узроўні развіцця гаспадаркі, шчыльнасці насельніцтва і асваенні мясцовасці. Рэдка заселеныя мясцовасці (напрыклад, паўночны ўсход Якуціі) маюць менш развітую тапанімію (уключаючы і мікратапанімію), чым густанаселеныя. Тую ж заканамернасць можна прасачыць і на буйных рэгіёнах, і на адносна невялікіх плошчах. Напрыклад, лясныя паўночна-ўсходнія часткі Лагойскага раёна Мінскай вобласці маюць менш развітую тапанімію, чым больш заселеныя

заходнія часткі. У першых ступень развіцця тапаніміі складае 8 на 100 кв. км, у другіх каля 15, адпаведна па мікратапаніміі 4000 і 15000 на 100 кв. км.

Можна суадносіць колькасць тапонімаў на 1000 жыхароў. Чым вышэй шчыльнасць насельніцтва, тым ніжэй гэты паказчык. Напрыклад, насельніцтва Мінска складае 1,2 млн. чалавек, а колькасць тапонімаў на гэтай плошчы (назвы вуліц, плошчаў, сквераў і паркаў) каля 1050, гэта значыць каля аднаго тапоніма на 1000 чалавек. У Якуціі пры насельніцтве ў 750 тыс. чалавек гэты паказчык складзе 800—1000 на 1000 чалавек. Але правільней будзе суадносіць колькасць тапонімаў не з колькасцю насельніцтва, а з плошчай.

Пазнавальнае значэнне мае і групоўка тапонімаў. Яна можа мець розны выгляд у залежнасці ад узятых пад увагу прыкмет. Адна з іх — велічыня аб'екта. У. Георгіевым па гэтаму паказчыку былі выяўлены адрозненні ў моўнай прыналежнасці рачных назваў у залежнасці ад даўжыні ракі («Балгарская этымалогія і анамастыка», 1960). Намі была таксама паказана на прыкладзе БССР залежнасць этымалогіі гідронімаў ад велічыні саміх аб'ектаў («Паходжанне геаграфічных назваў Беларусі», 1961). Цікавай была б групоўка тапонімаў па часу іх узнікнення. Яна дазволіла б выявіць характэрныя рысы працэсу называння ў розныя гістарычныя эпохі, а таксама высветліць характар трансфармацыі назваў за час іх існавання. Аднак такія групоўкі магчымы толькі ў асобных выпадках.

Трэцім відам груповак па нетапанімічнаму прызнаку можа быць групоўка па фізіка-геаграфічных умовах аб'ектаў. Яна ўжываецца яшчэ рэдка, але мае вялікія магчымасці. Пераканаўчы прыклад такой групоўкі даў У. А. Ніканаў для Цэнтральнай Афрыкі (у зб. «Прынцыпы тапанімікі», 1964). Да таго ж віду можна аднесці і групоўку айконімаў па прыкмеце блізкасці да ракі ці водападзелу, пэўнаму тыпу глебы, лясоў, у адносінах да вышыні над узроўнем мора і г. д. Гэтыя віды груповак ужо вядомы ў тапанімічнай літаратуры, але яны выкарыстоўваюцца яшчэ недастаткова.

Падлік, групоўка і статыстычная апрацоўка тапанімічных прыкмет. Гэта катэгорыя колькасных і статыстычных метадаў найбольш ёмкая, разнастайная і перспектыўная для тапанімічнага ана-

лізу. Але яе прымяненне патрабуе цэлага шэрагу папярэдніх умоў. Галоўная з іх — дакладнае вызначэнне прыкметы. Статыстычная апрацоўка дае надзейныя вынікі, калі надзейныя самі крыніцы. Да ліку важнейшых тапанімічных прыкмет належаць: 1) сэнс асновы, якая з'яўляецца неабходнай умовай семантычнай класіфікацыі тапаніміі; 2) моўная прыналежнасць асновы; 3) суфіксы (з улікам іх значэння, паходжання і ўзросту); 4) прэфіксы (іх значэнне і паходжанне); 5) геаграфічныя тэрміны ў тапаніміі і г. д.

Вылучыць патрэбныя прыкметы не заўсёды лёгка. Ад дакладнасці іх вылучэння залежыць дакладнасць і актуальнасць вывадаў. Кожную з прыкмет можна суадносіць з іншымі. Паказальным іншы раз з'яўляецца падлік працэнтных суадносін розных тапонімаў. На гэтай аснове можна даць тапанімічныя спектры. Намі прыводзіліся працэнтныя суадносіны align сэнсавага значэння тапонімаўтваральных асноў у назвах паселішчаў («Паходжанне геаграфічных назваў Беларусі», 1961). Яны паказалі, што назваў першага тыпу (па асаблівасцях прыроднага асяроддзя) больш за ўсё ў малаабжытых раёнах БССР. Патранімічных назваў, наадварот, больш у даўно асвоеных, густанаселеных раёнах. Хоцьназіранні 1961 г. былі пазней некалькі ўдакладнены, у асноўным яны не страцілі свайго значэння і пацвярджаюцца пазнейшымі матэрыяламі.

Падлік моўнай прыналежнасці асновы тапонімаў дае матэрыял для вызначэння тапанімічных арэалаў і межаў. Ён асабліва важны для тэрыторый са змешаным нацыянальным складам насельніцтва, каля этнічных межаў. Статыстычны аналіз па моўнай прыкмеце дае магчымасць вызначыць важнейшыя тапанімічныя пласты і арэалы.

Статыстычны аналіз фармантаў займае ў тапанімічных даследаваннях асабліва важнае месца. Колькасць і частату кожнага фарманта можна суадносіць да ўсёй тапаніміі таго ці іншага раёна або даваць працэнтнымі суадносінамі да наяўнай плошчы ці да іншых фармантаў. Фарманты можна групаваць па сэнсавых катэгорыях (напрыклад, група патранімічных суфіксаў, фармантаў астатачнасці, множнасці і г. д.).

Побач з суфіксамі можна даваць статыстычную апрацоўку прэфіксаў, хоць ім яшчэ не надаецца належ-

най увагі ў тапанімічных даследаваннях. У балтыйскіх тапонімах на тэрыторыі БССР мы часта знаходзім літоўскія прэфіксы, а ў зоне балта-славянскіх кантактаў шырока распаўсюджаны і гібрыдныя прэфіксальныя формы. Улік і аналіз прэфіксаў мае вялікае пазнавальнае значэнне, паколькі мы сустракаем сярод іх прадуктыўныя не толькі ў сучасны перыяд, але і ў мінулыя эпохі.

Падлік і статыстычная апрацоўка геаграфічных тэрмінаў у тапаніміі таксама мае вялікае пазнавальнае значэнне, бо дае спецыфіку геаграфічных умоў. У сваю чаргу яны таксама могуць быць згрупаваны ў семантычныя класы.

А р э а л ы, і з а г л о с ы і і н ш ы я к а т э г о р ы і, а т р ы м а н ы я п р ы с т а т ы с т ы ч н а й а п р а ц о ў ц ы. Адзінкавы тапонім не складае арэала. Не рэпрэзентатыўныя таксама 2—3 тапонімы. Яны звычайна даследуюцца паасобку і не патрабуюць спецыяльнай статыстычнай апрацоўкі. Толькі масавы матэрыял дае магчымасць выявіць арэал. Форма арэала можа быць разнастайнай і іншы раз супадае з распаўсюджаннем той ці іншай моўнай з'явы, з рассяленнем пэўнай народнасці ці іншай тэрытарыяльнай этнічнай еднасці (вынік мінулых суадносін) і г. д. Для выяўлення прычын такога супадзення неабходна карэляцыя тапанімічнага арэала, пошукі яго сувязі з іншымі з'явамі геаграфічнага, гістарычнага ці моўнага характару. Чым паўней супадзенне арэалаў, тым большыя сувязі між імі. Разарваныя арэалы звычайна сведчаць аб міграцыях; у такіх выпадках мы звычайна маем справу з назвамі-мігрантамі.

Асабліва складанымі могуць быць арэалы тапафармантаў; прасцейшы спосаб іх выяўлення картаграфічны. Для вызначэння арэальных межаў на карце адзначаюцца пункты, дзе зафіксаваны тыя ці іншыя фарманты, і арэал аконтурваецца. Але атрыманыя вынікі можна ўдакладніць, вызначыўшы паўтараемасць назваў і адлегласць паміж суседнімі назвамі. Такі падлік дазваляе знайсці кірунак найбольшага ўбывання прыкметы. Межы арэала ў такім выпадку мы праводзім па ізалініі аднолькавага змяншэння прыкметы. Тапонімы, якія апынуліся за межамі арэала, трэба ў гэтым выпадку разглядаць як бліжнія мігранты. Такі прыём можна ўжыць і для правядзення ізаглос.

Адзін з важнейшых прыёмаў даследавання — супастаўленне тапаніміі асобных тапанімічных арэалаў ці рэгіёнаў па адной ці некалькіх прыкметах. Такія супастаўленні могуць пацвердзіць падабенства ці адрозненне двух рэгіёнаў. Падабенства можа мець розную ступень. Абазначым суму тапонімаў рэгіёна, якія маюць неабходныя нам прыкметы, праз $\Sigma_a$, другога рэгіёна, які мае на тую ж плошчу менш тапонімаў з такімі ж прызнакамі,— праз $\Sigma_c$. Ступень падабенства атрымаем у выглядзе адносін $\frac{\Sigma_a}{\Sigma_c} \cdot 100$ у працэнтах. Пры блізасці двух рэгіёнаў ступень падабенства складзе, напрыклад, $\frac{46}{46} \cdot 100 = 100\%$, пры поўнай адсутнасці падабенства будзе $\frac{0}{46} \cdot 100 = 0\%$. Поўнае падабенства сустракаецца рэдка, а пры адсутнасці ўсякага падабенства параўнанне не мае сэнсу.

Параўнанне па адной прыкмеце дае адносна абмежаваныя вынікі. Каб пацвердзіць падабенства ці адрозненне тапаніміі дзвюх тэрыторый, трэба параўнанне па некалькіх прыкметах: фармантах, семантыцы асноў і г. д. Такое комплекснае параўнанне можна праводзіць па суме падабенстваў асобных прыкмет: $\Sigma = \frac{T + \ldots + T}{т + \ldots + т} \times C \cdot 100$, дзе $\Sigma$ — сума падабенстваў, C — колькасць агульных тапонімаў, T і т — самі прыкметы. Для параўнання тапаніміі ў гэтым выпадку важна не колькасць, а сама наяўнасць прыкмет. Такім спосабам было намі зроблена («Паходжанне геаграфічных назваў Беларусі», 1961) параўнанне тапаніміі БССР з тапаніміяй Пскоўска-Ноўгарадскага, Волга-Окскага раёнаў і Чарназёмнага цэнтра.

Паказчык $\Sigma$ можа мець і не працэнтнае выражэнне. Пры такім параўнанні можна атрымаць значэнне індэкса ад 0 да 1500—1800, бо ў канечным выніку велічыня індэкса абмежавана самой колькасцю тапонімаў, якія параўноўваюцца. У нашым прыкладзе было выяўлена вельмі вялікае падабенства беларускай тапаніміі з пскоўска-ноўгарадскай (860), меншае з волга-окскай

(410) і нязначнае з тапаніміяй Чарназёмнага цэнтра (80).

Прыведзены спосаб можа ўжывацца і для параўнання тапаніміі ў дыяхранічным плане. Вельмі разнастайнымі могуць быць і іншыя карэляцыі, якія паказваюць тапанімічныя сувязі ў якасці абгрунтавання этнаграфічных і гісторыка-культурных сувязей паміж рэгіёнамі. Супастаўленне тапаніміі і правядзенне ізаглос можа з'явіцца асновай для тапанімічнага раяніравання.

*А. М. Катонава*

# ПРАБЛЕМЫ ІНТЭРПРЭТАЦЫІ ЗАХОДНЕДЗВІНСКАЙ ГІДРАНІМІІ

Назвы рэк беларускай часткі басейна Заходняй Дзвіны мовазнаўцамі спецыяльна не вывучаліся. Разам з тым даследаванне геаграфічных назваў гэтага рэгіёна абяцае цікавыя навуковыя вынікі, якія дапамогуць запоўніць існуючыя прабелы ў вывучэнні гідраніміі славянскіх тэрыторый, што суседнічаюць з балтыйскімі.

Як вядома, Заходняя Дзвіна ў ніжнім цячэнні працякае па тэрыторыі Латвіі, а ў старажытнасці, відаць, увесь яе басейн быў заселены балтыйскімі плямёнамі. Гэта прымушае дапусціць, што ў заходнедзвінскай гідраніміі на тэрыторыі БССР захавалася значная колькасць назваў балтыйскага паходжання. Аналіз гідранімічнага матэрыялу дасць магчымасць выявіць асаблівасці балтыйскіх геаграфічных назваў на тэрыторыі Беларусі і характар тых змен, якія адбыліся з імі на славянскай глебе, устанавіць шляхі асэнсавання і пераасэнсавання балтыйскіх тапонімаў, што перайшлі ў славянскую тапанімічную сістэму, высветліць характар узаемадзеяння балтыйскіх і славянскіх гідронімаў і атрымаць некаторыя іншыя характарыстыкі балтыйскіх геаграфічных назваў беларускай часткі заходнедзвінскага басейна. Вялікую цікавасць прадстаўляе і вывучэнне ўласна славянскіх гідронімаў гэтага рэгіёна.

Усебаковы аналіз заходнедзвінскіх водных найменняў адкрые новыя магчымасці для выпрацоўкі крытэрыяў этнічнай і семантычнай інтэрпрэтацыі беларускіх тапонімаў, дапаможа супаставіць семантычныя і некаторыя іншыя характарыстыкі гідронімаў славянскага і балтыйскага паходжання і падысці да апісання беларускай тапаніміі як сістэмы.

Намі была зроблена спроба правесці суцэльны лінгвістычны аналіз гідраніміі беларускай часткі заходнедзвінскага басейна. Гідранімічны і спадарожны айканімічны і мікратапанімічны матэрыял быў узяты з піс-

мовых крыніц, а таксама сабраны аўтарам на мясцовасці ў час летніх экспедыцый на працягу 1969—1970 гг. Матэрыял аналізаваўся на апелятыўна-супастаўляльным або семантыка-этымалагічным узроўні на фоне супастаўлення беларускіх гідронімаў заходнедзвінскага басейна з іншымі славянскімі і балтыйскімі геаграфічнымі назвамі: тапонімамі Віцебшчыны і іншых беларускіх тэрыторый, верхнедняпроўскімі воднымі найменнямі, тапонімамі Літвы і Латвіі, у тым ліку латышскімі назвамі рэк басейна Заходняй Дзвіны (Даўгавы).

Характар праблем, якія паўсталі пры аналізе гідронімаў, прымусіў нас шырока выкарыстаць супастаўляльны метад даследавання тапонімаў на анамастычным узроўні. Супастаўленне тапонімаў з тапонімамі, г. зн. змяшчэнне аналізуемай геаграфічнай назвы ў рад падобных, аднатыпных, сугучных тапанімічных форм пры вывучэнні старажытных пластоў тапаніміі з'яўляецца неабходным этапам даследавання. Такі падыход да аналізу тапонімаў дазваляе глыбей пранікнуць у структуру назвы, дае падставы для супастаўлення каранёвай часткі тапоніма ці яго асновы з тым або іншым апелятывам і вымушае глядзець на кожную асобную назву як на элемент сістэмы назваў той або іншай тэрыторыі. Асаблівае значэнне мае выяўленне падобных, сугучных назваў сярод тэрытарыяльна блізкіх тапонімаў, якія існуюць сумесна ў аднародных геаграфічных умовах. Бывае, што для некалькіх сугучных тапонімаў можна дапусціць сувязь з якім-небудзь канкрэтным апелятывам, але чыста лінгвістычны аналіз назваў не дазваляе зрабіць канчатковых вывадаў аб іх паходжанні. Калі такія тапанімічныя формы існуюць у блізкіх геаграфічных умовах, агульнасць іх геаграфічнага асяроддзя выступае ў якасці дадатковага доваду ў карысць таго, што гэтыя назвы маюць аднолькавае паходжанне. Справа ў тым, што ў працэсе называння аб'ектаў агульнасць іх геаграфічных уласцівасцей можа садзейнічаць выбару аднатыпных моўных сродкаў і спосабаў абазначэння гэтых уласцівасцей.

Задача вызначэння моўных крыніц заходнедзвінскай гідраніміі, пошукі гідранімічных этымонаў патрабавалі ўважлівага аналізу семантыкі апелятываў, якія прыцягваліся для супастаўлення з тапонімамі, і вымусілі прызнаць, што менавіта семантыка павінна выступаць на

першы план пры этымалагізацыі геаграфічных назваў і быць адным з галоўных крытэрыяў надзейнасці тапанімічнай этымалогіі.

Аналіз водных найменняў басейна Заходняй Дзвіны на тэрыторыі Беларусі паказаў, што ў гідранімічнай сістэме гэтага рэгіёна выдзяляецца некалькі пластоў гідронімаў. З упэўненасцю можна гаварыць аб славянскім і балтыйскім пластах гідронімаў. Аб наяўнасці пласта фіна-угорскай гідраніміі ў беларускай частцы заходнедзвінскага басейна па-ранейшаму можна гаварыць толькі ў тэарэтычным, гіпатэтычным плане. У сувязі з нявырашанасцю многіх тэарэтычных і практычных пытанняў, што адносяцца да праблемы выяўлення такіх назваў на тэрыторыі Беларусі, пакуль што можна больш ці менш рэальна дапусціць фіна-угорскае паходжанне толькі для некаторых гідранімічных форм, якія не паддаюцца этымалагізацыі ні на славянскім, ні на балтыйскім моўным матэрыяле. Пытанне аб фіна-угорскім элеменце ў беларускай тапаніміі ў практычным плане пакуль што ставіцца не можа.

Сярод заходнедзвінскіх водных найменняў выдзяляецца і яшчэ адна група назваў, якая не з'яўляецца пластом ва ўласным сэнсе гэтага тэрміна, але гідронімы, што ў яе ўваходзяць, маюць свае спецыфічныя асаблівасці, якія патрабуюць выдзялення такіх гідронімаў у асобную групу і іх спецыяльнага аналізу з пэўнага пункту погляду. Размова ідзе аб назвах, якія ў сувязі з нявырашанасцю шэрагу пытанняў дапускаюць дзве магчымасці іх вытлумачэння: і на матэрыяле балтыйскіх, і на матэрыяле славянскіх моў. Пры гэтым абодва тлумачэнні часта могуць кваліфікавацца як аднолькава дапушчальныя. Этымалагізаваць такія назвы асабліва складана і адказна, таму што пры гэтым нярэдка ствараюцца ўмовы для памылковых вывадаў. Часам да магчымасці неадназначнага вытлумачэння таго або іншага тапоніма ў рамках славянскіх і балтыйскіх моўных асацыяцый дабаўляецца магчымасць этымалагізаваць яго на фіна-угорскім матэрыяле, што яшчэ больш ускладняе задачу.

У гідранімічнай сістэме басейна Заходняй Дзвіны ёсць і назвы з цёмнай, няяснай этымалогіяй. Гаварыць аб іх моўнай крыніцы пакуль што вельмі цяжка. Можна толькі меркаваць, што яны хутчэй за ўсё неславянскія.

Пласт славянскай гідранімії прадстаўлены перш за ўсё шэрагам назваў, якія з'яўляюцца ў цэлым зразумелымі ў структурным і семантычным планах і адносна лёгка этымалагізуюцца на славянскім моўным матэрыяле. Сугучных ім назваў на балтыйскіх тэрыторыях не выяўлена. Сярод этымонаў такіх гідронімаў пераважаюць апелятывы, якія ў залежнасці ад свайго значэння і функцый могуць быць аб'яднаны ў некалькі разрадаў. (Частка прыведзеных ніжэй тапонімаў падаецца ў той форме, у якой яны запісаны аўтарам на мясцовасці. Гэтыя назвы адлюстроўваюць жывую, часта дыялектную форму наймення і падаюцца з націскам. Іншыя назвы ўжываюцца ў той форме, у якой яны зафіксаваны ў пісьмовых крыніцах.)

1. Апелятывы, якія выступаюць у ролі ўласна-гідранімічных тэрмінаў або слоў, блізкіх да такіх тэрмінаў. У складзе гідронімаў гэтыя апелятывы (або іх асновы) непасрэдна характарызуюць самі гідрааб'екты. Параўн. рр. *Быстрица, Быстры́ца* і бел. дыял. *быстрэ́ц, бы́стрык* 'ручай, які мае быстрае цячэнне' (Яшкін, 29); р. *Шэ́йка* і бел. *шы́я, шы́іна* 'перашыек; каса; вузкі праліў паміж востравам на возеры і берагам' (там жа, 208); р. *Островница* і апелятывы тыпу бел. *астро́ў, во́страў* 'частка сушы, якая акружана вадой ці балотам'; р. *Рача́к* і бел. *рача́дзь* 'старое рэчышча ракі', *рача́ліна* 'балотная рэчка', *раўча́к* 'неглыбокі роў з вадой, на дне якога цячэ паток; адгалінаванне ракі, ручай; абмялелая рэчка' (Яшкін, 164); рр. *Ручей, Ручай, Руччо́* і бел. *ру́чай* 'быстрая рэчка', *ру́ччa* 'месца, дзе працякае ручай; старое рэчышча ручая з шырокім дном', *ру́ччы* 'месца, дзе зліваюцца ручаі ў рэчку; багатае крыніцамі месца' (там жа, 168). У гэту ж групу назваў могуць быць уключаны і такія дастаткова зразумелыя ў семантычных адносінах гідронімы, як *Глыбо́чка, Глубочка, Глубошица; Прудава́я, Прудище, Прудок, Прудаўніца, Прудзіха, Прудзя́ны; Старинка, Ста́рая рака́, Старарэ́чча, Ста́рыцкая кана́ва; Студенец, Сцідзяніца, Сцідзе́ніца, Сцюдзёнка; Холодник, Холоденец* і інш.

2. Апелятывы, якія характарызуюць (праз сваю семантыку) прыродныя геаграфічныя ўласцівасці тэрыторый, што непасрэдна прылягаюць да гідрааб'ектаў. Такія апелятывы звычайна з'яўляюцца геаграфічнымі тэрмінамі. У аснове намінацыі значнай часткі гідронімаў,

утвораных ад падобных апелятываў, можа ляжаць семантычны зрух: словы-тэрміны, якія былі выкарыстаны для называння сумежных з рэкамі і азёрамі тэрыторый, пачынаюць ужывацца ў якасці назваў рэк і азёр. (У такім зруху магло існаваць і прамежкавае звяно: слова-тэрмін спачатку магло стаць уласнай назвай сумежнай з гідрааб'ектам тэрыторыі, а затым гэта тапанімічная форма стала і ўласнай назвай самога гідрааб'екта.) Параўн. руч. *Песковатик* і бел. *пескава́цік* 'месца з пясчаным ґрунтам, з пясчаным наносам, звычайна каля крыніцы', *пескава́тка* 'месца на лузе з пясчаным намывам' (Яшкін, 144); рр. *Машна́, Машніца, Маха́ніца, Мо́шня* і геаграфічныя тэрміны тыпу *мох, махо́ўка, мошенец* са значэннем 'махавое балота; месца, якое парасло мохам; нізкі луг, які парос мохам' (Талстой, 164—165; Макіенка I, 7—16; Макіенка II, 59—63; Яшкін, 112—113); р. *Куча́* і пскоўск. *куча́к* 'балота' (Макіенка I, 15); р. *Топчинка* і тэрміны для абазначэння балота: *топь, топель, топина, топило* і інш. (Макіенка I, 7—15; Макіенка II, 61—64); рр. *Ржа́ўка, Ржавка, Ржавец* і тэрміны тыпу *ржа́вка, ржа́вец, аржа́, аржа́віна* 'гразкае, іржавае балота з вокісам жалеза ў вадзе; балота з іржой; іржавая лугавая нізіна' (Талстой, 190—191; Макіенка II, 60; Яшкін, 14, 82, 164—165).

3. Апелятывы, якія паказваюць на блізкасць гідрааб'ектаў да зямельных участкаў і іншых геаграфічных аб'ектаў, створаных чалавекам ці прыстасаваных ім для гаспадарчых патрэб. У аснове намінацыі значнай часткі гідронімаў, якія ўтвораны ад такіх апелятываў, таксама як і ў назвах папярэдняй групы, можна бачыць семантычны зрух. Параўн. р. *Лядзішча* і геаграфічныя тэрміны тыпу *ля́да, лядина* 'поле на месцы высечанага лесу ці ляснога пажарышча; месца, ачышчанае ад хмызняку пад пасеў; сенажаць; сухое балота' (Талстой, 134—143; Яшкін, 110; Лемцюгова, 23); р. *Мачулище* і бел. *мачу́ла* 'прыродная, зарослая травой і лазняком сажалка, балотная лужына, круглая старыца', *мачу́лішча* 'затока, копанка, у якой мочаць лён, каноплі, палатно; месца, дзе раней мачылі ліпавае луцце, ліпавы луб; месца, дзе была мачула; забалочаны вадаём; мокрае месца' (Яшкін, 113); р. *Мостище* і бел. *масці́шча* 'месца, дзе быў мост і грэбля' (там жа, 112); р. *Расцяро́б* і бел. *расцяро́б* 'месца, расчышчанае ад кустоў, лесу пад раллю

або луг; балоцістая нізіна ў лесе', *расцярóба* 'аблога, зарослая кустамі, драбналессем; месца, дзе высечаны лес, але яшчэ не распрацаванае пад поле' (Яшкін, 163—164; Лемцюгова, 26) і інш.

4. Апелятывы, якія ўскосна сведчаць аб забалочанасці водных аб'ектаў. Яны могуць называць балотную расліннасць, паказваць на забруджанасць вод і сумежных тэрыторый і г. д. Параўн. назвы тыпу *Гнілýха, Гразніца, Пахýчка,* гідронім *Рагазíнец,* які можа быць супастаўлены з бел. *рагазá* 'зараснік чароту' і інш. Асобныя назвы гэтай групы могуць быць звязаны са славянскім *višь* 'балотная трава'. Калі гэта дапушчэнне не пацвердзіцца для заходнедзвінскага гідроніма *Вы́шні ручэ́й,* то для форм тыпу беларускага палескага воднага наймення *Виша* такое тлумачэнне можа быць прызнана як даволі мажлівае. Праўда, такія назвы патрабуюць больш дасканальнага аналізу ў сувязі з тым, што існуюць этымалагічна роднасныя славянскаму *višь* балтыйскія лексемы.

У аснове заходнедзвінскіх гідронімаў славянскага паходжання ляжаць і іншыя апелятывы, якія характарызуюць водныя аб'екты ў залежнасці ад іх асаблівасцей, месцазнаходжання і іншых прыкмет.

Акрамя дастаткова зразумелых па семантыцы назваў, у гідраніміі басейна Заходняй Дзвіны ёсць формы, для якіх на падставе лінгвістычнага аналізу можна больш ці менш рэальна дапускаць славянскае паходжанне, але пры іх этымалагізацыі сустракаюцца значныя цяжкасці, звязаныя з выбарам найбольш імавернага этымона і рашэннем некаторых іншых этымалагічных праблем. Часам да магчымасці неадназначнага вытлумачэння гідроніма ў рамках славянскіх моў дабаўляецца магчымасць растлумачыць назву з дапамогай іншамоўных фактаў, але імавернасць славянскай інтэрпрэтацыі тым не менш не выключаецца.

Даволі цяжкімі для вытлумачэння з'яўляюцца, напрыклад, заходнедзвінскія гідронімы *Выдрэ́я, Вы́дрыца, Выдренка* і да іх падобныя. Зыходны апелятыў гэтых гідронімаў прыходзіцца выбіраць паміж агульнаславянскім *вы́дра* і беларускімі лексемамі тыпу *драннё, дóркі, вы́дзеркі, вы́дранка* 'поле сярод лесу на месцы аблогі', *вы́дзірак* 'выкарчаваны лес', *вы́драль* 'упершыню распрацаваны ўчастак' (Лемцюгова, 16; Яшкін, 40, 60). У

сувязі з апелятывамі апошняй групы цікавы і верхнедняпроўскі гідронім *Выдерка.* На думку М. В. Бірылы, дзеяслоў *драць* у саставе гідронімаў можа таксама мець значэнне 'выдзіраць, прадзіраць цячэннем рэчышча'. Інтэрпрэтацыя прыведзеных назваў яшчэ больш ускладняецца тым, што ў дадзеным выпадку неабходна вырашыць таксама пытанне аб тым, у якіх адносінах да прыведзеных гідранімічных форм знаходзяцца літоўскія і латышскія тапонімы тыпу *Ū́drinis, Ūdrupe* (іх звязваюць з літ. *ū́dra,* лат. *ūdrs* 'выдра'; гл. Эндзелін І, 118; Ванагас, 117, 159, 230). Паколькі ў форме *Выдрэ́я* можа быць выдзелены балтыйскі гідранімічны фармант *-eja,* ёсць усе падставы бачыць у гэтым гідроніме трансфармацыю балтыйскай тапанімічнай формы з асновай *ūdr-.* Ёсць, нарэшце, і яшчэ адна магчымасць растлумачыць прыведзеныя беларускія гідронімы: не супастаўляць іх з апелятывамі *вы́дра, ū́dra, ūdrs,* а рэканструяваць у іх аснову (корань) са значэннем 'вада', ад якога ўтвораны гэтыя славянскія і балтыйскія лексемы, што абазначаюць выдру. Як бачым, варыянтаў тлумачэння гідронімаў тыпу *Вы́дрыца* многа і рашыць, які з іх правільны, няпроста. Такіх назваў, пры этымалагізацыі якіх сустракаюцца падобныя цяжкасці, у беларускай частцы заходнедзвінскага басейна нямала.

Пласт балтыйскай гідраніміі ў гэтым басейне састаўляюць даволі шматлікія назвы, сярод якіх можна вылучыць некалькі груп. З пункту погляду крытэрыяў, якія даюць падставы лічыць той ці іншы гідронім балтыйскім, выдзяляюцца дзве групы назваў:

а) гідронімы, прыналежнасць якіх да балтыйскай моўнай крыніцы пацвярджаецца, па-першае, іх дастаткова пераканаўчай балтыйскай этымалогіяй і, па-другое, наяўнасцю адпаведных ім тапанімічных паралеляў сярод назваў балтыйскіх тэрыторый;

б) гідронімы, якія не маюць пакуль што надзейных балтыйскіх этымалогій, але іх неславянскае паходжанне пацвярджаецца наяўнасцю на сучасных балтыйскіх тэрыторыях тапанімічных форм, якія поўнасцю або ў значнай меры адпавядаюць ім; магчымасць іх вытлумачэння сродкамі славянскіх моў адсутнічае.

Прыходзіцца дапусціць, што ў апошнюю групу могуць трапіць паасобныя нераспазнаныя фіна-угорскія

гідронімы. Рабіць канчатковыя вывады аб моўнай прыналежнасці такіх тапанімічных форм стане магчыма толькі пасля таго, як яны будуць больш ці менш перакана ўча этымалагізаваныя.

Далей, балтыйскія гідронімы могуць быць размеркаваны ў залежнасці ад надзейнасці дадзенай ім інтэрпрэтацыі. Зразумела, што вытлумачэнне гідронімаў першай групы будзе больш надзейным у параўнанні з інтэрпрэтацыяй назваў другой групы, паколькі ў першым выпадку інтэрпрэтацыя магчыма і на апелятыўным (семантыка-этымалагічным), і на ўласна-тапанімічным узроўні (на ўзроўні выяўлення тапанімічных паралеляў), а ў другім — толькі на ўласна-тапанімічным узроўні. Аднак і ў рамках кожнай з груп можа быць устаноўлена некаторая градацыя гідронімаў па ступені надзейнасці дадзенага ім тлумачэння. У першай групе гэта градацыя можа грунтавацца на семантычнай пераканальнасці тапанімічных этымалогій, у другой групе — на колькасці і якасці тапанімічных паралеляў (немалаважнае значэнне мае, напрыклад, ступень дастапернасці крыніц, з якіх чэрпаецца матэрыял для аналізу).

Сярод заходнедзвінскіх водных найменняў, у балтыйскім паходжанні якіх амаль што не прыходзіцца сумнявацца, можна назваць наступныя гідронімы: *Сільніца, Силупе* (параўн. лат. *sils* 'бор'), *Шылава/Шылаўская* (параўн. літ. *šilas* 'лес', *šilià* 'балоцісты лясок; тарфяністая зямля; бор; лес'; гл. Ванагас, 37), *Опивардка/Півóрда/Піóрда* (тут можна бачыць канструкцыю з балтыйскім прыназоўнікам: літ. *apiẽ*, лат. *pie* 'каля' і балтыйскай асновай *vard-/verd-* са значэннем 'крыніца'; гл. Савукінас, 189; Ванагас, 39; Буга, I, 136—137), *Лужесянка/Лужесенка/Лужесна/Лужэснянка* (параўн. літ. *liũgas* 'балота', лат. *luga* 'студзяністая балоцістая маса ў азёрах, якія зарастаюць багавіннем', літ. *lũgas* 'месца, якое затапляецца ракой, балоцістае адгалінаванне ракі; лужына; балота; дрыгва'; гл. Эндзелін I, 143; Ванагас, 36), *Думблянка* (параўн. лат. *dum̃bla*, літ. *dum̃blas* 'глей, ціна, гразь', *dumblýnas* 'глеістая глеба'; гл. Эндзелін II, 236; Ванагас, 43).

Ёсць падставы лічыць балтыйскімі і многія іншыя водныя найменні басейна Заходняй Дзвіны, якія могуць быць супастаўлены як з балтыйскімі апелятывамі, так і з балтыйскімі тапанімічнымі формамі. Сярод іх гідро-

німы *Байна́/Бойна, Пладá, Оступи/Оступ'е, Струпы́ня/Струпы́нька, Стра́дань, Страдуніца, Струнь/Струня/Струнка, Спары́ца, Сво́лна/Свольна, Валнóя/Валнéя/Вавнéя/Вау̃нéя, Валясы́, Валацня́, Вілнóцкая рэ́чка, Вілкóцкая рэ́чка, Свілá/Свілка, Свіліца, Окмяница/Вóкменіца, Ацкау̃ля́нка/Цкуу̃ля́нка/Цкуля́нка/Скуля́нка, Ачэ́ва* і інш. Можна гаварыць таксама аб балтыйскім паходжанні гідронімаў *Асмаціца, Свинка, Свиница/Свіна/ Свино, Кама́йка, Вадвы́нь, Зóсінская рака́* і іншых форм, для якіх знаходзяцца сугучныя балтыйскія тапанімічныя паралелі.

Ёсць у гідраніміі Заходняй Дзвіны і такія назвы, якім ужо дадзена тлумачэнне на балтыйскім матэрыяле ў шырокавядомых тапанімічных працах У. М. Тапарова і А. М. Трубачова, У. А. Ніканава, К. Бугі, Я. Эндзеліна, А. Ванагаса і іншых даследчыкаў. Гэта рэкі *Лігума* (ад літ. *lygumà* 'раўніна'; гл. Ванагас, 36), *Вингра* (ад літ. *vìngis, vìngris* 'згіб, звіліна ракі'; гл. Буга, III, 516; Ванагас, 38), *Муна/Мунелкис* (ад балт. **mūnas* 'грязь, глей, ціна', роднаснага славянскаму *типа* 'грязь'; гл. Буга, I, 466, 506—508), *Э́са/Еса́/Есса/Яса* (форму *Яса* ўзводзілі да балтыйскага кораня *eis-*, роднаснага старажытнаіндыйскаму *ēṣá-*, старажытнаісландскаму *eisa* 'паспешлівы', а таксама супастаўлялі з літ. *aisùs* 'горкі'; гл. Буга, I, 503—505; Эндзелін II, 6), *Исса* (гэты гідронім звязвалі з назвамі тыпу *Яса*, а таксама з літ. *į̇sas*, лат. *îss*, пруск. *īnsan* 'кароткі'; гл. Буга, I, 504; III, 525) і інш. Дадзена балтыйская інтэрпрэтацыя на ўласна-тапанімічным узроўні і беларускім заходнедзвінскім гідронімам *Лучеса, Нарицанка/Наричинка/Нарыченка, Нача/Начка, Мя́дзелка/Мядзёлка, Угари́нка, Улла, Суя, Россоно, Осыно, Берешта, Неведро, Ущачь* і інш.

З пункту погляду семантыкі зыходных апелятываў у балтыйскай гідраніміі басейна Заходняй Дзвіны на тэрыторыі Беларусі таксама можна вылучыць некалькі груп. Аналіз гідраніміі гэтага рэгіёна дае падставы лічыць, што семантычная характарыстыка балтыйскіх лексем, якія ляжаць у аснове праблематычна балтыйскіх гідронімаў, у цэлым падобная да семантычнай характарыстыкі славянскіх гідранімічных этымонаў. Гэта відаць з таго, што балтыйскія лексемы, якія можна прыцягваць для вытлумачэння заходнедзвінскіх гідронімаў,

групуюцца ў разрады, блізкія да семантычных груп славянскіх гідранімічных этымонаў. Напрыклад, сярод гідронімаў, зыходныя балтыйскія апелятывы якіх характарызуюць сумежныя з гідрааб'ектамі тэрыторыі з пункту погляду іх прыродных геаграфічных уласцівасцей, можна назваць такія хутчэй за ўсё балтыйскія водныя найменні, як *Байна́/Бойна* (яны могуць быць супастаўлены з літ. *bojus* 'дрыгва'), *Ацкаўля́нка/Цкуўля́нка/Цкуля́нка/Скуля́нка* (гэтыя гідронімы, відаць, звязаны з літ. *akìs, ãklas* 'балота; дрыгва з вокнамі; азярцо на апошняй стадыі зарастання', лат. *acs* 'адкрытае вакно з вадой на багністым балоце'), шматлікія назвы тыпу *Бе́лая, Бяла́, Белевица, Белеица, Бельчица* (можна дапусціць, што яны ўтвораны ад балтыйскіх апелятываў тыпу лат. *bęlute* 'яма з вадой, лужына', роднаснага літ. *balà* 'балота'), гідронім *Лігума* (вышэй прыводзіўся яго этымон — літ. *lygumà* 'раўніна') і інш. Заходнедзвінскія назвы тыпу *Вингра* (ад літ. *vìngis, vìngris* 'згіб, звіліна ракі') сведчаць аб тым, што ў гэтым басейне ёсць балтыйскія гідронімы, у якіх зыходныя апелятывы з'яўляюцца ўласна-гідранімічнымі тэрмінамі і непасрэдна характарызуюць самі гідрааб'екты. Ёсць і іншыя балтыйскія гідранімічныя формы, якія па зместу і функцыях заключаных у іх апелятываў падобныя да анлагічных славянскіх гідронімаў.

Трэба падкрэсліць, аднак, што балтыйскія гідронімы заходнедзвінскага басейна значна менш зразумелыя ў этымалагічных і словаўтваральных адносінах у параўнанні са славянскімі, таму іх вельмі цяжка класіфікаваць па прынцыпу семантычнай характарыстыкі зыходных апелятываў. Значная частка гідронімаў мае пакуль што толькі ўласна-тапанімічную балтыйскую інтэрпрэтацыю (семантыка гэтых назваў застаецца нявысветленай). Нарэшце, шматлікія заходнедзвінскія гідронімы балтыйскага паходжання пры пераходзе ў славянскую тапанімічную сістэму маглі зазнаць некаторыя змены. У прыватнасці, яны маглі быць суфіксальна, а таксама і прэфіксальна пашыраны сродкамі славянскіх моў. Усё гэта вельмі ўскладняе выяўленне ў балтыйскіх назвах уласна-балтыйскіх апелятыўных асноў, а значыць, і іх зыходнай семантыкі, і вымушае думаць аб немэтазгоднасці семантычнай класіфікацыі балтыйскіх гідронімаў басейна Заходняй Дзвіны на тэрыторыі БССР у цяпе-

рашні час. Такая класіфікацыя стане магчымай толькі пасля таго, як будуць праведзены шырокія семантыка-этымалагічныя даследаванні гідраніміі гэтага басейна на фоне аналізу балтыйскай тапаніміі як сістэмы на сучасных балтыйскіх тэрыторыях і на славянскіх тэрыторыях са старажытным пластом балтыйскай тапаніміі.

Як ужо адзначалася, у ходзе аналізу заходнедзвінскай гідраніміі выявілася, што ёсць патрэба выдзяляць у асобную групу гідронімы, якія дапускаюць неадназначную моўную (этнічную) інтэрпрэтацыю. Назвы гэтай групы могуць быць вытлумачаны на матэрыяле як славянскіх, так і балтыйскіх моў. Яны адрозніваюцца паміж сабою тым, наколькі адна інтэрпрэтацыя мае большую перавагу ў параўнанні з другой і за кошт чаго адно з тлумачэнняў можа здавацца больш верагодным, а таксама шэрагам іншых дэталей. У сувязі з гэтым класіфікаваць іх даволі складана. Ва ўсякім выпадку гаварыць аб семантычнай класіфікацыі такіх назваў пакуль што наогул немагчыма: значэнне гідроніма ў кожным такім выпадку застаецца нявысветленым. Тым не менш і сярод гэтай групы назваў можа быць выдзелена некалькі падгруп у залежнасці ад характару праблем, якія паўстаюць пры вытлумачэнні гідронімаў.

Так, пры вызначэнні этымонаў значнай часткі гідронімаў гэтай групы прыходзіцца выбіраць паміж этымалагічна роднаснымі славянскімі і балтыйскімі апелятывамі, якія і фанетычна і семантычна падобны паміж сабою настолькі, што бывае вельмі цяжка аддаць перавагу аднаму з двух магчымых этымонаў (такіх этымонаў у рамках канкрэтнай моўнай крыніцы можа быць і цэлае гняздо, але гэта не мяняе сутнасці пытання). У гэту своеасаблівую групу назваў уваходзяць такія гідронімы, як *Сянніца* (тут адно з магчымых семантычных тлумачэнняў можа грунтавацца на выбары этымона сярод роднасных лексем — слав. *се́на,* літ. *šiẽnas,* лат. *siens,* але ёсць і іншыя магчымасці вытлумачэння такіх назваў на матэрыяле балтыйскіх моў), *Дунай/Дунайка* (славянская інтэрпрэтацыя гэтых форм можа абапірацца на бел. дыял. *до́ня* 'невялікая рачулка', *Дуна́й* 'абагульненая назва для буйных рэк', *Ду́най* 'назва для невялікіх рачулак', а балтыйская — на лат. *dunavas, duņavas* 'невялікая рачулка, крыніца, запруджаная вада'; акрамя

таго, тут патрабуюць аналізу латышскія лексемы *dūņas* 'глей, ціна, гразь', *dūņājs, dūņains* 'глеістая маса, пакрытае глеем месца' і інш.), *Дайлидово* (параўн. літ. *dailìdė* 'цясляр' і бел. *дойлід, дойліда* 'будаўнік, зодчы', запазычанае ў балтаў), *Луни* (параўн. бел. дыял. *лунь* 'глыбокае небяспечнае месца на балоце', *луна́* 'незарослае вадзяное месца на балоце, якое адсвечвае', *люны́* 'зыб з вокнамі на балоце' і літ. *liū̃nas* 'дрыгва') і многія іншыя назвы. Часта для таго, каб высветліць паходжанне такіх гідронімаў, неабходна спачатку дазнацца, у якіх адносінах паміж сабою знаходзяцца славянскія апелятывы (гідранімічныя этымоны) і роднасныя ім балтыйскія формы, а гэта не заўсёды проста зрабіць.

Своеасаблівыя праблемы ўзнікаюць пры вытлумачэнні заходнедзвінскіх гідронімаў *Березовка, Бяро́заўка, Березина, Бяро́зка/Беразве́ца/Бережвица, Бярэ́жа/Бярэ́за/Бережа* і да іх падобных тапанімічных форм. У гэтым выпадку надзвычай цяжка выбраць тапанімічныя этымоны сярод роднасных славянскіх і балтыйскіх лексем: слав. *бяро́за,* літ. *béržas,* лат. *bērzs* 'бяроза' і шэрагу вытворных ад іх форм. Прыведзеныя балтыйскія апелятывы, на думку многіх даследчыкаў, надзвычай шырока адлюстраваны ў тапаніміі сучасных балтыйскіх тэрыторый. Параўн. літоўскія гідранімічныя формы *Bér̃žė, Beržìnis, Beržýtė, Beržupė,* латышскія тапонімы *Bẽrzupe, Bẽrz-dīķis, Bẽrzine* і да т. п. Заходнедзвінскія гідронімы *Бярэ́жа, Бережвица* ёсць падставы супастаўляць з прыведзенымі літоўскімі апелятыўнымі і тапанімічнымі формамі (поўнагалоссе беларускіх гідронімаў сведчыць аб тым, што яны былі прыстасаваны да славянскай фанетычнай сістэмы). Вельмі мала трансфармавалася на славянскай глебе яўна балтыйская назва возера *Бяржо́нка* ў Браслаўскім р-не Віцебскай вобл. (параўн. з пункту погляду словаўтварэння літоўскія гідронімы *Ul-õnas, Pal-õnas* і інш.). Фанетычны і словаўтваральны аналіз заходнедзвінскіх найменняў *Бярэ́за, Беразве́ца, Бережвица* прыводзіць да заключэння, што яны таксама могуць быць балтыйскага паходжання. Назвы тыпу *Беразіна́,* на думку У. М. Тапарова і А. М. Трубачова, трэба лічыць балтыйскімі таму, што суфікс *-іна* больш характэрны для балтыйскіх «бярозавых» апелятываў і тапонімаў, у той час як для адпаведных славян-

скіх апелятыўных і тапанімічных утварэнняў больш тыповым з'яўляецца суфікс *-ов (-ав)*. І ўсё ж толькі на падставе славянскага суфікса мы яшчэ не можам безагаворачна сцвярджаць, што, напрыклад, назва правага прытоку заходнедзвінскай Дзісны — *Бяро́заўка* этымалагічна безумоўна славянская, таму што ў гэтага гідроніма ёсць варыянт *Бережвица,* які хутчэй за ўсё трэба лічыць балтыйскім. Прыходзіцца дапусціць, што ў дадзеным выпадку форма *Бяро́заўка* магла з'явіцца ў выніку перакладу балтыйскага варыянта назвы (магчыма, што ў старажытнасці ён меў іншы выгляд у параўнанні з цяперашнім). Відаць, і некаторыя іншыя тэрытарыяльна славянскія назвы тыпу *Бяро́заўка,* у якіх зараз няма балтыйскіх «бярозавых» варыянтаў, таксама маглі з'явіцца дзякуючы адпаведным балтыйскім формам (балтыйскія варыянты маглі проста забыцца, выціснуцца славянскімі). Як вынікае з прыведзенага прыкладу, для таго каб на падставе аналізу тапонімаў (у тым ліку і «бярозавых» — яны вельмі шырока распаўсюджаны) можна было разважаць аб этнічнай гісторыі тых або іншых славянскіх тэрыторый, гэты аналіз павінен выяўляць усю складанасць і ўсю тонкасць старажытных балта-славянскіх адносін у сферы тапаніміі.

Адзначанымі цяжкасцямі не вычэрпваюцца праблемы паходжання тэрытарыяльна беларускіх тапонімаў тыпу *Бяро́заўка.* «Бярозавая» этымалогія і славянскіх і балтыйскіх назваў у сучасны момант не выклікае ў даследчыкаў спрэчак. Мноства бяроз на славянскіх (у прыватнасці, беларускіх) і балтыйскіх тэрыторыях, асабліва на нізкіх вільготных мясцінах, а значыць, і на прырэчных і прыазёрных нізінах і балотах, дазваляе лічыць такую этымалогію для шмат якіх гідронімаў дастаткова абгрунтаванай і пераканаўчай. І ўсё ж некаторыя сумненні наконт гэтага ўзнікаюць. Цікава, напрыклад, што не ўсе «бярозавыя» па гучанню славянскія геаграфічныя тэрміны прывязаны непасрэдна да бяроз, да бярозавых зараснікаў: параўн. зафіксаваны ў У. Даля архангельскі тэрмін *березо́вня* 'ўрочышча, якое парасло маладым лесам; драбналессе' з каментарыем: «гэта паказчык прыдатнай зямлі і ператварэння махавіны ў пераходную глебу». Заслугоўвае ўвагі варыянтнасць беларускіх лексем, якія абазначаюць паняцце 'бярозавы лес, гай': *беразня́к/баразня́к/бе́рка* (Яшкін, 23).

Адсутнасць *з* у форме *бéрка* і варыянтнасць *бар-/бер-* робяць магчымым супастаўленне апелятываў тыпу *бярóза, беразняк* і да іх падобных (а значыць, і асобных «бярозавых» тапонімаў) са славянскай «балотнай» асновай *бар-*. Параўн. таксама з прыведзенымі апелятывамі беларускі тэрмін *бералóз* 'ракіта, зараснік жоўтай лазы' (там жа).

Некалькі іншы характар маюць праблемы, якія паўстаюць пры вытлумачэнні другой групы заходнедзвінскіх назваў, што таксама дапускаюць неадназначную моўную (этнічную) інтэрпрэтацыю. Размова ідзе аб гідронімах, праблематычныя этымоны якіх у розных мовах маюць неаднолькавае значэнне і толькі сугучныя паміж сабою (дарэчы, гэта група назваў значна большая за папярэднюю). Нярэдка праблематычны этымон такіх гідронімаў можна знайсці толькі ў рамках славянскай інтэрпрэтацыі. У такіх выпадках процілеглая моўная інтэрпрэтацыя грунтуецца пакуль што на тапанімічных паралелях. Тут можна назваць такія гідронімы, як *Гарадзёнка, Городенец, Гардзéя, Горожанка* (параўн. балтыйскія тапонімы — літ. *Gárdena, Gárdupis,* лат. *Garadna/Grodna, Gradnas; Garuoza, Garuôži* і інш.; гл. Ванагас, 132, 155; Эндзелін I, 132; Эндзелін II, 298, 313), *Горенка, Горновка/Гарновка/Горново, Гарна* (параўн. балтыйскія тапонімы — літ. *Garupỹs*, лат. *Guõri*, *Guõrẹns*; *Garais; Garñis; Garņa-māja* і інш.; гл. Эндзелін II, 297—302, 342), *Глінаўка, Глинник, Глинки* (параўн. латышскія тапонімы *Gļinu-ẹzẹrs, Gļinaukas-viensēta*, назву літоўскага возера *Glỹnas* і інш.; Б. Савукінас літоўскія тапанімічныя формы гэтага тыпу супастаўляе з літ. *glìnti* 'мазаць, замазваць, заляпляць', *gléinai* 'клейкая, ліпкая глеба, гразь', *gleinùs* 'размоклы, ліпкі, слізкі' і інш.), *Грэ́бла/Грабля́нка* (параўн. бел. *грэ́бля* 'часовая дарога цераз балоцістае, гразкае месца; гразкае месца; плаціна, гаць; масток' і латышскія тапонімы тыпу *Greblis, Greblo, Greblīte,* звязаныя з латышскімі апелятывамі *greble, grebļa* 'дарога з выбоінамі'; параўн. таксама латышскія тапанімічныя формы тыпу *Grebe, Grebji* і звязаныя з імі апелятывы *grebe* 'ўпадзіна, лагчына, яма', *grebji* 'балоцістая нізіна каля зарослага возера' і інш.; гл. Эндзелін II, 312, 318—319) і цэлы рад іншых заходнедзвінскіх найменняў: назвы тыпу *Чыста,* тыпу *Дубóўка,* тыпу

*Дóбрынка,* тыпу *Рубéж,* тыпу *Язніца;* адзінкавыя ў заходнедзвінскім басейне гідранімічныя формы *Гáтаўшчына, Цімініца, Скарбóвы ручэй, Мéльнічная канáва, Квятáнка, Ноговина.* Есць і яшчэ нямала гідронімаў, пры вызначэнні моўнай крыніцы якіх паўстае шмат цяжкасцей і нявырашаных праблем.

Аналіз тэрытарыяльна славянскіх найменняў і сугучных з імі іншамоўных тапонімаў (гэта адносіцца да такіх сітуацый, калі праблематычныя этымоны гідронімаў у розных мовах маюць неаднолькавае значэнне) яшчэ і яшчэ раз даказвае неабходнасць пільнай увагі да семантыкі апелятываў, якія прыцягваюцца для супастаўлення з тапонімамі. Тапанімістам трэба больш улічваць магчымасць семантычнай трансфармацыі тапонімаў, якія пражылі нямала стагоддзяў у вуснах разнамоўных плямён і народаў. Перш чым у тым ці іншым тапоніме пачынаюць шукаць семантыку тапанімісты, ужо не адно пакаленне людзей (мясцовых жыхароў) спрабавала ўсвядоміць назву, а часта на ўзроўні народнага разумення іншамоўных з'яў асэнсаваць слова немагчыма, калі пры гэтым яго не пераасэнсаваць. У працэсе такога творчага ўспрымання і ўжывання тапонімам магло надавацца другаснае значэнне (можа, іменна ў другаснай семантызацыі і ляжыць разгадка шматлікіх «празрыстых», але ў той жа час не зусім апраўданых з пункту гледжання семантыкі тапонімаў). Пры гэтым назвы маглі трансфармавацца і ў фанетычных і ў структурных адносінах. Улік такіх магчымых змен у тапонімах дазволіць пазбегнуць неапраўданых семантычных нацяжак пры тлумачэнні геаграфічных назваў, якія могуць быць аднесены да розных моўных крыніц.

Трэба заўважыць, што шматлікія праблемы, якія ўзнікаюць пры этымалагізацыі заходнедзвінскіх гідронімаў, з'яўляюцца спецыфічнымі для тапаніміі Беларусі і некаторых сумежных з ёй славянскіх тэрыторый са старажытным пластом балтыйскіх геаграфічных назваў. Родная блізкасць славянскіх і балтыйскіх моў у сферы апелятыўнай лексікі часта значна ўскладняе вызначэнне моўнай крыніцы тэрытарыяльна беларускіх тапонімаў, аднясенне іх да той ці іншай тапанімічнай сістэмы. Гэта датычыць не толькі назваў з цёмнай, нявысветленай семантыкай, але і тапонімаў, якія маюць больш ці менш пераканальную семантычную інтэрпрэ-

тацыю. Шматлікія прыклады магчымых тлумачэнняў гідронімаў Заходняй Дзвіны могуць служыць ілюстрацыяй таго, як розняцца семантычны і этымалагічны ўзроўні апісання тапонімаў, калі тапанімічную сістэму складаюць назвы, якія з'яўляюцца прадуктам моўнай творчасці двух разнамоўных, але ў той жа час і роднасных народаў (плямён). У многіх выпадках пры аналізе тапонімаў складваецца сітуацыя, калі гукаграфічная абалонка той ці іншай назвы можа быць напоўнена значэннем, скажам, сугучных ёй геаграфічных тэрмінаў, і такое значэнне пацвярджаецца і логікай прадметна-славесных адносін, і рэальнымі геаграфічнымі ўмовамі бытавання аб'екта, назва якога аналізуецца, але з чыіх тэрмінаў «пераліваць» у тапонім канкрэтнае значэнне — з балтыйскіх ці са славянскіх (калі яны этымалагічна роднасныя і блізка сугучныя адзін аднаму) — так і не зразумела.

На жаль, семантычная інтэрпрэтацыя тапонімаў пакуль што знаходзіцца ў вялікай залежнасці ад іх этымалагічнага, дакладней апелятыўна-супастаўляльнага, аналізу. Факычна гэта прыводзіць да таго, што апелятыў прыцягваецца для тлумачэння геаграфічнай назвы галоўным чынам па крытэрыю сугучнасці з коранем тапоніма або з цэлым тапонімам без належнай увагі да таго зместу, які гэты апелятыў у сабе нясе. Разам з тым іменна семантыка апелятыва, з якім супастаўляецца тапонім, павінна выступаць на першы план і лічыцца адным з галоўных крытэрыяў надзейнасці лінгвіністычнай інтэрпрэтацыі назвы. Думаецца, што пытанні семантычнай пераканальнасці тапанімічных этымонаў павінны стаць прадметам глыбокіх навуковых даследаванняў. Гэта ў аднолькавай меры неабходна як для тлумачэння адапелятыўнай часткі тапонімаў, так і для інтэрпрэтацыі тапонімаў, якія фармальна могуць супастаўляцца з антрапонімамі.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ КРЫНІЦ

Буга — K. Būga. Rinktiniai raštai, tt. I—IV. Vilnius, 1958—1962.

Ванагас — A. Vanagas. Lietuvos TSR hidronimų daryba. Vilnius, 1970.

Лемцюгова — В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія. Лінгвістычны аналіз назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мінск, 1970.

Макіенка I — В. М. Мокиенко. Лингвистический анализ местной географической терминологии (Псковские апеллятивы, обозначающие низинный рельеф, на славянском фоне). Автореф. канд. дис. Л., 1969.

Макіенка II — В. М. Мокиенко. Ареальный анализ местной географической терминологии и его интерпретация.— «Советское славяноведение», 1969, № 5.

Савукінас — B. Savukynas. Ežeru vardai.— Lietuvių kalbos leksikos raida (Lietuvių kalbotyros klausimai, VIII). Vilnius, 1966.

Талстой — Н. И. Толстой. Славянская географическая терминология. Семасиологические этюды. М., 1969.

Эндзелін I — J. Endzelin. Die lettländischen Gewässernamen.— «Zeitschrift für slawische Philologie», Bd. 11. Leipzig, 1934.

Эндзелін II — J. Endzelīns. Latvijas PSR vietvārdi, I daļa, I sējums. Rīga, 1956.

Яшкін — І. Я. Яшкін. Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія. Мінск, 1971.

*Л. М. Грыгор'ева*

# АЙКОНІМЫ ГІДРАНІМІЧНАГА ПАХОДЖАННЯ БАСЕЙНА ЗАХОДНЯЙ ДЗВІНЫ (У МЕЖАХ БЕЛАРУСІ)

Гідронімы і айконімы як тапанімічныя класы проціпастаўлены адзін аднаму. У аснове гэтага проціпастаўлення ляжыць адрозненне, якое існуе паміж геаграфічнымі аб'ектамі: прыроднымі аб'ектамі, з аднаго боку, і аб'ектамі, створанымі чалавекам, з другога боку. Проціпастаўленне гідронімаў і айконімаў праяўляецца ў тым, што яны «даволі добра адрозніваюцца па прынцыпах намінацыі, па паходжанню, па структурна-граматычных мадэлях»[1]. Як вядома, значная частка гідронімаў — назваў вялікіх рэк або азёр — з'яўляецца больш старажытнай і ўстойлівай у параўнанні з айконімамі[2] і шырока выкарыстоўваецца ў якасці айконімаў або як іх утваральныя асновы, паколькі блізкасць паселішча да ракі або возера была важнай прыкметай пры найменні населенага пункта.

У айканіміі беларускага Падзвіння выяўляецца шэраг назваў населеных пунктаў, якія ўзніклі пад уплывам гідраніміі або ў выніку ўзаемадзеяння гідронімаў і айконімаў. Мы не ставім за мэту прааналізаваць усе айконімы названай тэрыторыі, звязаныя паходжаннем з гідранімiяй. Наша мэта — разгледзець асноўныя шляхі ўтварэння адгідранімічных айконімаў басейна Заходняй Дзвіны.

Большасць адгідранімічных айконімаў узнікла семантычным (безафіксным) шляхам: назва ракі або возера стала выкарыстоўвацца ў якасці назвы населенага пункта. Перанос назвы з аднаго геаграфічнага аб'екта на другі здзяйсняецца на аснове тапанімічнай сумеж-

---

[1] И. А. Воробьева. К вопросу о системном характере топонимии.— У зб.: Краевед Кузбасса, вып. IV. Новокузнецк, 1971, стар. 169.

[2] Ю. А. Карпенка. Пра ўстойлівасць тапаніміі.— У зб.: Пытанні беларускай тапанімікі. Матэрыялы Першай беларускай тапанімічнай канферэнцыі (1—3 снежня 1967 г.). Мінск, 1970, стар. 27.

насці — блізкасці размяшчэння паселішча да рэк або азёр. Вынікам такога працэсу з'яўляюцца тапонімы, якія адначасова функцыяніруюць і як водная назва, і як назва населенага пункта. Адгідранімічныя айконімы, утвораныя семантычным спосабам, па сваёй структуры не адрозніваюцца ад гідронімаў: яны цалкам дубліруюць структуру гідроніма-асновы, параўн. воз. і р. *Біклажа* — в. *Біклажа*[3], воз. *Ва́жа* — в. *Ва́жа,* воз. і р. *Вейна* — в. *Вейна,* воз. *Оконо* — в. *Вокана,* р. *Вята* — в. *Вята,* воз. *До́ўжа* — в. *До́ўжа* (2), воз. *Іка́знь* — в., хут. *Іка́знь,* воз. *Лосвіда* — в., ч. ст. *Лосвіда,* р. *На́ча* — в. *На́ча,* р. *Палата́* — в. *Палата́,* р. *Перна* — в. *Пярна,* воз. *Пліна* — в. *Пліна,* р. *Обаль* — г. п. *Обаль,* р. *Сарія,* вар. *Сырья, Сарьянка* — в. *Са́р'я,* р. *Ула* — г. п. *Ула* і інш. Усе прыведзеныя айконімы — гэта назвы паселішчаў, размешчаных на берагах аднайменных рэк або азёр. Гідронімы, на базе якіх узніклі гэтыя айконімы, адносяцца да старажытнага пласта тапаніміі. Большасць з іх страцілі семантычную празрыстасць, сувязь іх з апелятывамі выяўляецца толькі ў выніку этымалагічнага аналізу. Гідронім-айконім *Пліна* структурна супадае з літоўскімі гідронімам і апелятывамі, параўн. літ. *Plynas* (Ван. 50), апелятывы *plỹnas, pleĩne, plỹnė* 'незарослыя балоты'[4]. Гідронім *Вейна* этымалагізуецца як фінскі (Разв. 77—79) або як балтыйскі (ТТ 223); да балтыйскіх адносяцца *Ва́жа, Оконо, На́ча, Ула* (ТТ 178, 199, 163, 197, 211); у частцы гідронімаў выдзяляюцца старажытныя корані: *Вята*< **vęt-*; *До́ўжа*<**dьlžь* (Фасм.); *Іка́знь*<**eik-, Палата́*< **Polta* (Разв. 90—93, 184), вядомыя ў тапаніміі. Частка айконімаў адгідранімічнага паходжання дубліруе структуру балтыйскіх гідранімічных суфіксальных дэрыва-

---

[3] У беларускім напісанні без націску падаюцца тапонімы, узятыя з раённых газет Віцебскай вобл., з націскам — тапонімы, сабраныя ў час экспедыцый летам і восенню 1975 г.; у рускім напісанні падаюцца тапонімы, выбраныя з наступных крыніц: А. Сапунов. Река Западная Двина. Витебск, 1893; Список населенных мест Витебской губернии. Под ред. А. П. Сапунова. Витебск, 1906; Список населенных мест Могилевской губернии. Под ред. Г. П. Пожарова. Могилев, 1910.

[4] I. Rozwadowski. Studia nad nazwami wód słowiańskich. Kraków, 1948, стар. 84; параўн. таксама літ. *plýnė,* лат. *plienes, pliêni* 'балота, парослае хмызняком; непраходнае балота; невялікае балота'; літ. *plýnia* 'тарфяное балота; торф, яма; былы тарфянік, зарослы хмызняком; балоцістае, імшыстае месца, на якім растуць дрэвы' (Неўск. 354).

таў на *-са, -еса, -аса, -оса, -іта, -ота, -юта, -уста*[5], гэта айконімы і гідронімы: воз. *Вóйса* — в. *Вóйса*, воз. *Вóласа* — в. *Вóласа*, воз. *Вóплеса* — в. *Вóплеса*, р. *Лучóса* — в. *Лучóса*, воз. *Пліса* — в. *Пліса*, р. *Бірвіта*, вар. *Бирвета* — в. *Бірвіта*, воз. *Восмата* — в. *Восмата*, р. *Мнюта* — вв. *Мнюта* I і *Мнюта* II, воз. і р. *Черепето* — в. *Двор Чарэпіта*, р. *Равкета*, вар. *Равкота, Рекота* — в. *Раўкета*, воз. *Стрýста* — в. *Стрýста*.

Гідранімічнымі дэрыватамі па паходжанню з'яўляюцца і айконімы на *-сна:* воз. *Ладосно* — в. *Ладасна*, р. *Лужесна* — в., ч. ст. *Лужасна*, воз. *Расно* — в. *Расна*, воз. *Тросно* — в. *Тросна*, воз. *Лісна* — в. *Лісна*. На няяснасць паходжання гідронімаў, афармленых фармантамі *-сна/-сня, -зна/-зня*, звярнулі ўвагу В. М. Тапароў і А. М. Трубачоў, аналізуючы гідранамію Верхняга Падняпроўя[6]. Затым А. М. Трубачоў, супаставіўшы гідронімы на *-сна* Верхняга Падняпроўя і Правабярэжнай Украіны і ўлічыўшы, што колькасць іх узрастае з поўдня на поўнач і што для літоўскай гідраніміі характэрны мадэлі *-sna, -snė, -snis, -snys*, прыйшоў да вываду: «...Можна з поўнай упэўненасцю гаварыць... аб балтыйскім словаўтваральным гідранімічным тыпе з суфіксам *-sn-*»[7]. Магчыма, ад гідронімаў утвораны семантычным спосабам і такія назвы вёсак, як *Любасна, Олксна*, для якіх мы не змаглі ўстанавіць гідранімічныя паралелі на даследуемай тэрыторыі. У б. Дзвінскім п. зафіксавана балота *Олксна* (СВ 101), параўн. таксама літ. гідронімы *Al̃ksna, Al̃ksnas, Al̃ksnė, Alksnupỹs* і інш. (Ван. 294). Адносна айконіма *Олксна* тут дарэчы было б успомніць, што І. Развадоўскі лічыў гэты тапонім воднай назвай (літ. *al̃ksnis* 'вольха'): «менавіта вольха з'яўляецца «водным» дрэвам, якое расце над рэкамі і патокамі і на мокрых месцах»[8]. Назва в. *Пелекá* ў Пастаўскім

---

[5] Балтыйскія гідранімічныя словаўтваральныя тыпы з гэтымі і некаторымі іншымі фармантамі на аснове гідраніміі Верхняга Падняпроўя апісаны В. М. Тапаровым і А. М. Трубачовым. Гл.: В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962.

[6] В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья, стар. 115.

[7] О. Н. Трубачев. Названия рек Правобережной Украины. М., 1968, стар. 148.

[8] I. Rozwadowski. Studia nad nazwami wód słowiańskich, стар. 161.

р-не—таксама вынік пераносу воднай назвы, параўн. літ. гідронімы *Pel-ekà, Pẽl-ekas* (Ван. 111).

Семантычным спосабам утвараліся ад гідронімаў і назвы паселішчаў на *-ая, -ея (-эя), -уя.* Сярод адгідранімічных айконімаў з названымі фармантамі мы не разглядаем толькі *Верацея* і *Будавея:* у аснове першага — апелятыў, другі, магчыма, адантрапанімічнага паходжання, параўн. прозвішча *Будавей,* ст.-бел. *бедевей, бадавея* 'рысісты конь', запазычанае праз польскую мову з турэцкай (Бул.). Усе астатнія айконімы з адзначанымі суфіксамі з'яўляюцца назвамі паселішчаў, аднаструктурнымі з назвамі азёр (адзінкавыя — рэк), на берагах якіх размешчаны гэтыя населеныя пункты: воз. *Арлея* — в. *Арлея,* воз. *Асвéя* — г. п. *Асвéя,* воз. *Выдрэя* — в. *Выдрэя,* р. *Гóлбея* — в. *Гóлбея,* воз. *Добея* — в. *Дабея,* воз. *Псуя* — в. *Псуя,* воз. *Усай* — в. *Усая,* воз. *Усвея,* р. *Усвіца,* вар. *Усвея* — в. *Усвея,* воз. *Чарэя* — в. *Чарэя,* воз., р. *Чернея* — в. *Чарнея.* В. М. Тапароў і А. М. Трубачоў адзначалі выключную гідранімічнасць фармантаў *-ая, -ея, -уя* і ўказвалі на іх магчымую сувязь з балтыйскімі *-ēja, -ija, -auja,* прадуктыўнымі ў літоўскай мове як у апелятыўнай лексіцы, так і ў гідраніміі[9], а таксама на блізкасць гэтых літоўскіх фармантаў да ст.-рус. *-ея<*-ьја.* Яшчэ раней на фанетычную блізкасць названых балтыйскага і рускага фармантаў звярнуў увагу І. Развадоўскі[10]. Фармант *-ея* быў вядомы ў шэрагу ст.-руск. апелятываў: *веретея, верея, ворожея, колея, лядвея* і інш.[11] Магчыма, што на станаўленне айканімічнага словаўтваральнага тыпу на *-ея* маглі аказаць уплыў абедзве мадэлі: балтыйская гідранімічная мадэль і старажытнаруская апелятыўная мадэль. Наяўнасць у гэтай групе айконімаў неадгідранімічных (*Верацея, Будавея*) і адгідранімічных са славянскай асновай (*Чарэя, Чарнея, Выдрэя*), якія належаць да больш позняга, славянскага тапанімічнага пласта, гаворыць у карысць таго, што такі двухбаковы ўплыў быў магчымы, але не пярэчыць нашай асноўнай думцы: амаль усе айконімы на *-ая, -ея (-эя),*

---

[9] В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья, стар. 129—130.

[10] I. Rozwadowski. Studia nad nazwami wód słowiańskich, стар. 176.

[11] Ст.-рус. апелятывы з гэтым фармантам гл. у кн.: Indeks a tergo. Do materiałów do słownika języka staroruskiego I. I. Sreznievskiego. Warszawa, 1968.

*-уя* адгідранімічныя па паходжанню, іх сувязь з балтыйскімі гідранімічнымі дэрыватамі на *-ēja, -ija, -auja* бясспрэчная. Нават такі айконім, як *Выдрэя,* які здаецца на першы погляд славянскім, можа паходзіць і ад балтыйскага гідроніма, паколькі літ. *ū́dra* і бел. *выдра* абсалютна супадаюць па значэнню і вельмі блізкія па фанетычнаму і граматычнаму афармленню. На тэрыторыі б. Віцебскай губ. сустракаюцца тапонімы як з балтыйскай, так і са славянскай асновамі, параўн. воз. *Удрай,* воз. і в. *Удрія*, вв. *Большая* і *Малая Удрея*, р. *Удрея* ў Люцынскім, Невельскім і Рэжыцкім пп. (СВ 218, 234, 277, 334); воз. *Выдра*, в. *Выдрея*, р. і в. *Выдрица* ў Веліжскім, Гарадоцкім і Лепельскім пп. (СВ 63, 84, 209). Як паказвае прыведзены тапанімічны матэрыял, літоўскія формы былі характэрны для паветаў, заселеных у асноўным латышамі, а славянскія — для паветаў з беларускім і рускім насельніцтвам. Айконім *Выдрэя* можа разглядацца як вынік славянізацыі (перакладу і фанетычнай адаптацыі) даславянскага субстратнага гідроніма *Удрэя/Удрія* і пераносу воднай назвы на паселішча, параўн. *Выдра* — л. п. Сажа, вар. *Выдраж, Выдража,* магчыма, з літ. *ū́dra* 'выдра' (ТТ 181).

Некалькі слоў адносна паходжання айконіма *Го́лбея.* Існуе думка, што рр. *Голбея, Голбеица* атрымалі свае назвы ад паселішчаў[12]. Тут мэтазгодна гаварыць аб магчымай семантычнай сувязі беларускіх гідронімаў і айконіма з літоўскімі гідронімамі *Gul̃bė, Gul̃binas, Gul̃binis, Gul̃bis, Gul̃bìnė,* утворанымі ад апелятываў *gul̃bė, gul̃binas,* 'лебедзь' (Ван. 31, 156—158, 219, 223)[13], улічваючы блізкасць, сумежнасць тэрыторыі, на якой функцыяніруюць названыя беларускія і літоўскія тапонімы: в. *Голбея* Пастаўскага р-на размешчана на абодвух берагах р. *Голбіі*[14], вар. *Галбейка, Голбеица;* Пастаўскі р-н БССР пагранічны з ЛітССР. Сувязь тапоніма

---

[12] В. А. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Минск, 1974.

[13] Гл. таксама: Е. М. Катонова. О так называемых отантропонимических гидронимах.— «Веснік БДУ імя У. І. Леніна. Серыя IV. Філалогія, журналістыка, педагогіка, псіхалогія», 1973, № 1, стар. 29.

[14] У спісе населеных месц Віленскай губ. у ліку рэк, якія амываюць сваімі водамі Пастаўскую воласць, называецца р. *Голбія.* Гл.: Виленская губерния. Полный список населенных мест. Сост. И. И. Гошкевич. Вильно, 1905.

*Гóлбея* з апелятывам *голбец*, ст.-рус. 'адгародка' (Сразн.), рус. рэг. 'перагародка ў сялянскай хаце паміж печкай і палацямі; прыпечча' (Даль), вядомым у рускіх паўночна-ўсходніх гаворках і ў гаворках Сібіры, уяўляецца малаверагоднай з-за аддаленасці тэрыторый, на якіх функцыяніруюць гэтыя тапонімы і апелятыў, тым больш, што рус. *голбец* лічыцца запазычаным са ст.-сканд. *golf* 'пол, аддзяленне' (Фасм.).

Многія адгідранімічныя айконімы паўтараюць структуру гідронімаў са славянскім суфіксам *-ка*. Выяўленне адгідранімічных айконімаў з гэтым суфіксам мае свае цяжкасці, паколькі з дапамогай суфікса *-ка* і яго варыянтаў афармляліся назвы невялікіх рэчак, многія з якіх ужо не існуюць. Лічыць суфікс *-ка* гідранімічным [15] або айканімічным фармантам нельга, таму што ён прадуктыўны ў тапаніміі наогул і шырока выкарыстоўваецца ў сучаснай беларускай мове ў апелятыўнай лексіцы як словаўтваральны і формаўтваральны сродак [16]. У заходнедзвінскай гідраніміі на тэрыторыі Беларусі словаўтваральны тып на *-ка* з'яўляецца самым прадуктыўным: больш 40% гідронімаў аформлены суфіксам *-ка*, які непасрэдна далучаецца да кораня або да асновы, ужо ўскладненай якім-небудзь суфіксам [17], у айканіміі ж даследуемай тэрыторыі суфіксам *-ка* аформлены прыкладна 5—6% айконімаў. Да адгідранімічных мы адносім наступныя айконімы з суфіксам *-ка: Аржаўка, Белаводка, Ілаўка, Крыўка* [18], *Мядзелка, Ржаўка*. Усе гэтыя айконімы (апрача *Белаводка*) маюць гідранімічныя адпаведнікі ў даследуемым рэгіёне. Для айконіма *Белаводка* адгідранімічнасць паходжання пацвярджаецца значэннем асновы, якое ўказвае на якасць вады, параўн. *Черноводка* (Т 21), *Черная Вода* (Машт. 37, 229). Суфікс *-ка* ў гэтых айконімах не выконвае спецыяльнай функ-

---

[15] В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья, стар. 72.

[16] Граматыка беларускай мовы, т. 1. Мінск, 1962, стар. 97, 117—118.

[17] Е. М. Катонава. Заходнедзвінская гідранімія на тэрыторыі Беларусі.— У зб.: Пытанні беларускай тапанімікі, стар. 153.

[18] На даследуемай тэрыторыі сустракаюцца айконімы, якія ўзніклі на аснове антрапонімаў *Крыўка, Крыўкó;* у такім выпадку ў адрозненне ад айконімаў адгідранімічнага паходжання яны афармляюцца па мадэлі Pluralia tantum, параўн. вв. *Крыўкі* (Леп., Чашн., Шарк.). Так, у в. *Крыўкі* Лужкоўскага с/с Шаркаўшчынскага р-на амаль усе жыхары маюць прозвішча *Крыўка*.

цыі, ён уваходзіць у структуру гідронімаў і далучаецца ў асноўным да славянскіх асноў; толькі айконім *Мядзелка* з'яўляецца гібрыднай назвай: балтыйская аснова і славянскі фармант, параўн. воз. *Мядзиол* (басейн Беразіны), р. *Мяделица*, п. п. Бярэзіны, літ. айконім *Medžiolai* (ТТ 163, 197), літ. апелятывы *mẽdė, mẽdis, mẽdžias* 'дрэва', 'лес, гай' (Неўск. 347).

Нешматлікай з'яўляецца група айконімаў, у якіх суфікс *-ка* далучаецца да асновы з *-j-* (9 айконімаў, якія з'яўляюцца назвамі 11 населеных пунктаў). З гэтай групы мы адразу выключаем такія, як *Верацейка, Кімейка, Першамайка, Хацейка,* паколькі іх узнікненне не звязана з уплывам гідраніміі. *Першамайка* — новая назва, параўн. в. *Першае Мая* (Докш.), пас. *Першае Мая* (Чашн.), в. *Першамайск* (Докш.), вв. *Першамайская* (В.-Дзв., Чашн.). Айконім *Кімейка* мае больш апраўданы варыянт *Кімейкі,* які ўзнік па мадэлі Pluralia tantum на аснове літоўскага антрапоніма з суфіксам *-eika* [19]. Айконім *Хацейка* можа паходзіць як ад апелятыва з ацэначным суфіксам *-ейка* ў памяншальна-ласкальным значэнні, параўн. *Надзейка, сямейка,* так і ад антрапоніма **Хацей* з дэмінутыўным суфіксам *-ка* [20], што менш верагодна, паколькі такі антрапонім не зафіксаваны, але ён з'яўляецца магчымым, параўн. старaславянскія імёны *Хот, Хотяй, Хотько* (Сяд.). Адназначнага тлумачэння не мае і ўзнікненне айконіма *Верацейка.* Гэты айконім мае гідранімічную паралель на тэрыторыі Беларусі (р. *Верацейка* — прыток Свіслачы, сістэма Нёмана), аднак тэрытарыяльная аддаленасць аднаструктурных айконіма і гідроніма дазваляе меркаваць аб іх незалежным паходжанні. Так, гідронім можа быць як славянскім, так і балтыйскім па паходжанню, параўн. *Вертейка* — п. п. Ельні, п. п. Іпуці, л. п. Сажа з балт. **Virtēja* або **Vertēja* (ТТ 179). Што датычыцца айконіма, то прыходзіцца ўлічваць наяўнасць дыялектнага апелятыва *верацея* 'ўзгорак, узвышша сярод балота, часцей парослае арэшнікам; падрыхтаванае пад поле месца; вугал або клін поля' (Яшк.), які знаходзім у аснове многіх айконімаў Віцебскай вобл. (*Верацеі* (7) у розных р-нах, *Ве-*

---

[19] М. В. Бірыла, А. П. Ванагас. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. Мінск, 1968, стар. 70.

[20] В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія. Мінск, 1970, стар. 83.

*рацея* ў Аршанскім р-не) і іншых абласцей Беларусі[21]. І яшчэ адзін факт: на тэрыторыі Докшыцкага р-на дзве вёскі маюць назву *Верацеі*. Магчыма, назва *Верацейка* (Докш.) утворана ад айконіма *Верацеі* пры дапамозе *-ка*, які ў такім выпадку з'яўляецца айканімічным словаўтваральным фармантам. Айконімы ж *Вілейка, Дабрэйка, Друйка, Камайка, Лучайка* з'явіліся як вынік пераносу рачной назвы на населены пункт. Суфікс *-ка* ў гідронімах *Друйка, Камайка, Лучайка* выконвае словаўтваральную функцыю; у гідранімічным дэрываце *Вілейка -ка* захоўвае і дэмінутыўнае значэнне: *Вілія — Вілейка*; у гідроніме *Дабрэйка* вылучаецца самастойны гідранімічны фармант *-эйка*, які генетычна можа быць звязаны з балтыйскім фармантам *-eika*[22].

Да ліку адгідранімічных мы адносім і айконімы на *-анка/-янка, -енка/-ёнка, -ынка/-інка*. У айканіміі беларускага Падзвіння гэты тып сфарміраваўся пад уплывам гідраніміі, хоць дэрываты з гэтымі суфіксамі вядомы і ў апелятыўнай лексіцы: *грача́нка, бяля́нка; маслёнка; расінка*[23]. Іменна ў гідраніміі гэтыя суфіксы з'яўляюцца вельмі пашыранымі. Так, у Верхнім Падняпроўі больш 200 гідронімаў толькі з фармантамі *-анка/-янка* (ТТ 75—78); столькі ж гідронімаў з *-анка/-янка* ў Сярэднім і Ніжнім Падняпроўі, у басейне Днястра і Буга (Т 22, 24, 110—114). Некалькі айконімаў Падзвіння з названымі суфіксамі выяўляюць сувязь з апелятывамі: *Аўсянка, Забалоцінка, Запалянка, Калінка, Красцьянка, Навінка, Пагулянка*[24], *Старынка, Яблонка, Яблынка,* прычым на даследуемай тэрыторыі *Аўсянка* і *Пагулянка* вядомы і як назвы рэк, так што для адпаведных айконімаў не выключаецца магчымасць і адгідранімічнага паходжання. Айконімы *Абалянка, Сакалянка* з'яўляюцца назвамі населеных пунктаў, размешчаных на берагах рэк з аднайменнай назвай; большасць жа айконімаў мае гідранімічныя паралелі ў басейне Заходняй Дзвіны *(Альшанка, Песачанка, Пясчанка, Жарамянка*[25]; *Гарадзён-*

---

[21] В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія, стар. 10.

[22] В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья, стар. 79.

[23] Граматыка беларускай мовы, стар. 96, 118.

[24] В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія, стар. 26.

[25] Параўн. рр. *Зеремянка, Зеремелька, Зелемянка, Жеремянка,* ст.-бел. *зеремę;* польск. *żeremię* (з бел. або ўкр.) 'бабровая калонія' < **zerdmę* 'абгароджанае' (Т 121).

*ка, Зялёнка, Каменка, Студзёнка; Галінка, Казінка, Пальмінка, Тухінка)* або Дняпра *(Будянка, Сметанка, Тростянка)* [26]. Да адгідранімічных можна ўмоўна аднесці і айконімы *Жарсцвянка* (3), *Жасцянка,* параўн. р. *Жэсць* на Міншчыне [27], *Жвіранка, Калечанка,* параўн. бел. рэг. *калéка* 'мянтуз' (Касп.), *Уклеенка,* хоць яны і не маюць аднаструктурных гідранімічных адпаведнікаў, але значэннем кораня і структурай набліжаюцца да гідронімаў. Частка айконімаў з *-анка/-янка, -енка* дубліруе структуру гідронімаў, у якіх *-анка<-ан+-ка, -енка<-ен+-ка,* дзе суфікс *-ка* выконвае субстантыўную функцыю пры кандэнсацыі састаўных назваў тыпу *каменная рака — Кáменка* [28]: *Зялёнка* (5), *Кáменка* (14), *Песачáнка, Пясчáнка* (2), *Студзёнка* (6). У іншых жа выдзяляюцца суфіксы *-анка/-янка* як самастойныя гідранімічныя фарманты, якія далучаюцца да асноў гідронімаў: *Абалянка* — р. *Óбаль, Альшáнка* — р. *Óльша, Жасцянка* — р. *Жэсць, Палачáнка* — р. *Палатá,* параўн. у б. Лепельскім п. з воз. *Негразь* выцякала р. *Негражанка* (СВ 189), у воз. *Негро* ўпадала р. *Негрянка* (Сап. 37), гідронім *Ольшанка* (п. п. Лучосы, л. п. Заходняй Дзвіны) меў варыянт *Ольша* (Сап. 59). Нельга сцвярджаць, што абсалютна ўсе назвы з *-анка, -енка* спачатку ўзніклі як гідранімічныя, а затым былі перанесены на населеныя пункты. Некаторыя з іх маглі быць утвораны з дапамогай гэтых суфіксаў ад іншых айконімаў або мікратапонімаў, параўн., напрыклад, в. *Буда* — в. *Будзянка.* У тапонімах тыпу *Жарсцвянка, Кáменка, Пясчáнка* змяшчаюцца характарыстыкі, якія ў аднолькавай ступені могуць быць аднесены і да дна ракі, і да глебы вакол населенага пункта; для такіх айконімаў гідранімічнасць у выкарыстанні словаўтваральнай мадэлі, прадуктыўнай у гідраніміі. А. М. Трубачоў лічыць, што шматлікія назвы рэк *Кáменка* (іх 310 на Усходне-Еўрапейскай раўніне), у якіх выдзяляецца суфікс *-ка* (*Камен+ка*), маглі аказаць уплыў на станаўленне ў гідраніміі словаўтва-

---

[26] В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья, стар. 64—68.

[27] В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія, стар. 74.

[28] Э. К. Бірыла. Тапонімы Гомельшчыны з суфіксам *оўка/-аўка/-ёўка/-еўка.* — У зб.: Пытанні беларускай тапанімікі, стар. 105.

[29] О. Н. Трубачев. Названия рек Правобережной Украины, стар. 115.

ральнага тыпу з самастойным суфіксам *-енка*[29]. Не выключаецца ўплыў шматлікіх гідронімаў з суфіксамі *-енка, -анка* на фарміраванне і ў айканіміі гэтага тыпу, прычым уплыў гэты мог здзяйсняцца двума шляхамі: шляхам пераасэнсавання воднай назвы і пераносу яе на паселішча або шляхам выкарыстання гэтай прадуктыўнай гідранімічнай мадэлі пры ўтварэнні айконімаў.

Па-іншаму з'явіліся ў айканіміі назвы на *-інка.* Для некаторых з іх не выключаецца магчымасць пераносу з рачной назвы, аднак гэтаму працэсу папярэднічаў іншы: утварэнне гідронімаў ад назваў паселішчаў на *-іна* з дапамогай суфікса *-ка,* параўн. в. *Казінка*<р. *Козинка*[30]<в. *Козино* (СВ 208), в. *Шестинка*<р. *Шестинка*<в. *Шестино* (СВ 19, 24). Для часткі айконімаў з *-інка* мы не маем поўнай дакументацыі, але яны маглі ўзнікнуць па разгледжанай мадэлі: *Губінка, Жабінка, Колпінка, Косцінка, Папінка, Халяпінка.* В. *Тухінка* таксама атрымала сваю назву ад ракі, але гідронім утварыўся ад айконіма на *-інь:* вв. *Старая Тухінь* і *Новая Тухінь* — на р. *Тухінка* (СМ 132). Блізкім па структуры да папярэдніх з'яўляецца і айконім *Пальмінка.* Гэты айконім мае гідранімічны аднаструктурны адпаведнік, магчыма, айконім дубліруе яго структуру, параўн. літ. *Paĩminys*<**Pa-alminys, Elmė, Eĩmis* (Ван. 60, 64, 219). Няясна ўтварэнне айконімаў *Жвірынка, Падварынка* (вв. у Браслаўскім р-не); магчыма, гэта адапелятыўныя суфіксальныя дэрываты, параўн. бел. *жвір* 'гравій, буйны пясок або прамыты вадой рачны пясок', літ. *žvyrýnas, žvyrynė* 'месца, дзе многа галькі, каменняў' (Неўск. 375), літ. воз. *žvyrynas* (Ван. 43); бел. рэг. *падвóр'я* 'гаспадарка; двор, сядзіба' (Бяльк.), літ. воз. *Padvarìnis* (Ван. 161).

На тэрыторыі беларускага Падзвіння сустракаюцца адгідранімічныя айконімы, афармленыя і некаторымі іншымі суфіксамі, параўн. воз. *Вымно* — в. *Вымна,* воз. *Грыбна* — в. *Грыбна,* воз. *Городно* — в. *Гародна,* воз. *Пышно* — в. *Пышна,* воз. *Ропно* — в. *Ропна,* воз. *Свидно* — в. *Свідна*, воз. *Страдно* — в. *Страдна*, воз. *Щолно* —

[30] Е. М. Катонава лічыць гэты гідронім не адантрапанімічным, яна ўказвае на магчымую сувязь яго з беларускімі геаграфічнымі дыялектнымі тэрмінамі *казіна́, казелец* і апелятывамі: бел. *казляк* 'грыб', літ. *kazlė̃kas* 'тое ж'. Гл.: Е. М. Катонова. О так называемых отантропонимических гидронимах, стар. 49—50.

в. *Шчолна* і інш. Усе гэтыя айконімы, як і разгледжаныя вышэй, паўтараюць структуру гідронімаў; фарманты ў іх не выконваюць айканімічнай функцыі. Большасць адгідранімічных айконімаў, утвораных семантычным спосабам, граматычна аформлены як назоўнікі жаночага роду адзіночнага ліку на *-а* (нават і ад'ектыўнага паходжання, параўн. в. *Астроўна,* в. *Грыбна* і інш.). Толькі нямногія з іх ужываюцца ў форме прыметнікаў ніякага роду: воз. *Бéлае* — в. *Бéлае* (2), воз. *Глыбóкае* — г. *Глыбóкае,* воз. *Дóўгае* — в. *Дóўгае* (4), воз. *Скóбрае* — в. *Скóбрае* і інш.

Некаторыя адгідранімічныя айконімы ўтвораны пры дапамозе суфіксаў або прэфіксаў па айканімічных або апелятыўных мадэлях. Адгідранімічныя суфіксальныя дэрываты прадстаўлены некалькімі айконімамі з суфіксам *-ск*(**-ьскъ*): р. *Віцьба* — г. *Віцебск,* р. *Друць* — г. *Друцк,* р. *Палатá* — г. *Пóлацк,* воз. *Ўкля* — в. *Укóльск,* в. *Сінск,* параўн. р. *Синіе* (Пісц. кн. 427). Айконімы, утвораныя пры дапамозе *-ск* ад гідронімаў, вельмі старажытныя: назвы гарадоў *Віцебск, Друйск, Пóлацк* вядомы з IX—X стст.[31] Граматычная форма мужчынскага роду адзіночнага ліку айконімаў з суфіксам *-ск* тлумачыцца тым, што ў старажытнасці пры дапамозе гэтага суфікса, які меў значэнне неасабовай прыналежнасці[32], утвараліся назвы гарадоў ад гідронімаў. Цяпер можна гаварыць толькі аб пераважнай замацаванасці гэтага айканімічнага суфікса за назвамі паселішчаў[33], параўн. новыя назвы *Пралетарск, Пяцігарск* і інш.

Значна большая колькасць айконімаў адгідранімічнага паходжання ўтварылася па прэфіксальна-суфіксальнай мадэлі (прэфікс + гідронім + суфікс *-je*), вядомай, але непрадуктыўнай у апелятыўнай лексіцы і вельмі прадуктыўнай у беларускай айканіміі[34]. Айконімы, утвораныя суфіксальна-прэфіксальным спосабам, з'яўляюцца назвамі-арыенцірамі; яны ўказваюць на размяшчэнне населенага пункта ў адносінах да якой-небудзь ракі або возера; прыстаўкі *за-, на-, па-, пад-, пры-*

---

[31] В. В. Сядоў. Старажытнаруская тапанімія.— У зб.: Пытанні беларускай тапанімікі, стар. 20.

[32] В. А. Никонов. Славянский топонимический тип.— У зб.: Вопросы географии, вып. 58. М., 1962, стар. 27.

[33] Н. В. Подольская. Какую информацию несет топоним.— У зб.: Принципы топонимики. М., 1964, стар. 96.

[34] В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія, стар. 122.

канкрэтызуюць, у якім іменна месцы размешчаны паселішчы, параўн. воз. *Белае*—в. *Забелле* (3), р. *Авута*—в. *Завуцце*, р. *Вята* — в. *Павяцце*, р. *Дзвіна* — вв. *Задзвінне, Падзвінне, Прыдзвінне*, воз. *Мелкае* — в. *Замялочча*, воз. *Пліса* — в. *Заплиссе*, воз. *Рака* — в. *Зарачча*, воз. *Снуда*— вв. *Заснуддзе, Паснуддзе*, воз. *Соро* — в. *Засор'е*, балота *Струга* — в. *Застружжа*, воз. *Теклис* — в. *Зацяклясе*, р. *Ула* — в. *Павулле*.

Некалькі адгідранімічных айконімаў утвораны па прэфіксальнай мадэлі: р. *Валынка* — в. *Завалынка*, воз. *Вечелье* — в. *Завячэлле*, р. *Вянужка* — в. *Павянужка*, р. *Грабенка* — в. *Паграбёнка*, воз. *Муйса* — в. *Падмуйса*, р. *Обаль* — в. *Заобаль*, воз. *Язна* — в. *Пад'язна*. У спісе населеных месц Віцебскай губ.[35] значылася намнога больш паселішчаў, назвы якіх утвораны ад гідронімаў па прэфіксальна-суфіксальнай і прэфіксальнай мадэлях: *Завелье* — воз. *Велья, Задруйка* — р. *Друйка, Задубье* — воз. *Дубок, Залучосье* — р. *Лучеса, Заначье* — р. *Нача, Запушно* — воз. *Пушно, Заусыса* — р. *Усыса, Зашевенье* — воз. *Шевено, Надбелое* — воз. *Белое* і інш.

Айконімы гідранімічнага паходжання могуць афармляцца і па айканімічнай мадэлі Pluralia tantum, параўн. в. *Абітокі* — р. *Абітока*, в. *Астравіты* — воз. *Астравіта*, в. *Біложы* — р. *Биложа*, в. *Варонічы* — воз. *Воронеч*, в. *Дохнары* — воз. *Дохноро*, в. *Дрысвяты* — р. *Дрысвята*, воз. *Дрысвяты*, в. *Плісы* — воз. *Пліса*, в. *Плюсы* — воз. *Плюсы*, г. п. *Расоны* — воз. *Россоно*, в. *Свечы* — р. *Свеча*, г. п. *Ушачы* — р. *Ушача*. Айконім *Плюсы* паўтарае структуру гідроніма; ва ўсіх астатніх айконімах флексія выконвае айканімічную функцыю: з яе дапамогай утвараюцца назвы населеных пунктаў ад гідронімаў. Заўважым, што сучасныя адгідранімічныя айконімы ў форме Pluralia tantum не адразу аформіліся па гэтай мадэлі. Некаторыя з іх узніклі спачатку семантычным спосабам і дубліравалі структуру гідронімаў, параўн. воз. *Воронеч* — мяст. *Воронеч*, р. *Ушачь*, вар. *Ушача* — мяст. *Ушача*[36] (дарэчы, мясцовае насельніцтва і цяпер так называе г. п. *Ушачы*).

Магчыма, сваім паходжаннем з гідраніміяй звязаны

[35] Список населенных мест Витебской губернии. Под ред. А. П. Сапунова. Витебск, 1906.

[36] Живописная Россия, т. 3, ч. I і II. М.—СПб, 1882, стар. 388—389.

і такія айканімічныя суфіксальна-флексійныя дэрываты, як *Важа́ны* (В. -Дзв.) <*важаны*<воз. *Важа, Бужа́ны* (Бр.) <*бужаны*<воз. *Бужа, Рыча́ны* (Бр.) <*рычаны*<воз. *Рыча, Свіра́ны* (Бр.) <*свіраны*<воз. *Свір*. У іх аснове ляжаць калектыўныя назвы жыхароў, якія жывуць па берагах названых азёр; гэтыя назвы могуць паходзіць і ад прозвішчаў жыхароў гэтых вёсак[37]. Сувязь з гідраніміяй выяўляюць і такія айконімы ў форме множнага ліку, як *Паянычы* (р. *Янка*), *Абольцы* (р. *Обола*), *Сястрэнцы* (р. *Сестренка*), *Абалікшты* (воз. *Оболе*).

Як паказвае аналіз айконімаў беларускага Падзвіння, каля 0,4% назваў населеных пунктаў узніклі пад уплывам гідраніміі. Большасць айконімаў гідранімічнага паходжання ўтвораны семантычным (безафіксным) спосабам. Часам назіраецца працэс узаемадзеяння айконімаў і гідронімаў: ад назвы населенага пункта суфіксальным спосабам утвараецца назва невялікай рэчкі, а затым водная назва становіцца назвай паселішча (айконім<гідронім<айконім). У такіх выпадках суфікс не выконвае айканімічнай функцыі, ён уваходзіць у структуру гідроніма. Пры ўтварэнні адгідранімічных айконімаў выкарыстоўваюцца прэфіксальна-суфіксальная і прэфіксальная мадэлі, а таксама айканімічная мадэль Pluralia tantum. Большасць адгідранімічных айконімаў не выяўляюць сувязі з беларускай апелятыўнай лексікай, паколькі гідронімы, на базе якіх утвораны гэтыя айконімы, адносяцца да старажытнага пласта тапаніміі і часта маюць балтыйскую этымалогію. Аднак трэба мець на ўвазе, што айконімы, якія фіксуюць старажытныя гідранімічныя асновы, маглі ўзнікнуць параўнальна нядаўна.

[37] М. В. Бірыла, А. Н. Ванагас. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы, стар. 40, 49.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ КРЫНІЦ

Бул. — А. М. Булыка. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мінск, 1972.

Бяльк. — І. К. Бялькевіч. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мінск, 1970.

Ван. — A. Vanagas. Lietuvos TSR hidronimų daryba. Vilnius, 1970.

Даль — В. Даль. Толковый словарь живого великорусского языка, т. I. М., 1955.

| | |
|---|---|
| Касп. | — М. І. Каспяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік. Віцебск, 1927. |
| Машт. | — П. Л. Маштаков. Список рек Днепровского бассейна с картой и алфавитным указателем. СПб, 1913. |
| Неўск. | — Л. Г. Невская. Словарь балтийских географических апеллятивов.— Балто-славянский сборник. М., 1972. |
| Пісц. кн. | — Писцовые книги XVI века. Издание императорского русского географического общества под ред. Н. В. Калачова, ч. I, отд. II. СПб, 1877. |
| Разв. | — I. Rozwadowski. Studia nad nazwami wód słowiańskich. Kraków, 1948. |
| Сап. | — А. Сапунов. Река Западная Двина. Витебск, 1893. |
| СВ | — Список населенных мест Витебской губернии. Под ред. А. П. Сапунова. Витебск, 1906. |
| СМ | — Список населенных мест Могилевской губернии. Под ред. Г. П. Пожарова. Могилев, 1910. |
| Срэзн. | — И. И. Срезневский. Материалы для словаря древнерусского языка, т. I. СПб, 1893. |
| Сял. | — А. Селищев. Из старой и новой топонимии.— Избранные труды. М., 1968. |
| Т | — О. Н. Трубачев. Названия рек Правобережной Украины. М., 1968. |
| ТТ | — В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962. |
| Фасм. | — М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка, т. I. М., 1964. |
| Яшк. | — I. Я. Яшкін. Беларускія геаграфічныя назвы. Мінск, 1971. |

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

| | |
|---|---|
| Бр. | — Браслаўскі р-н |
| В.-Дзв. | — Верхнядзвінскі р-н |
| Докш. | — Докшыцкі р-н |
| л. п. | — левы прыток |
| п. п. | — правы прыток |
| Чашн. | — Чашніцкі р-н |
| ч. ст. | — чыгуначная станцыя |

*М. Я. Грынблат*

## БЕЛАРУСКА-ЛАТЫШСКІЯ СУВЯЗІ Ў ТАПАНІМІІ І АНТРАПАНІМІІ БССР

Эканамічныя, этна-культурныя і моўныя беларуска-латышскія сувязі маюць глыбокія гістарычныя карэнні. Прынамсі з другой палавіны I тысячагоддзя н. э., калі пачалося рассяленне славян у вобласці Верхняга Падняпроўя і Падзвіння, завязваюцца цесныя кантакты ўсходнеславянскіх плямён з мясцовым насельніцтвам — плямёнамі лета-літоўскай моўнай групы.

Пра старадаўнія сувязі славян з латышскімі плямёнамі сведчаць археалагічныя матэрыялы. Гэта, напрыклад, галаўныя вянкі (вайнагі) і іншыя ўпрыгожванні латгальскага тыпу, якія знойдзены ў крывіцкіх курганных могільніках на Полаччыне і Пскоўскай зямлі, старажытнарускія курганныя трупапалажэнні з усходняй арыенціроўкай, што таксама збліжаюцца з латгальскімі пахаваннямі [1].

Прадметам нашага паведамлення з'яўляюцца беларуска-латышскія сувязі, якія знайшлі адлюстраванне ў беларускай анамастыцы, у прыватнасці ў тапаніміі і антрапаніміі. Вядома, што геаграфічныя назвы — гэта тая жывая карта зямлі, якая дае нам шмат найцікавейшых вестак пра мінулае насельніцтва краю, пра яго сувязі з суседзямі, перасяленні і г. д.

На карце Беларусі многа геаграфічных назваў балтыйскага паходжання, асабліва літоўскага. Найбольшая канцэнтрацыя іх у паўночна-заходняй частцы тэрыторыі рэспублікі, у сумежных з Літвой або размешчаных воддаль яе раёнах Гродзенскай, Мінскай і Віцебскай абласцей. Апрача гідронімаў-балтызмаў, мы сустрэнем тут мноства айконімаў літоўскага паходжання, менш першасных, утвораных ад апелятываў і антрапонімаў, і больш другасных, асабліва суфіксальных. Дастаткова

[1] В. В. Седов. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970, стар. 163—165.

сказаць, што ў назвах населеных пунктаў паўночнага захаду Беларусі зафіксавана каля пяцідзесяці бясспрэчна літоўскіх фармантаў, у многіх выпадках набыўшых, натуральна, аслявяненыя формы (*-ішкі* замест *-ішкес, -ішкяй; -яны* замест *-ёны; -яты* замест *-ёчяй* і г. д.) [2].

Латышскія элементы ў беларускай анамастыцы вызначаюцца некалькі іншым характарам. Гэта пераважна тапонімы і антрапонімы, якія ўзніклі з этнонімаў латышоў. Толькі невялікая частка беларускіх прозвішчаў утварылася на аснове іншых лексічных запазычанняў з латышскай мовы.

Этнатапонімы служаць адным з сведчанняў спрадвечнага добрасуседства, а ў радзе выпадкаў і сумеснага пражывання беларусаў з латышамі. На геаграфічнай карце Беларусі ёсць назвы населеных пунктаў, якія да нашага часу захавалі памяць аб старажытных латышскіх плямёнах лецьгола, зімегола і, магчыма, куршы (корсь) [3]. Гэта назвы беларускіх вёсак — *Латыгаль* у Глыбоцкім, Пастаўскім, Сенненскім і Вілейскім р-нах, *Латыголічы* ў Чашніцкім і Крупскім р-нах, *Латыгаўка* ў Мінскім (б. Заслаўскім) р-не, *Латыгава* ў Верхнядзвінскім (б. Асвейскім), Бешанковіцкім, Сенненскім, Віцебскім і Гарадоцкім р-нах, *Латыгалава* ў Гарадоцкім р-не, а таксама ўроч. *Латыгальскі лес* у Сенненскім р-не. Да гэтай жа групы трэба аднесці тапонім *Жміголы* ў Шаркаўшчынскім р-не, у якім мы бачым назву летапіснага латышскага племя *зімегола,* і, магчыма, *Куршынавічы* ў Ляхавіцкім р-не, хаця гэты тапонім, відаць, антрапанімічнага паходжання (ад прозвішча Куршыновіч), аднак з этнонімам *куршы* ў аснове. В. А. Жучкевіч звязвае з этнонімам *куршы* таксама назвы вёсак Курчэўцы ў Воранаўскім р-не і Курчы ў Талачынскім р-не [4]. Аднак наўрад ці гэта апраўдана. Славянскі корань у аснове гэтых тапонімаў уяўляецца нам больш верагодным.

[2] Гл.: М. Я. Гринблат. К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959, стар. 524—527; М. В. Бірыла, А. П. Ванагас. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. Мінск, 1968.

[3] Гэтыя плямёны называе старажытны рускі летапіс: «В Афетове же части сѣдять русь, чюдь и вси языци: меря, мурома, весь, моръдва, заволочьская чюдь, пермь, печера, ямь, угра, литва, *зимѣгола, корсь, лѣтьгола,* любь» (Повесть временных лет, ч. 1. М.— Л., 1950, стар. 10. Курсіў наш.— *М. Г.*).

[4] В. А. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Минск, 1974, стар. 191.

Цікава таксама паселішча *Крэва* ў Смаргонскім р-не, якое ў сваім імені захавала латышскую і, магчыма, літоўскую назву рускіх *(krievs);* яна паходзіць ад старажытнага славянскага племя крывічоў, што жыло ў непасрэдным суседстве з латышскімі плямёнамі. Сувязь айконіма *Крайва́нцы* ў Ашмянскім р-не таксама з балтыйскай назвай рускіх — *крэвы,* як мяркуе В. А. Жучкевіч [5], здаецца нам малаверагоднай. Прасцей, на нашу думку, вытлумачыць паходжанне назвы ад літ. *kreivas* 'крывы', *kreivinti* 'крывіць', што, магчыма, характарызуе форму паселішча, абумоўленую ландшафтнымі асаблівасцямі мясцовасці.

У іншых тапонімах, відаць, знайшлі адлюстраванне факты перасяленняў латышоў у Беларусь, якія адбываліся ў розныя часы. Пра гэта могуць сведчыць назвы беларускіх вёсак *Лотва* ў Мядзельскім, Баранавіцкім, Ляхавіцкім, Быхаўскім і Шклоўскім р-нах, *Лотвіны* або *Лоцьвіны* ў Капыльскім р-не, *Лотвічы* ў Баранавіцкім р-не, магчыма, таксама *Лотаўка* ў Навагрудскім (б. Любчанскім) р-не, *Лоцеўка* ў Іўеўскім р-не, *Латаўшчына* ў Міёрскім р-не. Яшчэ вядомы *Латвянскае* возера ў Мядзельскім р-не і ўроч. *Латвеле,* зафіксаванае ў актах 1668 г. у Віленскім п.

Цяжка пагадзіцца з тлумачэннем паходжання тапоніма *Лотва,* якое прапануе В. А. Жучкевіч. У аснове гэтай назвы, сцвярджае ён, «тэрмін *лотва* — невялікае паніжэнне, пераўвільготненае месца, прыкладна тое ж, што і калюга. Ад гэтага ж беларуская назва расліны калюжніцы — лотаць (Caltha L.)» [6]. На жаль, аўтар не ўказвае, дзе занатавана ім слова *лотва* ў такім значэнні, а геаграфічнае пашырэнне назвы ў дадзеным выпадку вельмі важна: ці бытуе яна там, дзе сустракаюцца тапонім *Лотва* і вытворныя ад яго. Нам жа гэта слова не ўдалося выявіць ні ў адным дыялектным слоўніку, ні ў слоўніку беларускай мовы І. Насовіча, ні ў слоўніку геаграфічных назваў І. Яшкіна, няма яго нават у фундаментальнай Картатэцы сучаснай беларускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. Што ж датычыць назвы расліны *лотаць,* дык яна зафіксава-

---

[5] В. А. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии, стар. 182.

[6] Там жа, стар. 209—210.

на толькі ў Магілёўскай і часткова ў Мінскай вобл. Сустракаюцца яе варыянты: *латацень* у Гродзенскай, *лота* — у Гомельскай і *лотась* — у Мінскай вобл. Часцей жа адзначаная расліна вядома на Беларусі пад іншымі назвамі — нюнькі, жоўты кураслеп, лопух, казалец і інш.[7] Урэшце, усё гэта не мае дачынення да этымалогіі тапоніма *Лотва* і блізкіх да яго геаграфічных назваў, вядомых на Беларусі пераважна ў паўночна-заходніх раёнах. Тапонім гэты, на нашу думку, не мае патрэбы ў асаблівым «разгадванні». Не можа быць сумнення, што ў ім захавалася даўняя беларуская і польская назва латышоў — *лотва* (параўн. аналагічнае старажытнае найменне літоўцаў — *літва*). Гэта засведчана і пісьмовымі помнікамі старабеларускай мовы. Так, у адным са спісаў «Хронікі славян» М. Стрыйкоўскага ў перакладзе пачатку XVII ст. *лотва* называецца побач з *літвой* і іншымі старажытнымі плямёнамі[8]. У 1977 г. у гутарцы з 67-гадовым жыхаром г. Стоўбцы Мінскай вобл. мы зафіксавалі выраз «Паехаў недзе ў Лотвію», г. зн. у Латвію. Вядома, што па-польску і зараз Латвія таксама — *Łotwa*, латыш — *łotysz*, латышскі — *łotewski*, а па-літоўску латыш — *lātvis*.

З больш познімі перасяленнямі латышскіх сялян у Беларусь, якія адбываліся ў XIX—XX стст., і заснаваннем латышскіх калоній у Віцебскай, Магілёўскай і Віленскай губ.[9], відаць, звязана з'яўленне такіх тапонімаў, як *Латышы* ў Глыбоцкім (б. Пліскім), Расонскім, Міёрскім і Бешанковіцкім р-нах, *Латышчына* ў Расонскім і Чэрыкаўскім р-нах, *Латышава* ў Расонскім і Ушацкім р-нах, *Латышэва* ў Талачынскім р-не, *Латышэўка* ў Гарадоцкім р-не, *Латышонкі* ў Міёрскім р-не (апошняе, магчыма, ад прозвішча *Латышонак* з характэрным для дадзенай мясцовасці фармантам *-онак, -ёнак*), *Латкалонія*, вядомая да вайны ў Быхаўскім р-не, уроч. *Латыскае*

---

[7] А. И. Киселевский. Латино-русско-белорусский ботанический словарь. Минск, 1967, стар. 28.

[8] М. Стрыйкоўскі. Хроніка славян. (Рукапіс, які захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (F. IV. 688, л. 420б) і распісан для Картатэкі слоўніка старабеларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН БССР).

[9] Пра латышоў-перасяленцаў гл.: К. Шкільтэр. Латышскія калоніі на Беларусі. Гістарычнае развіццё латышскіх сялянскіх гаспадарак. Мінск, 1931.

(лес) у Бярэзінскім р-не[10], уроч. *Латышоўска* ў Слуцкім р-не, а таксама *Курляндзікі* ў Міёрскім (б. Дзісенскім) р-не — назва вёскі, якая, магчыма, гаворыць пра латышоў-перасяленцаў з б. Курляндскай губ. (Курземе, частка Латвіі).

Пераважная большасць прыведзеных тапонімаў з латышскай этнанімічнай асновай прыпадае на раёны Беларусі, куды ў свой час накіроўваўся галоўны паток перасяленцаў з Латвіі. Гэта ў асноўным усходнія паветы б. Віцебскай і Віленскай губ. і паўночная частка б. Мінскай губ. Толькі некалькі такіх геаграфічных назваў занатавана на Магілёўшчыне, дзе таксама ўзнік рад латышскіх калоній.

Шматвяковыя беларуска-латышскія сувязі, непасрэдныя кантакты з латышскім насельніцтвам знайшлі выразнае адлюстраванне таксама ў беларускай антрапаніміі, у невялікай, але характэрнай групе прозвішчаў беларусаў. Большасць гэтых прозвішчаў зафіксавана ў блізкіх ад Латвіі раёнах БССР — Полацкім, Лепельскім, Чашніцкім, Браслаўскім, Пастаўскім, Глыбоцкім, Шаркаўшчынскім, Сенненскім і інш.

Як і ў разгледжанай тапаніміі, латышскія элементы ў беларускай антрапаніміі таксама пераважна этнанімічнага характару — рад беларускіх прозвішчаў утварыўся ад этноніма латышы. Два фанетычныя варыянты аднаго прозвішча супадаюць з апелятывам-этнонімам: *Латы́ш* і *Ло́тыш*. Далей ідуць беларускія прозвішчы з тым жа этнонімам у аснове, але ў розным суфіксальным афармленні: *Латышоў* і *Ла́тышаў, Латышові́ч, Латышэві́ч* і *Латышкеві́ч, Латышка́еў* і *Латышэўскі, Латышонак* і *Латышок*. Не адважваемся безагаворачна далучыць да гэтай групы прозвішча *Лато́ш*, выяўленае ў Слонімскім р-не, патрабуецца дадатковае высвятленне яго этымалогіі, гістарычных акалічнасцей. З этнонімам старажытнай лецьголы, або латгалаў, звязаны беларускія прозвішчы *Латыгале́ц, Латыгоўскі*. Аднак суфіксы *-ец, -скі* сведчаць, што яны ўтварыліся ад адпаведных тапонімаў (напрыклад, *Латы́галічы*). У адным прозвішчы мы ізноў сустракаемся з указаннем на Курляндыю: *Курля́нчык* (вар. *Курляндчык*).

---

[10] «Лес, дзе было поле, на якім раней жылі латышы» (тлумач. інфарм.). Гл.: Мікратапанімія Беларусі. Матэрыялы. Мінск, 1974, стар. 138.

Аднак латышскія элементы ў беларускай антрапаніміі праявіліся не толькі праз латышскія этнонімы. Ёсць беларускія прозвішчы, якія ўтварыліся ад іншых лексічных запазычанняў з латышскай мовы. Такімі з'яўляюцца прозвішчы-апелятывы: *Мілта, Мілто* і *Мільта* (лат. *milti* 'мукá'), *Пýтра* і *Путро* (лат. *putra* 'каша'), *Вáкар* (лат. і літ. *vakars* 'вечар'), *Пýра* (лат. *pura* 'мера', адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў), *Бэнда* (лат. *bende* 'кат') і інш. Можна прывесці яшчэ некаторыя беларускія прозвішчы латышскага паходжання, адзначаныя галоўным чынам у паўночна-заходніх раёнах БССР. Так, прозвішча *Лочмель,* якое бытуе на Полаччыне, вядома ў латышоў Латгаліі (*Ločmiel*). Да латышскіх па паходжанню, відаць, могуць быць аднесены таксама такія беларускія прозвішчы, як *Цýра* (лат. *cura* 'бруд, мача'), *Кéкліс* (можа быць, ад *kakls* 'шыя' або *kakslis* 'кадык'), вядомае і сярод латышоў прозвішча *Лáдзіс,* а таксама *Яніс* ад пашыранага ў латышоў асабовага мужчынскага імя (бел. Янка, Іван), *Брэнц* (ад амаль забытага даўняга латышскага мужчынскага імя *Brencis*), *Крэўш, Карэва* і рад іншых, хаця іх адносіны да латышскай лексікі павінны быць больш поўна раскрыты і даведзены.

Аднак бясспрэчна, што нямала слоў балтыйскага паходжання, у тым ліку і латышскіх, не вядомых жывым гаворкам беларускай мовы, успрыняты беларускай анамастыкай, асабліва антрапаніміяй, і захоўваюцца ў ёй, застаючыся часта неразгаданымі загадкамі. Прывабная задача для мовазнаўцаў — дакладна выявіць і даследаваць гэты балтыйскі лексічны пласт у беларускіх геаграфічных назвах і прозвішчах.

Павінны прыцягнуць да сябе ўвагу таксама беларускія і ўвогуле славянскія элементы ў латышскай анамастыцы, у прыватнасці адлюстраванне ў ёй славянскай этнаніміі. Вядомы ж, напрыклад, такія прозвішчы ў латышоў, як *Krieva, Krieviņš* і інш.

Кароткі агляд пэўнай групы анамастыкі, натуральна, не падвёў нас да шырокіх высноў і абагульненняў. Яшчэ неабходна ўлічыць многія гістарычныя і іншыя ўмовы ўзнікнення канкрэтных населеных пунктаў і іх назваў, прозвішчаў. У асобных выпадках тапонім, асабліва з патранімічным канчаткам (як мы гэта адзначылі адносна назвы в. Куршыновічы), мог утварыцца ад прозвішча або мянушкі заснавальніка паселішча, яго ўладаль-

ніка. Але гэта не прымяншае вартасці этнічнай тапаніміі ў цэлым як адной з крыніц вывучэння гісторыі народа.

Латышскія элементы ў беларускай тапаніміі і антрапаніміі, таксама як беларусізмы і славянізмы ў латышскай анамастыцы, недастаткова выяўлены і яшчэ не зрабіліся прадметам спецыяльнага даследавання. Гэты невялікі артыкул — толькі спроба сістэматызацыі і асэнсавання далёка не поўна собраных матэрыялаў. Далейшае вывучэнне пытання як беларускімі, так і латышскімі даследчыкамі — мовазнаўцамі-анамастамі, этнографамі — уяўляе немалую цікавасць для высвятлення славяна-латышскіх культурна-моўных узаемасувязей, для этнічнай гісторыі беларусаў і латышоў.

4. Зак. 918

*І. Я. Яшкін*

# СТРАТЫФІКАЦЫЯ І ЧАСТОТНАСЦЬ НЕКАТОРЫХ ТАПОНІМАЎ СЛАЎГАРАДЧЫНЫ ПА ГІСТОРЫКА-ГЕАГРАФІЧНЫХ І КАРТАГРАФІЧНЫХ МАТЭРЫЯЛАХ

Пры вывучэнні гаворак Слаўгарадскага р-на і прылягаючых мясцовасцей Магілёўскай і Гомельскай абласцей намі сабрана больш дзвюх тысяч мясцовых геаграфічных назваў і такая ж колькасць мясцовых геаграфічных тэрмінаў.

Пакуль толькі зусім нямногія з іх удалося знайсці ў летапісах, граматах, актах, інвентарах і іншых дакументах X—XVI стст. На картах XVI—XVIII стст., апрача назваў гг. Прапойск і Чачэрск, не значыцца на ўсёй тэрыторыі Слаўгарадчыны ні адной назвы. У літаратуры і ў архіўных матэрыялах (асабліва ў інвентарах і апісаннях граніц) пачынаючы з XVI і да другой палавіны XX ст. знаходзім амаль усе з старых тапонімаў, гідронімаў і нават многія мікратапонімы і мікрагідронімы. Усё ж частка старых мікратапонімаў і мікрагідронімаў тыпу ўроч. *Яндо́ўка* каля в. *Шаламы́, Жукаўскія маргі*[1] каля в. Чарнякоўка, а таксама новыя, якія звязаны з гісторыяй калгаснага будаўніцтва, з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, зафіксаваны ўпершыню. Напрыклад: пасёлак, а цяпер в. *Ле́нінскі;* калгасы *Жда́наў,* або *Жда́нава, Барэ́ц, Прасве́т;* уроч. *Каміце́т* — лес, пасаджаны камбедаўцамі ў першыя гады Савецкай улады каля в. *Бязу́евічы*; в. *Пралета́рыя* — неафіцыйная мясцовая назва в. *Ка́біна Гара́* (вар. *Ка́бінная Гара́*), якая ўзнікла ў першыя гады Савецкай улады; уроч. *Ля На́шыя Та́нкі* (дзе быў падбіты савецкі танк) ці *Ля Та́нкі,* якое знаходзіцца каля в. Шаламы; уроч. *Ля Я́мкі на Сялецкай* (каля

[1] Назва поля, дзе знаходзіцца магіла (якая вельмі ўшаноўваецца мясцовымі жыхарамі) дваюрадных братоў «Жукавых» (Грыгорыя Антонава і Афанасія Дзяменцьева), якія выступілі супраць прыгоннага права, забіўшы 20 студзеня 1846 г. за адзін дзень у розных месцах шэсць і параніўшы восем чалавек дваранскага саслоўя. Гл. кн.: Эпоха Николая I. Под ред. М. О. Гершензона. М., 1911, стар. 71—72.

брацкай магілы ахвяр фашыстаў) побач з в. Шаламы; уроч. *Пад Та́нкаў (Та́нкавы)* роў (каля былога супрацьтанкавага рова пад Слаўгарадам); *Пропуск*—брод цераз р. Проню каля в. Красная Слабада; уроч. *Ме́ста лі сяннэ́я ба́зы,* дзе фашысты расстралялі 30 жыхароў в. Шаламы́ (каля Слаўгарада) і інш.

Апрача палявых матэрыялаў, мы карысталіся картамі Аддзела картаграфіі і Аддзела рукапісаў Публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Ленінград), Цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў у Маскве (ф. 1355, воп. 1, спр. 10. Магілёўская губ. Быхаўскі п., Цэнтральны межавы архіў СССР, адз. зах. № 10. Эканамічныя заўвагі Быхаўскага п. Магілёўскай губ., 1777 г.), а таксама дакументамі ЦДГА БССР у Мінску (ф. 694, воп. 4, інв. 1556; ф. 2084, воп. 1, адз. зах. 393, л. 322) і друкаванымі кнігамі [2].

---

[2] Rizzi Zannoni. Wizerunek powszechny Polski i Litwy. Londes, 1772; Акты, относящиеся к истории Западной России, т. 2. СПб, 1848, № 139; М. О. Без-Корнилович. Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. СПб, 1855; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, т. 3. Вильна, 1867, стар. 275; т. 7, 1870, стар. 289; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, т. 9. СПб, 1877; т. 14, 1889; Сборник имп. русского исторического общества, т. 35. СПб, 1882; Опыт описания Могилевской губернии. Под ред. А. С. Дембовецкого, кн. 1—3. Могилев, 1882—1884; Волости и важнейшие селения Европейской России, вып. V. СПб, 1886; Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I. вып. 3—5. Витебск, 1887, 1891; вып. 6. Могилев, 1901; вып. 8—9. Вільна, 1912; М. К. Любавский. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1893; М. Довнар-Запольский. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI в. Киев, 1905; ИЮМ, вып. 32, ч. II, 1906; Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов, т. 35. Вильна, 1910; Варкулабовская летопись. Под ред. Е. Р. Романова, вып. I. Могилев, 1900; Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910; St. Kościałkowski. Ze studjów nad dzieiami ekonomji królewskich W. Ks. Litewskiego. Wilna, 1914, стар. 18; К. М. Палікарповіч. Дагістарычныя стаянкі Сярэдняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, кн. II. Мінск, 1930; В. П. Тарановичч. Экспедиция академика И. И. Лепехина в Белоруссию и Лифляндию в 1773 г.— «Труды Института науки и техники АН СССР», сер. I, вып. 5. М.—Л., 1935; Книга Большому Чертежу. М.—Л., 1950; К. М. Поликарпович. Стоянки Среднего Посожья.— Материалы по археологии БССР, т. I. Минск, 1959; Белоруссия в эпоху феодализма, т. 1. Минск, 1959; Karol Buczek. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVIII wieku. Ossolineum, 1963, стар. 49, карты XX, XXI, XXIII, XXXI, XXXII.

Аналіз сабранага матэрыялу дазваляе зрабіць некаторыя вывады.

1. У многіх тапонімаў можна прасачыць час узнікнення множнага ліку, замену яго адзіночным, адваротнае ўзнаўленне множнага ліку, паралельнае ўжыванне множнага і адзіночнага ліку і г. д. Напрыклад: *Cholty* (1736) — *Холмъ* (1778) — д. *Холмы* (1909) і яго сучаснае мясцовае вымаўленне ў суседнім Чавускім р-не — *Хоўмы*. У Слаўгарадскім р-не ёсць на пагранiччы з Чавускім яшчэ ўроч. *Хоўмы* на месцы ранейшага населенага пункта *Слобода Ховмы* (1681). У эканамічных заўвагах да Генеральнага плана асобнымі суседнімі пунктамі ў 1777 г. былі *Зимница, Зимница-Изъище, Зимница Средняя, Зимница Малая, Заречье*. На картах гэтага часу знаходзім, відаць, паралельна існаваўшыя толькі дзве назвы ў форме множнага ліку: *Зимницы* (1778) і *Малые Зимницы* (1778, 1786), вар. *Малые Зимницъ* (1777), *М. Зимницы* (1786, 1800). Нарэшце, назва *Малые Зимницы* набывае форму адзіночнага ліку *Малая Зимница* (1886), а адпаведна ёй суседняя вёска *Зимницы* (1778) у форме множнага ліку атрымлівае азначэнне *Большие Зимницы* (1886). Такое ваганне ва ўжыванні адзіночнага і множнага ліку, відаць, адбывалася таму, што розная колькасць вёсак (усяго было пяць) уваходзіла ў склад кожнай *Зімніцы* асобна. У канцы XIX ст. абедзве назвы стабілізуюцца ў форме адзіночнага ліку: в. *Малая Зимница* (1886) і с. *Большая Зимница* (1909, 1910) або *Зимница* (1884) і в. *Малая Зимница* (1884), а таксама толькі в. *Малая Земница* (1884) і в. *Большая Земница* (1884). Цяпер афіцыйнымі з'яўляюцца назвы *Малая Зімніца* і *Вялікая Зімніца*. У сучасных мясцовых гаворках азначэнне *Вялікая* і *Малая* можа стаяць як перад назвай *Зімніца* (ці *Земніца*), так і пасля яго. Падобнае назіраецца і ў назвах патранімічнага паходжання на *-ичи* (*-ічы*): у «Атласе Заннонi» на месцы, дзе цяпер в. *Вайкавічы* Магілёўскага р-на, маецца толькі назва лесу *Bor Wilczy*, а на карце 1778 г. знаходзім вв. *Мал[ая] Волковка* і *Б[ольшие] Волковичи*. Але яшчэ раней знаходзім: «*село господарское Волковичи*» (1560, Археаграфічны зборнік, т. 3, стар. 275). Прывядзём прыклады, калі форма множнага ліку тапоніма знікае і замяняецца адзіночным, а потым множны лік узнаўляецца (побач з формай адзіночнага ліку можа спарадычна

фіксавацца форма множнага ліку): *Szołomy* (1681, 1750) — *Шоломы* (1778, 1884) — *Шоломахъ* (1884) — *Шоломахи* (1884) — *Шаламы́* (1926, 1964); *Васковичи* (1555) — *Waskovicze* (1681) — *Waśkiewicze* (1750) — *Васковичи* (1776) — с. *Васьковичи* (1884) — *Васьковка* (1896, 1933) — *Васьковичи* (1910) — *Ва́ськавічы* (1926).

У канцы XIX ст. разам з назвай *Ржавка* сустракаем *Ржавки* (1882, карта ў першай кн. А. С. Дэмбавецкага). У час калектывізацыі ўзнікла в. *Ржаўка Новая* каля в. *Ржа́ўка Ста́ра́я.* Пасля ўзбуйнення калгасаў гэтыя два пункты сталі называцца *Аржа́ўка 1-я,* а новы пасёлак — *Аржа́ўка 2-я* (і *Ржа́ўка 2-я*). Параўн. таксама: *Краснополичи* (1776—1779) — *Краснополье* (1778, 1786) — сучасны г. п. *Краснаполле*; *Усохи* (1776) — *Usochi* (1777) — *Усохъ* (1780, 1786, 1850, 1866) — *Усохи* (1884, 1910) — *Усохі* (1926, 1964); *Папорочичи* (1555) — *Паперки* (1745) — *Paperki* (1769) — *Paperky* (1796) — *Папоротки* (канец XIX ст.) — *Па́паратка* (1964).

Тапонімы, якія ўтварыліся ад геаграфічных назваў са значэннем мноства асобных прыродных аб'ектаў, прадметаў, з'яў і г. д., маюць нязменны на працягу XVI—XX стст. канчатак множнага ліку *-и/-ы: Сутоки* (1592 — год заснавання населенага пункта), *Zeroły* (1681, 1750), *Chworosciany* (1681), *Головичи* (1555) — *Головенъчычи (Головенчицы)* (1572, 1581, 1625), *Bowki, Śledziuki* (1736), *Улоски* (1773) — *Uloski* (1772, 1796) — *Улуки* (1783, 1850).

Раздзельнае мноства ў мікратапаніміі таксама выражаецца толькі ў форме множнага ліку: *Рага́ткі* — назва часткі в. *Люба́ны* (*Любяны*, 1906—ЦДГА БССР, ф. 2191, воп. 5, адз. зах. 983), дзе знаходзяцца «рагі» вуліц; уроч. *Лучкі́* (малыя поплавы) каля в. Папоўка, дзе р. Пяшчанка ўтварыла многа розных груп выступаў *Лучкі́ Пе́ршыя, Лучкі́ Другі́я, Лучкі́ Трэ́ццція.*

Тапонімы, якія абазначаюць сукупнасць калектыўную або зборную, звычайна маюць канчаткі *-е, -о, -а́* і нулявы канчатак, а таксама *-і* ў выніку, відаць, дысіміляцыі *-е.* Усе канчаткі могуць вар'іравацца ў адной назве: *Лобчо* (1525) — *Lobcze* (1681) — *Lopcza* (1750) — *Лопча* (1909); *Васковичи* (1555, 1563) — *Waskovicze* (1681) — *Waśkiewicze* (1750) — *Waskowiczi* (1777) — *Васьковичи* (1884, 1886); *Pałuze* (1681) — *Pałuż* (1750) — *Палуж* (1909).

Асабліва цікавай, як дазваляюць меркаваць нашы матэрыялы, з'яўляецца храналогія напісання розных канчаткаў у тапонімах Цёплае, Лясна́я, Рабаві́чы і інш. Параўн.: *Теплое* (1560, 1572, 1581, 1625, 1786, 1850, 1864, 1892)—*Цепле* (1708) — *Sieple* (1719) — *Czyeple* (1772)— *Teplo* (1777) — *Тѣплое* (1780) — *Czyeple* (1796); *Ustanne* (1681) — *Ustanna* (1750) — *Устаннае* (1928) — *Устанае* (1933) і сучаснае мясцовае найменне *Уста́ннае; Долге* (1773) — *Dolga* (1777) і сучаснае *Доўгае*. Канчаткі аднаго тыпу змяняюцца канчаткамі другога тыпу ў назве с. *Рабовичи* (1560) — *Рабовйца* (1708) — *Robawicza* (1772) — *Робавича* (1773) — *Рабовиче* (1776) — *Rabowicze* (1777) — с. *Рябовичи* (1778) — *Rabowiczi* (1780) — *Рабовичи* (1777, 1780, 1786, 1800, 1809) — *Robawicza* (1796) — *Rabowice* (1831) — *Робовичи* (1829) — *Рабовичи* (1851) — с. *Рабовичи* (1864, 1884, 1910) — в. *Рабавічы* (1928, 1933, 1964).

Напэўна, на месцы паралельна ўжываліся назвы як у форме поўных прыметнікаў, так і ў форме кароткіх. Параўн.: *Лесное, Лесная, Лесно* (1708, 1769), *«переехать в Лесной. Из Леснова осмотрю места»* (1773), *Лесна* (1776), *Lesna* (1777), *Лесное* (1777), *Лесная* (1778), *Лѣсная* (1786, 1800, 1851, 1884, 1910), *Лѣсно,* «между *Пропойском и д. Лѣсным»* (1855), *Лясное* (1926), в. *Лясная* (1965).

Назвы ў форме кароткіх прыметнікаў былі больш характэрны ў мінулым на Слаўгарадчыне, як і ў суседніх мясцовасцях, аб чым сведчыць мясцовая хроніка «Баркалабаўскі летапіс» (цяпер в. Баркала́бава Быхаўскага р-на): *«З Могилёва на село Онисковича Сидоровича аж до Пропойска увышол»* (1607) — цяпер в. *Аніскавічы*, в. *Сідаравічы; «з Круглы, Кругла»* (1708) — с. *Кру́глае*; *Азерска* (ляснiцкая сядзіба) *Гиженского с/с* (1926); хут. *Хомино*; пас. *Бялёва* (1926); р. *Камена* (1928) — сучасная р. *Ка́менка;* р. *Полна* (Быхаўскі п., левабярэжжа Дняпра); р. і воз. *Пищово* (Быхаўскі п.); воз. *Pienno* (1681) — цяпер *Пе́ннае* каля в. Гіжэнка; Балота *Пенновое* (1914) — цяпер вымаўляецца *Пяннова* каля в. Чарнякоўка Слаўгарадскага р-на. Кароткіх форм назваў маецца каля 10. Такая мадэль не з'яўляецца цяпер прадуктыўнай. Параўн. у Віцебскай вобл.: воз. *Лісно* і населены пункт *Лісна* Асвейскага р-на, воз. *Пено* Калінінскай вобл. (РСФСР).

2. Складаныя, двухсастаўныя мясцовыя геаграфічныя назвы Слаўгарадчыны маюць, як правіла, няўстойлівую структуру, пры якой прыметнік захоўваецца, субстантывуецца, а назоўнік паступова забываецца, знікае. У мікратапаніміі двухсастаўныя назвы, відаць, часта з-за свайго позняга ўзнікнення, з'яўляюцца больш устойлівымі, чым у тапаніміі. Назіраецца знікненне двухсастаўных назваў зусім і замена іх новымі простымі назвамі. Бывае, што простая назва выходзіць з ужытку, забываецца, а на яе месцы зноў узнікае назва тыпу «прыметнік+назоўнік».

Цікавай з'яўляецца эвалюцыя складаных тапонімаў са словам «слабада» (слабод на Слаўгарадчыне было шмат у XVII—XVIII стст.): *Horodziecka Słoboda* (1750) — цяпер в. Гарадзе́цкая; с. *Chowmy Słoboda* (1750) — цяпер уроч. *Хоўмы* (лес на роўным месцы); уроч. *Хараново селище* (1560) — цяпер в. *Харане́ў* або *Харанёў* і нават *Харанёва (Харане́ва)* на левабярэжжы р. *Рэста́; Grudzinowska Słoboda alias Zariecze* (1750) — цяпер в. *Грудзі́наўка; Слобода Аблогъ* (1791, 1793) — знікла; *Кривая Слобода і Кривая* (1800) — цяпер в. Лебядзёўка, а ў мове старэйшага пакалення яна таксама яшчэ і цяпер в. *Крыва́я* (ёсць там і ўроч. *Крывы́я*); *Слобода Синяя* (1851) — в. *Кліны́;* у 1851—1899 гг. былі самастойнымі два населеныя пункты *Берёзовка* і *Предм[естье] Мал[ая] Слободка* — цяпер в. *Бярозаўка* і афіцыйна *Новая Слабада* (адзін нас. п.); назва в. *Кра́сная Слабада́* на правым беразе Проні захавалася без змен, напэўна, таму, што адна з суседніх вёсак на левым беразе Проні называецца ў мясцовых жыхароў проста *Слабада́*, а афіцыйна *Гіжэ́нка;* там жа за Проняй другая суседняя вёска называецца *Новая Слабада́* афіцыйна, а ў размове мясцовых жыхароў *Бярозаўка.* Пры наяўнасці многіх суседніх двухсастаўных тапонімаў са словам *слабада́* месцазнаходжанне кожнай асобна часта вызначаецца апісальна: *«Пышла́ за́муж у Слыбаду́, што зы Віраво́й»,* г. зн. у *Красную Слабаду.* Радзей у двухсастаўных тапонімаў адкідваецца назоўнік *слабада́,* а прыметнік субстантывуецца, напрыклад замест *Ра́дзькаўская Слабодка* часцей ужываецца ў размове *Ра́дзькаўка.* Аднасастаўная назва *Слабада́* без папярэдняга азначэння вельмі ўстойліва захоўваецца ў мікратапаніміі, напрыклад у назвах вуліц сучасных узбуйненых вё-

сак. У в. *Шаламы́* адна вуліца называецца *Слабада́* замест ранейшай назвы асобнай суседняй в. *Падазёрская Слабада́ (Подозерье, Подъезерская Слобода, Слобода Шолобуда, Подъезерье, Поезерье)*.

З іншых пераўтварэнняў цікавымі з'яўляюцца наступныя: в. *Шаламы́ 2-я,* дзе быў раней калгас імя XVII з'езда партыі бальшавікоў, цяпер называецца мясцовымі жыхарамі *Семна́ццаты* (афіцыйна *Шаламы́ 2-я,* а ў размове і проста *Шаламы́); Чатырна́ццаты квартал* (дзялянка лесу ў 30—40-я гады) — цяпер уроч. *Чаты́рна́ццатае* (поле каля в. Гіжэнка); *Бол*[*ьшая*] *Шишковка (Сычин* таксама, 1851) — цяпер в. *Сы́чын; Мал*[*ая*] *Шишковка (Осиновка* таксама, 1851) — цяпер *Асі́наўка;* балота *Лиловое* (1910) — цяпер *Жарольскі Войстраў* (бо на гэтым балоце каля в. Жаролы ёсць востраў); уроч. *Няфёдаўскія маргі* (сенажаці) — цяпер уроч. *Няхф-(хв)ёдаўскае* каля в. Шаламы. Такіх назваў маецца каля 300, але яны пастаянна трансфармуюцца ў аднасастаўныя, маюць кожная да пяці варыянтаў.

3. Геаграфічныя назвы Слаўгарадчыны паказваюць час узнікнення, распаўсюджанне і частотнасць фармантаў *-с-, -ск-, -к-*. Гэта можна прасачыць на назве г. Прапойска: *на Прупои* (грамота Ростислава Мстиславича, 1136), *Proposzesk* (1387), *Пропостк* (1480), *Пропорск* (1488), *Пропорьск* (1489), *Пропостьск* (1500), *Пропойск* (1500, 1511, 1525, 1560, 1601, 1605, 1606, 1607, 1614, 1623, 1627, 1655, 1672, 1769, 1777, 1786, 1792, 1855, 1884, 1886), *Пропостьско* (1518), *Пропоеск* (1525, 1673), *Пропостеск* (1526), *Пропостьскъ* (1529), *Propojsk* (1-я палавіна XVI ст., 1846, 1888), *Propotsko* (1589, 1595), *Propoisk* (1613, 1645, 1655, 1702, 1703, 1718, 1770, 1771, 1772, 1773, 1796), *Propoysk* (1617, 1675, 1676, 1681, 1758, 1772), *Пропоиск* (1627, 1673, 1773, 1778, 1796, 1800), *Propotsk* (1692), *Propoik* (1702), *Proposk* (1703), *Propatsk* (1717), *Пропоиска* (1745), *Propenska* (1752, 1769), *Proponska* (1769), *Proponsk* (1771), *Propoÿsk* (1772), *Propoyik* (1775), *Propoisik* (1775), *Пропоисъ* (1776), *Прапойскъ* (1776—1779, 1778), *Propois* (1777), *Propisk* (1831), *Пропоськ* (1891), *Пропольскъ* (1910), *Прополск* (1914), *Прапольск* (адзначана намі ў Горацкім р-не — 1952, Полацкім — 1958, Краснопольскім — 1965), *Пропожьскъ* (1959, памылковае напісанне), *Пропашескъ* (1961, памылковае напісанне). Такой з'яўляецца стратыфікацыя гэтага тапоніма. Па-

раўн. мясцовае вымаўленне тапоніма *Прапойск: Прапойск, Прапойсык, Прапойсік, Прапосік, Прапось, Прапольск, Прапольськ, Прапойшык.* Цікавымі з'яўляюцца мясцовыя назвы жыхароў: *прапойцы, прапайцы́, прэпайцэ́, прэпайсцэ́, прапайшча́не* (і ў 1518 г.— *пропойчичаны*), *прапашча́не, прапаськёя лю́дзі, прапайскі чалаве́к, прапойчык, прапойшчынка, прыпышча́нка, прыпыська́я.* Аналагічнае ўжыванне суфікса *-ск-* і *-к-* знаходзім і ў іншых месцах на Магілёўшчыне: *Bobrusik* (1684—1727), *Bobruisk* (1702) — мясцовае вымаўленне *Бабру́ськ, Бабру́сік, Бабру́йсік*; у іншых назвах Слаўгарадскага р-на: в. *Угорск* (1778, 1851) — *Угорок* (1786) — цяпер *Узгорск;* уроч. *Серково* (1876) — сучасная в. *Се́ркаўка;* у мікрагідронімах: р. *Пищань* (984) — *Песчаная* (1783, 1909) — *Песчанка* (1850, 1884) — *Пещаная, Песчанная, Песчанна* (1909) — *Пяшча́нка* (1958); р. *Камена* (1928) — *Каменка* (1958) і інш.

Такім чынам, фарманты *-с-, -к-, -ск-, -ськ-, -сік-* з'яўляюцца прадуктыўнымі як у апелятывах *(мату́-с-я, матку́-с-я, мату́-ськ-а, малю-с-енькі),* так і ў старых *(Прапо-ськ)* і зусім новых назвах, напрыклад: пас. *Ле́нінскі* (раней тут быў калгас імя У. І. Леніна; адначасова ўжываецца назва Урэчча 2-е).

4. Афіцыйныя назвы былых маёнткаў і іншых аб'ектаў, якія ўжываліся паралельна з назвамі населеных пунктаў, часцей за ўсё забыліся: маёнтак *Колония* (таксама *Осиновка,* 1884) — цяпер в. *Асінаўка;* маёнтак *Блевки* (таксама *Фащевка,* 1884) — цяпер в. *Фа́шчаўка.* Ёсць выпадкі, калі назвы маёнткаў замацаваліся ў якасці назваў новых населеных пунктаў (радзей толькі ўрочышчаў) на іх месцы: маёнтак *Михалово Пропойское* (1884, уключаў у сябе сам маёнтак, а таксама в. *Шеломы́)* — цяпер в. *Шаламы́* і асобна в. *Міхалоў* (афіцыйна в. *Міхайлоў).* Сустракаюцца рэдкія выпадкі, калі старая народная назва вёскі пераасэнсоўваецца і замяняецца былой назвай суседняга маёнтка: в. *Чарны́шын* (1926, ад значэння 'чорны лес') стала называцца в. *Ходарава* ад такой жа назвы блізкага былога маёнтка, а дакладней ад назвы ўжо ўрочышча. Паводле падання, назва *Чарны́шын* пасля высякання навакол лесу стала памылкова атаясамлівацца з паняццем 'бедната, голь', што, быццам, і з'явілася прычынай перайменавання. Звычайна са знікненнем суседняга аб'екта знікае і адна назва,

якая раней ужывалася паралельна: вв. *Рудня* і *Старинка* (1777) — *Рудня* (1778); *Ста́ринка* и *медеплавильный завод* (1851) — *Старинка* и *Старинский Владимирский завод* (1866) — с. *Старинка* (1890) — в. і с. *Стары́нка* (1926) — в. *Стары́нка* (1964); *Prudziszcze alias Kamiąka* (1750) — в. *Ка́менка.*

5. Напэўна, не паланізмамі, а мясцовымі па паходжанню з'яўляюцца наступныя тапонімы: уроч. *Гуры* (1909) каля в. Сла́ўня, маёнтак *Подгурье* (1912) каля в. Усохі, слабодка *Гуры* (1884, 1901) Аршанскага п., в. *Гурка* каля в. Азярышча Віцебскай вобл., в. *Гу́рка* Драгічынскага р-на, раённы цэнтр *Згуровка* Кіеўскай вобл. і інш. Параўн. апелятывы: *гу́ры сне́гу* (у гаворках наваколляў Брагіна, Віцебска, Навагрудка, Слаўгарада, Слуцка, у гаворцы в. Вяляцін Хойніцкага р-на — паведаміў М. Я. Грынблат), *гу́рбы снегу* (Полаччына, Слаўгарадчына), а таксама *гу́ры, гᵘо́ры, гуо́ры сне́гу* (Слаўгарадскі р-н), *магу́ра* 'гурба снегу' (в. Церахоўка Слаўгарадскага р-на). Вядома, што ў гаворцы в. *Гу́рка* Драгічынскага р-на адзначаецца звужэнне *о* ў *у* або *ô* закрытае. Верагодна, што ў слове *гуры* і *горы* таксама можна бачыць рэфлексы дыфтангічнага былога агульнабеларускага вымаўлення *гуо́ры*[3]. Відаць, вельмі распаўсюджанае на Беларусі слова *гу́ра, гу́рка* 'ўзгорак' адлюстроўвае іменна мясцовы рэльеф, узгоркавую мясцовасць і з'яўляецца агульнаславянскім коранем індаеўрапейскага характару, які заканчваецца на зычны, параўн.: албанскае *gur* 'камень'[4]. Верагодным таксама з'яўляецца паходжанне ўтварэнняў тыпу в. *Гу́рка,* в. *Гу́ры* ад зусім мала распаўсюджаных цяпер іменаў *Гур, Гурий, Гурьян, Гурка, Гурэц, Гура*[5].

6. Некаторыя населеныя пункты маюць многа назваў аднаго семантычнага плана і ўтвараюць цэлы сінанімічны рад: *Гута* (1777) — *Рудня* (XVIII ст.) — *Завод*

---

[3] Ал. Шлюбскі. Матэр'ялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. II. Мінск, 1928; Balticoslavica. Bieletyn Instytutu Naukowobadawczego Europy wschodniej w Wilnie, t. III, 1936.

[4] А. Г. Преображенский. Этимологический словарь русского языка, т. 1. М., 1952, стар. 145.

[5] М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія, ч. 2. Мінск, 1969, стар. 122.

(1783) — *Яровая* (1850, магчыма, ад мясцовага *яры* 'гарачы', *ір* 'поўдзень') — *Завод Смалакурны* (1926) — мясцовае *За́вад* або афіцыйнае в. *За́вад-Віравáя* (1964); *Грязивецкая Рудня (1901)* — *Гомарня* (1901) — *Грязивец* (1909) і інш.

7. Тапонімы тыпу *Липовка* (1601), *Dubrowka* (1681, 1750) — *Ду́брайка* (1958), *Czykowka* (1681) — *Чы́кайка* (1958), напэўна, не змяніліся.

8. У складаных мікратапонімах мадэлі «назоўнік у родным склоне+назоўнік у назоўным склюне» змяняецца ў гаворцы мясцовых жыхароў першапачатковы сэнс назвы ў сувязі са змяненнямі ў эканоміцы і геаграфіі края, а таксама ў выніку пераразмеркавання фармантаў, далучэння фармантаў аднаго слова да другога. Паўза паміж словамі знікае, замест двух слоў успрымаецца адно, якое мае ўжо адзін націск. Каля в. *Аржа́ўка* маецца ўроч. *Лубка́-Мо́чышча*. Знаходзіцца яно каля р. *Мочынкі*, дзе жыхары калісьці мачылі ліпавыя луты, лубкі для вырабу мачалы, палатно для рэшатаў і г. д. Гэту назву мясцовыя жыхары вымаўляюць: *Лу́б-Камо́чышча* або *Лубкамо́чышча*. Падобныя прыклады ў гэтай мясцовасці не адзінкавыя. Так, у 1926 г. тут быў пас. *Крынаўгал* Іржаўскага с/с, у назве якога стары апелятыў *крын(ь)* 'крыніца' незразумелы цяпер. Таксама цёмнай з'яўляецца семантыка ў назве ўроч. *Сараборъ* (1560) каля в. Хварасця́ны. Параўн. *Loiowagora* (1595) — г. Лоеў Гомельскай вобл.

9. У мясцовых мікратапонімах захоўваюцца старыя народныя імёны, якія цяпер амаль выйшлі з ужытку, тыпу *Зю́нька* — *Кузьма́*: уроч. *Зю́нькавы* (палосы) каля в. Шаламы.

10. У сувязі з узбуйненнем населеных пунктаў і калгасаў папярэднія назвы калгасаў, сельскагаспадарчых таварыстваў, камун і саміх вёсак сталі ўжо мікратапонімамі. Раней існавала в. *Пагарэ́лае* і ў ёй калгас «Прасвет». Цяпер яе жыхары перасялены ў суседнія вв. Ганчароўка, Васькавічы. На месцы гэтай вёскі маюцца цяпер урочышча *Прасве́т*, або *Пагарэ́лае* (поле, сенажаць), а таксама часткі яго: *Бу́тра, Бу́трава, Ля Бу́тры, На Бу́травым, За Бу́трам, Ідзе́ Бу́тра жы́ў, Ля Лю́бінькага, Ля Папковых, Ля Мажэіхі, Ля Неплашовых, Пад Пагарэлае* ці *Пад Прасвет* і інш.

11. У складаным мікратапоніме *Вайдоўбля* або *Вайдобля* (угоддзі паміж вв. Улукі і Узгорск) першапачатковае значэнне з'яўляецца невыразным. Першая частка *Вой,* відаць, суадносіцца са старажытнарускімі іменамі *Война, Воимир, Воибор, Воислав* і рускімі прозвішчамі *Воейков, Войков.* Параўн.: в. *Войково* на правым беразе р. Дняпра ў Бельскім п. Смаленскай губ.; в. і ручэй *Войновщина* ў Прыдняпроўі; нас. п. *Войково* Кіеўскай вобл. Другая частка, напэўна, суадносіцца са словам *долбля* 'борць; пчальнік'. Параўн. таксама іншыя мясцовыя апелятывы: 1) аддзеяслоўныя назоўнікі *доўбля (доўбля матыкай ляда; доўбля сякерай кадушкі, лагана, вулея, карыта...), даўбанне і даўбаннё;* 2) мясцовыя геаграфічныя тэрміны: *калдоўбіна, калдобіна, кадоўбіна* 'яма з спадзістымі берагамі і з вадой'. З коранем *доўб-* адзначаны і мікратапонімы на Слаўгарадчыне (на ўсходзе і захадзе ад уроч. *Вайдобля,* што знаходзіцца каля в. Улукі): уроч. *Долбин Остров* (1823, 1882, 1910) — лясная дзялянка каля вв. Лапацічы і Кульшычы; уроч. *Долбин Лес* (1909), а па-мясцоваму *Доўбін Лес* — поле каля в. Шаламы; уроч. *Даўбеншчына* — поле каля в. Гіжэнка. Такім чынам, складаны мікратапонім *Вайдоўбля* на больш раннім этапе, напэўна, быў састаўным тыпу «прыметнік+назоўнік», г. зн. *Вой-ева доўбля* ('ляда; борць'). У семантычным плане ён адпавядае назвам тыпу ўроч. *Дзедава Ляда* (балота, цяпер поле) каля в. Папоўка, в. *Сіліна Поле* каля Слаўгарада і г. д.

12. Невядомымі па паходжанню з'яўляюцца тапонімы з агульным фармантам *-іх-*: *Ихинъ* (1745) — *Ichin* (1769) — *Iszyn* (1796). Гэты былы населены пункт значыцца на правым беразе р. Проні, дзе яна ўпадае ў р. Сож. Незразумелай з'яўляецца таксама агульная назва вв. *Добры Дуб* і *Бахань* (таксама *Быхань*) — *Дабрыхунь* (1809). Назву *Дабрыхунь* можна і цяпер сустрэць у гаворцы мясцовых жыхароў, напрыклад у суседняй в. *Дарагунск (Дорохунск,* 1786) Рагачоўскага р-на. Верагодна, назва *Дабрыхунь* з'яўляецца кантамінацыяй назваў дзвюх суседніх вёсак *Добры Дуб* і *Быхань.* Параўн. польскі г. *Торунь* з фармантам *-ун-.*

13. У геаграфічных назвах Слаўгарадчыны X — першай чвэрці XX ст. знайшлі адлюстраванне мясцовыя дыялектныя асаблівасці, характэрныя для ўсіх гэтых населеных пунктаў і цяпер. Напрыклад, у тапонімах паў-

ночна-ўсходняй часткі Слаўгарадчыны адлюстравалася дысімілятыўнае аканне: *Рыгалина* (1776), *Rygalina* (1777), але *Рогаилина* (1778), *Рогалино* (1829), *Рогальня* (1892), параўн. сучаснае мясцовае вымаўленне: *Рыгальня*. Сістэма галосных, якая суправаджае дысімілятыўнае аканне ў іншых перад- і паслянаціскных складах, калі пад націскам не *а*, таксама захоўваецца: *Dobuże* (1736,), *Добуже* (1776) і *Дабужа* (1786, 1850), *Старая Алешня* (1778); *аршанской* [*провинции*] (1777) і інш. Дысімілятыўнае яканне: р. *Риста* (1851), р. *Пищань* (984), *пищаньци* (984; жыхары па р. Пішчані). У апошніх двух прыкладах *і* на месцы *ѣ* можа ўзыходзіць і да больш старога *і*. Відаць, з'яву агублення галосных маем у назвах *Burkulabow* (1589, 1595), *Muhilew* (1655) і ў старажытнай назве г. Прапойска — *Прупой* (1136) [6], параўн. сучаснае мясцовае вымаўленне: *Варкала́баў* і *Баркала́баў* на правабярэжжы Дняпра ў Быхаўскім р-не, а ў Слаўгарадскім р-не на Сажы — *Выркыла́быў, Вуркула́буў, Выркыла́быў, Буркула́буў*. Напэўна, прагрэсіўную асіміляцыю можна бачыць у назве в. *Czyhyrynka* (1727) — сучасная *Чыгірынка*. Адпадзенне і з'ўленне пачатковых галосных: *Ржавка* (1772, 1775, 1864, 1884, 1910), *Іржаўка* (1926) — сучаснае вымаўленне: *Ржа́ўка, Аржа́ўка, Іржа́ўка, Рыжа́ўка, Ырыжа́ўка; Abakunowicze* (1681), *Bakunowicze* (1750) — цяпер вымаўляецца толькі *Баку́новічы, Буку́нувічы*. У назвах паўднёва-заходняй часткі Слаўгарадчыны адлюстроўваецца недысімілятыўнае аканне: *Карма́* — сучасны г. п. *Карма́; Варкала́бов* (1776, 1777), *Воркола́бов* (1910), *Brakalabow* (1645) — сучасная назва *Варкала́баў*. У назвах пагранічных населеных пунктаў паміж паўночна-ўсходняй дысімілятыўнаакаючай і паўднёва-заходняй недысімілятыўнаакаючай часткамі Слаўгарадчыны адбілася ваганне ў вымаўленні: в. *Быхань* (1778, 1850, 1851, 1855, 1892, 1897, 1900, 1917) і *Бахань* (1777, 1862, 1882, 1884, 1886, 1910). Назіраецца паралельнае напісанне суфіксаў *-оў, -эў, -еў-* на працягу XVI—XVIII стст. і цяпер: *Rohaczow* (1589, 1595, 1645, 1702, 1752, 1769), *Рогачевъ* (1614), *Rohaczow ou*

---

[6] Па мясцоваму паданню, г. Прапойск атрымаў у 1945 г. назву Слаўгарад другі раз: быццам ён у глыбокай старажытнасці спачатку называўся Слаўгарад, а затым атрымаў найменне Прапойск.

*Rogatchew* (1655), *Rohatschew* (XVIII ст.), *Рыгачоў, Рыгачэў; Mohilow* (1645, 1692, 1703, 1736, 1775), *Могилевъ* (1614), *Mohilow ou Muhilew* (1655), *Mohilew* (1780, 1796), *Мугулёў, Мугілеў; Cricow* (1589), *Kricow* (1595), *Krziczow* (1645), *Кричев* (1614), *Кричевъ* (1780), *Krzyczow* (1702), *Kruyczow* (XVIII ст.), *Кры́чуў, Кры́йчоў, Крічэў, Крíчоў, Крíчаў, Кры́чаў; Czarikow* (1655), *Чериков* (1910), *Ча́рікуў, Чэ́рікаў.*

Відаць, аб дыфтангічным вымаўленні сведчаць наступныя напісанні: в. *Боавки* (1778) і *Бовки* (1887), *Бавки* (1887) — в. *Бо́ўкі; Kruyczow* (XVIII ст.), *Propoўsk* (1772).

З кансанантызму ў назвах Слаўгарадчыны знайшло адлюстраванне вымаўленне мяккага *р* у паўночна-ўсходніх гаворках: *Кричёв* (1614), *Dribin* (1770), р. *Риста* (1851), *Рябовичи* (1778, 1884). Сучасная астраўная цвёрдаэрасць традыцыйных местачковых гаворак (крычаўскіх «вашчы́л», былых бабінавіцкіх, дубровенскіх, прапойскіх мяшчан, дрыбінскіх шапавалаў) у мяккаэрым масіве паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак знайшла адлюстраванне і ў геаграфічных назвах XVIII—XIX стст.: *Czerykow* (1736), *Krzyczow* (1702), *Крычев* (1769), *Kruyczow* (XVIII ст.), *Дрыбинъ* (1773), *Drybin* (1796), *Rasna* (1846). Цвёрдаэрымі, відаць, былі гаворкі вв. *Рабовичи* і *Рабиновка,* што, напэўна, адбілася і на большасці напісанняў з цвёрдым *р* на картах і г. д. Канцавыя звонкія зычныя не аглушаюцца: *wieś Paluze* (1681), *Paluz* (1750), *Paluze* (1773), *Палуж* (1786, 1892, 1954), *Starodub* і г. д. Цеканне: с. *Теплое* (1560), *Цепле* (1773). Ужыванне *з* і *ж*: *Зуравице (1773), Zurawice* (1773), *Журавичи* (1776, 1786); хут. *Рогозное* (1868, 1910, 1926), *Рогожное* (1910) і мясцовае найбольш пашыранае *Рагóжная.* Параўн.: *Здановічы* замест літаратурнага *Ждано́вічы* ў Мінскай вобл., мясцовае г. *Злóбін* замест *Жлобін* (старое Жлобай). Цвёрдае *л* перад зычнымі: *Кулшичи* (1778), *Niemilna, Trubilna* (1750) тыпу сучаснага мясцовага вымаўлення *са́лца, па́лцы,* в. *Пілна, Нямілна, Трубілна.*

14. Супастаўленні сучаснага мясцовага вымаўлення геаграфічных назваў Слаўгарадчыны і іх дэрыватаў з напісаннем на сучасных і старых картах, у даведніках і г. д. дазваляюць выявіць скажэнне тапонімаў: в. *Гайшін* замест *Гайшы́н,* в. *Хлеўна — Хляўно,* в. *Хатаўня* —

*Хатоўня,* в. *Хачанка — Хачынка, Кашелёва — Кашалёў*[7], *Пропожьск* замест *Пропошьск,* уроч. *Будзілаў мост* замест мясцовага наймення *Бардзілоў мост*[8].

Найбольш тыповымі ў мясцовых гаворках з'яўляюцца мадэлі прыметнікаў тыпу *Гіжэнскі с/с* замест *Гижэнковский с/с* (1947), *Каменскі с/с — Каменковский с/с* (1947), *Ржаўскі с/с — Ржавковский с/с* (1947), *Старынскі с/с — Старинковский с/с* (1947), *Ветранскі — Ветранкаўскі* (1961), *пронны мост — проненскі мост* (мост цераз р. Проню, 1961); *пронная вада, пронны брод,* але *запронскі* і *запронны чалавек.*

Такім чынам, гісторыя назваў Слаўгарадчыны з'яўляецца адлюстраваннем гісторыі краю, гістарычных уплываў культурных цэнтраў. Страта першапачатковых значэнняў і з'яўленне новых народных асацыяцый і ўяўленняў у сваю чаргу вядуць да змянення марфалогіі назваў або да з'яўлення зусім новых назваў. Звычайна геаграфічны аб'ект мае апрача аднаго афіцыйнага яшчэ некалькі неафіцыйных назваў. Ранейшыя назвы часта захоўваюцца ў найменнях урочышчаў, вуліц у вёсцы, горадзе або з'яўляюцца паралельнымі назвамі і г. д. Стратыфікацыя назваў і асабліва мясцовая частотнасць цяпер і ў мінулым дапамагаюць выяўляць першапачатковае напісанне і вымаўленне мясцовых геаграфічных назваў.

---

[7] Турысцкія маршруты па Беларускай ССР. Мінск, 1957.

[8] Беларускі эпас. Мінск, 1959, стар. 216.

*Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова*

# СЛОВАЎТВАРЭННЕ АДТАПАНІМІЧНЫХ ПРЫМЕТНІКАЎ

Праблема вывучэння і ўпарадкавання словаўтварэння адтапанімічных прыметнікаў складае адно са звенняў такога важнага напрамку сучаснага мовазнаўства, як нармалізацыя і павышэнне культуры мовы.

Нават першая спроба аналізу адтапанімічных прыметнікаў паказвае, што гэта праблема патрабуе пільнай увагі. Аказваецца, утварэнне гэтай катэгорыі прыметнікаў у пераважнай большасці выпадкаў адбываецца стыхійна, не па законах граматыкі. Аб гэтым яскрава сведчаць шматлікія прыклады тыпу *камунарскі* ад *Камуна, дражанскі* ад *Дражня, драгоцкі* ад *Драхча, вугольскі* ад *Вуглы, лепінскі* ад *Лепель, бегамскі* ад *Бегамля, асавецкі* ад *Оса, бярвіскі* ад *Бярвішча.* Праўда, большасць такіх выпадкаў прыходзіцца на мясцовыя варыянты. Але наяўнасць мясцовых варыянтаў нярэдка стварае непажаданы паралелізм тыпу *будзянскі, будняцкі, будніцкі* і *будлянскі* ад *Буда, гутаўскі* і *гуцянскі* ад *Гута, рошчаўскі* і *рошчынскі* ад *Рошча, рудлянскі* і *рудзінскі* ад *Руда* і інш. Гэта адмоўна ўплывае на станаўленне граматычна правільнага варыянта, бо мясцовыя арганізацыі не заўсёды ў стане правільна арыентавацца пры выбары найбольш адпаведнага структуры геаграфічнай назвы прыметніка. Таму ў практыцы ёсць нямала прыкладаў, калі мясцовы варыянт у сілу сваёй традыцыйнасці зацвярджаецца і ў якасці афіцыйнага. Іменна такім шляхам з'явіліся прыметнікі *загаранкаўскі* ад *Загараны, вілейскі* ад *Вілейка, міляўскі* ад *Мілявічы, монкаўскі* ад *Монькавічы* і інш.

Дзе ж прычына такой неўнармаванасці адтапанімічных прыметнікаў? На наш погляд, перш за ўсё ў характары асяроддзя, у якім узнікаюць і бытуюць тапонімы, у іх функцыянальнай спецыфіцы. Асноўная частка геаграфічных назваў фарміруецца і функцыяніруе ў вуснай

народнай мове і ў адрозненне ад агульных слоў мае вузка рэгіянальную прывязку. Таму тапонімы звычайна нясуць на сабе адбітак той ці іншай гаворкі або дыялекту. Трапляючы ў афіцыйную літаратуру, яны часткова змяняюць сваё аблічча. І нярэдка зусім не на карысць справе, бо афіцыйны варыянт часам не паляпшае, а скажае мясцовую назву. Варыянты могуць быць самыя розныя: акцэнталагічныя (афіц. *Мядзéневічы* — мясц. *Медзянéвічы,* афіц. *Бóркі* — мясц. *Баркí,* афіц. *Нóскі* — мясц. *Наскí*); фанетычныя (афіц. *Галóўчыцы* — мясц. *Галóўчычы,* афіц. *Фáлічы* — мясц. *Хвáлічы*); марфалагічныя (афіц. *Капацэ́вічы* — мясц. *Капачы́,* афіц. *Азяры́шча* — мясц. *Азяры́шчы*); за кошт пераафармлення структуры (афіц. *Будзíнічы* — мясц. *Будзéнічы,* афіц. *Бягóмль* — мясц. *Бéгамля*) і інш.

На аснове кожнага варыянта ўзнікаюць прыметнікі. Як правіла, найбольшую жывучасць выяўляе той, які ўтвораны ад мясцовага варыянта назвы. У выніку атрымліваецца супярэчнасць паміж структурай афіцыйнай назвы і адтапанімічным прыметнікам, які ўтварыўся на базе мясцовага варыянта назвы. Параўн. афіц. *Лóмыш* — мясц. *Лóмуш* і прыметнік *лóмушанскі;* афіц. *Свары́нь* — мясц. *Сварэнэ́* і прыметнік *сварэ́ньскі.*

Другім, не менш важным фактарам, што ўплывае на ўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў, з'яўляецца лексічная і структурная неаднароднасць тапонімаў. У якасці лексічнай асновы тапонімаў выступаюць агульныя назвы, антрапонімы, гідронімы, а таксама іншыя тапонімы. Структурна тапонімы часткова супадаюць або выяўляюць падабенства з апелятывамі. Большая ж частка іх утворана па тапанімічных законах і мадэлях. Параўн. *Бýда, Гýта, Клянóк, Прахóд, Азяры́шча і Багушы́, Міхалí, Калíнкавічы, Міцькавічы, Бурдáлішкі, Бараўля́ны, Мсцісла́ўль, Азлóмль.* Граматычна лексічная аснова тапоніма можа быць назоўнікам (*Гарá, Вóзера, Куп'ё, Зарэ́чча*), прыметнікам (*Зýбава, Антóсіна, Муравáнае, Сяннó*). Усё гэта ў значнай ступені ўскладняе магчымасць устанавіць пэўны словаўтваральны эталон для адтапанімічных прыметнікаў, тым больш што і тапонімы, і адтапанімічныя прыметнікі ўзнікаюць і функцыяніруюць у сістэмах розных дыялектных зон і знаходзяцца ў залежнасці ад моўных асаблівасцей, уласцівых для гэтых сістэм.

Такім чынам, прыступаючы да аналізу і ўпарадкавання словаўтваральнай структуры адтапанімічных прыметнікаў, неабходна мець на ўвазе некалькі фактараў, абумоўленых спецыфікай іх утваральнай асновы — тапоніма. Па-першае, тапонімы — прадстаўнікі розных дыялектных сістэм, па-другое, тапонімы — словы ў асобай функцыі, у функцыі ўласнай геаграфічнай назвы, па-трэцяе, тапонімы — разнапланавы матэрыял у адносінах лексічнага складу і граматычнай структуры, па-чацвёртае, спосабы ўтварэння тапонімаў не заўсёды паўтараюць спосабы ўтварэння апелятываў. У тапанімічнай практыцы шырока выкарыстоўваюцца і ўласнатапанімічныя словаўтваральныя сродкі.

Пры наяўнасці названых фактараў найбольш мэтазгодна было б разглядаць словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў зыходзячы са структуры ўтваральных асноў — тапонімаў і іх прыналежнасці да пэўнай катэгорыі рода. Як правіла, граматычны род тапонімаў вызначаецца паводле тых жа фармальных прыкмет, што і ў апелятыўных назоўніках. Тапонімы на цвёрды зычны, зацвярдзелы, *ў*, заднеязычны адносяцца да мужчынскага роду, тапонімы на *-а/-я* — звычайна да жаночага, тапонімы на *-ль, -нь* — да мужчынскага або жаночага, тапонімы на *-о, -е, -а* — да ніякага.

У межах граматычнага роду вылучаюцца тапонімы з нулявым фармантам[1] тыпу *Вўгал, Клін, Сóлан* і тапонімы, аб'яднаныя агульнасцю якога-небудзь структурнага кампанента або традыцыйна тапанімічнага фарманта тыпу *Азярэ́ц, Сялéц, Трасцянéц; Бабрўйск, Мінск; Альхóўка, Антóнаўка; Лóшніца, Чарнíца* і інш.

У дадзеным артыкуле разглядаюцца адтапанімічныя прыметнікі, утвораныя ад некаторых груп тапонімаў у форме мужчынскага, жаночага і ніякага родаў адзіночнага ліку.

П р ы м е т н і к і ад т а п о н і м а ў у ф о р м е м у ж ч ы н с к а г а р о д у. Ад тапонімаў мужчынскага роду з нулявым фармантам найчасцей утвараюцца прыметнікі з суфіксам *-ск-/-цк-*: *слáўгарадскі* ад *Слáўгарад, стара-*

---

[1] Да тапонімаў з нулявым фармантам адносяцца назвы, утвораныя семантычным шляхам ад невытворных апелятываў, а таксама ад вытворных апелятываў, словаўтваральныя марфемы якіх не адносяцца да ліку традыцыйна-тапанімічных словаўтваральных сродкаў.

*ера́дскі* ад *Старагра́д, акця́брскі* ад *Акця́бр, ху́тарскі* ад *Ху́тар, гарадо́цкі* ад *Гарадо́к, барсу́цкі ад Барсу́к, клянніцкі* ад *Клянні́к, со́ланскі* ад *Со́лан, зато́нскі* ад *Зато́н, гаро́дзейскі* ад *Гаро́дзей* (афіц. *Гарадзе́я*). У рэдкіх выпадках ад тапонімаў гэтай групы (пераважна аднаскладовых) утвараюцца прыметнікі з суфіксам *-аўск-* (*вя́заўскі* ад *Вяз, дубаўскі* ад *Дуб*). Дублетныя формы прыметнікаў сустракаюцца вельмі рэдка (параўн. *бо́брыцкі і бо́брыкаўскі* ад *Бо́брык, зато́нскі* і *зато́наўскі* ад *Зато́н, гарадо́цкі, гарадзе́цкі, гарадко́ўскі* ад *Гарадо́к*). Прыведзеныя формы, у першую чаргу такія, як *гарадзе́цкі, гарадко́ўскі,* нельга прыняць ні ў якасці нормы, ні ў якасці варыянта, паколькі яны зацямняюць зыходную аснову тапоніма. Так, для прыметніка *гарадзе́цкі* натуральнай з'яўляецца аснова *Гарадзе́ц,* для прыметніка *гарадко́ўскі — Гарадкі.* Адзіна правільная форма прыметніка ад тапоніма *Гарадо́к — гарадо́цкі.* Такім чынам, ад гэтай групы тапонімаў у форме мужчынскага роду найбольш уласцівай і натуральнай з'яўляецца мадэль прыметніка на *-скі/-цкі* і часткова на *-аўскі.*

Ад тапонімаў на *-ец/-эц* прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-ск-/-цк-.* Група зычных *цск,* якая паяўляецца на стыку марфем, фанетычна відазмяняецца ў *цк: асаве́цкі* ад *Асаве́ц, брадзе́цкі* ад *Брадзец, макрэ́цкі* ад *Макрэ́ц, рабе́цкі* ад *Рабе́ц, сяле́цкі* ад *Сяле́ц.* У прыметніках захоўваецца націск утваральнай асновы. У моўнай практыцы ад *Бераставе́ц,* акрамя прыметніка *бераставе́цкі,* які адпавядае прыведзенай мадэлі, адзначана форма *берасто́ўскі* (Кармянскі р-н), якая з'яўляецца адступленнем ад нормы.

Ад тапонімаў на *-аў/-оў, -ёў/-еў* прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-ск-*: *скрыга́лаўскі* ад *Скрыга́лаў, ра́шаўскі* ад *Ра́шаў, хаці́слаўскі* ад *Хаці́слаў, рагачо́ўскі* ад *Рагачо́ў, ло́еўскі* ад *Ло́еў.* У гэтай групе прыметнікаў захоўваецца націск утваральнай асновы.

З суфіксам *-ск-* утвараюцца таксама прыметнікі ад тапонімаў на *-ін/-ын.* Суфікс далучаецца непасрэдна да ўтваральнай асновы: *лу́нінскі* ад *Лу́нін, раду́цінскі* ад *Раду́цін, дзярэ́чынскі* ад *Дзярэ́чын, стрэ́чынскі* ад *Стрэ́чын.* Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове: *Вязы́чын — вязы́чынскі, Дзі́він—дзі́вінскі, Камары́н — камары́нскі.*

**Прыметнікі ад тапонімаў у форме жаночага роду.** Ва ўтварэнні прыметнікаў ад тапонімаў у форме жаночага роду з нулявым фармантам цяжка вывесці якую-небудзь пэўную заканамернасць. У мясцовых гаворках і афіцыйных крыніцах існуе шмат магчымых варыянтаў. Аднак далёка не ўсе з іх можна лічыць прымальнымі. Перш за ўсё таму, што многія прыметнікі ўтвораны без уліку граматычных правіл (параўн. *рудлянскі* ад *Руда́, будлянскі, будніцкі, будняцкі* ад *Бу́да, камунарскі* ад *Каму́на*). Прычым нават пры наяўнасці ідэнтычнай граматычнай структуры яны могуць утварацца па розных мадэлях (параўн. *лідскі* ад *Ліда, бу́даўскі, будніцкі, будняцкі* ад *Бу́да*). У такой сітуацыі пры вызначэнні найбольш падыходзячых варыянтаў прыметнікаў ад тапонімаў на *-а/-я*, відаць, найбольш правамерным будзе адштурхоўванне ад мадэлей, якія склаліся традыцыйна і дзейнічаюць працяглы час. Існуе тры стабільныя мадэлі прыметнікаў ад тапонімаў жаночага роду на *-а/-я*: на *-анскі/-янскі* (*кармянскі* ад *Карма́, расцянскі* ад *Раста́, аршанскі* ад *Орша*), *-енскі* (*у́здзенскі ад Узда́, дубро́венскі* ад *Дубро́ва*), *-скі/цкі* (*лідскі* ад *Ліда, ніўскі* ад *Ніва, велікарыцкі* ад *Велікарыта, рэ́чыцкі* ад *Рэ́чыца*). Менш распаўсюджаной і менш традыцыйнай мадэллю з'яўляецца мадэль на *-аўскі (гу́таўскі* ад *Гу́та, бу́даўскі* ад *Бу́да, ліпаўскі* ад *Ліпа, ро́шчаўскі* ад *Ро́шча*). Але побач з прыметнікамі на *-аўскі* ад гэтых жа тапонімаў утвараюцца прыметнікі на *-анскі, -скі* (*гуцянскі, будзянскі, ліпянскі, ро́шчанскі, ліпскі*). Не трэба даказваць, што граматычна найбольш правільнай формай прыметніка ад дадзенага тыпу тапонімаў была б форма на *-аўскі* (*ліпаўскі, ро́шчаўскі*). Аднак паколькі словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў у значнай ступені абапіраецца на традыцыі, мы не ў стане іх ігнараваць. З пункту гледжання традыцыйнага словаўтварэння побач з граматычна больш правільнымі формамі на *-аўскі* заканамерны і формы на *-скі/-цкі, -анскі/-янскі* (*ліпскі* і *ліпаўскі* ад *Ліпа, будзянскі* і *бу́даўскі* ад *Бу́да, гуцянскі* і *гу́таўскі* ад *Гу́та, ро́шчанскі* і *ро́шчаўскі* ад *Ро́шча*).

Такім чынам, для адтапанімічных прыметнікаў, матываваных тапонімамі жаночага роду з нулявым фармантам, традыцыйна абумоўленымі мадэлямі трэба лічыць тры — на *-анскі/-янскі, -енскі, -скі/-цкі.* Мадэль

на *-аўскі* выступае як варыянтная ў адносінах да прыметнікаў, матываваных пераважна тапонімамі, у якіх націск прыходзіцца на аснову.

Ад тапонімаў на *-ка* прыметнікі ўтвараюцца па дзвюх мадэлях: 1) пры дапамозе суфікса *-ск-* і 2) пры дапамозе суфікса *-аўск-*.

1) З суфіксам *-ск-* утвараюцца прыметнікі ад тапонімаў, у якіх канцавому зычнаму асновы *к* папярэднічаюць марфемы *-аў-/-оў-/-еў-* (пры гэтым зычны *к* адпадае): *альхóўскі* ад *Альхóўка, антóнаўскі* ад *Антóнаўка, аляксáндраўскі* ад *Аляксáндраўка, васілёўскі* ад *Васілёўка, майсéеўскі* ад *Майсéеўка, рудáўскі* ад *Рудáўка, сяргéеўскі* ад *Сяргéеўка* і г. д.

2) З суфіксам *-аўск-* утвараюцца прыметнікі ад тапонімаў, у якіх канцавому зычнаму асновы *к* папярэднічаюць марфемы *-ін-/-ын-, -ан-/-ян-, -ен-* або калі зычны *к* непасрэдна прымыкае да каранёвага зычнага (прычым зычны *к* захоўваецца): *загóрынкаўскі* ад *Загóрынка, стары́нкаўскі* ад *Стары́нка, трасця́нкаўскі* ад *Трасця́нка, вужáнкаўскі* ад *Вужáнка, арля́нкаўскі* ад *Арля́нка, кáменкаўскі* ад *Кáменка, кýдзеркаўскі* ад *Кýдзерка, ліпкаўскі* ад *Ліпка, усвéйкаўскі* ад *Усвéйка, шчáркаўскі* ад *Шчáрка, рáтамкаўскі* ад *Рáтамка, слабóдкаўскі* ад *Слабóдка, вéткаўскі* ад *Вéтка, лю́ткаўскі* ад *Лю́тка, равýткаўскі* ад *Равýтка, глýшкаўскі* ад *Глýшка, рэ́чкаўскі* ад *Рэ́чка, смы́чкаўскі* ад *Смычка, усця́жкаўскі* ад *Усця́жка, мікóлкаўскі* ад *Мікóлка, тáлькаўскі* ад *Тáлька, жажэ́лкаўскі* ад *Жажэ́лка, сліўкаўскі* ад *Сліўка.*

Утварэнне прыметнікаў па першай мадэлі адбываецца паслядоўна, не выклікае ніякіх цяжкасцей.

Што датычыцца ўтварэння прыметнікаў ад другой групы тапонімаў, то ў моўнай практыцы наглядаецца разнабой. Побач з правільнымі ўтварэннямі тыпу *калінкаўскі* ад *Калінка, лубя́нкаўскі* ад *Лубя́нка, ізóбкаўскі ад Ізóбка* адзначаны прыметнікі тыпу *усвéйскі* ад *Усвéйка* (Талачынскі р-н), *кáменскі* ад *Кáменка* (Жлобінскі р-н), *калінскі* ад *Калінка* (Горацкі р-н), *зазéрскі* ад *Зазéрка* (Жлобінскі р-н), *арля́нскі* ад *Арля́нка* (Маларыцкі р-н), якія ўтвораны пры дапамозе суфікса *-ск-*. У сувязі з тым што ў гэтых прыметніках зацямняецца структура словаўтваральнай тапанімічнай асновы, такія формы, відаць, трэба лічыць адступленнем ад

агульнай нормы. Параўн. правільныя формы *усвейскі* ад *Усвея, каменскі* ад *Камена, калінскі* ад *Каліна, зазерскі* ад *Зазер'е, арлянскі* ад *Арляны.*

У адпаведнасці з другой мадэллю граматычна правільнымі формамі трэба было б лічыць прыметнікі *вілейкаўскі* ад *Вілейка, вязынкаўскі* ад *Вязынка.* Прыметнікі *вілейскі і вязынскі,* утвораныя пры дапамозе суфікса *-ск-* і пры выпадзенні зычнага *к* тапанімічнай асновы, трывала замацаваліся ў моўнай практыцы, і для іх як форм традыцыйных можна зрабіць выключэнне з агульнага правіла.

Ад тапонімаў на *-іца/-ыца* прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-ск-.* Як і ў прыметніках ад тапонімаў на *-ец/-эц,* група *цск* на стыку марфем відазмяняецца ў *цк: башыцкі* ад *Башыца, лошніцкі* ад *Лошніца, маргавіцкі* ад *Маргавіца.* У прыметніках захоўваецца націск утваральнай асновы: *Вольніца — вольніцкі, Ветвіца — ветвіцкі, Ушкавіца — ушкавіцкі, Чарніца — чарніцкі.*

Аднак у моўнай практыцы сустракаюцца выпадкі адступлення ад гэтай мадэлі. Напрыклад, ад тапоніма *Мядзведзіца* адзначан прыметнік *мядзведзеўскі* (Гомельскі р-н), які адпаведна граматычнаму правілу суадносіцца з утваральнай асновай *Мядзведзева.*

Ад тапонімаў на *-шчына* ў моўнай практыцы адзначана ўтварэнне прыметнікаў пры дапамозе суфікса *-ск-* па дзвюх мадэлях: 1) пры ўтварэнні прыметніка суфікс *-ск-* далучаецца да ўтваральнай асновы без тапафарманта *-шчына*: *грыбаўскі* ад *Грыбаўшчына, жыляўскі* ад *Жыляўшчына, пратасаўскі* ад *Пратасаўшчына, таўкачоўскі* ад *Таўкачоўшчына*; 2) пры ўтварэнні прыметніка частка тапафарманта *-шчына* захоўваецца: *барысаўшчынскі* ад *Барысаўшчына* (адзначана і *барысаўскі*), *тунеўшчынскі* ад *Тунеўшчына* (адзначана і *тунеўскі*).

Пры ўтварэнні прыметнікаў па гэтых мадэлях узнікае некалькі акцэнтуацыйных варыянтаў: а) у прыметніку захоўваецца націск утваральнай асновы: *Прасмыкаўшчына — прасмыкаўскі, Таўкачоўшчына — таўкачоўскі, Тунеўшчына — тунеўскі* і *тунеўшчынскі, Плехаўшчына — плехаўшчынскі*; б) пры захаванні ў прыметніку часткі тапафарманта *-шчына* націск з асновы можа перамяшчацца на суфікс (прычым у тапафарманце *ы* змяняецца на *а*): *Амелькаўшчына — амелькаўшчанскі*;

в) пры ўтварэнні прыметнікаў ад асновы без тапафарманта *-шчына* націск перамяшчаецца на канчатак: *Плехаўшчына — плехаўскі, Амелькаўшчына — амелькаўскі.* За норму, аднак, трэба прыняць формы з захаваннем націска на ўтваральнай аснове. Традыцыйнай, самай пашыранай і найбольш прымальнай з пункту гледжання граматыкі з'яўляецца мадэль, адпаведна якой прыметнікі ўтвараюцца шляхам далучэння суфікса *-ск-* да ўтваральнай асновы без тапафарманта *-шчына: прасмыкаўскі* ад *Прасмыкаўшчына, дўжаўскі* ад *Дўжаўшчына.*

Аднак у некаторых выпадках дапускаецца ўтварэнне прыметнікаў ад асновы з тапафармантам *-шчына.* Гэта наступныя выпадкі: 1) тапафармант *-шчына* захоўваецца ў прыметніках, утвораных ад тапонімаў з націскам на фарманце *-шчына*: *Шаркаўшчына — шаркаўшчынскі, Бухаўшчына — бухаўшчынскі;* 2) тапафармант *-шчына* захоўваецца ў выпадку ўзнікнення аманімічных форм прыметнікаў: *барысаўшчынскі* ад *Барысаўшчына,* але *барысаўскі* ад *Барысаў; казлоўшчынскі* ад *Казлоўшчына,* але *казлоўскі* ад *Казлы.*

Прыметнікі ад тапонімаў у форме ніякага роду. Тапаасновы ў форме ніякага роду на *-о, -а* колькасна вельмі абмежаваны. Часцей за ўсё яны прадстаўлены лексемамі *ляда, сяло, сяльцо, азярцо.* Ад тапонімаў на *-цо* прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-оўск-* (*сяльцоўскі, азярцоўскі*). Ад тапонімаў *Сяло, Ляда* — пры дапамозе суфікса *-ск-* (*сельскі, лядскі*).

Ад тапонімаў на *-ішча/-ышча* прыметнікі звычайна ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-анск-*: *глінішчанскі* ад *Глінішча, селішчанскі* ад *Селішча, гарадзішчанскі* ад *Гарадзішча, сакалішчанскі* ад *Сакалішча.* У прыметніках у асноўным захоўваецца націск утваральнай асновы. Формы прыметнікаў з суфіксам *-ск-,* якія часам сустракаюцца ў моўнай практыцы, трэба лічыць адступленнем ад нормы: *гўмнінскі* ад *Гўмнішча* (Драгічынскі р-н), *глінінскі* ад *Глінішча* (Хойніцкі р-н).

Ад тапонімаў на *-ава, -ова/-ёва, -ева* прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-ск-: асмолаўскі* ад *Асмолава, баранаўскі* ад *Баранава, сакалоўскі* ад *Сакалова, машкоўскі* ад *Машкова, дабрынёўскі* ад *Дабрынёва, малёўскі* ад *Малева, сколеўскі* ад *Сколева.*

У гэтай групе прыметнікаў захоўваецца націск утва-

ральнай асновы. Таму ўтварэнні тыпу *спароўскі* ад *Спорава* (Бярозаўскі р-н), *траянόўскі* ад *Траянава* (Капыльскі р-н) лічацца адступленнем ад нормы. Парушэннем нормы з'яўляюцца таксама прыметнікі з націскам на канчатку: *душаўскí* ад *Дýшава* (Капыльскі р-н), *букштаўскí ад Бýкштава* (Мастоўскі р-н), *чухаўскí* ад *Чýхава* (Пінскі р-н).

Ад тапоніма *Залацéева* (Зельвенскі р-н) адзначаны дзве формы прыметніка — з суфіксамі *-ск-* і *-янск-*: *залацéеўскі* і *залацéянскі*. Другую форму трэба лічыць адступленнем ад нормы.

Ад тапонімаў на *-іна/-ына* прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-ск-*, які далучаецца да асновы тапоніма: *жόдзінскі* ад *Жόдзіна, лéсінскі* ад *Лéсіна.*

Досыць значную групу складаюць у межах Беларусі тапонімы ў форме ніякага роду тыпу *Залéссе, Зарэ́чча, Задýб'е, Кургáнне.* Часцей за ўсё ад гэтых тапонімаў утвараюцца прыметнікі з суфіксам *-ск: залéскі* ад *Залéссе, забрэ́зскі* ад *Забрэ́ззе, зарэ́цкі* ад *Зарэ́чча, запрýдскі* ад *Запрýддзе, запόльскі* ад *Запόлле, замастόцкі* ад *Замастόчча, кургáнскі* ад *Кургáнне, спéрыжскі* ад *Спéрыжжа, краснапόльскі* ад *Краснапόлле, старасéльскі* ад *Старасéлле.* У радзе выпадкаў ад гэтых жа тапанімічных асноў прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-анск-/-янск-: зарачáнскі* ад *Зарэ́чча, залясянскі* ад *Залéссе, запруджáнскі* ад *Запрýддзе, запалянскі* ад *Запόлле.* Націск, як правіла, перамяшчаецца з утваральнай асновы на суфікс.

Ад некаторых асноў тапонімаў на *-jэ* прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-еўск-: задýб'еўскі* ад *Задýб'е, загόр'еўскі* ад *Загόр'е.* Усе названыя варыянты прыметнікаў з'яўляюцца заканамернымі ўтварэннямі ад асноў тапонімаў ніякага роду тыпу *Залéссе, Зарэ́чча.*

Невялікую агаворку трэба зрабіць у адносінах да ўтварэнняў з суфіксам *-анск-/янск-.* Паколькі ў радзе раёнаў Беларусі сустракаюцца назвы на *-аны/яны* тыпу *Залясяны, Загарáны, Замасцяны,* а ўтвораныя ад іх асноў прыметнікі з суфіксам *-ск-* структурна супадаюць з прыметнікамі, утворанымі ад асноў тапонімаў тыпу *Залессе, Зарэчча* пры дапамозе *-анск-/янск-,* з гэтым фактам аманіміі варта было б лічыцца, асабліва тады, калі назвы аднаго і другога тыпаў з'яўляюцца суседнімі ці бытуюць у межах аднаго раёна. У такім выпадку ад

асноў тапонімаў тыпу *Залéссе, Зарэ́чча* мэтазгодней было б утвараць прыметнікі пры дапамозе суфікса *-ск-/-цк-*.

Як ужо ўказвалася вышэй, у артыкуле разглядаліся не ўсе існуючыя ў літаратурнай мове і яе дыялектах словаўтваральныя мадэлі адтапанімічных прыметнікаў. Мы спыніліся толькі на найбольш распаўсюджаных. Таму, зразумела, вынікі аналізу не могуць быць базай для абагульняючых вывадаў. Але на падставе даследаванага матэрыялу можна зрабіць папярэднія прыватныя заўвагі, якія датычацца варыянтнасці структуры і замацаванасці асобных словаўтваральных сродкаў за рознымі тыпамі тапанімічных асноў.

Так, найбольшай структурнай разнастайнасцю характарызуюцца прыметнікі, утвораныя ад асноў тапонімаў у форме жаночага роду. Гэтаму тыпу ўласцівы ўтварэнні з суфіксамі *-анск-/-янск-, -енск-, -аўск-, -ск-*. Ад тапонімаў у форме ніякага роду прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў *-анск-/-янск-, -еўск-, -ск-*. Для ўтварэння прыметнікаў ад тапонімаў у форме мужчынскага роду выкарыстоўваюцца суфіксы *-ск-* і *-аўск-*.

Найбольш ужывальным пры ўтварэнні прыметнікаў ад тапонімаў з'яўляецца просты суфікс *-ск-*, які далучаецца да асноў усіх трох родаў. Ускладнены суфікс *-аўск-* у асноўным утварае прыметнікі ад тапонімаў у форме жаночага роду на *-ка* і некаторых тапонімаў у форме мужчынскага роду, а суфікс *-еўск-* — ад тапонімаў у форме ніякага роду на *-јэ*. Ускладненыя суфіксы *-анск-/-янск-, -енск-* выкарыстоўваюцца пераважна пры ўтварэнні прыметнікаў ад тапаасноў ніякага роду на *-ішча* і некаторых асноў жаночага роду.

*В. І. Рагаўцоў*

# МІКРАТАПАНІМІЯ НЕКАЛЬКІХ ВЕСАК СВЕТЛАГОРСКАГА Р-НА (СТРУКТУРНА-СЕМАНТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА)

Матэрыял сабраны аўтарам у 1974—1975 гг. у вёсках Краснаўскага с/с Светлагорскага р-на: Данілоўка, Забалацце, Коўцічы 1-я, Коўцічы 2-я, Крукі, Язвінцы. Адзначаныя населеныя пункты размешчаны кампактна. Самы буйны з іх в. Коўцічы 2-я. Усяго зарэгістравана 147 назваў [1].

Першую, нешматлікую групу складаюць старыя найменні, паходжанне якіх невядома сучасным жыхарам (*Гарты́* — узгорак у лесе; *Апры́ная прасе́ка* — поле і інш.). Другую, самую шматлікую групу ўтвараюць мікратапонімы, якія могуць быць растлумачаны з пункту погляду сучаснай беларускай літаратурнай мовы і яе дыялектаў (*Барава́я* — поле; *Дзі́равіца* — рэдкі лес і г. д.). У трэцюю, колькасна невялікую групу можна вылучыць мікратапонімы-неалагізмы, якія ўзніклі ў апошняе дзесяцігоддзе (*Хаке́йнае по́ле* — упадзіна з вадой).

Мэта артыкула — даць структурна-семантычную характарыстыку мікратапонімаў, зафіксаваных у названых населеных пунктах, і па магчымасці раскрыць паходжанне назваў.

Паводле структурных (дэрывацыйных) асаблівасцей мікратапанімічныя назвы можна падзяліць на невытворныя, вытворныя і састаўныя. Невытворныя мікратапонімы складаюць 25% ад агульнай колькасці назваў. Пераважная большасць іх — найменні апелятыўнага паходжання, і толькі нязначная частка ўтворана ад антрапонімаў і айконімаў.

Паводле значэння ўтваральных асноў мікратапонімы апелятыўнага паходжання падзяляюцца на некалькі

[1] Мікратапонімы вёсак Коўцічы 2-я і Данілоўка запісаны ад жыхароў Івана Ціханавіча Стэльмаха і Кузьмы Рыгоравіча Пазняка.

падгруп: а) мікратапонімы, лексічную аснову якіх утвараюць назвы рэльефу: *Го́ры* — гарыстая мясцовасць; *Брод* — невялікая ўпадзіна з вадой; *Кар'е́ры* — глыбокія мясціны ў балоце, дзе многа вады; *Крыні́ца* — месца ля лесу, дзе з зямлі б'е струмень вады; *О́страў* — поле сярод балота; *Каўдо́бы* (або *Кадо́ўбы*) — куп'істы сенакос, мікратапонім утвораны на аснове апелятыва *каўдо́б* (*кадо́ўб*), мн. *каўдобы* (*кадоўбы*) 'выбоіна'; *Пе́ля* — крыніца, азярцо, у мясцовых дыялектах апелятыў *пеля* вядомы ў значэнні 'круглая нізіна сярод поля'; *Ля́да* — мокрае балота; *Я́звы* — дарога з выбоінамі, ад апелятыва *язвы* 'выбоіны'; б) назвы флоры: *Бор* — змешаны лес з перавагай хвойных парод, параўн. *бор* 'сасновы лес'; *Кусты́* — драбналессе, зараснік; *Ясе́ны* — поле, параўн. *ясень* 'від дрэва'; *Дзюра́віца* — забалочанае месца, дзе расце *дзюра́віца* 'дзераза'; в) назвы фауны: *Барсукі́* — частка лесу; *Гадзю́кі* — лес; *Кулькі́* — алешнік, у аснове мікратапоніма дэфармаваная назва балотнай птушкі *кулік,* мн. *кулікі; Ко́зы* — сенажаць (раней тут пасвілі коз); г) назвы збудаванняў, прадметаў: *Мая́к* — частка лесу вакол маяка; *Бе́рвы* — забалочаная мясціна, параўн. *берва* 'кладка з бярвенняў на нізкім месцы'; *Красты́* — месца ў лесе, дзе знаходзілася магіла з крыжам; *Гарадкі́* — балота, параўн. *гарадкі* 'калкі, якія забівалі леснікі для падзелу балота на часткі'; *Кашы́* — паўкруглая дарога; *Заво́д* — урочышча (раней тут стаяла цагельня); д) назвы, звязаныя з міфалагічнымі паняццямі: *Кашчэ́ў* — балота, у якім паводле падання вадзіліся *кашчэі* 'чэрці'.

Спарадычна сустракаюцца сярод невытворных мікратапонімаў найменні, якія ўтвораны ад антрапонімаў і айконімаў: *Кліме́нт* — лес (месца, дзе жыў Клімент); *Стражы́* — сенакос (па назве хутара *Стражы́*).

Вытворныя мікратапонімы складаюць 25% ад агульнай колькасці найменняў. Найбольш прадуктыўнымі з'яўляюцца суфіксы *-ішча/-ышча, -ішчы/-ышчы,* з дапамогай якіх ад назоўнікаў (пераважна агульных) утвараюцца назвы са значэннем месца, дзе штосьці некалі знаходзілася або знаходзіцца цяпер [2].

Па семантыцы ўтваральных асноў яны падзяляюцца на такія падгрупы: а) назвы флоры: *Лясі́шчы* — уча-

---

[2] Граматыка беларускай мовы, т. I. Марфалогія. Мінск, 1962, стар. 127—128.

стак лесу сярод поля; *Лу́бнішча* — поле, дзе рос лубін; *Бабо́вішчы* — поле; б) назвы фауны: *Мядзве́дзішчы* — сасновы лес; *Бусло́вішча* — балота; *Гу́слішча* — забалочаная нізіна; в) назвы, звязаныя з працоўнай дзейнасцю чалавека: *Гарадзі́шча* — поле; *Се́чышча* — поле; *Стрэ́льбішча* — ускраіна лесу (месца для вучэбных заняткаў па стральбе); г) назвы рэльефу: *Лу́чышчы* — сенакос, у аснове мікратапоніма апелятыў *лука* 'выгіб'; д) назвы, якія ўказваюць на форму, якасць урочышча: *Паты́лішчы* — забалочаная нізіна за вёскай, ад рэг. *патыліца* 'задняя частка чаго-небудзь'; *Страмі́шчы* — хваёвы лес, параўн. *стромкі* 'прамы і высокі'; *Цяні́шчы* — змешаны лес; *Ду́плішчы* — месца ў лесе, дзе шмат дуплаватых дрэў; е) назвы адзінак вымярэння зямлі: *Маргóвішчы* — поле, мікратапонім утвораны, відаць, на аснове апелятыва *морг* 'старая мера ворнай зямлі'; ж) назвы былых пасяленняў: *Бу́дзішчы* — поле (раней — пасёлак).

Другое месца па прадуктыўнасці сярод суфіксальных утварэнняў займаюць мікратапонімы на *-шчына*. Гэта пераважна найменні, утваральныя асновы якіх абазначаюць: а) айконімы, якія ў сваю чаргу ўтварыліся ад антрапонімаў[3]: *Якімаўшчына* — урочышча (былая сядзіба лесніка Якіма); *Ху́халеўшчына* — урочышча, па назве хутара, уладальнікам якога быў Хухаль (мянушка); *Ме́хаўшчына* (або *Ме́хава*) — лес, у аснове мікратапоніма назва хутара; *Аліка́ндраўшчына* (або *Аліка́ндрава*) — урочышча, раней — сядзіба Алікандра; б) назвы флоры: *Калі́наўшчына* — густы зараснік каліны, мікратапонім мог утварыцца і ад антрапоніма; в) антрапонімы, носьбіты якіх звязаны з мікрааб'ектам працоўнай дзейнасцю: *Анціпаўшчына* — участак лесу (абход лесніка Анціпа).

Нязначную колькасць у абследаваных вёсках складаюць мікратапонімы з суфіксам *-к-* (усяго 5 назваў). Паводле значэння ўтваральных асноў яны падзяляюцца на тры падгрупы: а) мікратапонімы, матываваныя лексікай, якая абазначае назвы флоры: *Вішанькі* — поле, уздоўж якога раслі вішні; *Дубкі* — дубовы зараснік сярод поля. Гэтыя мікратапонімы блізкія назвам са значэннем зборнасці тыпу *вішаннік, дубняк*. Суфікс *-к-* у

---

[3] Аб сувязі айконімаў з антрапонімамі гл.: М. В. Бірыла. Аб узаемадзеянні антрапанімічных і тапанімічных асноў.— Пытанні беларускай тапанімікі. Мінск, 1970, стар. 49—56.

такіх назвах не з'яўляецца памяншальным, а служыць тапонімаўтваральным сродкам, параўн. *Баркі* — вялікі бор; б) назвы рэльефу: *Паля́нкі* — поле на грудку сярод балота; в) назвы, што ўказваюць на форму ўрочышча: *Ро́жкі* — клінападобнае балота.

Аднастайную групу паводле структуры і значэння ўтвараюць мікратапонімы: *Дубня́к* — дубовы зараснік; *Хво́йнік* — зараснік хвоі; *Бяро́знік* — змешаны лес; *Сітнікі* — зараснікі сітняку. Пры дапамозе суфіксаў *-нік-*, *-няк-* утвараюцца назвы ўрочышчаў ад назваў флоры.

Непрадуктыўныя групы складаюць мікратапонімы з суфіксамі:

а) *-ня*: *Ваўкаўня́* — нізіна ў лесе, дзе была *ваўкаўня* 'яма для лоўлі ваўкоў'; *Пяка́рня* — урочышча (на гэтым месцы стаяла пякарня);

б) *-ец: Гарадзе́ц* — урочышча, у час вайны са шведамі — абкапаны канавай і абнесены зямлёй участак балота, на якім знаходзіліся людзі;

в) *-іца: Дзіравіца* — рэдкі лес, параўн. *дзіравы* 'парваны, з дзіркамі', пераносн. 'рэдкі';

г) *-ьјэ: Курга́нне* — магільныя насыпы; *Клінherня* — клінападобныя высечаныя ўчасткі лесу;

д) *-ок: Прудо́к* — змешаны лес; *Асячо́к* — асіннік;

е) *-іха: Фа́йтэліха* — балота (ад імя жонкі Файтэля);

ж) *-ын: Жу́рын* — урочышча (па назве в. Жу́рын);

з) *-аў: Ло́паў* — нізіна ў лесе (ад назвы хут. Ло́паў).

Мікратапонімы, утвораныя прэфіксальным спосабам, адзначаны ў назвах *Падо́страў* (Пад-остраў) — поле сярод лесу; *Вужа́ры* (Ву-жары) — балота сярод лесу, у аснове мікратапоніма мадыфікаваная форма апелятыва *вы́жара* (мн. *выжары*) 'выгаралая мясціна; «акно» ў балоце'.

Прэфіксальна-суфіксальныя мікратапонімы ў залежнасці ад семантыкі прыставак, якія з'яўляюцца асноўным сродкам выражэння прасторавага значэння назвы [4], падзяляюцца на дзве групы: а) назвы месца, якое знаходзіцца перад другім мікрааб'ектам: *Падго́р'е* — лес «пад гарой»; *Падсялішчы* — балота «пад селішчам» 'паселішчам, вёскай'; *Падмашэ́нне* — участак лесу перад імшыстым балотам; б) назвы месца, якое знаходзіцца

[4] Я. М. Адамовіч. Мікратапанімічныя назвы. Мінск, 1971, стар. 49.

за другім геаграфічным аб'ектам: *Затынне* — поле «за тынам»; *Заастроўе* — лес за балотам; *Забалоцце* — урочышча за балотам.

Мікратапонімы прэфіксальна-суфіксальнага ўтварэння, як і адпаведныя паводле структуры айконімы [5], генетычна выяўляюць сувязь з двухчленнымі прыназоўнікавымі канструкцыямі тыпу *за балотам, пад гарой* і інш.

Спарадычна сустракаюцца ў вёсках мікратапонімы дзеяслоўнага паходжання. Як заўважае Я. М. Адамовіч, «у час называння ўрочышчаў для насельніцтва быў істотны працэс дзеяння, працэс работы, а не характэрная прыкмета мясцовасці»[6]. Намі засведчаны такія найменні: *Бясéды* — зараснік, куды збіралася моладзь *бяседаваць* 'гутарыць, абменьвацца думкамі'; *Атмéна* — тарфяное поле, якое прымусова абмянялі ў сялян на няўдобіцу. Мікратапонім утвораны ад дзеяслова *адмяніць* 'аб'явіць несапраўдным' (урадлівае поле як прыналежнасць, уласнасць сялян).

Састаўныя мікратапонімы складаюць самую вялікую групу — 74 назвы, або 50% ад усіх сабраных. Па структуры гэта, як правіла, двухчленныя найменні з двума кампанентамі — суб'ектам і атрыбутам. Апошнія, звязаныя лексіка-граматычным адзінствам, абазначаюць пэўны мікрааб'ект: *Шырóкая дарóга, Кáменная магіла, Мóгільская гóрка, Настáськін надзéл* і інш.

Наўрад ці поўнасцю можна пагадзіцца з М. М. Корсакавай, калі яна зазначае, што, «як правіла, яны (наменклатурныя тапаграфічныя тэрміны.— *В. Р.*) з'яўляюцца носьбітамі асноўнага значэння ў адносінах да прыметнікаў або іншых часцін мовы, якія выступаюць у ролі азначэння»[7]. Гэта думка прымальная, відаць, толькі пры той умове, калі другі член састаўных мікратапонімаў — наменклатурны тэрмін — мае рэлевантную граматычную форму, а мікратапонім, апроч таго, абазначае адзінкавы і добра вядомы пэўнай мясцовасці аб'ект.

Так, для наймення месца, дзе водзяцца лісы, жыхары в. Коўцічы 1-я паралельна ўжываюць састаўны мікратапонім *Лісавыя ляскі* і як раўназначную яму частку най-

[5] Гл.: В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія. Мінск, 1970, стар. 122.

[6] Я. М. Адамовіч. Мікратапанімічныя назвы, стар. 90.

[7] М. М. Корсакава. Састаўныя мікратапонімы Петрыкаўшчыны.— Беларуская мова і мовазнаўства. Мінск, 1973, стар. 63.

мення — наменклатурны тэрмін *Ляскі*. Семантычная адназначнасць тэрміна (*Ляскі* — месца, дзе водзяцца толькі лісы), а таксама граматычна і намінацыйна рэлевантная форма наймення (дэмінутыў мн. ліку) робяць магчымым ужываць апелятыў *ляскі* абсалютыўна, без дадатковых слоў.

Калі ж наменклатурны тэрмін з'яўляецца поліфункцыянальным (уваходзіць у склад некалькіх найменняў) і не мае адметнай граматычнай формы (намінацыйна рэлевантнай), гаварыць пра яго як пра семантычна істотны, вызначальны кампанент састаўнога мікратапоніма не прыходзіцца. У ваколіцах в. Коўцічы 2-я шмат сенакосаў, кожны з якіх мае сваё «імя» — назву па прозвішчы, імені або мянушцы яго ўладальніка. Ужыванне толькі аднаго апелятыва недастатковае для канкрэтнага ўказання пэўнага ўрочышча. Таму прыметнік-дэтэрмінанта пры апорным слове з'яўляецца тут аблігаторным: *Дзям'я́наў сенако́с, Вераб'ёў сенако́с, Анто́наў сенако́с* і інш.

У функцыі азначальнага кампанента састаўных мікратапонімаў ужываюцца звычайна якасныя, адносныя і прыналежныя прыметнікі, зрэдку — парадкавыя лічэбнікі.

У адносінах да апорнага кампанента якасныя прыметнікі абазначаюць: а) якасць урочышча, якое паслужыла асновай для мікратапоніма: *Сухі́ луг* — лес; *Рэ́дкі рог* — участак лесу; *Свята́я лаза́* — забалочанае месца; б) знешні выгляд мікрааб'екта, яго форму: *Кру́глы мох* — палянка, зарослая мохам; *Шыро́кая даро́га* — дарога; *Кру́глы вадаём* — копанка; *Ву́зкая кале́йка* (або *Вузкакале́йка*) — месца, дзе пралягала вузкакалейка. Якасныя прыметнікі часам могуць выступаць як антонімы: *Глыбо́кі луг — Высо́кі луг; Ста́ры хво́йнік — Малады́ хво́йнік;* в) памер урочышча: *Вялі́кі мох* — хвойнік; *Высо́кі бор* — сасновы лес; г) размяшчэнне мікрааб'екта: *Ускра́йны лес* — лес на ўскраіне балота.

Малаўжывальныя мікратапонімы, паясняльнае слова якіх — адносны прыметнік. Тлумачыцца гэта тым, што адносным прыметнікам уласціва менш развітая, чым якасным, сістэма формавыражэння сэнсавых адносін [8].

---

[8] М. М. Корсакава. Састаўныя мікратапонімы Петрыкаўшчыны, стар. 67.

Прыметнікі ў складзе мікратапонімаў адлюстроўваюць: а) расліннасць мясцін: *Асінавы брадóк* — ручай сярод асінніку; *Бярóзавыя двóйні* — участак лесу, дзе многа разгалінаваных, раздвоеных бяроз; *Бярóзавы гай* — бярозавы лес; *Лясная сцёжка* — лясная сцежка, якая выходзіць на балота; б) месцазнаходжанне мікраабʼекта: *Мóгільская гóрка* — горка ля могілак; *Кáменная магіла* — месца, дзе знаходзілася некалі каменная магіла.

Вельмі блізкія паводле значэння да апошняй падгрупы прыналежныя па форме прыметнікі, якія абазначаюць прыкметы па назвах, звязаных з жывёльным светам, а таксама месца, дзе вадзіліся або водзяцца розныя жывёлы і птушкі: *Пчалíны рог* — участак лесу; *Вóўчыя астраўкí* — палянкі сярод лесу; *Шмялёвы лес* — частка лесу; *Зубры́ны рог* — месца ў лесе, дзе знайшлі зубрыны рог; *Кацíны вóстраў* — узгорак ля лесу. Сюды ж можна аднесці і мікратапонім *Цыгáнскія гóры* — узгорак, дзе некалі размяшчаліся цыганскія табары.

Найбольш прадуктыўную групу складаюць састаўныя мікратапонімы, першы кампанент якіх выражаны прыналежным прыметнікам. Улічваючы семантыку прыметніка, найменні можна падзяліць на дзве групы.

Да першай групы адносяцца мікратапонімы, у якіх прыметнік, утвораны ад антрапонімаў, указвае на прыналежнасць мікраабʼекта пэўнай асобе. Сенакосы носяць назвы: *Дзямʼя́наў сенакóс, Гóлубаў сенакóс* (ад прозвішча Голуб), *Верабʼё́ў сенакóс* (ад прозвішча Верабʼёў), *Антóнаў сенакóс, Барáнаў сенакóс* (ад прозвішча Баран), *Настáськін надзéл* (ад памянш.-ласк. формы імя Настасся). Асобныя палі (часцей у лесе або на балоце) атрымалі назвы ад імён іх уладальнікаў: *Часнакóў кургáн* (ад мянушкі Часнок), *Наву́маў кургáн, Станкéвічаў кургáн* (ад прозвішча Станкевіч), *Якíмава паля́нка, Сáкаў кургáн* (ад імя Сак).

Узнікненне многіх урочышчаў звязана з працоўнай дзейнасцю людзей або здарэннямі, якія адбыліся з носьбітам пэўнага антрапоніма. Прыналежныя па форме прыметнікі ў гэтым выпадку не маюць прыналежнасці. Распрацаваныя ўчасткі лесу маюць назвы: *Баранóва паля́на* (ад прозвішча Баран); *Хамíчóнкава дзяля́нка, Петрусё́ва дзяля́нка, Бáява падсóчка* — сасновы лес, у якім рабочы Бай (прозвішча) рабіў падсочванне дрэў на

карані для збірання смалы-жывіцы; *Максімава дзялянка* — мікратапонім утвораны ад імя рабочага Максіма, які ў час высечкі лесу быў забіты вяршыняй сасны; *Паўлаўская дарóга* (часта без назоўніка) — дарога, па якой хадзіў аб'ездчык Павел.

Сустракаюцца мікратапонімы, у якіх прыналежны па форме прыметнік ужываецца ў функцыі якаснага, характарызуючы аб'ект з пэўнага боку: *Іванькаў стог* (або *Ванькаў стог*) — агульная назва невялікіх стагоў. Такія стагі раней складваў адзін з жыхароў в. Коўцічы 2-я Іван (памянш.-ласк. *Іванька*).

Другую групу складаюць мікратапонімы, у якіх прыметнік утвораны ад айконімаў: *Данілóўскі пóплаў* (в. Данілоўка); *Мéхаўская пéля* — балота (па назве хут. Мехава); *Язвінская атмéна* — тарфяное балота (в. Язвінцы); *Зáбалацкая горка* (в. Забалацце).

Зрэдку першым кампанентам састаўных найменняў могуць выступаць лічэбнікі, якія ўказваюць на парадкавы нумар мікрааб'екта. Так, мясціны ў лесе, дзе знаходзяцца насыпы з траншэямі і бліндажамі, у в. Крукі называюць *Пéршыя бýнкеры, Другія бýнкеры.* Азначальны кампанент часта апускаецца, калі няма патрэбы ва ўдакладненні ўрочышча. Аналагічна ўтвораны мікратапонімы *Пéрвая палянка, Другáя палянка, Першая машчына, Другая машчына.*

У якасці субстантыўнага кампанента састаўных мікратапонімаў выступаюць, як правіла, агульныя назоўнікі. Паводле значэння яны ўтвараюць чатыры лексіка-семантычныя групы: а) назвы расліннасці: *Ускрáйны лес, Бярóзавы гай, Высóкі бор, Стары хвóйнік, Вялікі мох;* б) назвы рэльефу: *Глінскі брод, Рýсін брод, Аб'éздчыкава палянка, Раскóпана гарá* (або *Раскóпаная гарá*), *Вóўчыя астраўкі;* в) назвы шляхоў зносін: *Шырóкая дарóга, Ляснáя сцéжка, Пáўлаўская дарóга;* г) назвы формы ўрочышча: *Рэдкі рог, Пчаліны рог, Пéрдалькаў ражóк.*

Нязначную колькасць у мікратапаніміі вёсак складаюць назвы-арыенціры — спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікамі ва ўскосных склонах. Яны, як правіла, указваюць на месцазнаходжанне ўрочышча або на кірунак да яго: *Пад Якíма* — сенажаць (ля ўрочышча Якімаўшчына); *За клáдкамі* (або *Заастрóўе*) — лес за балотам; *Пад завóдам* — сасновы лес (каля таго месца, дзе

была цагельня); *Пад Антóся* — сенажаць (ля былой сядзібы Антося).

Нешматлікія назвы ўтварыліся аснова- ці словаскладаннем: *Старасéлле* — поле; *Сенажáткі* — поле; *Вузкакалéйка* — участак лесу (раней там праходзіла чыгунка).

З мікратапонімаў іншых тыпаў (мнагачленных) намі зарэгістраваны толькі адзін: *Поле за могілкамі*. Часта назва ўжываецца ў скарочаным выглядзе: *За мóгілкамі*.

*А. А. Іванова*

# ЗЕМЛЯРОБЧАЯ ЛЕКСІКА Ў СКЛАДЗЕ МІКРАТАПАНІМІІ МАЗЫРСКАГА ПАЛЕССЯ

Працэс фарміравання мікратапанівіі Мазырскага Палесся ўвогуле не выходзіць за межы тых тапанімічных заканамернасцей і традыцый, якія склаліся на працягу многіх стагоддзяў у межах Беларусі. Тым не менш, як і Беларускае Палессе ў цэлым, Мазырскае Палессе мае свае спецыфічныя гісторыка-эканамічныя і дыялектныя асаблівасці, якія не маглі не адбіцца на яго тапаніміі. Так, спецыфічнасць прыродных умоў Палесся (вялікая забалочанасць) наклала адбітак на фарміраванне прыродна-геаграфічнай і земляробчай тэрміналогіі, а яна ў сваю чаргу на тапанімію, паколькі апошняя галоўным чынам фарміруецца на базе лексікі мясцовага паходжання. Аднак тапанімія не просты фіксатар моўных асаблівасцей, уласцівых канкрэтнаму дыялекту. Яна адбірае толькі тое, што найбольш адпавядае гістарычным асаблівасцям, эканамічнаму ўкладу, прыродна-геаграфічным умовам пэўнай мясцовасці.

Вывучэнне лексічнага складу тапонімаў і семантыкі іх утваральных асноў дае магчымасць не толькі высветліць прыхаваную матывацыю тапонімаў, але і раскрыць механізм мясцовай намінацыі, выявіць у тапаніміі найбольш важныя моўныя кампаненты, у якіх адлюстраваліся асноўныя віды гаспадарчай практыкі.

Лексічны склад мікратапаніміі Мазырскага Палесся досыць стракаты. Тым не менш выразна вылучаюцца два найбольш значныя па колькасці і важнасці лексічныя пласты: 1) лексіка, якая адлюстроўвае прыродна-геаграфічныя паняцці; 2) лексіка, якая адлюстроўвае паняцці, звязаныя з земляробчай дзейнасцю чалавека, г. зн. якраз тыя сферы, якія найбольш цесна пераплятаюцца з гаспадарчай дзейнасцю палешукоў. Асабліва наглядна сказанае выяўляецца ў мікратапаніміі.

У гэтым артыкуле ставіцца задача прааналізаваць мікратапонімы, лексічна звязаныя з земляробчай тэрміналогіяй, вылучыць групы тапонімаў паводле іх лексіка-

семантычнага складу, даць канкрэтную характарыстыку кожнай з вылучаных груп.

У залежнасці ад значэння земляробчых тэрмінаў, якія знайшлі адлюстраванне ў мікратапаніміі Мазырскага Палесся, можна вылучыць наступныя лексіка-семантычныя групы мікратапонімаў: 1) назвы па працэсах распрацоўкі ляда пад ворыва; 2) назвы па прыкмеце «стары — новы» ўчастак»; 3) назвы з агульным значэннем «поле»; 4) назвы, абумоўленыя дрэннай якасцю глебы; 5) назвы па прыкмеце «ўгноены ўчастак»; 6) назвы па прыкмеце «надзельная зямля»; 7) назвы па прыкмеце «дадатковы ўчастак»; 8) назвы, абумоўленыя канфігурацыяй участкаў.

1. Да гэтай групы адносяцца назвы, лексічную аснову якіх складаюць старажытныя земляробчыя тэрміны *выдзелкі, дзерба, дрань, чарцёж, ляда, пасека, церабунка: Вудзелкі/Выдзелкі* ўр., сен. (Заг., Бяр.), *Дзербінка* п. (Дзерб.), *Драніна* ўр. (Мял.), *Падзёра/Падзёркі* п. (Бар.), *Чарцёж* сен., кан., крын., п., бал. (Жах., Ас.), *Чарцёжы* ўр. (М. Аўц.), *Церабунка* п. (Мял.), *Ляда* п. (Б. Аўц., Барб., Глін., Леш.), *Ляды* лес (Юр.), *Булаўскія Пасекі, Макарчуковыя Пасекі* (Дзерб., Махн.).

Амаль усе тэрміны, якія паслужылі лексічнай асновай для мікратапонімаў гэтай групы, выйшлі ў мясцовых гаворках з актыўнага ўжывання. Ні ў адным з абследаваных пунктаў не ўдалося ўстанавіць першапачатковую семантыку старажытнага земляробчага тэрміна *чарцёж,* які па пісьмовых помніках вядомы ў значэнні 'ўчастак, утвораны на месцы лясных распрацовак'[1]. Гэта значэнне найбольш лагічна лічыць зыходным. Аналагічным чынам склаўся лёс і ў тэрміна *ляда.* У першапачатковым значэнні 'ўчастак на месцы высечанага лесу' ён захаваўся толькі ў дзвюх-трох вёсках. У астатніх населеных пунктах тэрмін *ляда* або зусім невядомы, або вядомы ў іншых значэннях ('участак лесу', 'вялікая плошча лесу або поля', 'паляна ў сасновым бары', 'чысты лес на высокім месцы').

Больш паслядоўна захавалі сваю першапачатковую семантыку тэрміны з коранем *-дзер-, -др-: падзёра, драніна.* На Палессі яны бытуюць у значэнні 'ўчастак, утво-

---

[1] В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія. Мінск, 1970, стар. 33, 41.

раны на месцы раскарчаванага («выдранага») лесу'. Выраз «выдзіраць лес» па сэнсу раўназначны выразам «церабіць лес», «карчаваць лес», «чысціць лес».

Да ліку тапаасноў, якія без істотных змен захавалі сваю першапачатковую семантыку, можна аднесці толькі слова *пасека*. Гэта абумоўлена тым, што з'яўленне поля-пасекі звязана з адносна познім перыядам — перыядам разлажэння прыгонніцтва і бурнага развіцця капіталістычных адносін у вёсцы [2].

Носьбітамі назваў, узнікшых на аснове адзначаных вышэй тэрмінаў, як правіла, з'яўляюцца палі, зрэдку сенажаці.

У межах Мазырскага Палесся мікратапонімы з гэтымі асновамі размяркоўваюцца больш-менш раўнамерна, за выключэннем назваў з лексічнай асновай *пасека*, якія пераважна сканцэнтраваны ў раёне Мазыра. Менавіта тут узнікалі і «пасекі», галоўным чынам у межах былых уладанняў мазырскіх цэркваў.

2. У якасці лексічнай асновы мікратапонімаў гэтай групы выкарыстоўваюцца старажытныя землясробчыя тэрміны *старына* і *навіна*: *Навіна* лес (Глін.), *Навінкі* п. (Тон.), *Старына* лес (Міх., Лех.), *Старынка* луг, п. (Старас.). Значэнне гэтых тэрмінаў да нашага часу захавалася ў мясцовых гаворках: *навіна* 'новы ўчастак, распрацаваны ў лесе'; *старына* 'пакінутая па якіх-небудзь прычынах навіна'. Назвы *Старына, Навіна* найчасцей замацоўваюцца за ўчасткамі поля і лесу, радзей — за ўчасткамі сенажацей. У мікратапаніміі Мазыршчыны яны прадстаўлены адзінкавымі прыкладамі.

3. Да ліку тэрмінаў, якія знайшлі адлюстраванне ў гэтай групе мікратапонімаў, адносяцца *поле, ніва* (*ніўка, ніўча*): *Астапаўска ніва* б. х. (Б. Зім.), *Варанова ніва* п. (Н. Руд.), *Вялікая ніва* ур. (Балаж.), лес, п. (Б. Аўц.), *Доўга ніва* п. (Леш.), *Малая ніва* п. (Леш.), *Нівішчэ* лес (Казім.), *Ніўка* п. (Коч., Ліпл.), *Ніўкі* ўр. (Леш.), п. (Ліпл.), лес (Кам.), *Папова ніўка* луг (Леш.), *Стараполе* лес (Н. Мл., Леш., М. Зім., Пян.), *Старая ніва* п. (Мял.).

---

[2] Старажылы расказваюць, як памешчыкі і царкоўнаслужыцелі ў гэты перыяд прадавалі лес купцам, а вырубкі аддавалі сялянам сваіх і суседніх вёсак пад так званыя «пасекі». Пасекі раскарчоўваліся і засяваліся. Пры зняцці ўраджаю памешчыкі бралі кожны трэці сноп.

Семантыка абодвух тэрмінаў, што ляглі ў аснову мікратапонімаў гэтай групы, добра асэнсоўваецца ў мясцовых гаворках. Тэрмін *поле* вядомы ў тым жа значэнні, што і ў літаратурнай мове. Тэрмін *ніва* апрача значэння, уласцівага тэрміну *поле*, вядомы яшчэ ў некалькіх дыферэнцыраваных значэннях: 'добрае, ураджайнае поле', 'чым-небудзь засеяная доўгая паласа поля', 'поле, засеянае жытам ці пшаніцай', 'поле ў лесе'.

У межах даследуемага рэгіёна мікратапонімы з лексічнай асновай *поле, ніва* размяркоўваюцца раўнамерна. У колькасных адносінах група досыць шматлікая.

4. У лексічным складзе дадзенай групы мікратапонімаў знайшлі адлюстраванне тэрміны *балота, гараваха, каменка, мазкі, пеля* і інш.: *Буднікаўскае балота* п. (Бар.), *Вялікае балота* п. (Луб.), *Гараваха* п. (Скал. Руд.), *Горкі* п., пуст. (Кам., Праўц.), *Круглая пеля* лес (Мял.), *Лысая гара* п. (Бар.), *Мазкі* п. (В. Мл., Барб.), *Пеля* п. (Калін.), *Пескаваха* п. (Шчэк.), *Пусткі* п. (Васьк.), *Пяскі* ўр. (Барб.), *Пяшчэніца* п. (Глін., Барб.).

Большасць лексічных асноў прыведзеных вышэй мікратапонімаў асэнсоўваюцца на аснове мясцовых гаворак. Так, слова *балота* вядома на даследуемай тэрыторыі ў значэнні 'ўчастак зямлі, непрыгодны для апрацоўкі', слова *гара* — у значэнні 'неўрадлівая частка поля на высокім месцы' [3].

Тэрміны *пяшчанка, пяшчаніца, пескаваха* маюць агульнае значэнне 'пясчаны ўчастак; пясчанае поле'; тэрмін *каменка* — 'камяністы ўчастак; камяністае поле'.

Апелятыў *пеля* вядомы ў мясцовых гаворках у значэнні 'высокае пясчанае месца, дзе расце толькі сасна; 'высокае месца ў полі'.

Тэрмін *палетак* мае на месцы некалькі часам супрацьлеглых тлумачэнняў: 'поле з неўрадлівай глебай, якое засяваецца праз 2—3 гады', 'памешчыцкая зямля', 'зямля, якая знаходзіцца за межамі асноўных надзелаў', 'поле з добрай глебай'. Зыходзячы з наяўнасці некалькіх значэнняў у апелятыва *палетак*, мікратапонімы з гэ-

---

[3] Такія ж і аналагічныя значэнні зафіксаваны і ў іншых раёнах Беларусі. Гл. зб.: Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мінск, 1971, стар. 36, 37; В. П. Лемцюгова. Назвы зямельных участкаў як крыніца беларускай тапаніміі.— Пытанні беларускай тапаніміі. Мінск, 1970, стар. 80.

тай асновай могуць быць аднесены і да іншых лексіка-семантычных груп (назвы паводле сацыяльнай прыналежнасці, назвы па прыкмеце «асноўны — дадатковы надзел», назвы, абумоўленыя добрай якасцю глебы). Найбольш лагічна, на наш погляд, было б уключыць мікратапонімы з лексічнай асновай *палетак* у групу назваў, вылучаных паводле значэння тапаасновы «зямельны ўчастак з неўрадлівай глебай». Гэта значэнне слова *палетак* на Мазыршчыне найбольш пашырана. Мікратапонімы з лексічнай асновай *палетак,* як правіла, з'яўляюцца назвамі палёў з неўрадлівай глебай.

Апелятыў *мазкі* вядомы ў частцы мясцовых гаворак у значэнні 'вязкая, глiністая глеба'.

Назвы гэтай групы ў складзе мікратапаніміі Мазырскага Палесся займаюць значнае месца і тэрытарыяльна досыць пашыраны.

5. У якасці лексічнай асновы многіх мікратапонімаў Мазырскага Палесся паслужылі тэрміны, што абазначаюць 'угноены ўчастак': *Пагной* п. (Стр., Раеўск., Б. Зім., Пр., Наг., Мераб., Бок., Жах., Пран., Міц., Заг., Леш., Скар.), *Пагноец* п. (Н. Мл.), *Пагнойнае* п. (Шчэк.), *Пагнуй* п. (Слаб.). Семантычна назвы гэтай групы досыць празрыстыя, структурна аднастайныя, маюць пашырэнне амаль на ўсёй даследуемай тэрыторыі.

6. Гэту групу ўтвараюць мікратапонімы, у якіх у якасці лексічнай асновы выступаюць тэрміны *надзел, паласа: Клімавы надзелы* п. (Жах.), *Падліпскія Палоскі* п. (Яс.), *Палоскі* п. (Кам., Праўц.), *Палосы над рэчкай* п. (Старас.), *Першыя палосы* лес (Руд. Кам.), *Ракава паласа* п. (М. Зім.), *Шырокая паласа* п. (Яс., Св., Заг.), *Садовыя палосы, Сярэднія палосы, Сядзібныя палосы* п. (Касц.).

Надзелы ў выглядзе палосак шырока практыкаваліся на Палессі. Звычайна на палоскі дзяліўся надзел бацькі паміж сынамі. Палоска не мела пэўнага памеру. Яна магла быць 16 або 30 дзесяцін, шырокая або вузкая. Пад тэрмінам *надзел* разумеецца таксама ўчастак надзельнай зямлі, большы памерам за палоску.

Назвы з асновай *паласа, палоска* маюць досыць шырокае распаўсюджанне і з'яўляюцца ў мясцовых гаворках семантычна даволі празрыстымі.

7. Тэрміны з семантыкай 'дадатковы ўчастак' паслужылі лексічнай асновай для невялікай групы мікратапо-

німаў: *Завалейскія разы, Марчукоўскія разы* п. (Матр.), *Наддаткі* п. (Касц.), *Прыдаткі* ч. ст. (Стр.), *Разы* п. (Бяр.), лес (Бок.), *Рэзкі* луг (Скал. Руд.), ур. (Касц.), сен. (Мял.), *Таруноўскія разы, Юркоўскія разы* п. (Матр.).

Ва ўмовах балоцістага Палесся, дзе вельмі цяжка было знайсці суцэльны і адпаведны па памеру ўчастак з прыгоднай для земляробства глебай, шырока практыкаваліся дадатковыя надзелы, якія называліся *наддаткамі, прыдаткамі* і *рэзамі*. Звычайна яны знаходзіліся на значнай адлегласці ад асноўнага надзелу (у лесе, сярод балота). Назвы гэтай групы маюць некаторую лакалізацыю. Яны сканцэнтраваны пераважна ў чатырох абследаваных вёсках на паўночны ўсход ад Мазыра.

8. Лексічную аснову гэтай вялікай па колькаснаму складу групы мікратапонімаў утвараюць шматлікія назвы зямельных участкаў па іх канфігурацыі: *Аксёнава палянка* п. (Рам.), *Аляксееў востраў* п. (Іванк.) *Бабін востраў* пал. (Ліпл.), *Бандарэнкаў востраў* п. (Іванк.), *Белькавы рагі* п. (Барб.), *Дзенісавыя палянкі* п. (Махн.), *Зубрыцкі рог* п. (Б. Зім.), *Кавалёў рог* п. (Рам.), *Казлоў рог* лес (Касц.), *Клін* п. (Праўц.), *Кліны* п. (Жах.), *Мінін рог* лес (Стр.), *Папоў востраў* п. (Васьк.), *Рагі/Дальнія рагі* п. (Калін.), *Раманаў рог* п. (Св.), *Салаўёў рог* п. (Леш., Падл.), *Сотнікаў востраў* п. (Іванк.), *Танін рог* п. (Акул.), *Фядотаў рог* п., лес (Падл., Зав. Востр.), *Шутаў востраў* п. (Васьк.), *Якімаў рог* лес (Калін.), *Яўгенеў рог* п. (Наг.), *Еўлашова палянка* п. (Пр.), *Камзорова палянка* п. (Мял.), *Лімарова палянка* п. (Калін.), *Марцінава поле* лес (Стр.), *Нікіціна палянка* п. (Падл.), *Піліпава палянка* п. (Краснаб.), *Сабайдова палянка* п. (Біб.), *Савіна палянка* п. (Крушн.), *Сакава палянка* лес (Пр.), *Сяргейчыкава палянка* п. (Слаб.), *Табалава палянка* лес (Васьк.).

Тэрміны, якія выступаюць у якасці тапаасновы ў прыведзенай вышэй групе мікратапонімаў, добра адлюстроўваюць спецыфіку земляробства Беларускага Палесся. Наяўнасць вялікай колькасці балот і непрыгоднасць для распрацоўкі пад пасеў лясной зямлі прымушала карыстацца ёю выбарачна. У сувязі з гэтым узнікала вялікая колькасць астраўкоў, палянак сярод балот і пяскоў у выглядзе кліноў і рагоў, якія ўдаваліся ў лясныя, балоцістыя або сенажатныя ўчасткі. З'яўлен-

не новых астраўкоў і палянак у значнай ступені звязана з імкненнем землеўладальнікаў расшырыць свае надзелы за кошт распрацоўкі лясных участкаў. У шэрагу выпадкаў лясныя распрацоўкі давалі магчымасць абзавесціся ўласнай гаспадаркай, аддзяліцца ад бацькоў.

Як ні ў адной з папярэдне разгледжаных груп, тут земляробчыя тэрміны амаль без выключэння спалучаюцца з уласнымі іменамі або прозвішчамі. Гэта сведчыць аб тым, што астраўкі, палянкі, рагі, кліны распрацоўваліся прыватнымі асобамі, уласнасцю якіх яны з'яўляліся.

У сучасных мясцовых гаворках тэрміны *вострау, астравок, паляна, палянка* бытуюць у значэнні 'поле сярод балота або лесу; сухое месца сярод балота'. Тэрміны *клін, рог* вядомы ў значэнні 'ўчастак, які мае форму кліна'.

Назвы з лексічнай асновай *востраў, паляна, клін, рог* знайшлі асабліва шырокае адлюстраванне ў мясцовай мікратапаніміі. У межах даследуемай тэрыторыі яны адзначаны паўсюдна.

Аналіз утваральных асноў мікратапонімаў Мазырскага Палесся паказвае, што нават у межах адной тэматычнай групы (у дадзеным выпадку земляробчай тэрміналогіі) яны не з'яўляюцца аднароднымі ў храналагічных адносінах. Адны з іх узыходзяць да больш ранняга перыяду распрацоўкі лясных зараснікаў пад пасеў (*падзёры, драніна*), іншыя — да перыяду прыватнаўласніцкіх адносін у галіне земляробства (*надзел, палаca, рэз, прыдатак*).

Час узнікнення мікратапонімаў звычайна накладвае адбітак на іх структуру. Тыя, якія ўтвораны на больш ранніх этапе развіцця земляробчай культуры, звычайна аднакампанентныя. А пры наяўнасці двух кампанентаў, адзін з іх (азначальны) з'яўляецца якасным або адносным прыметнікам. Тыя, якія ўтвораны ў перыяд росквіту прыватнаўласніцкіх адносін, як правіла, двухкампанентныя. Прычым адзін з кампанентаў (азначальны) з'яўляецца прыналежным прыметнікам, утвораным на аснове імя або прозвішча ўласніка аб'екта.

## СКАРАЧЭННІ НАЗВАЎ ВЁСАК

Акул. — Акулінка
Ас. — Асавец
Балаж. — Балажэвічы
Бар. — Барыскавічы
Барб. — Барбароў
Б. Аўц. — Бальшыя Аўцюкі
Б. Зім. — Бальшыя Зімовішчы
Біб. — Бібікі
Бок. — Бокаў
Бяр. — Бярозаўка
Васьк. — Васькаўка
В. Мл. — Верхні Млынок
Глін. — Глініца
Гур. — Гурыны
Дзерб. — Дзербінка
Жах. — Жахавічы
Зав. Востр — Заводны Востраў
Заг. — Загорыны
Іванк. — Іванкаўшчына
Казім. — Казіміраўка
Калін. — Калінічы
Кам. — Каменка
Касц. — Касцюковічы
Коч. — Кочышчы
Краснаб. — Краснабярэжжа
Крушн. — Крушнікі
Куст. — Кустаўніца
Лех. — Лехаўцы
Леш. — Лешня
Ліпл. — Ліпляны
Луб. — Лубня
Матр. — Матрункі
М. Аўц. — Малыя Аўцюкі
Махн. — Махнавічы
М. Зім. — Малыя Зімовішчы
Міх. — Міхалкі
Міц. — Міцькі
Мял. — Мялешкавічы
Наг. — Нагорныя
Н. Мл. — Ніжні Млынок
Н. Руд. — Новая Рудня
Падл. — Падлядзічы
Пр. — Прудок
Пран. — Пранькі
Праўц. — Праўцюкі
Пян. — Пянькі
Раеўск. — Раеўскія
Рам. — Раманаўка
Руд. Кам. — Рудня Каменская
Св. — Свірынаўка
Скал. Руд. — Скалодзінская Рудня
Скар — Скароднае
Слаб. — Слабада
Старас. — Стараселле
Стр. — Стрэльск
Тон. — Тонеж
Шчэк. — Шчэкатава
Юр. — Юравічы
Яс. — Ясенец

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

бал. — балота
б. х. — былы хутар
кан. — канава
крын. — крыніца
п. — поле
пал. — паляна
пуст. — пустка
сен. — сенажаць
ур. — урочышча
ч. ст. — чыгуначная станцыя

*А. М. Прышчэпчык*

# ТАПАГРАФІЧНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ Ў МІКРАТАПАНІМІІ СТАЎБЦОЎШЧЫНЫ

Мікратапонімы ў момант іх узнікнення звычайна матываваны, маюць непасрэдныя адносіны да семантыкі ўтваральных асноў. У залежнасці ад семантыкі ўтваральных асноў усе адапелятыўныя мікратапонімы можна падзяліць на некалькі груп. Адну з іх складаюць ландшафтныя назвы. У сваю чаргу іх можна падзяліць на некалькі падгруп:

1. Мікратапонімы, утвораныя ад назваў мясцовага рэльефу: *Вугар, Вугарайка, Вугорнае*<рэг. *вугор, бугор* 'узгорак, грудок'; *Высокае, Вышкі*<рэг. *вышкі* 'высокае месца'; *Гара, Гаравая, Гаравое, Горкі, Горы; Града, Градавая, Градка; Груд, Грудок, Грудка, Груды; Грэбень; Канава, Канавы; Крутуха*<рэг. *крутуха* 'крутая гара'; *Лагавыя, Лагі, Лагчына, Лажок, Лог; Ласток*<*ласта* 'плоскасць, нізіна, раўніна, луг' (Даль, II); *Нізіна; Падзь*<рэг. *падзь* 'лагчына, упадзіна'; *Пацяжына*<рэг. *пацяжына* 'доўгая лагчына'; *Плошчадзі, Плошчадзь*< рэг. *плошчадзь* 'плоскае, роўнае месца'; *Равок, Райкі, Райчучок, Рой; Раўніна, Роўнае; Угорнае*<рэг. *угор, угорны* 'які знаходзіцца на бугры, на ўзгорку'; *Уздуха*<рэг. *уздуха* 'высокая, уздутая паверхня зямлі, дзе нічога не расце'; *Ямы, Ямнае.*

Амаль трэцяя частка пералічаных мікратапонімаў узнікла на аснове агульных апелятыўных назваў, якія абазначаюць узвышаныя месцы: *вугар, вугарайка, вугорнае, высокае, вышкі, гара, гаравая, гаравое, горкі, града, градка, груд, грудок, грудка, груды, грэбень, крутуха, угорнае, уздуха.* Як правіла, гэта назвы ўрочышчаў на ўзвышаным месцы або на гары. Такім чынам, усе яны маюць канкрэтную прывязку да тапаграфічнай прыкметы аб'екта, заключаюць у сабе яго рэальную характарыстыку.

Мікратапонімы, якія называюць аб'екты, размешчаныя ў нізкіх месцах, утвораны ад такіх апелятываў, як

*канава, лагавыя, лагі, лагчына, лагчынка, лажок, лог, нізіна, падзь, пацяжына, равок, раўчучок, роў, ямы, ямнае.*

Самую нязначную колькасць складаюць назвы, утвораныя ад апелятываў, якія абазначаюць роўную мясцовасць, нічым не адметную ад навакольнага асяроддзя, без якіх-небудзь асаблівых прыкмет: *плошчадзь, раўніна, роўнае, ласток.*

Пераважная большасць пералічаных вышэй апелятываў сустракаецца і цяпер у беларускай мове. Іх лексічнае значэнне агульнавядомае. Да ліку назваў, якія ўзніклі на аснове апелятываў вузкарэгіянальнага бытавання, можна аднесці *Вугар, Грудка, Крутуха, Угорнае, Уздуха.* Цікавымі з'яўляюцца назвы *Гаравая, Ласток, Плошчадзі.* Калі *Гаравая* значыць 'гарыстае поле', а *Плошчадзі* — 'плоскае роўнае месца' і значэнне іх вядома толькі на нязначнай тэрыторыі, то паходжанне назвы *Ласток* зусім не вядома мясцоваму насельніцтву.

Важным з'яўляецца той факт, што нават у межах невялікага рэгіёна можна назіраць лакалізацыю сінанімічных пар некаторых мікратапонімаў. Так, выключна ў паўночнай частцы Стаўбцоўшчыны адзначаны назвы *Лажок, Лог, Падзь, Пацяжына,* а іх сінанімічныя адпаведнікі *Лагчына, Роў, Канава* сканцэнтраваны пераважна ў паўднёвай частцы Стаўбцоўшчыны. Такім чынам, намячаюцца два мікраарэалы назваў-сінонімаў у апелятывах і мікратапонімах. Гэта лішні раз указвае на тое, што мікратапанімія ўзнікае выключна на базе слоў, якія бытуюць у мясцовым дыялекце. Па-за імі мікратапонімы не ўтвараюцца, калі не ўлічваць магчымасці пераносу асобных назваў перасяленцамі з іншых тэрыторый.

2. Мікратапонімы, утвораныя ад назваў розных відаў глебы, складаюць меншую частку ў параўнанні з разгледжанымі вышэй. Гэта назвы: *Бубен*<рэг. *бубен* 'поле, дзе нічога не расце'; *Балота, Балотца, Балотцы, Балоцейка, Балоцечка; Гала, Галае*<рэг. *гала* 'голая прастора'; *Гразкія; Жарсцвянкі*<рэг. *жарсцвянка* 'жвірыстае поле'; *Калатоўка*<рэг. *калатоўка* 'голае, неўрадлівае поле'; *Каменка, Камення, Камяні, Камяніца, Камяныя*<рэг. *камянка* 'камяністае поле'; *Крамянка*<рэг. *крамянка* 'крамяністае поле'; *Ляжанец*<рэг. *ляжанец* 'поле, якое доўга пуставала, ляжала аблогай'; *Муцьві-*

*ца*<ст.-бел. *мутвица* 'нізкае, балоцістае месца'; *Наўдоба*<рэг. *няўдоба* 'няўдобіца, неўрадлівая зямля'; *Пустка; Пяскі, Пясочніца, Пясчанец, Пясчанка, Пясчатая, Пясчуга, Пясчук, Пясэчныя; Ройства*<літ. *raistas* 'балоцісты лясок'; *Тартавіско*<польск. *torfowisko* 'тарфянішча'; *Шчарэц*<рэг. *шчарэц* 'плітняк', параўн. рус. *щера, щира* — 'камень, ад прыроды ў падоўжных трэшчынах; сланец, плітняк, пліта' (Даль, IV).

З агульнай масы чаго-небудзь вылучаецца заўсёды тое незвычайнае, што не падобна на астатняе. На гэта незвычайнае і звяртаецца ўвага. Такімі для даследуемай тэрыторыі былі балоцістыя, камяністыя і пясчаныя глебы. На апрацоўку іх затрачвалася больш сілы, яны патрабавалі большай увагі да сябе, пра іх больш гаварылася, таму назвы іх, першапачаткова як апелятывы, а пасля як уласныя назвы, часцей можна сустрэць у старажытных помніках, а цяпер у агульнабеларускай і ў вузкарэгіянальнай лексіцы.

Мікратапонім *Балота* і вытворныя ад яго зарэгістраваны амаль у кожным населеным пункце, а часамі ў адной вёсцы ёсць некалькі *Балот*. Утварэнню назваў такога тыпу паслужылі апелятывы *балота, балотца, балоцейка, балоцечка, гразкія, муцьвіца*. Некаторыя з названых апелятываў ужо рэдка можна сустрэць у народнай лексіцы, напрыклад вельмі рэдка можна сустрэць слова *балоцейка,* часцей *балотца* і нават *балоцечка. Муцьвіна* мае значэнне 'балоцістае месца', і сустрэць такое слова можна толькі ў больш старажытных пластах лексікі. У наш час яно зусім знікла з ужытку, чужое яно і для вузкарэгіянальнай лексікі. А наогул жа *Балота* страціла ў многіх выпадках першапачатковае значэнне. Цяпер гэты мікратапонім не заўсёды заключае ў сабе рэальную характарыстыку аб'екта. Прычыны для гэтага розныя. Адной з важнейшых было няўхільнае павышэнне ўзроўню сельскай гаспадаркі. Зараз *Балота* — часцей за ўсё сухая паша або поле.

Утварэнню мікратапонімаў, якія абазначаюць аб'екты з пясчанай глебай: *Пяскі, Пясочніца, Пясчанка, Пясчатая, Пясчук, Пясэчныя,* паслужылі апелятывы *пяскі, пясочніца, пясчанка, пясчатая, пясчук, пясэчныя.*

Мікратапонімы тыпу *Каменка, Жарсцвянка* ўтвораны ад агульнавядомых беларускіх апелятываў *каменка, каменне, камяні, камяніца, жарства.*

Мікратапонімы дзвюх апошніх груп поўнасцю адпавядаюць тапаграфічным прыкметам аб'екта.

Асобную групу складаюць назвы, якія даюць агульную характарыстыку глебы: *Бубен, Галая, Галае, Калатоўка, Ляжанец, Няўдоба, Пустка.* Яны ўтвораны на аснове апелятываў *бубен, гала, калатоўка, ляжанец, няўдоба, пустка.* Своеасаблівасць гэтай лексікі заключаецца ў тым, што агульнавядомыя словы выступаюць у новым значэнні, напрыклад *бубен* і *калатоўка* — у значэнні 'голае, неўрадлівае поле'. Такія значэнні захаваліся толькі ў мікратапаніміі. Даволі рэдка ў рэгіянальнай лексіцы можна сустрэць слова *гала.* У Беларуска-рускім слоўніку яно тлумачыцца як 'голая прастора, голая мясцовасць'. Гэта слова часта сустракаецца ў старажытных пісьмовых крыніцах. Аднак значэнне яго ў розных крыніцах не аднолькавае. В. П. Сямёнаў піша, што балоты пад назвай *гала* адрозніваюцца па сваіх прыкметах ад пінскіх балот: у галах мы бачым прасторы, пакрытыя купінамі і густой травяністай расліннасцю з асобнымі кустамі вярбы [1]. Ужо гэта гаворыць, што *гала* не голая прастора.

Ёсць розныя тлумачэнні слоў *ляжанец* і *муцьвіца.* У слоўніку А. Падвысоцкага (Словарь областного архангельского наречия в его бытовом и этнографическом применении. СПб, 1885) *ляжанец* тлумачыцца як 'ворная зямля высокай якасці'. *Муцьвіца* сустракаецца толькі ў старажытных помніках у значэнні 'нізкае балоцістае месца'. Цікавым па паходжанню з'яўляецца назва *Пустка.* У агульнабеларускай лексіцы — гэта 'зарослы, запушчаны ўчастак'. Зразумела, запушчаны і забыты ён таму, што на ім нічога не расло, тут неўрадлівая глеба. На тэрыторыі Стаўбцоўшчыны ёсць некалькі мікратапонімаў пад назвай *Пустка,* і ўсе яны, акрамя аднаго, абазначаюць няўдобіцу, зямлю, якая пустуе, не апрацоўваецца па прычыне неўрадлівасці. Адна *Пустка,* або як яе інакш называюць *Пустка Быкоўскага,* атрымала сваю назву, відаць, не па прычыне неўрадлівасці. Гэта вельмі добрая зямля. Яна доўга не апрацоўвалася, пуставала па той прычыне, што нікому не належала, не было гаспадара. Такія прыклады можна сустрэць і ў некаторых пісьмовых крыніцах больш ранняга перыяду.

---

[1] Россия. Полное географическое описание нашего отечества под редакцией В. П. Семенова. СПб, 1905, стар. 11.

В. П. Сямёнаў прыводзіць выказванне па гэтаму пытанню прафесара Турскага, які адзначае наступную з'яву для вярхоўя Дняпра: «Паданне расказвае, што на многіх з гэтых палян, якія называліся «пусташамі» ў мінулым былі пасяленні. Напр., на пусташы Пачынкі ў 1849 г. была вёска Пачынкі, якая ў 1871 г. ужо не існавала... На цяперашняй пусташы «Халмец» у часе генеральнага межавання была вёска Халмецкая, якая значыцца на былых планах. Адносна іншых пустак нельга сцвярджаць, што на ўсіх іх раней былі пасяленні, аднак на многіх з іх мы сустракаем прыкметы былых пасяленняў, напр., зарослыя мохам азёрцы і рэшткі калодзежаў» [2]. Гэта пацвярджае той факт, што пустка — не заўсёды пустая, неўрадлівая зямля.

Рэдкая з'ява для дадзенай групы мікратапонімаў — наяўнасць паланізмаў і літуанізмаў. Да паланізмаў можна аднесці *Пясэчныя* і *Тартавіско,* побач з якімі апелятыў *тарфянікі.* Ад літ. *raistas* 'балоцісты лясок' паходзіць назва *Ройства.*

3. Мікратапонімы, утвораныя ад назваў лясных масіваў, зараснікаў, штучных пасадак, асобных парод дрэў і раслін: *Алешнік, Алешнікі, Алешнічак; Арэшнік; Асавец, Асіннік, Асіннікі, Асняк, Асняк; Аўсянішча; Баравіна, Баркі, Барок, Бароўка, Бары, Бор, Боркі; Бярозавец*<рэг. *бярозавец* 'бярозавы гай', *Бярэзнік; Верабіннік, Ярабіннік; Вязнік*<рэг. *вязнік* 'зараснік вязу'; *Гаі, Гай; Гірсак*<*рэг. гірса* 'трава, падобная да мятліцы, толькі чорная'; *Граднік*<рэг. *граднік* 'стромкія, роўныя сосны'; *Драсён; Дуб, Дубавыя, Дубалог, Дуб'е, Дуб'ё, Дубішчына, Дубкі, Дубнік, Дубнікі, Дубняк, Дубнякі, Дубок, Дубы; Дубраўка, Дуброва, Дубровы, Дуброўка, Дуброўкі; Ельнік, Ельнічкі; Зараснік; Імхі; Казіна*< рэг. *казіна* 'вельмі жорсткая дзікая трава'; *Казляк; Каноплі; Касявец*<рэг. *касявец* 'расліна', параўн. рус. *косовник; Крапіўнік; Кудра; Кустарнік, Кусцікі; Лаза, Лазнік, Лозы; Лес, Лісавыя* або *Лесавыя, Лясішча, Ляскі, Лясок; Ліпавіца, Ліпка, Ліпкі, Ліпнікі, Ліпняк; Маліннік; Машкі, Мох, Мхі; Парк; Прысады; Ракітнік; Рошча; Сад, Садзонкі, Садок; Сасноўка, Сосны; Сітнік; Трасняг, Трасцянкі, Трысцянка; Хвайнікі, Хвойнік, Хвойнічак, Хвоя; Чарамошнік; Чорнагалоўка; Чэмерна, Чэмернае; Яловыя.*

---

[2] Россия, стар. 34.

Для ўтварэння пералічаных мікратапонімаў выкарыстаны агульныя назвы лясных масіваў і зараснікаў: *бор, гай, зараснік, кудра, кустарнік, кусцікі, лес, лясок, рошча;* назвы лясных масіваў па пародзе дрэў і кустоў: *алешнік, арэшнік, асіннік, бярозавец, бярэзнік, верабіннік, вязнік, дубняк, дуброва, дуброўка, ельнік, ельнічкі, лазнік, ліпнік, ліпняк, маліннік, ракітнік, хвойнік, хвойнічак, чарамошнік, яловыя, ярабіннік*; назвы розных відаў раслін: *драсён, гірсак, імхі, казелец, казіна, казляк, каноплі, касявец, крапіўнік, мох, сітнік, трасняг, чорнагалоўка, чэмер;* назвы поля па назве расліны-папярэдніка: *аўсяніішча, лясішча;* назвы штучных пасадак: *парк, прысады, сад, садзонкі, садок.*

Пры ўтварэнні назваў разгледжанай вышэй групы выкарыстана ў асноўным агульнабеларуская лексіка, якая вядома і на даследуемай тэрыторыі. Сустракаецца і вузкарэгіянальная лексіка, характэрная толькі для Стаўбцоўшчыны: *касявец, рошча,* а таксама небеларуская лексіка: *садзонкі* — польск. *sadzonki.*

4. Мікратапонімы, утвораныя ад гідралагічных назваў: *Азярына, Азярышча; Бязодніца; Вадапой, Воднік; Возера;Істочка; Калюга; Карыцін, Карыціна, Карэціна; Крыніца, Крыніцы, Крынічка, Крынічнае; Рака, Рачка, Рачкі, Рачышча, Рэчка, Ручай, Руч'е, Руч'я; Сажалка; Стаялец; Сцюдзянец; Тонь.*

У мікратапанімії Стаўбцоўшчыны знайшлі адлюстраванне самыя разнастайныя апелятыўныя назвы вялікіх і малых вадаёмаў: *азярына, бязодніца, воднік, возера,істочка, калюга, карыціна, крыніца, рака, ручай, рэчка, сажалка, стаялец, тонь.* Макрагідранімія амаль не адбілася ў мікратапаніміі даследуемага рэгіёна, нягледзячы на тое што ў яго межах працякаюць рр. Нёман і Сула. Гідралагічныя мікратапонімы ўтварыліся галоўным чынам на аснове мікрагідронімаў. Наогул жа гідралогія — адна з бяднейшых крыніц, якая паслужыла ўтварэнню мікратапонімаў на Стаўбцоўшчыне.

Апелятыўная лексіка, пакладзеная ў аснову названай групы мікратапонімаў, агульнабеларуская, вядомая ў большасці сваёй на ўсёй тэрыторыі. Толькі асобныя словы не выяўлены на даследуемай тэрыторыі ў якасці апелятываў: *істочка* 'крыніца'; *сцюдзянец* — ст.-бел. 'падземны калодзеж; крыніца'; *тонь* 'вадаём, прызначаны для лоўлі рыбы закідным невадам'. Не зарэгістрава-

ны і апелятыў *стаялец*, якім названа частка старога рэчышча р. Нёман, дзе амаль стаячая вада.

Апелятывы тыпу *рэчка, возера* не заўсёды трапляюць у мікратапанімію на ўзроўні агульных назваў, як гэта здаецца на першы погляд. Нярэдка ад такіх апелятываў утвараюцца гідронімы, і толькі ад такіх гідранімізаваных апелятываў утвараюцца мікратапонімы. Такім шляхам утвораны *Азярына, Возера, Рака, Рачка, Рачкі, Сажалка* і інш. Утварэнне на базе гідронімаў адбывалася па тых жа прынцыпах, што і на базе назваў іншых геаграфічных аб'ектаў: па сумежнасці, шляхам пераносу назвы з аб'екта на аб'ект на базе аб'екта папярэдніка.

7. Зак. 918

*Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене*

## З МІКРАТАПАНІМІІ ВІЦЕБШЧЫНЫ

Ніжэй змешчаныя матэрыялы былі сабраны аўтарамі ў час экспедыцыі 1974 г. у Верхнядзвінскім і Браслаўскім р-нах Віцебскай вобл. Пераважная большасць запісаных назваў адносіцца да гідронімаў, якія лакалізуюцца ў наваколлі азёр Дрывяты і Лісна.

АЗЕ'РЦЫ *мн.* Балота. Лісна В.-Дзв.

АЗЁРЦЫ *мн.* Тоня, частка воз. Лісна, што ахопліваецца невадам у час лоўлі рыбы. Лісна В.-Дзв.

АЗЯРА'ЎКІ *мн.* Роў. Валынцы В.-Дзв.

АКУНЕ'ВЕЦ, АКУНЕ'ВІЦ *м.* Возера. Лісна В.-Дзв.

АКУНЁЎКА *ж.* Тоня на воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

АЛЬСЫ' *мн.* Луг, балоты. *Альсы — гэта назва лугу, балоцістага места, асака расце, тарфянае места, кар'еры бальшыя, вада стаіць, вяска было, цяпер асушылі, на Альсах капусту садзяць, буракі. Там асака расцець. Ат Альсоў траву каровы не ядуць. Альсы цягнуцца каля ракі Дрысы.* Валынцы В.-Дзв.

АНТА'ЛЬКА *ж.* Мель, мелкая частка воз. Дрывяты. *Там неват ня ходзіць, сеткі і мярожы там ставяць.* Ахрэмаўцы Брасл.

АРЖА'ЎКА *ж.* Поле, балота. *Кар'ер там.* Валынцы В.-Дзв.

АСВЕ'ЙСКАЯ РАКА'. Рака. *Яна цячэ з асвейскага возіра ў возіра Лісна.* Лісна В.-Дзв.

АСВЕ'ЙСКАЯ ДА'ЧА. Участак мясцовага лесу. Лісна В.-Дзв.

АСТА'ШАЎСКАЕ АЗЯРКО'. Возера. Ахрэмаўцы Брасл.

АСТРАВО'К *м.* Грудок у Белых Лугах. Валынцы В.-Дзв.

АСТРО'Ў *м.* Востраў на воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

АСТРО'ЎСКАЯ Я'МА. Вір на воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

АТЛО′І *мн.* Ускраіны воз. Лісна, дрыгвяністае месца. *Каля возера такія мяста, што станеш і трасецца.* Лісна В.-Дзв.

АХРЭ′МАЎСКАЯ ЛУКА′. Затока, што прымыкае да в. Ахрэмаўцы, частка воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

БАБРО′ЎНА *н.* Возера. *Небальшоя азярцо ў наваколлі.* Лісна В.-Дзв.

БАЗЫЛІ′ *мн.* Частка поля в. Валынцы В.-Дзв.

БАЛЬШЫ′Я ЛУГІ′. Сенажаць у балоцістым месцы. Валынцы В.-Дзв.

БАРО′К *м.* Частка воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

БЕ′ЛАЕ АЗЯРО′. Возера ў наваколлі в. Лісна́ В.-Дзв.

БЕ′ЛАЕ ДАБРАМЛЁСКАЕ. Возера. Лісна В.-Дзв.

БЕ′ЛАЕ КАПЛЯРО′ВА. Возера. Лісна В.-Дзв.

БЕЛЕ′НІЦ *м.* Возера. Лісна В.-Дзв.

БЕ′ЛЬМАТСКІЯ БАЛО′ТЫ. Балоты каля Бельманты. Ахрэмаўцы Брасл.

БУЗЯ′НКА *ж.* Балота. *Там мелкая азяро было ў наваколлі.* Лісна В.-Дзв.

БЫ′ЦІНСКАЯ ТО′НЯ. Частка воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

БЫ′ЦІНСКАЯ РЭ′ЧКА. Рэчка. *Яна цячэ каля дзярэўні Быцені.* Лісна В.-Дзв.

БЫ′ЦІНЬ *ж.* Балота. *Там недалёка дзярэўня Валясы.* Лісна В.-Дзв.

БЯРО′ЗАЎКА *ж.* Рэчка. *Цячэ недалёка ад дзярэўні Колбычына.* Лісна В.-Дзв.

БЯРО′ЗКІ, БЯРО′СКІ *мн.* Поле і сенажаць. *Пад Бяроскамі касілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВАРО′ТНЯЯ ТОНЬ. Частка воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

ВАСЬКО′ЎСКІЯ ЛУГІ′. Сенажаці і поле. *Там была вёска.* Валынцы В.-Дзв.

ВУ′РШЧЫНА *ж.* Частка поля в. Валынцы В.-Дзв.

ВУ′ШЫНА *ж.* Частка поля. Ахрэмаўцы Брасл.

ВУ′ШЫНСКІ АСТРОЎ. Востраў на воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

ГАРАВА′Я *ж.* Лес. *Там горы, лес на гарах.* Лісна В.-Дзв.

ГАРАДЗЕ′Ц *м.* Гара каля Асвеі. Лісна В.-Дзв.

ГАРБІ′НЕЦ *м.* Возера ў наваколлі в. Лісна В.-Дзв.

ГАРБЫ′ *мн.* Лес. *Там узгоркі зарошшы сасоннікам.* Валынцы В.-Дзв.

ГАРЭ'ЛАЕ БАЛО'ТА. Балота ў наваколлі в. Валынцы В.-Дзв.

ГАШЭ'ВІЦА *ж.* Тоня на воз. Лісна, луг і лес. Лісна В.-Дзв.

ГЛУБО'КАЕ *н.* Возера. Лісна В.-Дзв.

ГЛУШАНО'К *м.* Возера. Ахрэмаўцы Брасл.

ГРАБЁЛ, ГРЫБЁЛ *м.* Лес. *На Грыбле грыбы растуць.* Лісна В.-Дзв.

ДЗЕ'МЯ *н.* Возера. Лісна В.-Дзв.

ДЗЕМЯ'НІЦА *ж.* Рэчка. *Дземяніца цячэць з возера Дземя.* Дзісна В.-Дзв.

ДЗІКА'Я ГРАСЬ. Тоня, рыбалавецкі ўчастак воз. Дрывяты. *Там неват ходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗІРА'ЖНА *н.* Возера. Лісна В.-Дзв.

ДЗЯНІ'СІНСКАЯ ЛУКА'. Затока воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

ДРУ'ЙКА *ж.* Рэчка. *Друйка цячэ з Дрывяты ў Друю, а Друя — у Дзвіну.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДУБО'К *м.* Тоня на воз. Дрывяты. *Там неват ходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДУ'БСКІ (ДУ'ПСКІ) АСТРО'Ў. Востраў на воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

ДУКЕ'ЛЬСКАЯ ЛУКА'. Затока воз. Дрывяты. *Там дзярэўня Дукелі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДУКЕ'ЛЬСКАЯ РАКА'. Рэчка каля в. Дукелі. *Цячэ ў Дрывята.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДУКЕ'ЛЬСКІ ЛУХ *м.* Сенажаць. Ахрэмаўцы Брасл.

ДУКЕ'ЛЬСКІЯ БАЛО'ТЫ. Балоты каля в. Дукелі. Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАЛУ'ЦКАЯ ГАРА'. Лес і гара, зарослая лесам. *Залуцкая гара каля дзярэўні Залучча.* Лісна В.-Дзв.

ЗАПУ'ТНАЯ ДАРО'ГА. Дарога праз мясцовы лес. Лісна В.-Дзв.

ЗО'ЛЬВІЦА *ж.* Рэчка. *Цячэ ў Дрывяту.* Ахрэмаўцы Брасл.

ІЗУ'БРЫЦКАЕ АЗЯРКО'. Возера ў наваколлі в. Лісна В.-Дзв.

ІЗУ'БРЫЦКАЯ РЭ'ЧКА//ІЗУ'БРЫЦА *ж.* Рэчка. *Цячэць у Бузянку.* Лісна В.-Дзв.

ІМШАНО'Е *н.* Балота ў навакольным лесе. Лісна В.-Дзв.

ІМША'НСКАЯ ТО'НЯ. Частка воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

КАБЫ'ЛЬНІЦЫ *мн.* Гара ў лесе. Лісна В.-Дзв.

КАЛО'ДА *ж.* Балота. *Можа там былі калоды. Там лес і балоцістая места.* Лісна В.-Дзв.

КАНЧА'НСКАЯ ВО'ЗІРА. Возера каля в. Канчані пад Асвею. Лісна В.-Дзв.

КЛЮЧО'К *м.* Крыніца. Лісна В.-Дзв.

КРУШЫ'НКА *ж.* Лес, лужок і азярко. Лісна В.-Дзв.

КУ'ДРА *ж.* Частка поля. *У Кудры убіралі авёс.* Лісна В.-Дзв.

КУПЧЫ'ХА *ж.* Гара. *Там купец быў дачу пастроіўшы.* Лісна В.-Дзв.

ЛАМАВА'Я ТО'НЯ. Частка воз. Лісна. *Можа там лом быў?* Лісна В.-Дзв.

ЛЕ'ДЗІШКІ *мн.* Частка воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

ЛІСІ'ЧЧА ГАРА'. Гара ў наваколлі в. Валынцы В.-Дзв.

ЛІСЦЕ'НСКАЯ ЛУКА'. Частка воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

ЛО'ННА *ж.* Рака і возера. *Рака цячэць у Сволну.* Лісна В.-Дзв.

ЛУНЦ'ОЎ РОЎ. Роў у наваколлі в. Валынцы В.-Дзв.

МАЛІ'НАЎСКІЯ ЛУГІ'. Сенажаць. Валынцы В.-Дзв.

МА'ЛКА *ж.* Частка воз. Дрывяты, тоня. Ахрэмаўцы Брасл.

МАЛЫ'Я ЛУГІ'. Сенажаць. Валынцы В.-Дзв.

МАРЭ'НІЦКАЕ АЗЯРКО'. Возера ў наваколлі в. Ахрэмаўцы Брасл.

МЕ'БЕЛЬНІЦА *ж.* Рэчка. *Мебельніца цячэць у Дрывяту.* Ахрэмаўцы Брасл.

МЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Ручай. *Са Страднага (возера) цячэць у Сволна.* Лісна В.-Дзв.

МІ'КЛІНСКАЕ АЗЯРКО'. Возера. *Яно — каля дзярэўні Міклінкі.* Лісна В.-Дзв.

МХАВО'Е ПЕ'РВАЕ і МХАВО'Е ДРУГО'Е. Два возеры ў наваколлі в. Лісна В.-Дзв.

МЫ'ЛЕНСКАЯ Я'МА. Вір. *Там дзесяць метраў глыбіні.* Лісна В.-Дзв.

НА'ЛЛЯ *ж.* Тоня, частка воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

НЕ'ЧАРЫЦА *ж.* Рака. *Яна ідзець з Себіжскіх азёр.* Лісна В.-Дзв.

НІ'ШЧА *ж.* Рака. *Яна упадаіць у Дрысу.* Валынцы В.-Дзв.

ПАГРАБЫ′ *мн.* Мель. *Паграбы — на адзін мэтр глыбіні.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАД ДУБА′МІ. Поле, сенажаць. Ахрэмаўцы Брасл.

ПАД ІГРУ′ШЫНУ. Поле. Валынцы В.-Дзв.

ПАД КА′МІН. Тоня на воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

ПАД КАНА′ВУ. Тоня, частка воз. Лісна. *Я на ей быў парадашна улавіўшы.* Лісна В.-Дзв.

ПАЛАВІ′НКІ *мн.* Лес. *Кажуць, што там калі-та два мальцы разарвалі дзяўчыну, яны яе любілі і залажыліся, хто первы дабяжыць, таму і дзеўка, але дабеглі у адно ўремя і адзін цягнуў сабе, а другі сабе — і разарвалі дзяўчыну. Там накапаны бугор і лес, вырашшы на сопцы.* Лісна В.-Дзв.

ПАПО′ЎСКІЯ ЛУГІ′. Сенажаць. *На Папоўскіх лугах яшчэ мой дзед касіў сена.* Валынцы В.-Дзв.

ПЕРАВУ′ЗІНА *ж.* Месца звужэння воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

ПЕ′РВАЯ ПЛЁСА. Цэнтральная частка воз. Лісна. Лісна В.-Дзв.

ПІСКАВА′ТКА *ж.* Балота і лясок. Лісна В.-Дзв.

ПЛАЦІ′ЧЫНА *н.* Возера. Лісна В.-Дзв.

ПЛЁСА *н.* Центральная частка воз. Дрывяты, акрамя лукаў. Ахрэмаўцы Брасл.

ПЛІНТО′ЎКІ *мн.* Поле. *Там хутар быў, цяпер поле.* Валынцы В.-Дзв.

ПРАВАРНО′Е АЗЯРКО′. Возера. Ахрэмаўцы Брасл.

ПРАРЫ′ЎНІКІ *мн.* Участак навакольнага лесу. *Там гара прарыта, як дарогу пракладалі.* Лісна В.-Дзв.

ПРУ′ДЗІКІ *мн.* Невялікія вадаёмы. *Даўней там рыба была.* Валынцы В.-Дзв.

ПРУДО′К *м.* Балота. *У Прутку пасуцца каровы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЯРЭ′ВАЛАКА *ж.* Сенажаць. *На Пярэвалаках касілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЯЦІМАСТЫ′ *мн.* Участак лесу. *Там ідзець дарога, мосцікі падзеланы.* Лісна В.-Дзв.

РАГА′Ч *м.* Рэчка. *Цячэць у Асташэўская азярко.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАЗЕ′ЦКАЯ ЛУКА′. Затока воз. Дрывяты. *Озіра Дрывята пабіта на лукі.* Ахрэмаўцы Брасл.

РАЗЕ′ЦКІЯ БАЛО′ТЫ. Балоты. Ахрэмаўцы Брасл.

РА′ЦКІ МОСТ. Рэчка і мост праз яе. Ахрэмаўцы Брасл.

РОГ НА ПЯСКУ'. Частка воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

РЭ'ВУТАЎ РОХ. Возера каля в. Мылінкі. Лісна В.-Дзв.

СВЯТО'Я АЗЁРКА. Возера. *Яно у лясу, кругом горы. Кажуць, што там цэрква правалілася.* Лісна В.-Дзв.

СІ'ТНАЯ ТО'НЯ. Частка воз. Лісна. *Там Мыліцкі бераг.* Лісна В.-Дзв.

СНАПО'ЎСКІЯ ЛУГІ'. Поле. Валынцы В.-Дзв.

СРЭ'ДНЯЯ АТО'КА. Поле каля р. Дрыса. Валынцы В.-Дзв.

СТАДУНІ'ЦА *ж.* Рэчка. *Цячэць са Страдзінскага возіра у Бузянку.* Лісна В.-Дзв.

СТАШУЛЁВА *н.* Навакольнае балота. *Там торф, ніское места.* Валынцы В.-Дзв.

СТАШУ'ЛІВА ГАРА'. Горка. Валынцы В.-Дзв.

СТРА'ДНА *н.* Возера. Лісна В.-Дзв.

СТРАЛКО'ЎСКАЯ О'ЗІРА. Возера. Лісна В.-Дзв.

СТРЭ'ШНА *н.* Возера. Лісна В.-Дзв.

СТУЧКО'Ў РУЧАЁК. Рэчка. Лісна В.-Дзв.

СЫР'Я'НКА *ж.* Рэчка. *Цячэць каля дзярэўні Савейкі у Дзвіну.* Лісна В.-Дзв.

ТО'НІ *мн.* Частка воз. Дрывяты. Ахрэмаўцы Брасл.

ТУР'Я' *ж.* Рэчка. *Яна цячэць у Сар'янку.* Лісна В.-Дзв.

ТУЧО'К БО'ЛЬШЫ і ТУЧО'К МЕ'НШЫ. Два возеры. Лісна В.-Дзв.

УЗЕ'РАЎКА *ж.* Частка поля. *Там быў хутар.* Валынцы В.-Дзв.

У'СВІЦА, УСЬВІЦА *ж.* Рэчка. *Цячэць у Дрывяту.* Ахрэмаўцы Брасл.

УСТРУ'ГАВІНА ПЕ'РВАЯ і УСТРУ'ГАВІНА ДРУГА'Я. Астраўкі сярод балота. *Нашла ягат на первай Устругавіні.* Лісна В.-Дзв.

ЦАГЕ'ЛЬНЯ *ж.* Частка поля. Ахрэмаўцы Брасл.

ЦЫГЯЛЬНЁВЫЯ ПЯРЭ'ЧКІ. Поле. Ахрэмаўцы Брасл.

ЦЯ'ТНА *н.* Возера. *Там была дзярэўня, ды нет.* Лісна В.-Дзв.

ЧАРНЯЯ' *ж.* Рэчка, возера (?). Лісна В.-Дзв.

ЧО'РНАЯ АТО'КА. Ставы, сажалка. *Чорная Атока на лугах, там лён мачылі, кругом алешнік, лаза, рыба атраўлялася ат лёну.* Валынцы В.-Дзв.

ЧО'РНЕНЬКАЯ *н.* Возера. Лісна В.-Дзв.

ЧУПУРО'ЎКА БАЛЬША'Я і ЧУПУРО'ЎКА МАЛА'Я. Дзве горкі. *Гэтыя горкі патходзяць к балоту, там і лес сасновы і яловы, гэта туды, пад Латвію.* Лісна В.-Дзв.

ЧЫ'СТЫ МОХ. Вялікае балота. Лісна В.-Дзв.

ШАКІ' *мн.* Балота. Ахрэмаўцы Брасл.

ШАЛТЭ'ЙСКІ РУЧЭ'Й. Рэчка. *Цячэць у Дрывяту.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЧУ'ЧАНІН ДРУГІ'. Возера. Лісна В.-Дзв.

ЮХАЎСКАЯ ДАЧА//У ЮХАВІЧ ДАЧА. Участак лесу. Лісна В.-Дзв.

*І. М. Гайдукевіч*

## МІКРАТАПОНІМЫ ВЁСКІ ЛЮБОНІЧЫ

Змешчаныя тут мікратапонімы запісаны ў розны час у в. Любонічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. Гаворка яе ў сваіх асноўных рысах сярэднебеларуская.

АЛЬШАНКА *ж.* Мясцовая назва р. Ольса.

АНІСЬКАВА ГРАДА. Узвышанае месца сярод лугу, паросшае дубняком, арэшнікам. *Хадзілі ў арахе аш у Аніськаву граду.*

АСАКОЎШШЫНА *ж.* Сенажаць пры ўпадзенні Альшанкі ў Бярэзіну.

БАРЫСАЎКА *ж.* Частка вёскі. *На Барысаўцы тады жыла ўсяго адна ці дзве сям'і.*

БОБРЫКАВА ЛЯДА. Невялікая паляна ў лесе, дзе некалі Бобрык (мянушка) сеяў жыта.

БРАТКЕ *мн.* Лясное ўрочышча з некалькімі балотамі і пераходамі (брадамі) цераз іх. *Насек сухастою ў Браткох. Пагнаў кароў у Братке.*

БРОТ *м.* Неглыбокае месца з цвёрдым дном у рэчцы, цераз якое пераганяюць кароў, коней. *Мы вучыліся плаваць у Браду.*

БЯЛЯК *м.* Возера ў *Сваім лузе.*

ВАСЬКАВА ДЗЯСЯЦІНА. Сенажаць, якая названа па імені ранейшага яе ўладальніка.

ВОСТРАЎ *м.* Узвышаны ўчастак лугу паміж старым і новым руслам Бярэзіны.

ВУЖАРЭ *мн.* Частка сенажаці ў *Сваім лузе. Пачалі касіць на Вужарох.*

ВУЖОВІНЫ *мн.* Частка сенажаці ў *Дзясяцінах. У Вужовінах ішшэ там-сям стаіць вада.*

ВЫСПА *ж.* Другая назва ўрочышча *Востраў.*

ВЯЛІКАЕ БАЛОТА. Даволі значнае па тэрыторыі балота з куп'ем і рэдкім хвойнікам. *Пасярот Вялікага балота можа ёсь і ваўке.*

ГАЛАВАЧОЎ МУРОХ. Другая назва ўрочышча *Васькава дзясяціна.*

ГРАДА *ж.* Узвышанае месца ў *Наваліщчах* і ў *Сваім лузе. Коняй пяраганялі цярас пойму на Граду.*

ДАНІЛАВА ПАЛЯНКА. Невялікая палянка ў лесе пры дарозе. *На Данілавай палянцы красак...аш жоўтая уся.*

ДАНІЛКАВА КАЦЬВІНА. Азярцо ў Дзясяцінах з берагамі, заросшымі хмызняком. *Вот шшук у Данілкавай кацьвіні!.. Прыгаюць цярас крыгу, як сабакі.*

ДВОРЫШШЫ *мн.* Участак пасаджанага густога хвойніку ў лесе. *Вайке выюць, мусіць, у Дворышшах.*

ДЗЕДАВА ГРАДА. Крыху ўзвышанае месца ў лесе паміж балот па дарозе з *Мастоў* на *Любін бор.*

ДЗЯЛЯНКА *ж.* Сенажаць, належыць лясніцтву, размешчана ў нешырокай пойме рэчкі сярод лесу. *Паслалі лён у Дзялянцы.*

ДЗЯСЯЦІНЫ *мн.* Вялікі заліўны луг паміж Альшанкай і Бярэзінай, належаў раней некалькім вёскам.

ДУЛІНЭ *мн.* Нізкае месца ў лесе, з ягаднікам, крыху забалочанае. *Хадзілі ў ягады на Дулінэ.*

ЖУДРЫНА БАЛОТА. Невялікае круглае балота ў лесе каля дарогі з куп'ем і хвойкамі.

ЗА БРАТКАМІ. Лес. *За Браткамі, як павязе, то можна грыбоў набраць.*

ЗАГРЭБЯЛЬКА *ж.* Раней поле, а цяпер малады хвойнік за рэчкай. *Прывёз снапэ з Загрэбялькі.*

ЗА ПРОШШАЙ. Лес за лясной царквой (прошчай).

ЗАСПА *ж.* Частка лугу з невялікім паўкруглым вадаёмам каля Бярэзіны. *У Заспі багата куп'я.*

ЗА ЦЭРКВАЙ. Поле. *Сабіраліся сеяць За цэрквай.*

ЗМІТРАЎСКІЯ *мн.* Участак сенажаці каля вёскі. *Пасціў каня на Змітраўскіх.*

ЗМЯЁЎКА *ж.* Груд на лузе каля Бярэзіны, дзе расце рэдкая трава.

КАЗІНАЯ ГАРА. Ускраек лесу. *Даўней на Казінай гары стаяла вісокая хвоя з поткурам.*

КАЛОВАРАТ *м.* Месца каля выезду з вёскі, дзе раней былі вароты (калаварот). *Яны жывуць у Каловараці.*

КАЛЯ КАМЯНЯ. Грыбное месца ў лесе. *Каля камяня, калі ні прыдзяш, хоць нескалькі баравікоў да возмяш.*

КАЛЯ ЛІНЯІ. Грыбное месца ў лесе ўздоўж пракапанай старой лініі.

КАЛЯ РАЗНІЦЫ. Месца, дзе калісьці была разніца. *Добрая трава парасла Каля разніцы.*

КАЛЯ САЛАТОПКІ. Ускраіна лесу, дзе даўней у спецыяльным будынку вытаплівалі тлушч.

КАНАВА *ж.* Месца на лузе каля старой канавы. *Хадзілі с таптухамі аш у Канаву і за Канавай былі.*

КРУГЛЯНЬКАЯ БАЛОЦЦА. Балотца акруглай формы ў лесе.

КУЗЬМІЦКАЯ *н.* Невялікае лугавое возера і луг вакол гэтага возера. *Касілі атаву на Кузьміцкам.*

ЛУГАВАЯ ДАРОГА. Дарога праз лес, якая вядзе з вёскі ў Свой луг.

ЛУШКЕ *мн.* Частка сенажаці ад лесу да *Грады* ў *Сваім лузе. На Лушках іншэ ні пяройдзяш, кругом вада.*

ЛЮБІН БОР. Лес паміж балотам і лугам. *Хадзілі ў ягады аш на Любін бор.*

ЛЮБІНСКАЯ СЦЕШКА. Сцежка цераз балота на Любін бор.

МАСТЭ *мн.* Забалочаная дарога з некалькімі прымітыўнымі масткамі і кладкамі, а таксама прымыкаючыя да яе лес і балоты. *Еззіў у Мастэ, накасіў там трохі ў балоці.*

МАШОК *м.* Поле вакол забалочанай мясціны. *Араў у Машку. Прыехаў з Машка.*

МУРАШКЕ *мн.* Нізіна за агародамі ўздоўж рачулкі. *На Мурашкох даўней коні грузлі.*

МУРОХ *м.* Сенажаць недалёка ад вёскі. *Прывязлі сена з Мурага.*

МЫШЫНЫ БАРОК. Узвышанае месца ў Дзясяцінах, паросшае хвойнікам і дубняком.

МЯТНАЯ *н.* Прадаўгаватае лугавое возера. *У Мятнам с крыгай ні вельмі то паловіш — то сітняк, то разак.*

НАВАЛІШШЫ *мн.* Луг і ўскраіна лесу каля яго. *У Навалішах пасля вайны усё пазарастала лазой.*

НАВАЛІСКАЯ ДАРОГА. Дарога праз лес з вёскі ў Навалішчы.

НА ВЫХАДЗІ. Месца, дзе Альшанка ўпадае ў Бярэзіну. *Круцілі лазу На выхадзі.*

НА КУП'Я. Дарога цераз балота з куп'ем. *За Братке можна папасці і На куп'я.*

НОВЫ КАЛОДЗІШАК. Месца, недалёка ад прошчы, дзе раней быў невялікі калодзеж.

НОНЧАВЫ ДЗЯСЯЦІНЫ. Балота ў Брадках, па-росшае дзікай асакой. Назва паходзіць ад мянушкі.

ПАГОНЫ *мн.* Участак лесу са шматлікімі сцежкамі, пратаптанымі каровамі ў напрамку да лугу.

ПАД ГУТА. *Ужываецца часцей ва ўскосных склонах.* Невялікая сенажаць уздоўж рэчкі ў напрамку вёскі Гуты. *Пасціў каня Пад Гутай. Панесла паласкаць Пад Гуту.*

ПАД НАВАЛІШШАМІ. Лес каля Навалішчаў. *Ёсь Пад Навалішшамі балоцяйка ж журавінамі.*

ПАЖАРОК *м.* Месца ў лесе на былым пажарышчы. *Вот на Пажарку растуць баравіке.*

ПАНЬКАЎ РОХ. Кавалак лугу ў выгібе Бярэзіны.

ПАПОЎ МУРОХ. Сенажаць, якая раней належала папу.

ПАТ ПРОШШАЙ. Лес перад прошчай. *Пат прошшай у хвойніку багата махавікоў.*

ПАТ СМАЛЯРНЯЙ. Месца ў лесе перад смалярняй. *Капалі карчэ Пат смалярняй.*

ПАТ СЯРГЕІЧАМІ. Поле недалёка ад в. Сяргеевічы. *Ішшэ трэба пасеяць Пат Сяргеічамі.*

ПІТОЎНІК *м.* Невялікі малады лес сярод поля на месцы, дзе раней вырошчваліся саджанцы розных дрэў.

ПРАШШАВОЯ БАЛОТА. Лясное балота перад прошчай. *У Прашшавом балоці падняўся ўжэ чарнагалоў.*

ПРАШШАВЫ ХВОЙНІК. Малады лес каля прошчы на месцы былога хвойніку. *У Прашшавым хвойніку даўней было ні пралессі — такі густы быў.*

ПРОРВА *ж.* Глыбокі вадаём на месцы размытай грэблі ў Навалішчах. *У Прорві рыба ёсь, але нешта ні ловіцца.*

РАДЗІШАВА *н.* Вялікі ўчастак лугу каля Бярэзіны. Паходжанне назвы не высветлена. *У Радзішаві добры мурох расце.*

РЫБАЦКАЯ ГРАТКА. Невялікая гара на лузе, на якой даўней рыбакі сушылі свае сеці ў час вясновай паводкі.

РЭЧКА *ж.* Забалочаны алешнік каля невялікай рэчкі. *Нарвала гусак свінням у Рэццы.*

СВОЙ ЛУХ. Участак сенажаці, які належаў раней в. Любонічы і размяшчаўся паміж участкамі іншых вёсак.

СКУПАВА *н.* Лугавое возера. *У Скупаві мочаць лён, і там на нне багата калот і другога ламачча.*

СТАРЫ КАЛОДЗІШАК. Месца ў лесе, дзе раней быў невялікі калодзеж. *Ат калодзішка там асталася цяпер толькі ямка.*

СЯРГЕІЦКАЯ ДАРОГА. Лясная дарога, якая вядзе з лугу ў в. Сяргеевічы.

СЯРГЕІЦКАЯ *н.* Луг, які належаў раней в. Сяргеевічы. *Бачыш, сколькі наставілі стагоў на Сяргеіцкам!*

У ГАРШКУ. Сенажаць каля выгібу Бярэзіны, дзе ў глыбокім віры круціць ваду, як у гаршку. *Касілі У гаршку.*

УЗБАРОЦКАЯ *н.* Ускраек лесу каля лугу з возерам. *На Узбароцкам даўней жыта сеялі і проса, а на возяры лес вязалі да сплаўлялі.*

УЛАСАВІЦКАЯ *н.* Сенажаць, якая раней належала в. Уласавічы. *Касілі на Уласавіцкам.*

УЛАСАВІЦКАЯ БАЛОТА. Невялікае балота ў лесе каля дарогі, якая вядзе з Уласавіч на луг.

У СЕРАДУ НА ВЯЛІКАННЯ. Паросшая травой нізінка каля *Вялікага балота.* Назва жартаўлівая.

ХУТАР *м.* Частка вёскі (з канца). *Даўней на Хутары што нядзеля, то і вячарынка.*

ЦАПЯНІК *м.* Некалькі гектараў дубовага лесу з арэшнікам сярод поля. Паходжанне назвы не высветлена.

ЦЕЙКІЦКІЯ *мн.* Сенажаць, якая раней належала в. Цейкавічы.

ЦЯРАБЕШ *м.* Другая назва ўрочышча *Мурох.*

ЦЯРАБЯЖЭ *мн.* Невялікія ўчасткі сенажаці на месцы расцярэбленага хмызняку ў Мастах.

ШВЭЦКАЯ *н.* Сенажаць, якая раней належала жыхарам іншай вёскі — швэдам (так іх празываюць). *На Швэцкам ужэ пакасілі.*

ЯКШЫЦА *ж.* Вялікае лугавое возера ў Дзясяцінах. Паходжанне назвы не высветлена.

ЯМНАЯ ВОЗЯРА. Доўгае возера на лузе за Градой.

ЯМНЫ БРОТ. Невялікі вадаём, які аддзелены ад Ямнага возера дарогай.

*В. Л. Вярэніч, А. Р. Янкоўскі*

## БЫЛЫЯ ТАТАРСКІЯ ВЁСКІ КЯНА І КАСІНА (ГІСТОРЫКА-АНАМАСТЫЧНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ)

Аб'ектам даследавання ў гэтым артыкуле з'яўляецца анамастыка дзвюх татарскіх па паходжанню вёсак Кяна і Касіна, якія размешчаны ў 25—29 км на ўсход ад Вільнюса. Адміністрацыйна яны адносяцца да Кавальчуцкага (Кальвяляйскага) с/с Вільнюскага р-на ЛітССР. Насельніцтва абедзвюх вёсак прылічвалася ў мінулым да прыгонных сялян. Як сведчаць архіўныя дакументы [1], уладальнікамі гэтых зямель у 1605 г. былі памешчыкі татарскага паходжання з роду Найманаў Касімовічы-Кенскія. Пасля заснавання ў Вільні ордэна паненак бернардынак святаміхальскіх, у пачатку XVII ст., вялікі канцлер Леў Сапега аддаў Кяну, Касіну і некаторыя іншыя сяленні са свайго Лаварышскага староства ў прыгон манашкам. З таго часу вёскі атрымалі дадатковую назву: Кяна Паненская і Касіна Паненская.

На падставе царскага ўказа 1841 г. усе манастырскія землі і фонды перайшлі ва ўладанне дзяржаўнай казны, а прыгонныя сяляне былых манастырскіх вёсак былі залічаны ў склад казённых. Пасля адмены прыгоннага права і правядзення люстрацыі (1864—1869) жыхары названых вёсак атрымалі зямельныя надзелы з Кенскага двара. У Кяне Паненскай такі надзел складаў 5 валок, а ў Касіне Паненскай — 6 валок (па 30 га ў кожнай) пясчанай, гарыстай і камяністай зямлі. Паколькі сем'і былі вялікія, то ў выніку падзелаў атрыманыя ўчасткі хутка драбіліся на *шастакі* і *васьмакі*.

Людзі жылі бедна. Курныя хаты сустракаліся тут да 1927 г. Не хапала хлеба, таму часта дамешвалі да яго мякіну і называлі *барло́вым*. Праўда, касінчукі і кенчукі лепш за ўсё ўмелі вырошчваць грэчку *(тата́рку)*, якую сеялі вузенькімі ў 3—4 баразны загончыкамі. Збі-

[1] Leon Kryczyński. Dobra Łostajskie (1600—1759). Wilno, 1930, стар. 12.

ралі яе жанчыны, поўзаючы на каленях: рвалі рукамі, сярпом абразалі карэнне і ставілі ў малыя кучкі на загоне. Улетку збіранне шчаўя, ягад і грыбоў, а зімою невялікія выпадковыя заработкі на лесараспрацоўках ледзь дазвалялі звесці канцы з канцамі ў нялёгкім сялянскім жыцці. Амаль усё насельніцтва было непісьменным, бо да рэвалюцыі бліжэйшыя пачатковыя школы ў Лаварышках і Шумску знаходзіліся на адлегласці 7—9 км і таму ніхто іх не наведваў. Пры буржуазнай Польшчы ў Кяне функцыяніравала аднакамплектная пачатковая школа, якая размяшчалася ў пакоі звычайнай сялянскай хаты.

За пасляваенныя гады ўсё тут змянілася на лепшае. Пабудавана васьмігадовая школа і клуб. Зніклі старыя хаты з саламянымі стрэхамі, а на іх месцы з'явіліся новыя прыгожыя будынкі, пакрытыя чарапіцай або шыферам, з прасторнымі пакоямі, фарбаванымі падлогамі, сучаснай мэбляй, радыёпрыёмнікамі, тэлевізарамі, халадзільнікамі. Людзі жывуць заможна, апранаюцца модна. Значная частка мужчын і моладзі працуе на прадпрыемствах Вільнюса, на брыкетным заводзе ў суседніх Кавальчуках, усе астатнія — у мясцовым калгасе «Ленінскі шлях». Цяпер у Кяне налічваецца звыш 50 дамоў і пражывае каля 280 чалавек, у Касіне — 54 дамы і 246 чалавек насельніцтва.

Кенчукі і касінчукі, як іх тут называюць, амаль нічым не адрозніваюцца ад жыхароў навакольных вёсак [2]. Хіба толькі пераважна сярэдні рост, цёмныя вочы ды шыракаскулы твар могуць часамі сведчыць пра асобы антрапалагічны тып гэтых людзей. Аднак ніхто з іх не суадносіць сябе з татарамі, усе лічацца «тутэйшымі — польскай веры». Дома, у сваёй вёсцы, яны размаўляюць паміж сабою толькі *па-просту,* г. зн. па-беларуску. У касцёле ж моляцца па-польску, і з прычыны рэлігійнай прыналежнасці ў дакументах пішуцца палякамі [3]. Пры знешніх кантактах тут карыстаюцца рускай мовай, якая з'яўляецца афіцыйнай у мясцовай адміністрацыі

---

[2] Па нязначных моўных асаблівасцях (*А чагá ты хочыш? Гэсь цябé гарýчка! Гэсь цябé халéрыя!*) суседзі празываюць іх *касінскія* (ці *кéнскія*) «*чагакí*», «*гарýчкі*» або «*халéрыі*».

[3] Пра пачуццё польскай нацыянальнай прыналежнасці можа сведчыць той факт, што ў 1946—1956 гг. рэпатрыіравалася ў ПНР 12 сем'яў з Касіны і 7 — з Кяны.

паўднёва-ўсходніх раёнаў ЛітССР, дзе пражывае змешанае насельніцтва. Сярод малодшага пакалення паступова пашыраецца таксама веданне літоўскай мовы, якую побач з польскай і рускай мовамі вывучаюць у мясцовых школах.

Аналізуючы моўную сітуацыю, трэба адзначыць, што літуанізацыйны ўплыў у даследуемых вёсках застаецца мінімальным. Не паспела як след замацавацца тут ва ўжыванні і польская мова, сацыяльная база якой усё больш звужаецца ў сувязі з рэзкім памяншэннем уплыву каталіцкай царквы. *Простая* (беларуская дыялектная) мова па-ранейшаму «трымаецца пакуль што вёскі і зямліцы», жыве ў багатай песеннай, фальклорнай і анамастычнай традыцыі. Аднак і яна страчвае паступова свае колішнія пазіцыі, бо, бытуючы толькі ў дыялектнай форме, не можа ўжо ў час усеагульнай пісьменнасці канкурыраваць з літаратурнымі мовамі, тым больш што і носьбіты яе не адчуваюць якіх-небудзь эмацыянальных сувязей з беларускай нацыяй.

Як паказваюць нашы назіранні, ва ўмовах полілінгвізму пры выразнай неакрэсленасці і аморфнасці нацыянальных пачуццяў і традыцый у прадстаўнікоў паасобных этнічных груп найбольшыя шансы распаўсюджання мае мова, якая на дадзеным этапе выконвае функцыі інтэрдыялекту. Вось чаму ў пасляваенны перыяд у Кяне і Касіне прыкметна заўважаецца пашырэнне ўплыву рускай мовы. Пасля дэмабілізацыі з арміі мясцовыя юнакі стараюцца ўжо размаўляць па-руску, а тыя, што ідуць працаваць на прадпрыемствы Вільнюса, дзяцей сваіх пасылаюць вучыцца ў рускія школы.

Жыхарам абедзвюх вёсак нічога не вядома пра іх мінулае. Аднак з матэрыялаў, прыведзеных М. Тухан-Барано ўскім у яго даследаванні пра літоўскіх мусліман[4], можна меркаваць, што Кяна і Касіна былі заселены нагайцамі, якія падпарадкоўваліся татарскаму князю Кан-Баян-Кенскаму. З прычыны нізкага сацыяльнага статуса і даволі ранняй каталізацыі нагайцы хутка асіміляваліся з мясцовым насельніцтвам. Гэтым, відаць, і тлумачыцца той факт, што Кяна і Касіна рэдка ўпа-

[4] O Muślimach Litewskich. Z notat i przekładów litewskiego Tatara Macieja Tuhana-Baranowskiego. Wydawnictwo pośmiertne Antoniego Krumana. Warszawa, 1869.

мінаюцца ў спісках татарскіх пасяленняў Літвы і Беларусі.

Татарская каланізацыя на землях Вялікага княства Літоўскага пачалася з часоў Вітаўта[5]. Першымі пасяленцамі і былі якраз нагайцы, якіх у 1397 г. вялікі князь узяў у палон над Донам і ў Прыазоўі. Пазней, пасля Грунвальдскай бітвы, дзе прымала ўдзел каля 40 тыс. татар, частка іх засталася ў Літве. Князь Вітаўт жаніў татарскіх воінаў з літвінкамі і надзяляў зямлёю ўзамен на абавязак нясення ваеннай службы. Так узніклі ваенныя татарскія пасяленні ў Прынямонні і ў наваколлях Вільнюса. Паводле Ф. К. Дабранскага, у межах Паўночна-Заходняга краю царскай Расіі налічвалася да 20 магаметанскіх прыходаў: у Вільні, Сорак-Татарах, Немежы, Відзах, Некрашунах, Даўбушышках, Райжэве, Мінску, Ігумене, Слоніме і ў іншых месцах[6]. Л. Крычынскі прыводзіць у сваёй працы каля сотні татарскіх пасяленняў у Літве, Беларусі, на Валыні і Падоллі[7].

Татары ў Вялікім княстве Літоўскім дзяліліся на тры саслоўі. Да вышэйшага саслоўя адносіліся роўныя ў правах з літоўскай шляхтай бекі і эмірзы, якіх вялікія князі і польскія каралі надзялялі маёнткамі. Сярэдняе саслоўе прадстаўлялі мусульмане заволжскіх плямён, якія падобна літоўскай шляхце вызваляліся ад усялякіх падаткаў. Трэцяе саслоўе складалася з людзей нагайскага паходжання, якія адрозніваліся ад іншых пражываючых у Літве муслімаў сваім знешнім выглядам, моваю і адзеннем.

У большасці гэта былі ваеннапалонныя або перабежчыкі з часоў палітычных пераваротаў у Кіпчацкім і Крымскім ханствах, у склад якіх уваходзілі іх орды. Князь Вітаўт пасяляў татар у літоўскіх гарадах і мястэчках, а некаторых з іх надзяляў зямлёю. Гэтыя пасяленцы займаліся гандлем і рамяством, фурманавалі, працавалі ў сельскай гаспадарцы. Ваенную службу адбывалі яны ў казацкіх часцях пры двары вялікага князя і іншых знатных паноў. Такіх казакоў было ў той час каля 5 тыс.

---

[5] Henryk Łowmiański. Witold Wielki książę Litewski. Wilno, 1930.

[6] Ф. К. Добрянскій. О литовскихъ татарахъ. Вильна, 1906.

[7] Leon Kryczyński. Dobra Łostajskie, стар. 9—36.

Ажаніўшыся з літвінкамі або полькамі, татары прымалі родавыя прозвішчы сваіх жонак, дадаючы іх да ўласных прозвішчаў. Так, *Найман-бек,* ажаніўшыся з дачкою літоўскага баярына *Алешкі,* прыняў прозвішча *Аляшкевіч.* Потым ад надзеленага маёнтку Крычын яго нашчадкі пачалі называцца *Крычынскімі,* што дало ў выніку складнае прозвішча *Найман-бек-Аляшкевіч-Крычынскі* [8]. З цягам часу, асабліва пасля ўвядзення хрысціянства ў Літве, у метрыках пачалі адкідаць татарскую частку складанага прозвішча, пакідаючы толькі славянскую або літоўскую частку: *Дэнар-Рамановіч* ⇌ *Рамановіч, Урус-эмірза-Даўгялла* ⇌ *Даўгялла, Улан-Мушынскі* ⇌ *Мушынскі, Тухан-Бараноўскі* ⇌ *Бараноўскі* і інш.

Пераважная большасць патомкаў колішніх татарскіх пасяленцаў у Літве і Беларусі мае цяпер прозвішчы беларускага *(Аляшкевіч, Рамановіч, Александровіч, Крычынскі, Карыцкі)*, польскага *(Заблоцкі, Тупальскі, Смольскі, Гембіцкі, Заянчкоўскі, Талькоўскі, Лоўчы)* або літоўскага *(Даўгялла, Пукшта, Скірмунт, Нарвойш)* паходжання. Неасіміляваныя прозвішчы цюркскага паходжання *(Салтан, Баслык, Улан-бек* і інш.) сустракаюцца толькі спарадычна. Значна часцей яны атрымліваюць славянскае словаўтваральнае афармленне: *Наймовіч, Ахматовіч, Азулевіч, Базарэвіч, Ассановіч, Сулейманавіч, Уланоўскі, Халецкі, Мурза-Мурзіч, Кенскі* і г. д. [9]

Лінгвістычны аналіз усёй антрапаніміі татарскага па паходжанню насельніцтва Літвы і Беларусі даў бы цікавы і карысны матэрыял для вывучэння працэсу моўнай і этнічнай інтэграцыі прышлага насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім. На жаль, збор гэтага матэрыялу знаходзіцца пакуль што ў пачатковай фазе, таму ў дадзеным выпадку абмяжуемся толькі анамастыкай з дзвюх даследаваных вёсак.

На 106 сем'яў зафіксана ўсяго 24 прозвішчы: 13 у Кяне і 11 у Касіне. Не адзначана прозвішчаў агульных для абедзвюх вёсак, што сведчыць аб іх паўтараемасці ў межах кожнага населенага пункта. Па семантычнай класіфікацыі яны размяркоўваюцца пароўну: 12 утвора-

[8] O Muślimach Litewskich, стар. 65 і наст.

[9] Прозвішчы літоўскіх і беларускіх татар узяты з архіўных дакументаў або з мусульманскіх надмагільных надпісаў.

на ад уласных імён і столькі ж — ад агульных. Па фармальнай класіфікацыі прадстаўлена 4 прозвішчы ад простых асноў і 20 — ад вытворных. Адносна суфіксальных фармантаў яны размяркоўваюцца наступным чынам: *-(ев)іч* — 7, *-(ов)іч* — 4, *-скі, -(оў)скі, -(ын)скі* — 4, *-а, -(ек)а, -(ейк)а* — 4, з нулявой флексіяй (-∅) — 4, *-янец* — 1.

Найбольш пашыранымі аказваюцца ўтварэнні на *-іч,* прычым суфікс *-евіч* сустракаецца амаль у два разы часцей, чым *-овіч,* што не разыходзіцца з агульнай сітуацыяй на літоўска-беларускім пагранічны. Фактычна існуе два варыянты вымаўлення прозвішчаў гэтага тыпу: афіцыйны, згодна з пісьмовай традыцыяй *(-евіч, -овіч)*, і гутарковы *(-ейч, -еіч, -ойч, -оіч),* параўн. *Наймовіч//Наймойч, Мікулевіч//Мікулеіч* і г. д. Магчыма, што гутарковы варыянт з'яўляецца рэліктным і сведчыць пра пераходную стадыю славянізацыі літоўскіх фармантаў.

Асабліва важнае значэнне мае аналіз антрапонімаў па моўнай прыналежнасці, бо гэта ўказвае на іх паходжанне, дапамагае высветліць этналінгвістычныя працэсы, якія адбываліся ў дадзенай супольнасці на працягу некалькіх стагоддзяў. Асноўная частка прозвішчаў (15) беларускага паходжання, прычым 4 з іх магло ўзнікнуць пад польскім уплывам. Усе вытворныя асновы і фарманты гэтых антрапонімаў семантычна матываваны і не патрабуюць дадатковых тлумачэнняў. 6 прозвішчаў з'яўляюцца па паходжанню літоўскімі *(Курдзека, Нарвойш, Петрулевіч, Шупа, Масюлянец, Памалейка).* І толькі 3 антрапонімы, для якіх няма дастатковай матываванасці ні ў беларускай, ні ў літоўскай мовах, але затое ёсць сведчанні ў пісьмовых дакументах і некаторыя аналогіі, можна лічыць зыходнымі або фармальна адаптаванымі цюркізмамі.

Ніжэй прыводзіцца алфавітны пералік прозвішчаў з указаннем скарочаных назваў вёсак (Кн, Кс), дыялектных варыянтаў, форм роднага склону, а таксама інфармацыі адносна паходжання назвы. Пытальнік у дужках азначае, што этымалогія назваў канчаткова не высветлена.

АЛЯХНОВІЧ Кн: *ал'ахно́в'ич, -а;* параўн. імя *Алехно, Аляхно, Аляксей,* суф. *-(о)віч.*

БАСЛЫК Кн: *баслы́к, -а́.* Хоць абсалютны адпавед-

нік гэтага прозвішча не прыводзіцца ў слоўніку казанскіх татар [10], аднак ёсць там такія ж мадэлі і тлумачэнні паасобных фармантаў: *бас-* у розных значэннях 'бас', *-лык* агульнаўжывальны суфікс. Параўн. *баскак* 'зборшчык даніны': *баскаклык* 'пасада баскака, зборшчыка даніны', *наян* 'хітры, каварны'; *наянлык* 'хітрасць; прытворства'. Доказам цюркскага паходжання прозвішча *Баслык* можа быць поўная яго аналогія ў туркменскай мове: *баслык* 'тоўстая папярочная нітка ў дыванах, якая ўцягваецца пасля кожнага рада вузлоў для шчыльнасці' [11].

БУРЫНСКІ Кн: *бурынск'и, -ага//бужынск'и, -ага;* параўн. апелятыў *бура//burza.*

ВАЙЦЯХОЎСКІ Кс: *войц'ехóўск'и//вайц'ахóўск'и, -ага;* параўн. імя *Войцех.*

КАРНЕВІЧ Кс: *карн'éв'ич//карн'éйч, -а;* параўн. імя *Карней.*

КІТКОЎСКІ Кс: *к'иткóўск'и, -ага;* параўн. польск. *kita, kitka* 'пучок пер'яў на галаўным уборы' [12] або бел. *кітка* 'вязка сена' [13].

КУРДЗЕКА Кс: *курдз'éка, -'и.* Літоўскае прозвішча, адаптаванае шляхам замены *ei*⇌*е* і пераходу *d*⇌*дз'*: *Kurdeikis*⇌*Kurdeika*⇌*Курдзека;* параўн. літ. *kurdinti* 'асноўваць, пасяляць' [14].

ЛУКАШЭВІЧ Кн: *лукашэ̂в'ич//лукашэ̂ич, -а;* параўн. імя *Лукаш, Лука//Łukasz.*

МАЗОЛЬ Кн: *мазóл', мазал'á;* параўн. апелятыў *мазоль.*

МАСЮЛЯНЕЦ Кн: *мас'ул'áн'ец, ~'áнца;* параўн. імя *Мась, Масько, Мацей* або імёны-мянушкі *Масень, Масалай* [15]. Адсутнасць дакладнага адпаведніка гэтага прозвішча ў матэрыялах па беларускай антрапаніміі (Бір. I, II) пры адначасовай наяўнасці фарманта *-юль-* (⇌*-ulis*) сведчыць пра адаптацыю літоўскага прозвішча Masiulis шляхам замены суфікса *-is*⇌*-янец.*

---

[10] Татарско-русский словарь. М., 1966 (далей ТатРС).

[11] Туркменско-русский словарь. М., 1968 (далей ТуРС).

[12] Н. Горбачевский. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства польского. Вильно, 1874.

[13] И. И. Носович. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870.

[14] F. Fraenkel. Litauisches Etymologisches Wörterbuch. Heidelberg, 1962 (далей Фрэнк.).

[15] М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія, ч. 1. Мінск, 1966; ч. 2. Мінск, 1969 (далей Бір. I або Бір. II).

МАШАРА Кн: *машáра, -ы.* У беларускай антрапаніміцы засведчана ўсяго два варыянты гэтага прозвішча (*Машара, Машарaў*), якія маюць адпаведнік у кіргізскім рэг. *машар* 'страшны суд; месца, дзе адбываецца страшны суд' (Бір. II, 282). Адсутнасць слоўнікаў мовы нагайцаў і крымскіх татар не дае магчымасці больш дакладнага высвятлення этымалогіі прозвішча *Машара*. Аднак значная абмежаванасць і семантычная нематываванасць яго ў беларускай і літоўскай мовах, таксама як і лакалізацыя ў былой татарскай вёсцы, могуць дапускаць думку пра цюркскае паходжанне.

МІКУЛЕВІЧ Кн: *м'икул'éв'ич//м'икул'éич, -а;* параўн. імя *Мікуль, Мікула, Мікола, Мікалай.* Цікава, што сярод 46 варыянтаў прозвішчаў гэтага тыпу ў беларускай антрапаніміцы (Бір. I, 128—129) няма дакладнага адпаведніка дадзенага слова. Параўн. найбольш блізкія формы: *Мікуловіч, Мікуліч, Мікулёнак, Мікульчык* і інш. Справа ў тым, што фармант *-уль-* спалучаецца звычайна з суфіксам *-'евіч*, а не *-овіч.*

МІХНЕВІЧ Кс: *м'іхн'éв'ич//м'ихн'éйч, -а;* параўн. імя *Міхня, Міхаіл.*

НАЙМОВІЧ Кс: *наймóв'ич//наймóйч, -а.* М. В. Бірыла няўпэўнена выводзіць гэта прозвішча ад *наймаць* 'наняты, той, каго нанялі' (Бір. II, 296). Сумненні аўтара, як нам здаецца, маюць падставу. Пры наяўнасці семантычнай аналогіі словы *наймаць : Наймовіч* не суадносяцца фармальна, бо ні адзін беларускі слоўнік не фіксуе ў дадзеным значэнні формы *наймá.* Да таго ж прозвішча *Наймовіч* з'яўляецца рэдкім і не значыцца ў беларускіх пісьмовых помніках. Разам з тым яго аснова неаднаразова і ў розных варыянтах сустракаецца ў прозвішчах мусульман татарскага паходжання: *Najman-beg, Najman-beg-Oleszkiewicz-Kryczyński, Najma-Najmowicz zm.* 1859 г., *Найма-Наймовичъ, Наймовичъ*[16]. У даступных нам слоўніках татарскай казанскай, туркменскай, турэцкай моў няма прамых аналогій да прозвішча *Наймовіч,* аднак сустракаюцца падобныя мадэлі або па-

---

[16] Leon Kryczyński. Dobra Łostajskie, стар. 12 і наст.; Архіў Лаварышскага касцёла: «Metryki chrztu kościoła Ławaryskiego, 1705—1729» (захоўв. у Дзярж. архіве г. Вільнюса); Нататкі, зробленыя ў 1962 г. А. Р. Янкоўскім з надмагільных надпісаў ліквідаванага ўжо цяпер мусульманскага могільніка на Лукішках у Вільнюсе.

асобныя элементы. Параўн. *найчы* (ТатРС), *найза, найча, наллама* (ТуРС), *nâit* 'той, хто спіць', *naîte* заал. 'малюскі' [17]. Можна дапусціць цюркскае паходжанне, аднак матывацыя застаецца няяснай.

ПАМАЛЕЙКА Кн: *памал'ейка, -'и;* магчыма гібрыднае ўтварэнне з калькаванай беларускай асновай і захаваным літоўскім суфіксам *-eika.*

ПЕТРУЛЕВІЧ Кс: *п'етрул'ев'ич//п'атрул'еич, -а;* параўн. імя *Петруль, Петраль, Петруц, Петруч, Пётр.* Адаптаванае літоўскае прозвішча *Petrulis* (з заменай суфікса *-is⇌-евіч*), на што ўказвае характар вымаўлення галоснага *е* ў другім перадняцыскным складзе, наяўнасць суфікса *-уль-,* адсутнасць дакладнага адпаведніка сярод 59 беларускіх антрапонімаў гэтай групы (параўн. Бір. I, 136—137).

ПІЛАТ Кс: *п'ила́т, -а;* параўн. беларускія прозвішчы *Пілат, Пілатаў, Пілатовіч,* якія суадносяцца з іменем *Філарэт* (Бір. II, 323).

СТАНКЕВІЧ Кн: *станк'ев'ич//станк'еич, -а;* утворана ад эмацыянальна-ацэначных форм *(Станко, Станько, Стань)* імя *Станіслаў.*

ФРАНЦКЕВІЧ Кн: *франц'к'ев'ич//франц'к'еич, -а*; параўн. імя *Францко, Францішак.*

ЧАСНОВІЧ Кс: *часно́в'ич//часно́йч, -а;* параўн. зафіксаваныя М. Бірылам антрапонімы *Часнакоў* з XVII ст. і *Часнойць* (Бір. II, 449), другі з якіх указвае на пераходную ступень адаптацыі літоўскага прозвішча *Česnaitis* ⇌ *Часнойць* ⇌ *Часнойч* ⇌ *Часноіч* ⇌ *Часновіч.*

ШУПА Кн: *шýпа, -ы.* Прозвішчы, вытворныя ад бел. *шупіць* 'разумець, цяміць', укр. *шупити* 'тое ж', рус. *шупить* 'тое ж', вядомы ва ўсіх усходнеславянскіх мовах (параўн. Бір. II, 484). Аднак і ў літоўскай мове даволі шырока прадстаўлены не толькі мадэлі прозвішчаў на *-а,* але і словаўтваральная аснова *šiup-* у шмат якіх значэннях, што не выключае літоўскага паходжання дадзенага антрапоніма.

ЯБЛОНСКІ Кс: *йабло́нск'и//йабло́н'ск'и, -ага.* Прозвішча адапелятыўнага паходжання, якое па словаўтварэнню і фанетычных асаблівасцях больш характэрна для польскай мовы, чым для беларускай.

---

[17] Турско-български речник. София, 1962.

ЯРМАЛОВІЧ Кс: *йармалов'ич//йармалóйч//йармалóич, -а;* параўн. імя *Ярмола, Ярмалай.*

Аналіз антрапонімаў указвае на неаднароднасць складу насельніцтва Кяны і Касіны, а таксама на складанасць умоў, у якіх фарміравалася супольнасць гэтых і некаторых іншых татарскіх вёсак. Адзначаная спецыфіка знаходзіць таксама пацвярджэнне ў мясцовай тапаніміі.

Усяго ў даследуемых вёсках засведчана 71 тапанімічная назва, у тым ліку 63 мікратапонімы. Па відах угоддзяў, якія яны абазначаюць, мікратапонімы размяркоўваюцца наступным чынам: сенажаці і выпасы — 21, палі — 17, лясныя ўрочышчы — 6, балоты — 4, агульныя назвы для сенажацяў і балот — 2, для палёў і сенажацяў — 2, для лясных урочышчаў і поля — 1. Апрача таго, адзначана 5 гідронімаў, 2 тапонімы і 1 назва старой дарогі.

Пры правядзенні фармальнага і семантычнага аналізу ўлічваліся ўсе кампаненты састаўных назваў, у сувязі з чым колькасць аналізуемых слоў павялічылася да 100. У тапаніміцы Кяны і Касіны часцей выступаюць назвы апелятыўнага паходжання (80%), значна радзей — антрапанімічнага (20%). Апошнія ўжываюцца пераважна ў форме прыналежных (15%) або адносных (5%) прыметнікаў і замацоўваюцца за сенажацямі, палямі, ляснымі дачамі.

У якасці словаўтваральных выкарыстоўваюцца асновы назоўнікаў (62%), прыметнікаў (30%), дзеясловаў (6%) і лічэбнікаў (2%). Выразнага замацавання намінатыўных функцый за адзначанымі граматычнымі катэгорыямі слоў не назіраецца, за выключэннем прыметнікаў, якія выкарыстоўваюцца пераважна для наймення сенажацей.

Па тыпу словаўтварэння тапанімічныя найменні дзеляцца на простыя, вытворныя і састаўныя. Пераважаюць састаўныя найменні, якія складаюць 41% ад агульнай колькасці назваў. Яны ўтвараюцца шляхам спалучэння прыметніка з назоўнікам. Назоўнік азначае ў такім выпадку від зямельнага ўгоддзя *(Папярэ́чнаё Пóля, Альхóвая Кýдра, Замарáвая Рóйста)* або назву размешчанага на ім аб'екта *(Чóрны Пень, Францýскі Акóп, Татáрскія Магíлы)*, а дапасаваны прыметнік характарызуе яго па прыналежнасці, аднесенасці, якасных пры ме-

тах (*Цялёпавая Гара́, Колесьніцкія Санажа́ці, Чо́рнае Бало́та*). У чатырох выпадках паслядоўнасць элементаў «прыметнік+назоўнік» парушаецца; параўн. *Кяна́ Пане́нская, Ка́сіна Пане́нская* або *Ка́сіна Мала́я, Дзірва́н Дра́йцаў*. Пры назвах населеных пунктаў тут можна прыняць пад увагу польскі ўплыў. Складаныя асновы прадстаўлены ўсяго адным найменнем: *Тры́віржы*.

На другім месцы аказваюцца вытворныя асновы (37%), сярод якіх адзначана 32 суфіксальныя, 2 прыназоўнікава-прэфіксальныя, 2 прэфіксальна-суфіксальныя. Да найбольш прадуктыўных адносяцца суфіксы *-няк, -нік*, з дапамогай якіх ад назваў дрэў і кустарнікаў утвараюцца назвы лясных урочышчаў (*Е́льнік, Лазня́к, Хмызня́к* і інш.), балот, сенажацей (8). Даволі шырока распаўсюджаны таксама фарманты з памяншальным *-к-, -ок, -ак, -онка, -анка* (усяго 9) і ўтварэнні на *-а-* (7). Спарадычна сустракаюцца суфіксальныя ўтварэнні на *-ішкі/-ышкі* (3), *-ішчы* (2), *-элі, -ічы, -іха, -ня* (па аднаму).

Лексіка-семантычная класіфікацыя 80 найменняў адапелятыўнага паходжання прадстаўляецца наступным чынам: фізіяграфічныя аб'екты і іх характарыстыкі — 42 назвы, чалавек і сфера яго дзейнасці — 20, раслінны і жывёльны свет — 11, размяшчэнне адносна іншых аб'ектаў — 7 назваў. Пры супастаўленні лексіка-семантычнай групоўкі мікратапонімаў з іх размеркаваннем па відах угоддзяў выяўляюцца некаторыя заканамернасці. Так, для наймення палёў выкарыстоўваюцца пераважна назвы фізіяграфічнага (55%) і культурнага (35%) паходжання. Назвы сенакосных угоддзяў у 68% складаюцца з апелятываў фізіяграфічнага паходжання. Мікратапонімы, утвораныя ад назваў раслін і жывёл, пераважна адносяцца да лясных угоддзяў (42%) і балот (33%), дзе разам з апелятывамі фізіяграфічнага паходжання складаюць асноўную частку найменняў.

Тапанімія даследуемых вёсак неаднародная па моўнаму паходжанню. Побач з беларускімі назвамі, якія пераважаюць (77%), тут сустракаюцца ў большай або меншай ступені адаптаваныя літуанізмы (17%) або гіпатэтычныя цюркізмы (6%). Мікратапанімічныя назвы, утвораныя на беларускай моўнай аснове, даволі ясныя па значэнню, паходжанню і будове, таму часцей за ўсё не патрабуюць дадатковых тлумачэнняў.

Ніжэй прыводзіцца алфавітны слоўнік тапаніміі Кяны і Касіны, складзены паводле поўных найменняў абазначаемых аб'ектаў. Назвы падаюцца ў спрошчанай транскрыпцыі. За назвай змяшчаецца від азначаемага аб'екта, прыналежнасць да вёскі, вызначаецца этымалогія і пры неабходнасці прыводзіцца кароткі каментарый.

АЛЬХО'ВАЯ КУ'ДРА, поле, Кс. Невялікі альховы зараснік на нізкім месцы сярод поля. Гібрыдная беларуска-літоўская назва адапелятыўнага паходжання. Параўн. літ. *kūdra* 'балота, багна, дрыгва; мул, гразь; напоўненая вадой рытвіна; пруд, сажалка' (Фрэнк. I, 305). Урочышча якраз і ўяўляе сабой нізкае, калісь багністае і топкае месца сярод поля, якое было непрыгодным для апрацоўкі.

БРА'ЖАЛА, невялікая рэчка, левы прыток Віленкі, бярэ пачатак з воз. *Бык* і крыніцы *Кіпяток,* якая ніколі не замярзае, Кн. Параўн. літ. *bražėti* 'варушыцца; драпацца', *bražúoti* 'чысціць; драпаць'[18], а таксама гідронімы *Bražuõlė* (у наваколлі Тракая) і *Bražylė* — літоўская назва р. *Бражала*[19].

БУ'РЫНСКАЯ, сенажаць, Кн. Назва паходзіць ад прозвішча вымершай сям'і *Бурынскіх.*

БЯРЭ'ЗНІК, лес, Кн.

ВУСКІ' КЛІН, поле, Кн.

ВЫЛІЧО'НКА, сенажаць у лесе, Кс.

ВЫСМА'ЛІНЫ//ВЫСМА'ЛЬНІК, назва ляснога ўрочышча, дзе калісь выгараў лес ад пажару, Кс.

ВЯЛІ'КАЯ ЛУ'ЖА, сенажаць з далінамі прадаўгаватай формы, Кс.

ГАЛЬШНЯ'К, балота, парослае альховым хмызняком, Кс.

ГАЎЖАДА', ручай, правы прыток *Кенкі.* Такую ж назву маюць размешчаныя паабапал гэтага ручая поле, хмызняк і балота, якія калісь былі ўласнасцю гаспадара *Нарвайша-Гаўжэцкага.* Тут мы маем справу з назвай адантрапанімічнага паходжання: *Гаўжэцкі*⇇ *Gaužada.* Пра літоўскую крыніцу сведчаць фармальныя прыметы: наяўнасць выбуховага *г,* дыфтонга *ау* і зычнага *ж.*

---

[18] Lietuvių kalbos žodynas. Vilnius, 1968, t. 1 (далей LKŽ).

[19] Lietuvos TSR upių ir ežerų vardynas. Vilnius, 1963 (далей Vard.).

ГЭНЭ'ВА, поле, хмызняк і балота, Кн. Дублетная назва ўрочышча *Гайжада,* пераносная гумарыстычная назва ад г. *Genewa* 'Жэнева'.

ГУ'СІ, палянка сярод лесу, дзе заўсёды ў час адлёту адпачываюць дзікія гусі, Кн.

ДВАРНЯ', *зборн., ж.,* поле, землі былога Кенскага маёнтка, Кн.

ДВО'РНАЯ САНАЖА'ЦЬ, сенажаць, Кн.

ДО'ЎГАЯ, сенажаць, Кн.

ДЗІРВА'Н ДРА'ЙЦАЎ, сенажаць у хмызняках сярод балота, Кс. Назва адантрапанімічнага паходжання, параўн. *Драйцаў* (Бір. II, 135).

ДЗЯВО'ЦКАЯ ГАРА', узгорак, Кс. Паводле апавяданняў старых людзей, на гэтай гары пахавана дзяўчына, якая ўтапілася з гора, спакушаная панам з Кяны.

Е'ЛЬНІК, малады хвойны лес, Кн.

ЖАМО'ЙДЗІШКІ, сенажаць, Кс, Кн. Адантрапанімічная назва літоўскага паходжання, параўн. *žemaĩtis* 'жыхар Жмудзі', *žemaĩ* 'нізка, унізе', *žemiaũ* 'ніжэй'[20].

ЖЫДО'ЎСКАЯ ПАЛЯ'НКА, лясное ўрочышча, Кн. Летам 1943 г. фашысты спалілі дом, у якім хаваліся тры яўрэі. Абгарэлыя астанкі загінуўшых пахавалі ў лесе, што паслужыла матывіроўкай дадзенай назвы.

ЖЫДО'ЎСКАЯ ПАЛЯНА, паляна ў лесе, дзе ў 1942 г. фашысты закатавалі яўрэяў, Кс.

ЖЫДО'ЎСКІ МАГІ'ЛЬНІК, невялікі ўзгорак, дзе размяшчаўся старадаўні язычаскі могільнік, значна ўжо разбураны, Кн. У даваенныя і пасляваенныя гады тут бралі жвір для пабудовы дарог. Пры раскопках знаходзілі рэшткі урнаў, абгарэлыя косці, абпаленыя камяні і вуголле. Калісь, нават яшчэ на памяці старых людзей, там хавалі нехрышчоных дзяцей і бязбожнікаў, якія не хадзілі да споведзі. Ксяндзы не дазвалялі хаваць такіх разам з прававерныюмі. Пра памёршае нехрышчоным малое дзіця ў Кяне гаварылі *«памерла жыдзюком»* і хавалі яго на *Жыдоўскім Магільніку.* На самай справе яўрэйскіх пахаванняў тут ніколі не было.

ЗАБАЛО'ЦЦЯ, поле, якое размешчана за балотам, Кн.

ЗА'ГАРАТКА, поле, Кс; ЗА'ГАРАТКІ *мн.,* поле, Кн. Так называецца ўсякае месца, абгароджанае плотам.

---

[20] A. Lyberis. Lietuvių-rusų kalbu žodynas. Vilnius, 1971.

ЗАМАРА'ВАЯ РО'ЙСТА, балота, Кс. Састаўная беларуска-літоўская назва адапелятыўнага паходжання. У якасці азначаючага слова ўжываецца беларусізм (*замара́вая : замара́ць* 'забрудзіць, запэцкаць'), а ў якасці азначаемага — літуанізм. Лексема *ро́йста* або *rojst* 'балота, імшары, багністая мясцовасць' вядома толькі на сумежнай з Літвою беларускай і польскай моўнай тэрыторыі. Гэта слова мае ў беларускіх гаворках форму ніякага (а не мужчынскага) роду, чым адрозніваецца ад літ. *raĩstas* і польск. *rojst.*

ЗА ЧЫГУ'НКАЙ ПО'ЛЯ, поле, якое размешчана за чыгуначнай лініяй Вільнюс — Мінск, Кн.

КАЗЯЛО'ВА РО'ЙСТА, балота, якое зарасло хмызняком, Кс. Ёсць дзве магчымасці паяўлення першай часткі гэтай назвы: 1) адапелятыўная — па назве распаўсюджанай расліны *казлы, казялкі* (Віцебшчына), *казялец* (Гродзеншчына); 2) адантрапанімічная — па прозвішчу *Казялец,* якое выводзілася ад назвы едкай лугавой расліны 'Ranunculus L'. Пра другую частку гл. *Замара́вая Ро́йста.*

КОЛЕСЬНІ'ЦКІЯ САНАЖА'ЦІ, сенажаці, якімі карысталіся раней жыхары в. Калеснікі, Кс.

КАСІ'НА, вёска, якая мае два поўныя варыянты назваў: *Касі́на Панёнская* або *Касі́на Мала́я.* Магчыма, што гэта адантрапанімічная назва цюркскага паходжання. Параўн. *Касім* — мусульманскае імя, *kasim* 'той, хто дзеліць, раздзяляе', *Kasim* 'кастрычнік'; прозвішча былых уладальнікаў гэтых зямель *Касымовічаў-Кенскіх*[21].

КАСІ'НКА, рэчка, правы прыток *Кенкі,* Кс. Гідронім утвораны ад назвы в. *Касіна,* гл.

КАСІ'НСКІ ЛЕС, лес паблізу в. *Касіна,* гл.

КАСІ'НСКІЯ ГО'РЫ, агульная назва невысокіх пясчаных узгоркаў, Кс.

КЕНКА', рэчка, левы прыток *Віленкі* (Вілейкі). Вытворная назва ад тапоніма *Кяна́//Кёна* (гл.), утвораная далучэннем славянскага памяншальнага суфікса *-к(а).*

КРУ'ГЛАЯ, сенажаць, Кн.

КУРГАНКІ', сенажаць, пакрытая мноствам невялікіх курганкоў, насыпаных кратамі і мурашкамі, Кн.

КУТНЯ', сенажаць, што знаходзіцца ў куце паміж узлескамі, Кс. Цяпер лесу няма, але назва захавалася.

---

[21] L. Kryczyński. Dobra Łostajskie, стар. 15.

КЯНА'//КЕ'НА, вёска. Корнеаснова тапоніма неславянская. Наўрад ці можна выводзіць яе з літоўскай займеннікавай формы *kienõ* 'чый, чыя, чыё, чыі'. Больш верагодным здаецца, што тапонім *Кяна́//Ке́на* з'яўляецца цюркізмам, прынесеным паселенымі тут татарамі. Назва магла ўтварыцца ад прозвішча княжаскага роду Кан-Баян-Кенскіх. Да нядаўняга часу ўжывалася састаўная назва *Кяна́ Пане́нская.* У матэрыялах па Віленскаму епіскапству ўпамінаецца *«Kiena Tatarska, Grotuskowej pólkownikowej»*[22]. З цюркскіх адпаведнікаў параўн. *кан* 'кроў; крывяны', *кенә* дыял. 'злапамятнасць, затоенная злосць; варожасць; помста' (ТатРС), *кән* уст. 'руднік; капальня; паклад, месцанараджэнне' (ТуРС). Асабліва актуальнай здаецца апошняя з прыведзеных лексем, бо якраз у наваколлі Лаварышак і Кяны археолагі знайшлі рэшткі першабытных печаў для выплаўкі жалеза з мясцовай балотнай і дзёрнавай руды. Тут жа знойдзены астаткі шлаку[23].

ЛАЗНЯ'К, балота, парослае лазняковым зараснікам, Кн.

ЛАТО'К//ЛАТАЧО'К, сенажаць, Кс. Шматок сушы, дзірвана сярод балот.

ЛУ'КІ, сенажаці ў лукавінах рэчкі, Кс.

ЛУЧКІ', сенажаць у лукавінах рэчкі, Кн.

ЛЫ'САЯ ГАРА', узгорак, Кс.

МАЗУЛІ'ХА, поле сярод лесу, Кн. Адантрапанімічная назва. Колісь тут жыла ўдава-салдатка *Мазуліха.* Найбольш верагодна, што мы маем тут кантамінаваную форму: літ. *Mažulis*⩸*Мажуль*⩸бел. *Мазей* (Бір. II, 267) = *Мазуль,* з дабаўленнем бел. суфікса *-іха.*

МАРГІ', тарфяністыя сенажаці, Кн. *Маргаві́на* або *балаці́на* — гэта «няежкае» (неядомае) сена шэрага колеру. Таму, відаць, інфарманты і звязваюць дадзены мікратапонім са словамі *Марга́(я), Маргу́ць, Марге́ль,* якія распаўсюджаны тут у якасці мянушак кароў і валоў з бурай шэрсцю, падобнай да высахшай і пераземаваўшай у балоце асакі. Назва не звязана з лексемай *морг* 'мера зямельнай плошчы', як магло б здавацца з формы назоўнага склону множнага ліку. Параўн. літоў-

[22] Jan Kurczewski. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1929, стар. 482.

[23] Материалы к отчетной конференции археологических и этнографических экспедиций 1964—1965 гг. Вильнюс, 1966.

скія гідронімы *Margá* і інш. у наваколлі с. Пабяржэ і воз. Шырвінты (Vard., 98).

МАЦЕ'ЯВАЯ, сенажаць, Кн.

НОВАВІ'ЧЫ, хутар (засценак), Кс. Магчыма, калька або адаптаваны літуанізм, параўн. *naũjas* 'новы', *naujasėdijà* 'наваселле, новае пасяленне, выселак', LKŽ, т. VIII), беларускі патранімічны суфікс *-ічы*.

ПАД МЛЫНО'М, поле, дзірваны і хмызнякі каля колішняга млына на р. Касінцы, Кс.

ПАПЯРЭ'ЧНАЁ ПО'ЛЯ, поле, Кн.

ПАСТАЎНІ'К, сенажаці, Кн. Параўн. *пастаўнік* 'загароджаны ўчастак сенажаці для выпасу хатняй жывёлы'.

ПІ'КЦІШКІ, балота, сенажаць, Кн, Кс. Мікратапонім літоўскага паходжання, параўн. *pỹktis* 'злосць, гнеў' (LKŽ, т. IX), а таксама назва гідронімаў *Piktupis* (Vard., 124).

ПРУДЭ'ЛІ, палі, Кс. Мікратапонім літоўскага паходжання, параўн. *prūdas* 'сажалка, ставок' (LKŽ, т. IX) і даволі прадуктыўныя памяншальныя суфіксы *-ėlis, -ėlė*[24], а таксама назва гідронімаў *Prūdẽlis* (Vard., 129).

ПРЫБІ'ЛСКІЯ ПАЛЯ', палі, Кс. Магчыма, ад антрапоніма *Прыбілскі* ⩽ *Przybylski* (?).

ПЯТНА'СЬЦЯ КРЫЖО'Ў//ПЯТНА'ЦАЦЬ КРЭСТО'Ў, поле сярод сасновага зарасніку, Кн. Расказваюць, што на гэтым месцы стаяла колісь 15 крыжоў па загінуўшых паўстанцах 1863 г. Крыжы даўно ўжо згнілі, а назва захавалася.

РАЙКОІ', поле, Кс., параўн. літ. *raikýti (raĩko, raikė)* 'наразаць, нарэзваць; рыхліць, ускопваць (зямлю)' або *rakỹs* 'калючка; іголка, хвоя; шып'. Адносна суфікса *-ojas* гл. працу Я. Атрэмбскага [25].

РЫНГА', ручай, левы прыток *Віленкі* (Вілейкі), Кн. Гідронім літоўскага паходжання, параўн. *rìnge* 'завіліна, выгін, выгіб', *ringúoti* 'выгінацца, віцца'. *Upẽlis ringúoja laukaĩs* 'ручай уецца па палях' (LRKŽ, 637). Часта выступае ў якасці антрапоніма.

СКЛЕПІ'ШЧЫ, урочышча ў лесе, горы, дзе шмат каменняў, Кс.

---

[24] Jan Otrębski. La formation des noms physiographiques en lithuanien.— «Lingua Posnaniensis». Poznań, 1949, стар. 121—151.

[25] Там жа, стар. 210.

СТАВІ'ШЧЫ, *мн.*, палі, Кн. Магчыма, што на гэтым месцы ставілі колісь стагі збажыны.

СТРЫ'КІШКІ, сенажаць, Кн. Літоўская назва антрапанімічнага паходжання, утвораная ад прозвішча ўладальніка сенажаці. Параўн. апелятыў *strỹkas* 'смычок', *strýkčioti, stryksėti* 'скакаць, падскокваць' (LRKŽ, 695), а таксама гідронім *Strikas* (Vard., 156).

СУРА'ЖЫНКА, сенажаць над р. Касінкай, Кс. Назва ўтворана ад апелятыва літоўскага паходжання (*raženis* бат. 'вязель' або *ražiena* 'пожня') з дабаўленнем славянскага памяншальнага суфікса *-к-*. Прэфіксальная частка *су-* больш характэрна для беларускай мовы, аднак можа выступаць і ў літоўскай, аб чым сведчыць наяўнасць гідроніма *Suraižõs upẽlė* (Vard., 157).

СЯРЭ'ДНЯЁ ПО'ЛЯ, поле, Кн. Вызначаецца па адносінах да іншых аб'ектаў, параўн. *Папярэ́чнаё По́ля* і *За Чыгу́нкай По́ля.*

ТАТА'РСКІЯ МАГІ'ЛЫ, невялікая горка, зарослая хмызняком, Кс. Назва старога, даўно ўжо закінутага мусульманскага могільніка. Тут сустракаюцца яшчэ рэшткі каменных плітак або плоскія палявыя камяні, якімі выкладаюцца звычайна магілы на мусульманскіх могілках. Як вынікае з архіўных дакументаў Лаварышскага касцёла, татарскае насельніцтва Кяны і Касіны ў палавіне XVII ст. было ўжо хрысціянскім, у сувязі з чым пахаванні праводзіліся на каталіцкім могільніку.

ТРЫ'ВІРЖЫ, сенажаць над р. *Кенкай,* Кн. Такую ж назву мае сенажаць над р. *Касынкай,* Кс. Назва апелятыўнага паходжання, параўн. літ. *vìržis* бат. 'верас', *viržýnas, viržỹnė* 'верасовыя зараслі' (LRKŽ, 861), а таксама гідронімы *Trilỹpis, Trikójis, Trikam̃pis* з аналагічнымі словаўтваральнымі мадэлямі (Vard., 175).

ФРАНЦУ'СКІ АКО'П, невялічкае ўзвышша сярод поля, Кн. Відавочна, стары могільнік, дзе сустракаюцца людскія чарапы і косці. Паводле расказаў старажылаў, на гэтым месцы ў 1812—1813 гг. хавалі французаў.

ХМЫЗНЯ'К, густы лясок, кусты, Кн.

ЦЯЛЕ'ПАВАЯ ГАРА', узгорак, Кс. Мікратапонім антрапанімічнага паходжання, утвораны ад прозвішча *Цяле́п//Цяле́па.*

ЦЯЛЯ'ТНІКІ, сенажаць каля р. *Касінкі,* дзе пасуць вясковых цялят, Кс, Кн.

ЧО'РНАЁ БАЛО'ТА, благая багністая сенажаць, ба-

лота, Кн. Цікава, што замест звычайнай для гэтых месц лексемы *ройста* выкарыстана тыпова славянская назва *балота*.

ЧО́РНЫ ГАСЬЦІ́НЯЦ, дарога з Вільнюса на Мінск. У некаторых старых дакументах яе называюць «szlak z Wilna na Smorgonie». Паводле мясцовых версій, *чорным* назвалі гэты шлях таму, што па ім адбываліся калісь набегі татараў[26], або яшчэ таму, што да 1934 г. нельга было па ім праехаць у час бездарожжа. Больш верагодна, на нашу думку, суадносіць назву з напрамкам шляху, які ішоў з Літвы на Чорную Русь (у Смаргонь і далей).

ЧО́РНЫ ПЕНЬ, палянка ў Касінскім лесе, Кс. Адапелятыўная назва.

ШНУРКІ́, поле, Кн. Высокія палеткі, якія цягнуліся вузкімі загонамі-палоскамі (*«шнуркамі»*) на 1—2 км.

ШЫРО́КАЕ ПО́ЛЯ, значная плошча ворных зямель, Кн.

Вынікі аналізу анамастычнага матэрыялу пацвярджаюць змешаны характар этна-лінгвістычнай супольнасці ў былых татарскіх вёсках Кяна і Касіна. Улічваючы гістарычныя даныя, мясцовую анамастыку і моўную сітуацыю на сучасным этапе, можна сцвярджаць, што паселеныя тут нагайцы апынуліся першапачаткова ў літоўскім асяроддзі. Пра гэта сведчыць значная колькасць захаваных да апошняга часу літоўскіх элементаў у антрапаніміі (25%) і тапанімічных назвах (17%). Славянская адаптацыя цюркскіх і балтыйскіх словаўтваральных асноў указвае на другасны, храналагічна больш позні працэс укаранення беларускай анамастычнай наменклатуры, а гэта значыць — і на больш познюю беларусізацыю мясцовага насельніцтва. Пашырэнню беларускай мовы сярод літоўскіх татар мог спрыяць, між іншым, і той факт, што значная частка іх аднапляменцаў, пражываўшых у Беларусі, лічыла ўжо гэтую мову сваёй, роднай[27].

---

[26] Да гэтага часу захаваліся словы народнай песні: «... *Бо ночанька цёмна, дарожанька сліска, ні едзь, ні едзь, казачынька, бо татары бліска*».

[27] Пра гэта сведчаць, напрыклад, перакладзеныя на беларускую мову мусульманскія сакральныя кнігі. Гл.: А. К. Антонович. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968.

*М. В. Бірыла*

## УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ АНТРАПОНІМЫ З АДМОЎЕМ *НЕ* ТЫПУ *НЕВЕР, НЕПОСЕД, НЕДВИГА, НЕДОМОЛВА*

1. Старажытныя славянскія імёны з адмоўем *не-*, нягледзячы на іх лексічную абмежаванасць, ужо працяглы час выклікаюць увагу даследчыкаў антрапаніміі. Яшчэ ў мінулым стагоддзі была выказана, а ў наш час падтрымана думка аб тым, што імёны з адмоўем *не-* акрамя намінатыўна-ідэнтыфіцыруючай функцыі, якая ўласціва кожнаму імені, выконвалі яшчэ прафілактычна-абаронную. Старажытны чалавек у выніку анімістычнасці свайго мыслення адухаўляў прыроду, верыў, што элементы акружаючага асяроддзя ставяцца да яго станоўча ці адмоўна. Не разумеючы сутнасці з'яў, чалавек не ведаў, як на іх можна ўплываць. Адзіным, на што ён спадзяваўся, была вера ў магічную сілу слова. Гэту веру старажытныя людзі выкарыстоўвалі і пры наданні імён. Выбіралі такое імя, якое б магло абараняць носьбіта ад шматлікіх ворагаў і ўсяго злога. З гэтай мэтай у якасці імён выкарыстоўвалі назвы дужых жывёлін, звяроў, якія, па ўяўленню старажытных людзей, павінны былі стаць апекуном, абаронцам носьбіта імені, ці назвы дробных жывёлін, раслін, прадметаў, а таксама розныя словы з адмоўным значэннем, каб адвесці ўвагу «нядобрых сіл» ад носьбіта імені. Прыкладна такую ролю — скрыць сапраўдную сутнасць — выконвалі і імёны з адмоўем *не-*. Асноўную функцыю «зніжэння вартасці» ў такіх іменах выконвала адмоўе, якое адхіляла, адводзіла тое, што сцвярджаецца ў каранёвай частцы імені, надавала імені адмоўны — антанімічны ў параўнанні з утваральнай асновай — сэнс.

У помніках старажытнай рускай, украінскай і беларускай пісьменнасці антрапонімы з адмоўем *не-*, відаць, дваякага паходжання. Адны з іх генетычна ўзыходзяць да старажытных славянскіх імён з адмоўем *не-* і, можна думаць, лексічна паўтараюць іх. Другія ўзніклі ўжо ў канкрэтных усходнеславянскіх мовах на базе апеляты-

ваў з адмоўем *не-* ці па іх мадэлі. І адны, і другія ў перыяд фіксацыі іх пісьмовымі крыніцамі выконвалі функцыі імён-мянушак.

У залежнасці ад характару ўтваральных асноў і ўтваральных сродкаў вылучаюцца наступныя мадэлі:

1) адмоўе *не-*+корань дзеяслова (*Невер*<не+вѣр-(ити), *Невед*<не+вѣд-(ати);

2) адмоўе *не-*+корань дзеяслова з прыстаўкай (*Непосед*<не+по-сѣд-(ѣти), *Невылаз*<не+вы-лаз-(ити);

3) адмоўе *не-*+корань дзеяслова+канчатак *-а* (*Недвига*<не+двиг-(ати)+а, *Нелюба*<не+люб-(ити)+а);

4) адмоўе *не-*+корань дзеяслова з прыстаўкай+канчатак *-а* (*Недомолва*<не+до-молв-(ити)+а, *Недосека*<не+до-сѣк-(ти)+а);

5) адмоўе *не-*+дзеепрыметнік з суфіксам *-н, -ен, -ом, -ам, -им, -т, -ящ, -ущ, -л* (*Неждан*<не+жданъ, *Небучен*<не+бученъ, *Неведом*<не+вѣдомъ, *Нелюбим*<не+любимъ, *Немыт*<не+мытъ, *Непитущой*<не+питущой, *Недбал*<не+дбалъ);

6) адмоўе *не-*+корань прыметніка (*Некрас*<не+крас-(ивой);

7) адмоўе *не-*+прыметнік (*Небелый*<не+бѣлый, *Нерезвой*<не+рѣзвой);

8) адмоўе *не-*+корань дзеяслова +суфікс *-ай, -ей* ці *-уй* (*Немогай*<не+мог-(ти)+ай, *Нехотей*<не+хот-(ѣти)+ей, *Невруй*<не+вр-(ати)+уй), хаця магчыма непасрэдна ад імён з адмоўем *не-*+суфікс *-ай, -ей* ці *-уй* (*Немогай*<Немог(а)+ай, *Нехотей*<Нехот+ей, *Невруй*<Невр(а)+уй);

9) адмоўе *не-*+корань дзеяслова+суфікс *-ала//-ало, -айла//-айло* ці *-ила//-ило* (*Недбайло*<не+дб-(ати)+айло, *Нехотило*<не+хот-(ѣти)+ило), хаця магчыма непасрэдна ад імён *Недба, Нехот* пры дапамозе *-ала, -айла, -ила;*

10) адмоўе *не-*+корань дзеяслова+суфікс *-ец* (*Невалец*<не+вал-(ити)+ец, *Нелюбец*<не+люб-(ити)+ец), хаця тут магчыма ўтварэнне пры дапамозе суфікса *-ец* непасрэдна ад імені (*Невалец*<Невал+ец, *Нелюбец*<Нелюб+ец);

11) адмоўе *не-* + корань дзеяслова + суфікс *-ко* ці *-ка* (*Неверка*<не+вѣр-(ити)+ка, *Нехотко*<не+хот-(ѣти)+ко), хаця магчыма проста ад імені з ад-

моўем+суфікс *-ко* ці *-ка* (*Неверка*<Невер+ка, *Нехотко*<Нехот+ко);

12) адмоўе *не-*+корань дзеяслова з прыстаўкай+суфікс *-ко* ці *-ка* (*Несговорка*<не+съ-говор-(ити)+ка, *Неустройко*<не+у-строй-(ити)+ко), хаця магчыма *Несговорка*<Несговор+ка, *Неустройко*<Неустрой+ко;

13) адмоўе *не-* +дзеепрыметная аснова+суфікс *-ко* ці *-ка* ( *Неданка*<не+данъ+ка, *Нежданко*<не+жданъ+ко), хаця магчыма адмоўе *не-*+імя+суфікс *-ко* ці *-ка* (*Неданка*<не+Данъ+ка, *Нежданко*<не+Жданъ+ко) ці імя з адмоўем+суфікс *-ко* ці *ка* (*Неданка*<Неданъ+ка, *Нежданко*<Нежданъ+ко);

14) адмоўе *не-*+корань прыметніка+суфікс *-ко* ці *-ка* (*Нехорошко, Нехорошка*<не+хорош-(ий)+ко ці ка), хаця магчыма ад імені з адмоўем+суфікс *-ко* ці *-ка* (*Нехорошко, Нехорошка*<Нехорошъ+ко ці ка);

15) адмоўе *не-*+займеннік+суфікс *-ко* ці *-ка* (*Ненашко*<не+нашъ+ко), хаця магчыма проста ад імені з адмоўем+суфікс *-ко* ці *-ка* (Ненашко<Ненашъ+ко).

З ліку названых мадэлей у гэтым артыкуле разглядаюцца чатыры першыя («*не-*+корань дзеяслова», «*не-*+корань дзеяслова з прыстаўкай», «*не-*+корань дзеяслова+канчатак *-а*», «*не-*+корань дзеяслова з прыстаўкай+канчатак *-а*»). Кожнай з іх прысвячаецца самастойны параграф, у рамках якога ў алфавітным парадку падаюцца і разглядаюцца ў асобных слоўнікавых артыкулах усе зафіксаваныя і рэканструяваныя антрапонімы з адмоўем *не-*. Усе слоўнікавыя артыкулы маюць аднатыпную структуру. Загалоўным словам у іх з'уляецца зафіксаваны ці рэканструяваны антрапонім — апошні памячаецца зорачкай. Далей даецца семантычная частка — прыводзяцца дзеясловы, якія, па дапушчэнню аўтара, з'яўляюцца матывуючымі, і іх значэнне са спасылкай на крыніцу. Пасля ідзе анамастычная частка слоўнікавага артыкула, што ўключае ілюстрацыйны матэрыял ці матэрыял, па якім рэканструюецца антрапонім. Пасля лічбы I прыводзіцца антрапанімічны матэрыял, а пасля лічбы II — айканімічны.

Асноўнай задачай гэтай працы з'яўляецца выяўленне і даследаванне імён чатырох названых мадэлей з адмоўем *не-*, засведчаных у пісьмовых крыніцах старарускай, стараўкраінскай і старабеларускай пісьменнасці. Зразумела, на сучасным этапе нельга і думаць аб фран-

тальным абследаванні ўсіх пісьмовых крыніц і складанні поўнага корпусу такіх імён. Размова ідзе толькі аб тым, каб сабраць і сістэматызаваць усё тое, што ўжо здабыта з пісьмовых помнікаў, але рассеяна па розных выданнях і спецыяльна яшчэ не даследавалася. Такі матэрыял ёсць у працах Н. Чачуліна, М. П. Тупікава, А. М. Селішчава, А. І. Міраслаўскай, С. Б. Весялоўскага, В. І. Тагуновай, аўтара гэтага артыкула і іншых[1]. Ён і з'яўляецца базай інвентара імён з адмоўем *не-*, фіксаваных у старажытных помніках пісьменнасці. Спісак імён з адмоўем *не-* значна расшыраецца за кошт рэканструкцый іх на падставе ўсходнеславянскіх прозвішчаў і айконімаў.

Выкарыстаны пры рэканструкцыі імён з адмоўем *не-* антрапанімічны матэрыял (прозвішчы) выбран па рускай мове са слоўніка рускіх прозвішчаў М. Бенсана[2], па украінскай мове — з прац Ю. К. Рэдзько[3], па беларускай мове — з прац аўтара артыкула.

Айканімічны матэрыял для рэканструкцый выбраны са Спісаў населеных пунктаў Расійскай імперыі (другая палавіна XIX ст.) па 26 губернях і з несерыйных спіскаў населеных пунктаў (першае дзесяцігоддзе XX ст.) па 9 губернях. Спісак гэтых крыніц гл. у канцы артыкула. Выкарыстаны таксама сучасны айканімічны матэрыял па Украінскай[4] і Беларускай ССР[5].

---

[1] Н. Чечулин. Личные имена в писцовых книгах XV в., не встречающиеся в православных святцах.— «Библиограф», № 7—8, 1890; Н. П. Тупиков. Словарь древнерусских личных собственных имен. СПб, 1903; А. М. Селищев. Происхождение русских фамилий, личных имен и прозвищ.— «Ученые записки Московского университета», вып. 128, 1948; А. И. Мирославская. Древнерусские имена и прозвища в «Новгородских записных кабальных книгах 100—104 и 111 годов».— «Ученые записки Калининградского пединститута», вып. 6, 1959; С. Б. Веселовский. Ономастикон. М., 1974; В. И. Тагунова. Прозвищные имена в Муромских памятниках письменности XVII—XVIII вв.— «Ученые записки Рязанского педагогического института», т. 40, 1967; М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія. 1. Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку і прозвішчы. Мінск, 1966; 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мінск, 1969.

[2] Morton Benson. Dictionary of Russian Personal Names, 1964 (выд. Пенсільванскага універсітэта).

[3] Ю. К. Редько. Сучасні українські прізвища. Київ, 1966; Довідник українських прізвищ. Київ, 1969.

[4] Українська РСР. Адміністративно-територіальний поділ, т. 1, 2. Київ, 1969.

[5] В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія (лінгвістычны аналіз назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці). Мінск, 1970.

У артыкуле разглядаецца 189 фіксаваных і рэканструяваных імён. Аўтар імкнуўся ўстанавіць утваральныя асновы і на падставе іх значэння паказаць матывацыю (значэнне) імён, выявіць асноўныя крытэрыі і тэндэнцыі выбару матывуючых асноў — якія дзеянні галоўным чынам улічваюцца. Рэканструкцыі антрапонімаў па антрапонімах і айконімах ажыццяўляюцца на аснове ўліку суфіксаў апошніх. Пры наяўнасці суфіксаў рус. *-ов//-ев, -ово//-ево, -овка//-евка, -овщина//-евщина,* укр. *-ів, -ово//-ево, -івка, -івщина,* бел. *-оў//-аў//-еў, -ова//-ава//-ева, -оўка//-аўка//-еўка, -оўшчына//-аўшчына//-еўшчына* рэканструявалася форма мужчынскага роду, а пры наяўнасці суфіксаў рус., укр. *-ин, -ина, -ино,* бел. *-ін//-ын, -іна//-ына* — форма жаночага роду.

2. Найбольш шматлікай з'яўляецца мадэль «адмоўе *не-*+корань дзеяслова». Ва ўсходнеславянскіх мовах яна прадстаўлена і ў апелятыўнай лексіцы. Таму некаторыя антрапонімы маглі ўзнікнуць семантычным шляхам на аснове апелятываў «*не-*+корань дзеяслова».

* НЕБАЙ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *баяти* 'апавядаць', 'апавядаць байкі, небыліцы' (Ср., КССБМ, Грынч.). II. *Небаевка* Чарн. г.

* НЕБАР параўн. ст.-р. *барати* 'браць' (Ср.), ст.-б. *барити* 'забіраць' (Нас. АУ), укр. *барити* 'затрымліваць; запавольваць' (Грынч.). I. *Федец Небаров* пам. 1500 (Туп.), *Небаров Федор* пам. наўгародскі XV ст. (Вес.). II. *Небарово* Цв. г.

* НЕБОР параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *брати* 'браць' (Ср., Нас. АУ, Грынч.), ст.-б., укр. *боротися* 'змагацца' (КССБМ, Грынч.). II. *Неборы* Пск. г. Суч. УССР — *Неборівка* Жыт. в. Рэканструюецца і антрапонім з флексіяй *-а Небра* (гл.).

* НЕБОТ? II. *Неботово* Клж. г.

* НЕБРАС? I. *Васко Небрасевич* сел. луцкі 1552 (Туп.).

НЕБРАТ параўн. ст.-р., ст.-б. *братати* 'прызнаваць братам, братацца' (Ср.), укр. *брататися* 'братацца' (Грынч.), магчыма таксама не-+брат. I. *Небрат Языков* Мурам 1543 (Вес.). II. Суч. УССР — *Небрат.*

НЕБРОЙ параўн. укр. *броіти* 'сваволіць, пракудзіць, гарэзнічаць' (Грынч.). I. *Васка Няброй* Маг. 1746 (ИЮМ XXX 296).

* НЕВАД параўн. ст.-б., укр. *вадити* 'шкодзіць, псаваць; перашкаджаць, мяшаць' (Нас. АУ, Грынч.). II. *Невадьево* Уладз. г. Рэканструюецца і антрапонім з флексіяй *-а Невада* (гл.).

* НЕВАЛ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *валити* 'валіць' (Ср., ҚССБМ, Грынч.). II. *Невальские* Томск. г.

НЕВАР параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *варити* 'варыць' (Ср., ҚССБМ, Грынч.). I. СБП *Невар* (БА II 298).

* НЕВЕД параўн. ст.-р., ст.-б. *ведати, ведети* 'знаць, ведаць' (Ср., ҚССБМ), *неведети* (Ср.), ст.-б. *неведати* (ҚССБМ). I. *Иван Неведов* Белазерск 1613 (Туп.).

НЕВЕР параўн. ст.-р., ст.-б. *верити* 'верыць' (Ср., ҚССБМ), магчыма непасрэдна ад апелятыва *невер,* параўн. рус. *невер* 'чалавек, які не веруе, бязбожнік' (Даль). I. *Невер Бармин* баярын маскоўскі 1377, *Невер Волочкович* паўдн.-зах. 1477, *Невер Яхнов* 1498, *Невер Симонов* сел. уладзімірскі 1542, *Невер Шуйгін* землеўл. маскоўскі 1551, *Невер Рагозинин* сел. суздальскі 1579, *Невер Харитонов сын* сел. саліґаліцкі 1600 (Туп.), *Невер Бармин* дв. XIV ст., *Невер Григорьевич Апроксин* Ноўгарад 1545, *Невер Тимохин Заворов* там жа, *Истома Демидов-Неверов* 1569 (Вес.). СБП *Няверай, Невяровіч, Невяроўскі.* II. *Неверов* Вяцк. г., *Неверова* Раз. г., Цв. г., *Неверова* (*Неверово*) Маск. г., *Неверовка* Кстрм. г., Уладз. г., *Неверова Слобода* Уладз. г., *Неверово* Влг. г., Кстрм. г. (4), Ніжагар. г. (3), Уладз. г. (2), Цв. г. (2), Ярасл. г., *Неверовская* Влг. г., *Неверовские выселки* Раз. г., *Неверовское* Влг. г., Ярасл. г., *Неверь* Арл. г., *Неверьево* Цв. г. Суч. БССР — *Невярова, Невярышкі* (2), *Няверава, Няверышкі* Віц. в.; УССР — *Невирівка* Жыт. в., *Невір* Вл. в.

НЕВОРОТ параўн. ст.-р., ст.-б. *воротити* 'вярнуць, аддаць назад' (Ср., Нас. АУ). I. *Олексей Неворот* баярын тарскі 1680 (Туп.).

* НЕГАЙ параўн. ст.-р. *гаяти* 'каркаць' (Ср.), укр. *гаяти* 'запавольваць, затрымліваць', 'патраціць час' (Грынч.). II. *Негаева, Негаевы* Вяцк. г.

* НЕГАН параўн. ст.-р. *ганати* 'варажыць' (Ср.), ст.-б., укр. *ганити* 'асуджаць, ганіць, ганьбіць' (Нас. АУ, Грынч.). II. *Неганов, Неганово* Вяцк. г., *Неганово* Цв. г., *Негановская* Ярасл. г.

* НЕГЕЛ? I. *Денис Негеленко* сел. оўруцкі 1683 (Туп.).

* НЕГИЛЬ параўн. укр. *гилити* 'біць, дубасіць' (Грынч.). II. *Негилево* Тульск. г.

* НЕГОН параўн. ст.-р., ст.-б. *гънати* 'гнаць' (Ср., КССБМ). II. *Негоново* Ніжагар. г., Цв. г.

* НЕГОСТЬ параўн. ст.-р., ст.-б. *гостити* 'прымаць гасцей, угашчаць', 'гандляваць, ездзіць па гандлёвых справах' (Ср., КССБМ), магчыма непасрэдна ад апелятыва, параўн. рус. *негость* 'сем'янін, блізкі чалавек' (Даль). I. *Ефим Негостев* вотч. кольскі 1607 (Туп.).

* НЕГОШ параўн. ст.-р. *гошити* 'рабіць, рыхтаваць' (Ср.). II. *Нягошево* Смал. г.

*НЕГРАЖ параўн. ст.-р. *гражати* (Ср.). II. *Негражи* Пск. г.

* НЕДАВ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *давати* 'даваць' (Ср., Нас. АУ, Грынч.) ці ст.-р., ст.-б., укр. *давити* 'ціснуць, душыць', 'прымушаць' (Ср., КССБМ, Грынч.). II. *Недавовка* Уладз. г.

* НЕДАР параўн. ст.-р., укр. *дарити* 'дарыць' (Ср., Грынч.), ст.-б. *даритися* 'дарыць' (Нас. АУ). II. *Недаровка* Тульск. г.

* НЕДЕЙ параўн. ст.-р. *дѣяти* 'рабіць', 'дзейнічаць, быць у сіле' (Ср.), ст.-б. *дѣяти, деятися* 'рабіцца, адбывацца' (Нас. АУ). II. Суч. БССР — *Нядзеічы* Гом. в.

* НЕДЕР параўн. ст.-р. *драти, дърати* 'драць, дзерці' (Ср.). I. *Гаврилко Лукин сын Недеров* халоп 1498 (Туп.). Рэканструяваны і антрапонім з флексіяй *-а Недеря* (гл.).

* НЕЖЕР параўн. ст.-р. *жерети* 'прыносіць ахвяру' (Ср.), ст.-б., укр. *жерти* 'жэрці, есці' (КССБМ, Грынч.). II. *Нежеровский* Палт. г. Магчыма і непасрэдна ад апелятыва *нежерь*, параўн. укр. *нежерь* 'леташняя трава, якая перазімавала на корані', 'трава, якую жывёла не хоча есці' (Грынч.).

* НЕЖОД ці НЕЖОДА параўн. ст.-р. *жадати* 'прагнуць', *жадѣти, жадити* 'жадаць, прагнуць' ці *жьдати* 'чакаць' (Ср.), ст.-б. *жедати, жедети* 'жадаць, хацець' (КССБМ). II. *Нежода* Смал. г.

НЕКАР параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *карати* 'караць' (Ср., КССБМ, Грынч.). I. *Некарь Павлович Шелпяков* дв. 1550 (Вес.). II. *Некарево* Ярасл. г.

* НЕКВАС параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *квасити* 'квасіць', 'мачыць' (Ср., КССБМ, Грынч.). II. *Неквасово* Смал. г.

* НЕКИП параўн. ст.-б. *кипетц* (КССБМ), рус. *кипеть,* укр. *кипіти* (Грынч.) 'кіпець'. І. *Шерапка Некипов* у Пераяслаўлі Разанскім 1596 (Туп.).

* НЕКЛАД параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *класти* (*кладу*) 'класці' (Ср., КССБМ, Грынч.), ст.-б. *кладати* 'класти' (КССБМ). II. *Некладово* Цв. г.

НЕКЛЮД параўн. ст.-р. *клюдити* 'гаварыць', 'жартаваць, строіць кепікі' (Ср.). І. *Неклюд Федоров сын Шалимова* пам. 1495, *Федко Неклюд Иванов сын Подушкина* пам. 1495, *Неклюд Барысов сын Вышеславцева* пам. 1500, *Неклюд Степанов сын* халоп 1506, *Неклюд Попов сын Васильев* св. 1512, *Неклюд Яковлев сын Головина* 1518, *Неклюд Петров сын Курлаков* дв. Масква 1519, *Неклюд Парфенов* баярын мурамскі 1538, *Неклюд Иванов сын Мосеева* пам. 1539, *Неклюд Епимахов* гарадскі галава ў Валагодскім п. XVI ст., *Неклюд Душкин* 1511, *Неклюд Савин* сел. уладзімірскі 1542, *Неклюд Шамардин* землеўл. 1552, *Неклюд Рахманинов сын Разварина* паўн. 1559, *Неклюд Панкратов* балахонскі сел. 1562, *Неклюд Угримов сын* цал. 1567, *князь Неклюд княж Давыдов сын Путятин* Масква 1577, *Неклюд Васильев* сел. 1587, *Неклюд Лвов* баярын смаленскі 1609, *Неклюд Микиктин сын Пузырев* вотч. клінскі XVII ст. (Туп.), *Андрей Иванович Неклюд Мичурин* 1504, *Неклюд Дмитриевич Бутурлин* XVI ст., *Неклюд Исупов Аникеев* дв. 1550 (Вес.), *Крыштофем Неклюдем* Дубінская вол. 1684 (АВАК XII 498). II. *Неклюдова* Кур. г., *Неклюдово* Влг. г., Маск. г. (2), Наўг. г., Ніжагар. г., Пск. г., Раз. г., Уладз. г., Цв. г. (2), *Неклюдовка* Пенз. г., Сарат. г. (3), *Неклюды* Смал. г., *Неклюдиха* Влг. г. (2), Наўг. г., *Неклюдовская* Влг. г. Суч. БССР — *Няклюдава* Віц. в. Зафіксаваны таксама дэмінутыўныя формы *Неклюдец, Неклюдко.*

* НЕКОХ параўн. ст.-б., укр. *кохати* 'кахаць, любіць' (КССБМ, Грынч.). II. *Некохово*-Наўг. г.

* НЕКРАТ параўн. ст.-б. *кратати* 'кратаць, варушыць' (КССБМ). І. *Тихон Некратович* Бр. 1644 (АВАК VI 438).

*НЕКРЕСТ параўн. ст.-р., ст.-б. *крьстити, крестити* 'хрысціць' (Ср., КССБМ). II. *Некрести* Вяцк. г., хаця айконім мог узнікнуць непасрэдна ад апелятыва ў якасці характарыстыкі жыхароў, якія, магчыма, былі не хрышчоныя.

* НЕКРОЙ параўн. ст.-б., рус., укр. *кроити* 'кроіць' (КССБМ, Грынч.). I. СБП *Някроенка* (БА II 301).

НЕКРУС? I. *Онанья Дорофеев сын Некрус* Яранская вол. 1547 (Туп.).

*НЕЛАЙ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *лаяти* 'брахаць', 'лаяцца, крычаць', (Ср., КССБМ, Грынч.). I. *Нелаев Второй Дмитриевич* з Кастрамы 1568 (Вес.). СРП *Нелаев* (Бенс.).

* НЕЛЕЗ(Ь) параўн. ст.-р., ст.-б. *лезти* 'лезці' (Ср., КССБМ). I. СБП *Нялезеў* (БА II 301).

*НЕЛЕН(Ь) параўн. ст.-р., ст.-б. *лѣнитися* 'ленавацца' (Ср., КССБМ). II. Суч. УССР — *Нелени* См. в.

НЕЛЮБ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *любити* 'любіць', 'кахаць' (Ср., КССБМ, Грынч.), магчыма непасрэдна ад апелятыва *нелюб*, параўн. рус., укр. *нелюб* 'нелюбімы, нямілы' (Дабр., Грынч.). Зафіксаваны і антрапонім з флексіяй *-а Нелюба* (гл.), а таксама дэмінутывы *Нелюбец, Нелюбко.* I. Князь *Александр Нелюб, сын княж Иванов Олгимантов* 1406, *Нелюб* пам. у літоўскім кн. XV ст., *Нелюб* манаст. слуга 1547, *Нелюб Тимофеев сын Зачесломского* дв. маскоўскі 1563, *Нелюб Козелкин* баярын бранскі 1605, *Нелюб Оксенов* баярын смаленскі 1609, *Нелюб Суколенов* ваявода валагодскі 1610, *Иван Нелюб* землеўл. віленскі 1611, *Нелюб Григорьев сын* сел. манаст. 1617 (Туп.), *Иван Иванович Нелюб Пронский* XV ст., *Нелюб Тимофеевич Зачесломский* пам. маскоўскі 1550, *Нелюб Михайлович Секирин* 1576, *Непогода Нелюбов* Казань 1556 (Вес.), *Нелюб Щербович* Навагр. 1528 (У.37), *Нелюб Коробка* Бр. п. 1567 (П. 1183), *Нелюбовичов* з. Васілішкі 1560 (АВАК XIII 285). СБП *Нелюб, Нялюб, Нялюбін* (БА II 299). II. *Нелюбово* Ніжагар. г., Ярасл. г., Наўг. г., *Нелюбы, Нелюби* Вяцк. г., *Нелюбовка* Арл. г., Клж. г., Херс. г., *Нелюбевка* Палт. г., *Нелюбовщина* Вяцк. г. (2), *Нелюбенка* Тульск. г., *Нелюбиха* Кстрм. г., *Нелюбины, Нелюбиных, Нелюбинцы* Вяцк. г., *Нелюбовская* Влг. г., *Нелюбовское* Ярасл. г. Суч. УССР — *Нелюбівка* Пл. в.

* НЕМАН параўн. ст.-б., укр. *манити* 'маніць, абманваць, падманваць' (Нас. АУ, Грынч.). II. *Неманова, Неманово* Влг. г.

* НЕМЕН параўн. ст.-р. *мѣнити* 'мяняць, абменьваць', 'мінаць', (Ср.), ст.-р., ст.-б. *мѣняти* 'мяняць, абменьваць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *мѣнити* 'ўпамінаць',

’абавязваць’ (Нас. АУ). I. СБП *Немянёнак* (БА II 301). II. *Немень* Пск. г. Суч. УССР — *Неменка* Вн. в.

* НЕМЕРЗ параўн. ст.-р. *мьрзати* ’мерзнуць, змерзнуць’ (Ср.), ст.-б. *мерзети* ’станавіцца агідным’, *мерзнути* ’мерзнуць’ (КССБМ), укр. *мерзти,* ’мерзнуць’ (Грынч.). II. *Немерзи, Немерзь* Смал. г.

НЕМИР параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *мирити* ’мірыць, прымірыць’, *миритися* ’мірыцца’ (Ср., КССБМ, Грынч.). Зафіксаваны і антрапонім з флексіяй *-а Немира* (гл.) і дэмінутыў *Немирко.* I. *Немир* пан у Літве 1412, *Немир Андреев сын Микитина* 1490, *Немир Воропцов* баярын пскоўскі 1534, *Немир* пам. 1598, *Немир Янцович* мешч. мазырскі 1552, *Немир Бурков* Угліч 1592, *Немир Иванов* Ноўгарад 1513, *Иван Немиров* землеўл. 1495, *Андрей Немиров* ваявода ў Літве 1535, *Фомка Немиров* халоп 1541, Пан *Елиаш Александр Немирич* зах. 1683, Пан *Федко Немирович* землеўл. у Літве 1465 (Туп.), *Немир Михайлович Опалев* Ноўгарад 1545, *Константин Немир Жемайлов* XVI ст. (Вес.). II. *Немиров* Пад. г., *Немирово* Яросл. г., *Немирово (Немерово)* Маск. г., *Немировка* Пенз. г., *Немиринцы* Пад. г., *Немировское* Пад. г., *Немировская Слобода* Пад. г. Суч. УССР — *Немир* Вл. в., *Немирів* Вн. в., *Немирівка* Жыт. в. (3), Хм. в., *Немиринці* Вн. в., Жыт. в., Хм. в. (3), *Немирівське* Ад. в.

* НЕПОР параўн. ст.-р., укр. *пороти* ’пароць, распароць, разразаць’, (Ср., Грынч.), бел. *пароць* ’тое ж’, ст.-р. *пьрѣтися* ’спорыць’, ’адракацца, адказвацца’ (Ср.). II. *Непорово* Кстрм. г. (2), Раз. г., Цв. г., Яросл. г.

* НЕПРЯД параўн. ст.-б. *прясти* (*пряду*) ’прасці’ (КССБМ). II. *Непрядово* Тульск. г.

НЕПХАЙ параўн. ст.-р., ст.-б. *пьхати, пъхати* (*пьхаю*) ’піхаць, таўхаць’ (Ср., КССБМ), укр. *пхати* ’тое ж’ (Грынч.), магчыма, ад формы загаднага ладу. I. *Иван Непхай* Гр. 1526 (АВАК VII 9). II. *Непхаево* Кур. г.

* НЕПЫЛ параўн. ст.-б. *пылати* ’палаць, гарэць’ (КССБМ). I. *Федор Непылихин* данскі казак 1688 (Туп.).

НЕРАД параўн. ст.-р. *радити* ’клапаціцца’, *нерадити* ’не клапаціцца, адносіцца няўважліва, абыякава’ ці *радити, рядити* ’кіраваць’ ці *радоватися* ’радавацца’ (Ср.), укр. *радити,* бел. *радзіць* ’даваць параду, савет’ (Грынч., БРС), магчыма непасрэдна ад апелятыва, параўн. ст.-б.

*нерад, неряд* 'беспарадак, непарадак' (Нас. АУ). Адзначаны і антрапонім з флексіяй *-а Нерада* (гл.) і дэмінутывы *Нерадек, Нерадец*. І. *Давыд Нерадов* землеўл. 1500, *Панкрат Фомин сын Нерадов* Самара 1697 (Туп.). СБП *Нерад* (БА II 299).

* НЕРАТ параўн. ст.-р. *ратитися* 'быць у варожых адносінах, варагавацъ' (Ср.), ст.-б. *ратовати* 'ратаваць, выратоўваць' (КССБМ). І. *Нератов Онисим* Тацьма 1600.

* НЕРЕЗ параўн. ст.-р., ст.-б. *рѣзати* 'рэзаць' (Ср., КССБМ). II. *Нерезево* Яраслг. г. —

НЕРОД параўн. ст.-р., ст.-б. *родити* 'радзіць' (Ср., КССБМ), магчыма непасрэдна ад апелятыва, параўн. укр. *нерод* 'неўраджай' (Грынч.). Зафіксаваны і антрапонім з флексіяй *-а Нерода* (гл.). І. *Domian Nierodzicz* сел. барскі 1565 (Туп.). СБП *Нярод* (БА II 302). II. *Неродовщизна* Пін. п. 1646 (АВАК XVIII 349).

*НЕРОЛ відаць, ад *ролити* 'араць'. II. *Неролово* Цв. г.

НЕРОН параўн. ст.-б., укр. *ронити* 'раняць, выпускаць з рук, не ўтрымліваць' (КССБМ, Грынч., Даль). І. *Неронавы* памешчыкі Арзамас XVI ст. (Вес.), *Нерон* Пол. зямля 1528 (У. 195), *Самуель Неронович* Навагр. 1684 (АВАК XVIII 501). СБП *Няронаў, Няронскі* (БА II 302), СРП *Неронов* (Бенс.). II. *Неронов* Наўг. г., *Нероново* Влг. г., Кстрм. г., Пск. г. (3), Тамб. г., Яраслг. г. (3), *Неронова* Клж. г., Смал. г., *Нероновка* Клж. г., *Нероновщина* Пск. г., *Неронки* Маск. г., *Нероновская* Влг. г., *Нероновское* Цв. г.

* НЕРУЧЬ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *ручити, ручитися* 'паручыцца' (Ср., КССБМ, Грынч.), укр. *ручитися*, бел. рэг. *ручыцца* (пра дамашнюю жывёлу) 'добра гадавацца, расці, весціся, не зводзіцца, ісці рукою', (пра грошы і інш.) 'не выводзіцца, заўсёды мець'. У такім разе *Неручь* 'той, за якога нельга паручыцца' ці 'будзе добра гадавацца'. У Даля *неручь* 'вялікі ручэй', па Фасмеру *не-* і *ручэй*. Магчыма і такое паходжанне імені-мянушкі *Неручь*. І. *Федосейко Неручев* Арол 1673 (Туп.).

НЕРУШ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *рушати* 'разбураць', 'нарушаць', 'перасоўваць, перамяшчаць', *рушити* 'разбураць', 'знішчаць', 'нарушаць' (Ср., КССБМ, Грынч.): І. СБП *Неруш* (БА II 299).

НЕРЫК параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *рыкати, рикати* 'рыкаць , раўці', 'крычаць, стагнаць' (Ср., ҚССБМ, Грынч.). I. *Нерык Семенович Моклаков* 1575 (Вес.).

* НЕСЛУХ параўн. ст.-р., укр. *слухати,* бел. *слухаць* 'слухацца, падпарадкоўвацца' (Ср.), магчыма непасрэдна ад апелятыва, параўн. рус., укр., бел. *неслух* 'той, хто не слухаецца, непаслухмяны'. II. Суч. УССР — *Неслухів* Лв. в.

* НЕСТРАШ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *страшити, страшыти* 'страшыць' (Ср., ҚССБМ, Грынч.). II. *Нестрашево* Цв. г.

НЕСТУК параўн. ст.-б., укр. *стукати* 'стукаць' (ҚССБМ). II. *Нестук* Палт. г.

НЕТЕЛЬ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *телитися* 'цяліцца' (Ср., ҚССБМ, Грынч.), магчыма непасрэдна ад апелятыва, параўн. рус. *нетель,* бел. *нецель* 'маладая карова, якая яшчэ не цялілася' (Даль, БРС). I. СБП *Нецель* (БА II 299). II. *Нетелево* Перм. г.

* НЕТЕРП ці НЕТЕРПА параўн. ст.-р., ст.-б. *терпѣти, тьрпѣти,* укр. *терпіти* 'цярпець, трываць', 'магчымець сілы' (Ср., ҚССБМ). II. Суч. УССР — *Нетерпинці* Тр. в.

* НЕТЕС параўн. ст.-р., ст.-б. *тесати,* укр. *тесати* 'часаць, абчэсваць', 'высякаць, вырабляць з дрэва ці каменя' (Ср., ҚССБМ, Грынч.), магчыма непасрэдна з апелятыва, параўн. рус. *нетéс, нéтес* 'неапрацаваны камень', 'праставаты, нясkладны чалавек' (Даль). Рэканструяваны і антрапонім з флексіяй *-а Нетеса* (гл.). I. *Нетесов Степан Иванович* Арзамас XVI ст. (Вес.). II. *Нетесово* Кстрм. г., Маск. г., Ніжагар. г., *Нетесовка* Екац. г., *Нетесовская* Влг. г. Суч. УССР — *Нетесівка* Днп. в.

* НЕТРАТ параўн. ст.-б., укр. *тратити,* рус. *тратить* 'траціць, губляць' (Нас. АУ, ҚССБМ, Грынч.), параўн. таксама ст.-рус. *тратити* 'праследаваць, гнаць', 'дамагацца' (Ср.). II. *Нетратовка* Палт. г. Суч. УССР — *Нетратівка* Пл. в.

*НЕТЯГ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *тягати, тягнути* 'цягаць, цягнуць' (Ср., ҚССБМ, Грынч.). II. *Нетягова* Маск. г., *Нетяговка* Чарн. г., *Нетяговщина* ці *Нетяговский* Палт. г., *Нетяговщина* Палт. г.

НЕХАЙ параўн. рус. *хаять,* ст.-б. *хаяти* 'ганіць, лаяць' (ҚССБМ), г. зн. 'той, якога не ганяць, не лаюць'.

Магчыма і непасрэдна ад вядомай у рус., укр. і бел. м. формы *нехай* з *нехати* 'пакідаць, пускаць' (Фасм.), у такім разе *Нехай* 'той, якому жадаюць, каб быў, застаўся, жыў'. I. *Нехай Андреев сын Фотеева* 1568 (Туп.), *Нехай Васильевич Бекетов* Дзмітраў 1517, *Нехай Андреевич Фотиев* Белавозера 1567, *Иван Нехай* сел. Масква 1496 (Вес.). СБП *Няхай* (БА II 303), СРП *Нехаев* (Бенс.), СУП *Нехай* (Дав.). II. *Нехаев* Вар. г., Чарн. г., *Нехаево* Цв. г., *Нехаевка* Кур. г., Чарн. г. (2), *Нехаиха* Уладз. г. Суч. УССР — *Нехаївка* См. в., Чрг. в., *Нехайки* Чрк. в.

НЕХЛЕБ відаць, ад *хлебати*. I. *Иван Нехлеб* мешч. чарнабыльскі 1552 (Туп.). СБП *Няхлебаў* (БА II 303).

* НЕХОТ параўн. ст.-р., ст.-б. *хотѣти* 'хацець, жадаць', 'патрабаваць, дабівацца' (Ср., КССБМ). II. *Нехотово* Влг. г., *Нехотицко* Наўг. г.

*НЕХРИСТ параўн. ст.-р., ст.-б. *христити, охристити* 'хрысціць' (Ср., Нас. АУ), укр. *нехрúст* 'няхрышчаны' (Грынч.). II. *Нехристово* Пск. г., *Нехристовка* Палт. г. Суч. УССР — *Нехристівка* Пл. в.

НЕЦВЕТ параўн. ст.-р. *цвѣсти, цвести* (*цвѣту, цвьту*), бел. *цвісці* 'цвісці, квітнець' (Ср., КССБМ). I. СБП *Няцвет* (БА II 303).

НЕЧАЙ параўн. ст.-р., ст.-б. *чаяти* 'чакаць, спадзявацца' (Ср., КССБМ). Зафіксаваны і антрапонімы з суф. *-ец, -ко Нечаец, Нечайко.* I. *Нечай* сел. 1495, *Нечай* пам. 1495, *Давыдко Нечай* 1498, *Алексей Нечай Щербинин* халоп 1498, *Нечай Сикирин* пам. 1500, *Васюк Нечай Митин сын Шадрина* пам. 1500, *Нечай Матфеев сын Варанинова* сел. XVI ст., *Нечай* сел. XVI ст., *Нечай Щетинин* ва Уладзімірскім п. 1518, *Ульян Нечай Степанов сын Почечюева* 1518, *Нечай Лукиан Филин сын Мироносицкого* послух у Белазерским п. 1529, *Нечай Стефанов сын Карзина* землеўл. Дзвінскай вол. 1537, *Нечай Михайлов сын* сел. уладзімірскі 1542, *Нечай Митин сын Бритого* пасадскі кашырскі 1543, *Нечай Ощенин* сел. 1544, *Нечай Тумский* Суздаль 1547, *Нечай Щербин* пам. 1552, *Нечай Сивцов* з Валагодскага п. 1554, *Нечай Степанов сын Чадин* дзяк 1554, *Нечай Иванов сын* 1567, *Андрей Нечай Иванов сын Дураков* вотч. каргапольскі 1568, *Нечай Фролов* цал. дзвінскі 1571, *Нечай Гриневич* мешч. быхаўскі 1583, *Нечай Леонтьев сын Цыбрин* сел. 1587, *Нечай Булатов* вотч. суздальскі 1592, *Нечай Федо-*

*ров* маскоўскі дзяк 1605, *Нечай Небольсин* у Маскве 1605, *Нечай Порфирьев* маскоўскі дзяк 1605, *Нечай Тяпушка* 1607, *Нечай Попов* вотч. кольскі 1607, *Нечай Щелин* гараднічы смаленскі 1608, *Нечай Ульянов* 1610, *Нечай Софонов* вотч. мажайскі 1610, *Нечай Шокуров Ярославец* баярын 1632, *Иван* и *Нечай Хомировичи* баяры ў Гомельскім старостве 1640, *Данило Нечай* 1651, пан *Нечай Млодший* дв. каля Брэст-Літоўска 1669, *Максим Нечай* мешч. вінніцкі 1552, *Нечай Кряталов* 1556, *Нечай* мешч. 1565, *Нечай Федоров сын Кустов* дв. маскоўскі 1566, *Нечай Федоров сын Ртищева* баярын маскоўскі 1566, *Нечай* зах. 1595, *Нечай Петров сын Княжнина* 1609, *Теодор Нечай* бурмістр кіеўскі 1616, пан *Нечай* пам. паўдн.-зах. 1687 (Туп.), *Иван* и *Некрас Дмитриевичи Нечаевы* Растоў XV ст. (Вес.), *Нечай Тишевич* Гр. п. 1567 (П. 678), *Иван Нечай* Ула 1764 (ИЮМ XXII 431). СБП *Нячай, Нячаеў* (БА II 303). II. *Нечаев* Вар. г. (2), Кур. г., Перм. г. (2), Чарн. г., *Нечаева* Арл. г. (2), Екац. г., Перм., г., *Нечаева Гора* Влг. г., Екац. г., *Нечаево* Екац. г., Кстрм., г., Наўг. г., Ніжагар. г. (3), Перм. г., Пск. г. (4), Смал. г. (2), Тульск. г., Уладз. г., Цв. г. (3), *Нечаевка* Вар. г., Клж. г., Кур. г. (3), Ніжагар. г., Пенз. г. (2), Раз. г., Сарат. г. (3), Тульск. г. (2), Уладз. г. (3), Цв. г., Херс. г., Ярасл. г., *Нечаино* Наўг. г., *Нечаевщина* Цв. г., Чарн. г., *Нечаевщина* Вяцк. г., *Нечаиха* Вл. г., Кстрм. г., Уладз. г., *Нечаевцы* Вяцк. г., *Нечаевская* Вяцк. г., Арл. г., Влг. г., Раз. г., Ярасл. г. (2), *Нечаевский* Вяцк. г., Тульск. г., *Нечаевское* Влг. г., Наўг. г. Суч. УССР — *Нечаеве* Чрк. в., *Нечаів* Чрг. в., *Нечаівка* Днп. в., Крв. в., См. в. (2), Хм. в., Чрк. в.

*НЕЧЕС параўн. ст.-р., ст.-б. *чесати* 'часаць валасы', 'гладзіць' (Ср., КССБМ). II. *Нечесово* Маск. г.

* НЕШАР параўн. ст.-р. *шарити* 'фарбаваць' (Ср.), а таксама ст.-б. *шарый* 'шэры' (КССБМ). II. *Нешарово* Влг. г., Цв. г.

Дэрываты мадэлі «*не-*+корань дзеяслова» складаюць каля 14% ад усіх зарэгістраваных і рэканструяваных антрапонімаў з адмоўем *не-*. Зарэгістраваны антрапонімы: *Небрат, Неброй, Невар, Невер, Неворот, Некарь, Неклюд, Некрус, Нелюб, Немир, Непхай, Нерад, Нерод, Нерон, Неруш, Нерык, Нетель, Нехай, Нехлеб, Нецвет, Нечай;* рэканструяваны па антрапонімах: *Небар, Негел, Негость, Недер*(*а*), *Некип, Некрат, Некрой, Нелай, Не-*

*лез(ь), Немен, Непыл, Нерад, Нерат, Неруч, Нетес;* рэканструяваны па айконімах: *Небай, Небор, Небой, Невад, Невал, Негай, Неган, Негиль, Негон, Негош, Нераж, Недав(а), Недар(а), Недей, Нежер(а), Нежод(а), Неквас, Неклюд, Некох, Некрест, Нелен(ь), Немен, Немерз, Непор, Непряд, Нерез, Нерол, Неслух, Нестраш, Нестук, Нетерп(а), Нетрат, Нетяг, Нехот, Нехрист, Нечес, Нешар.* Матываваны яны дзеясловамі: *баяти, барати, брататu, брати, броити, вадити, валити, варити, ведати, верити, воротити, гаяти, ганати* ці *ганити, гнати, гостити, гошити, гражити, давати, дарити, деяти, драти, жерети, жадати//жадъти//жадити, карати, квасити, кипети, класти, клюдити, кохати, кратати, крестити, кроити, лаяти, лезти, ленитися, любити, манити, менити* ці *меняти, мерзети, мирити, пароти* ці *пьрьтися, прясти, пылати, радити, ратитися, резати, родити, ролити, ронити//роняти, ручити* ці *ручитися, рушати* ці *рушити, рыкати//рикати, слухати, страшити, стукати, телитися, терпети, тесати, тратити* ці *тратати, тягати, хаяти, хлебати, хотети, христити, цвести, чаяти, чесати, шарити.* Дапушчальна да разгледжанай групы аднесены антрапонімы *Небот, Небрас, Негел, Некрус,* для якіх не выяўлены дзеяслоўныя адпаведнікі.

Неабходна некалькі слоў сказаць пра антрапонімы з канцавым [j], што знешне падобны да дэрыватаў з суфіксамі *-(а)й, -(о)й, -(у)й, -(е)й.* У гэтым параграфе разглядаюцца толькі тыя, у якіх [j] з'яўляецца каранёвым, а таму яны належаць да разгледжанай мадэлі. Параўн.: *Небай : бајати, Неброй : бројити, Негай : гајати, Недей : дѣјати, Некрой : кројити, Нелай : лајати, Нехай : : хајати, Нечай : чајати.*

3. Блізкімі па спосабу ўтварэння да вышэй разгледжаных з'яўляюцца антрапонімы, утвораныя пры дапамозе адмоўя *не-* ад прыставачных дзеясловаў — мадэль «адмоўе *не-*+корань дзеяслова з прыстаўкай».

НЕВГАД гл. Неугад. I. *Невгад* паўдн.-зах. 1691 (Туп.).

НЕВГОД параўн. ст.-р., ст.-б. *въгодити* 'ўгадзіць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *невгодно, невгодный;* гл. Неугод I. *Невгод Прихожий* 1545, *Сенко Невгод* 1600 сяляне оўруцкія, *Неугод Федоров сын Юрьева* Масква 1565 (Туп.). II. *Невгодово* Пол. в. 1645 (АВАК XV 17). Суч. УССР — *Невгоди* Жыт. в.

*НЕВЗВОД параўн. ст.-р., ст.-б. *възводити* 'ўзнімаць' (Ср., КССБМ). II. *Невзводово* Клж. г.

НЕВЗГЛЯД параўн. ст.-р., ст.-б. *възглядати* 'глядзець' (Ср., КССБМ). I. *Кирюшка Невзгляд* Кіеўская акр. 1686 (Туп.).

НЕВЗОР параўн. ст.-р., ст.-б. *възрѣти, възърѣти* 'глядзець, убачыць' (Ср., КССБМ). I. *Невзор Злобин сын Чеглоков* Москва 1566, *Невзор Федоров сын Пересветова* Растоў 1571, *Невзор Залякин* Ноўгарад 1577, *Ондрушка Невзоров* Пераслаў 1562, *Сулеш Невзоров сын Выновского* дв. маскоўскі 1565 (Туп.), *Невзор Григорьевич Арцыбашев* 1550, *Невзор Злобин Чеглоков* 1557, *Невзор Выповский* XVI ст., *Афанасий Невзоров* 1543 (Вес.), *Павла Невзора* Пол. 1633 (АВАК XI 111). II. *Невзоров* Чарн. г., *Невзорово* Кур. г., Наўг. г., Раз. г., Чарн. г., *Невзориха* Кстрм. г., *Невзоровцы* Вяцк. г.

НЕВСТРОЙ, *НЕВСТРУЙ гл. Неустрой. I. Пан *Александр Невстрой* лоўчы старадубскі 1680. II. *Невструев* Чарн. г., *Невструево* Арл. г.

НЕВЫЛАЗ параўн. ст.-р., ст.-б. *вылазити* 'выходзіць', 'з'яўляцца' (Ср., КССБМ), ст.-б. *вылаз*. I. *Невылаз Иван* сел. з Ніжняга Ноўгарада 1626 (Вес.).

*НЕДОМЫСЛ параўн. ст.-р. *мыслити* 'думаць, мысліць' (Ср.), *домыслити, домыслитися* 'надумаць, прыдумаць, дадумацца' (КССБМ), *домысл* 'мысленне' (Нас. АУ). II. *Недомысли* Наўг. г.

*НЕДОПЛЕХ? Да аддзеяслоўных утварэнняў аднесена на аснове наяўнасці прыстаўкі *до-*, відаць, ад гіпатэтычнага *плехати*. II. *Недоплехово* Кур. г.

НЕДОРЕЗ параўн. ст.-р., ст.-б. *рѣзати* 'рэзаць' (Ср., КССБМ). I. *Васко Недорез* пасаднік угліцкі 1591 (Туп.), *Недорезов Андрей* Ладага 1694 (Вес.). СБП *Недарэз, Недарэзаў* (БА II 298). II. *Недорезова* Томск. г., *Недорезиха* Вяцк. г., *Недорезы* Вяцк. г. (2), Кстрм. г.

НЕДОРОД параўн. ст.-р., ст.-б. *родити* 'нарадзіць' (Ср., КССБМ). Зафіксаваны і дэмінутыў *Недородка*. I. *Ивашко Недород* служылы чалавек 1641 (Туп.).

*НЕДОСТАЙ параўн. ст.-р. *стаяти* 'станавіцца старчма', 'спыняцца', 'знаходзіцца, быць', 'з'яўляцца' (Ср.), магчыма і ад *стати* пры дапамозе суфікса *-ай*. II. *Недостаево* Раз. г.

*НЕДОСТОЙ параўн. ст.-р., ст.-б. *стояти* 'стаяць, быць у стаячым становішчы', 'стаяць, заставацца на ме-

сцы', 'заступацца, абараняць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *достояти* 'дачакацца заканчэння чаго' (Нас. АУ), *недостоити* (КССБМ), магчыма і ад ст.-р., ст.-б. прыметніка *недостойный* (Ср., КССБМ). I. *Ондрей Левонтьев сын Недостоев* пушкар у Пераяслаўлі Разанскім 1639 (Туп.), *Недостоев Андрей* пушкар у Разані 1693 (Вес.).

НЕДОСТРЕЛ параўн. ст.-р., ст.-б. *стрѣляти* 'страляць', *дострѣлити* 'дастаць стрэлам, быць на адлегласці стрэлу', *дострѣл* 'адлегласць, даўжыня стрэлу (палёту выстраленага)' (Ср., КССБМ). I. *Федко Васильев Недострел* Сібір 1676 (Туп.).

*НЕДОСТУП параўн. ст.-р. *ступати* 'хадзіць, ступаць', 'ступаць, узыходзіць', *ступити* 'ступіць, зрушыцца з месца', *доступати* 'прыбліжацца, падступаць' (Ср., Нас. АУ); укр. *недоступ* 'конь ці вол, заднія ногі якога ступаюць карацей, чым пярэднія' (Грынч.). II. *Недоступов* Сарат. г., *Недоступовка* Кур. г.

*НЕДОХОД параўн. ст.-р., ст.-б. *ходити* 'хадзіць' (Ср., КССБМ), ст. р., ст.-б. *доходити* 'даходзіць' (Ср., Нас. АУ), ст.-б. *недоходячий*. II. *Недоходово* Клж. г.

НЕДОШИВ? I. *Недошив Иван* сел. з Арзамаса 1585 (Вес.).

НЕЗАМАЙ параўн. ст.-р. *маяти* 'махаць' (Ср.), ст.-б. *заимати* 'завалодваць', 'затрымліваць, забіраць', 'чапаць, закранаць' (Нас. АУ), *незамай* 'нечапай'. I. *Незамай Остафьев сын Дурново* дв. маскоўскі 1565, *Юрьи Незамай* суддзя ў Пераяслаўскім войску 1665, *Федор Незамаев сын Потребинского* пам. наўгародскі 1592, *Якушко Незамаев* пад'ячы маскоўскі 1686 (Туп.), *Незамай Иванович Потребинский* Бароўск 1550, *Федор Незамаев* Ноўгарад 1604, *Незамаев Яков* 1674 (Вес.). II. *Незамаева* Клж. г.

*НЕЗВЕР параўн. ст.-р. *вѣрити* 'верыць' (Ср.). II. Суч. УССР — *Незвір* Вл. в.

*НЕЗГОВОР параўн. ст.-р., ст.-б. *говорити* 'гаварыць' (Ср., КССБМ). II. *Незговорово* Кстрм. г.

*НЕЗДЕЙ параўн. ст.-р., ст.-б. *дѣяти* 'рабіць, дзейнічаць, быць у сілах' (Ср., КССБМ). II. *Нездеево* Маск. г.

*НЕЗДЫМ параўн. ст.-б. *здыймовати, здымати* 'здымаць'. II. *Нездымово* Цв. г.

*НЕНАЕД ці НЕНАЕДА ад *наѣдатися* 'наядацца'. II. *Ненаедовка* Цв. г.

*НЕНАРАД параўн. ст.-р. *радити* 'клапаціцца' ці *радоватися* 'радавацца, быць давольным' (Ср.), ст.-б. *нарадитися* 'параіцца, прыняць параду' (Нас. АУ). II. *Ненарадовка* Кур. г.

НЕНАРОК параўн. ст.-р. *нарѣкати* 'называць, даваць імя', *нарокъ* 'імя, назва', 'званне', 'рашэнне, прысуд' (Ср.), ст.-б. *нарок* 'суд', 'прысуд' (Нас. АУ), *нарекати* 'скардзіцца, наракаць, жаліцца' (КССБМ). I. *Ненарок сын Василия Левшина* пам. 1552 (Туп.), *Ненарок Васильевич Левшин* Ноўгарад 1552 (Вес.).

*НЕОХАЙ параўн. ст.-р. *охаятися* 'аддаляцца, устрымлівацца' (Ср.), ст.-б. *охаяти* (КССБМ). II. *Неохаиха* Кстрм. г.

НЕПОГОД параўн. ст.-р. *годити* 'гадзіць', *годитися* 'згаджацца, быць давольным' (Ср.), ст.-б. *пагодитися* 'пагадзіцца, памірыцца' (Нас. АУ), ст.-б. *погодити, погодитися* 'памірыцца, прымірыцца, згадзіцца' (КССБМ). Зафіксаваны і антрапонім з флексіяй *-а Непогода* (гл.), а таксама з суфіксамі *-ей, -ьје, -ко Непогодей, Непогодьѐ, Непогодко.* I. *Непогод Савельев* сел. з Арзамаса 1586 (Вес.).

*НЕПОСЕД параўн. ст.-р., ст.-б. *сѣдѣ ти, сидѣ ти, седети* 'сядзець' (Ср., КССБМ). I. *Михал Непоседов* Звенігародскі п. 1462 (Туп.).

НЕПОСТАВ параўн. ст.-р., ст.-б. *ставити* 'ставіць, будаваць', 'ставіць, памяшчаць', *поставити* 'паставіць, памясціць', 'пабудаваць', 'назначыць, прызначыць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *непоставене* 'нез'яўленне на суд, ухіленне ад прысутнасці на судзе' (КССБМ). I. *Непостав Осифов сын Чюровского* Белазерск 1576, *Богдан Непоставов* Масква 1545 (Туп.).

*НЕПОТЯГ параўн. ст.-р., ст.-б. *тягати* 'цягнуць, тузаць', *тягатися* 'судзіцца' (Ср., КССБМ), ст.-р. *потягати* 'змагацца, перамагаць', ст.-б. *потягати* 'прыцягваць' (КССБМ), ст.-р., ст.-б. *потяг* 'пабор' (Ср., КССБМ). I. *Непотягов Копос* сел. з Пашахоння 1535, *Непотяговский Гаврило* Волагда 1615 (Вес.). II. *Непотягово* Влг. г., Уладз. г. (2), Ярасл. г.

*НЕПРИНИК параўн. ст.-р. *никати* 'з'яўляцца з-за чаго-небудзь, узнікаць', 'хіліцца', *никнути* 'з'яўляцца, узнікаць', 'апускацца, прынікаць' (Ср.), ст.-р., ст.-б. *приникнути* 'нахіліцца, схіліцца' (Ср., КССБМ). II. Суч. БССР — *Непрынікі* Віц. в.

*НЕПРИПАС параўн. ст.-б. *припасати* 'запасіць, прызапашваць, збіраць у запас' (КССБМ). І. *Андрей Неприпасов* баярын табольскі 1690 (Туп.).

НЕСГОВОР параўн. ст.-р. *говорити* 'гаварыць', *съговорити* 'згаварыцца, дамовіцца' (Ср.), ст.-б. *сговоритися* 'тое ж' (КССБМ), ст.-р., ст.-б. *съговоръ* 'дагавор, дамоўленасць' (Ср., КССБМ). Зафіксаваны і антрапонім з суфіксам *-ка Несговорка.* І. *Несговор Григорий* сел. з Усцюга 1630, *Юрий Несговор Кулебакин* пам. Тула XVI ст. (Вес.).

*НЕСГРЕБ параўн. ст.-р. *гребсти* 'грэбці', 'часаць валасы' (Ср.), ст.-б. *сгребати* 'зграбаць' (КССБМ). II. *Несгребово* Пск. г.

*НЕСКРОЧ параўн. ст.-б. *крочити: иж пан Шумский в той речи вжо право у земства крочивши... тут до права за упором становит не хотел* 1596 (АВАК XXX 168), ст.-б. *крочей:* были увошли шесть *крочеев* несуще кивот божий (КССБМ). II. *Нескрочи* Бр. ваяв. 1749 (АВАК VI 547).

*НЕСТРАТ ст.-б. *стратити* 'страціць, згубіць', 'забіць', (КССБМ), зафіксаваны і антрапонім з суфіксам *-ик Нестратик.* І. СРП Нестратов (Бенс.).

*НЕУГАД параўн. ст.-р. *угадати* 'дамовіцца' (Ср.), укр. *угадати,* бел. *угадаць* 'адгадаць, здагадацца' (БРС, Грынч). II. *Неугадово* Уладз. г. Суч. БССР — *Неўгадава* Віц. в.

НЕУГАС параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *угасати* 'гаснуць, пераставаць гарэць' (Ср., КССБМ, Грынч.). І. *Неугас Базаров* Ноўгарад XVI ст., *Неугас Скобеев* пам. Ноўгарад 1594 (Вес.).

НЕУГОД параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *угодити* 'ўгадзіць' (Ср., КССБМ, Грынч.). І. *Неугод Федоров сын Юрьева* дв. маскоўскі 1565 (Туп.), *Неугод Степанович Головнин* Волагда 1596, *Неугод Давид Неферьевич Арбузов* Арзамас 1585 (Вес.).

*НЕУМОЙ параўн. ст.-р. *умыти,* укр. *умити,* бел. *умыць* 'памыць' (Ср., Грынч., БРС), магчыма і ад формы загаднага ладу. Рэканструяваны і антрапонімы *Немоя* (гл.), *Немойко.* II. *Неумойво* Кстрм. г.

НЕУПОКОЙ параўн. ст.-р., ст.-б., укр. *упокоити* 'супакоіць, задаволіць' (Ср., КССБМ, Грынч.), магчыма непасрэдна ад апелятыва, параўн. ст.-б. *неупокой* 'неспакой' (Нас. АУ). Зафіксаваны і антрапонім з суфіксам *-ко Неупокойко.* І. *Неупокой Микитин сын Корякина*

землеўл. 1557, *Неупокой Елюшин* сел. Суздальскага п. 1579, *Неупокой Иванов сын Тверков* землеўл. у Кашынскім п. 1589, *Неупокой Селиванов сын* сел. 1600, *Неупокой Иванов сын Сверчков* баярын дарагабужскі 1603, *Неупокой Карга* казацкі атаман на Волзе 1614, *Неупокой Кокошкин* маскоўскі дзяк 1628, 1634, *Неупокой Добрынин* пад'ячы наўгародскі 1556, *Неупокой Писемский* дв. тульскі 1613 (Туп.), *Неупокой Власьев* пам. Яраслаўль 1568, *Неупокой Андреевич Кокошкин* Смаленск XVI ст. (Вес.). СБП *Неўпакоеў* (БА II 299). II. *Неупокоево* Кстрм. г., *Неупокоевка* Ніжагар. г., *Неупокоиха* Кстрм. г., *Неупокоевское* Ярасл. г.

НЕУСТОЙ параўн. ст.-р., ст.-б. *устояти* 'ўстаяць' (Ср., КССБМ), ст.-б. 'стаяць, настойваць на сваім' (КССБМ). I. *Неустой Гаврилов* Арзамас 1607 (Вес.).

НЕУСТРОЙ параўн. ст.-р., ст.-б. *устроити* 'ўстроіць' (Ср., КССБМ). Зафіксаваны і антрапонім з суфіксам *-ко Неустройко*. I. *Неустрой Скобельцын* пам. абанежскі XVI ст., *Неустрой Сергеев сын Кошкин* 1566, *Неустрой Иванов* сел. 1590, *Неустрой Августов* баярын ніжагародскі 1602, *Неустрой Иванов* казак 1612, *Неустрой Алимпиев* пад'ячы ў Чардыні 1621, *Неустрой Александрович Кушников*, Масква, 1635, *Неустрой Назарьев* сел. суздальскі 1644, *Неустрой Васильев сын Карандеев* пам. разанскі 1616 (Туп.), *Неустрой Михайлович Опалев* Ноўгарад 1545 (Вес.), *Неустрой* Старадуб, Гомель 1738 (АВАК VII 447). II. *Неустроева* Вяцк. г., Перм. г., *Неустроево* Раз. г., *Неустроиха* Кстрм. г.

Дэрываты мадэлі «*не-*+корань дзеяслова з прыстаўкай» складаюць каля 8,5% ад усіх зарэгістраваных і рэканструяваных антрапонімаў з адмоўем *не-*. Зарэгістраваны антрапонімы: *Невгад, Невгод, Невзгляд, Невзор, Невстрой, Невылаз, Недорез, Недород, Недострел, Недошив, Незамай, Ненарок, Непогод, Непостав, Несговор, Неугас, Неугод, Неупокой, Неустой, Неустрой;* рэканструяваны па антрапонімах: *Недостой, Непосед, Непотяг, Неприпас, Нестрат;* рэканструяваны па айконімах: *Невзвод, Невструй, Недомысл, Недоплех, Недостай, Недоступ, Недоход, Незвер, Незговор, Нездей, Нездым, Ненаед, Ненарад, Неохай, Неприник, Несгреб, Нескроч, Неугад, Неумой.* Пералічаныя антрапонімы матываваны дзеясловамі: *взводити, взглядати, вылазити, домыслити(ся), дорѣзати, (до)стаяти, (до)стояти, дострелити,*

*доступати, доходити, займати, (з)вѣрити, (з)дѣяти, здымати, наѣдатися, народитися, нарѣкати, охаятися, погодитися, поставити, посѣдѣти, потягати(ся), поцѣловати, приникати, припасати, сговоритися//зговоритися, сгребати, стратити, угадати//вгадати, угасати, угодити//вгодити, узрети//взрети, умыти(ся), упокоити, устояти, устроити//строити.* Для антрапоніма *Недоплех* дзеясловы адпаведнік не ўстаноўлен.

4. Антрапонімы, утвораныя пры дапамозе адмоўя *не-* ад кораня дзеяслова + канчатак *-а:*

*НЕБДА параўн. ст.-р., ст.-б. *бьдѣти, бдѣти* 'не спаць, не драмаць' (Ср., КССБМ). II. *Небдин* Влг. г.

*НЕБОЛЬСА?, НЕБОЛСА? I. *Путило Небольсин* з Бранска 1610 (Туп.), *Неболсин Тимофей* Бранск 1610 (Вес.). II. *Небольсиновка* Сарат. г.

*НЕБРА параўн. ст.-р., ст.-б. *брати* 'браць' (Ср., КССБМ). I. СБП *Небрын* (БА II 298).

*НЕБУЧА параўн. ст.-р., *бучати, бучити* 'раўці' (Ср.), ст.-б. *бучный, бучак.* I. *Небучин Мартин Нестеров* Вязьма 1625 (Вес.). II. *Небучин* Вяцк. г., *Небучино* Кстрм. г.

*НЕБЫТА параўн. ст.-р., ст.-б. *быти* 'быць' (Ср., КССБМ). II. *Небытино* Наўг. г.

*НЕВАДА параўн. ст.-б. *вадити* 'шкодзіць; перашкаджаць, мяшаць', *вадитися* 'сварыцца', 'варагаваць', *вадца* 'зачыншчык сваркі', 'варожа настроены' (КССБМ). II. *Невадино, Невадицы* Пск. г.

*НЕВЕДА параўн. ст.-б. *ведати, неведати, неведый, невед?* II. *Неведино* Смал. г.

НЕВЕЯ параўн. ст.-р., ст.-б. *веяти,* 'дуць, дзьмуць', 'веяць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *вея* 'завея?', *невееный* 'няввеены, неачышчаны?', *невей?* (КССБМ). I. *Федор Невея Иванов сын Мякинина* пам. 1593 (Туп).

*НЕВИДА параўн. ст.-р., ст.-б. *видати, видеть* 'бачыць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *невиданый* 'нябачаны', *невидучий, невидущий* 'невідушчы' (КССБМ). I. СБП *Невідовіч* (БА II 298). II. *Невидино* Смал. г.

*НЕВРА параўн. ст.-б. *врети* 'кіпець; бурліць, пераліваццa' (КССБМ), магчыма таксама ад рус. *врати.* I. *Васка Невренко* белацаркоўскі казак 1654 (Туп.). СРП *Неврев, Невров* (Бенс.).

*НЕГАТА параўн. ст.-р. *гатати* 'ўгадваць, здагадвацца' (Ср.), ст.-б. *гатити* 'гаціць, рабіць гаць' (КССБМ). II. Суч. БССР — *Негаціна* Віц. в.

*НЕГОДА параўн. ст.-р., ст.-б. *годити* 'гадзіць, дагаджаць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *негодитися* 'не гадзіцца, быць непрыгодным' (КССБМ). I. СБП *Нягодзін* (БА II 301); СРП *Негодин* (Бенс).

*НЕГОДЯ гл. Негода. II. *Негодин* Вяцк. г., Чарн. г., *Негоди* Вяцк. г., *Негодицы* Пск. г.

*НЕГОТА? II. *Неготина* Арл. г., *Неготино* Уладз. г., *Неготь* Пск. г.

НЕГРА параўн. ст.-б. *грати* 'іграць' (КССБМ). I. СБП *Негра* (БА II 298). II. Суч. УССР — *Негрове* Ад. в., Зк. в., *Негринці* Чрв. в.

*НЕГРЕБ(А) параўн. ст.-р. *гребсти, грести* 'грэбці', 'часаць валасы' (Ср.), ст.-б. *гребти, грести* 'грэбці' (КССБМ). II. *Негребівка* Жыт. в.

*НЕДАГА? II. *Недажино* Пск. г.

НЕДВИГА параўн. ст.-р., ст.-б. *двигати, двигатися* 'рухаць, рухацца' (Ср., КССБМ). I. СУП *Недвига* (Дав. 164).

НЕДЕЛЯ параўн. ст.-р., ст.-б. *дѣлити* 'дзяліць, надзяляць' (Ср., КССБМ), магчыма ад *неделя*. I. *Неделя Иванов сын Бунков* 1555 (Туп.). СБП *Недзялюк* (БА II 301). II. *Неделино* Уладз. г., *Неделино (Недельное)* Клж. г., *Недельская* Палт. г.

*НЕДЕРЯ параўн. ст.-р., ст.-б. *драти, дъражи, дьрати* 'драць' (Ср., КССБМ). II. *Недерино* Ярасл. г.

*НЕДРА параўн. ст.-р., ст.-б. *драти, дърати, дьрати* 'драць' (Ср., КССБМ). I. *Первуша Недрин* каваль Масква 1585 (Туп.). II. Суч. УССР — *Недра* Кв. в.

*НЕЖИТА параўн. ст.-р., ст.-б. *жити* 'жыць' (Ср., КССБМ). II. *Нежитино* Маск. г., Уладз. г.

*НЕЖУРА відаць, ад *журити*, параўн. рус. *журить* 'дакараць' ці ад *журитися*, параўн. бел. *журыцца* 'нудзіцца, тужыць, сумаваць, смуткаваць'. II. Суч. УССР — *Нежурине* Лг. в.

*НЕКША параўн. ст.-р. *къшитися, кошитися* 'кідаць жэрабя' (Ср.). II. *Некшино* Наўг. г.

*НЕЛАДА параўн. ст.-р. *ладити* 'мірыць', *лада* 'муж' (Ср.). I. *Илько Неладин* Наўгародская вобл. XIV ст. (Туп.).

*НЕЛГА параўн. ст.-р. *лгати, лъгати* 'ілгаць' (Ср.), ст.-б. *лганье* 'лганнё' (КССБМ). II. *Нелжа* Тамб. г.

*НЕЛЕДА? параўн. ст.-б. *не леда* 'не толькі', *леда* 'толькі', 'ледзь, ледзьве' (КССБМ). II. *Неледино* Ні-

жагар. г., Цв. г., *Нелединщина* Ярасл. г., *Нелединское* Цв. г., Ярасл. г.

*НЕЛЮБА[1] параўн. ст.-р., ст.-б. *любити* 'кахаць', (Ср., КССБМ). І. *Василий Нелюбин* казак 1649. II. *Нелюбино* Влг. г., Вяцк. г., Томск. г., Цв. г., Ярасл. г., магчыма таксама ад *Нелюба* айконімы *Нелюбины, Нелюбиных, Нелюбинцы, Нелюбы, Нелюбовщина, Нелюбиха, Нелюбовка, Нелюбовская, Нелюбовское,* прыведзеныя пры *Нелюб* (гл.).

НЕЛЮБА[2] *ж.* I. *Нелюба Филиповна Мякинина* 1545 (Вес.).

*НЕЛЯДА ст.-б. *неляда* II. *Нелядино* Раз. г.

НЕМАРА ад марити? параўн. бел. *марыць.* I. СБП *Нямара, Нямарскі* (БА II 301).

НЕМЕРА параўн. ст.-р., ст.-б. *мерети, мьрети* 'мерці, уміраць' ці *мѣрити, мерати* 'мерaць', *мѣра* 'тое, чым мераюць, мерка' (Ср., КССБМ), ст.-б. *немера* 'празмернасць, збыткоўнасць' (КССБМ). І. Пан *Немера* стараста луцкі 1451, пан *Немера Толпыжинский* 1481, *Немера Олферович* сел. мазырскі 1552 (Туп.), *Станислав Немѣра* Падляшша 1625 (АВАК VI 101), *од млына пани Немеринoе* Бр. п. 1589 (там жа, 25), *Андрея Немеровича* Бр. 1599 (там жа, 167), *Василь Немера* 1529 Арш. п. (АВАК IX 149), *Александр Немера Кругельский* Бр. п. 1589 (АВАК VI 29). СБП *Нямера* (БА II 301). II. *Немерино* Тульск г., *Немерово* Раз. г., Цв. г., *Немеричи, Немерь* Арл. г., *Немерь* Смал. г., *Немерче* Пад г. Суч. БССР — *Немерова* Віц. в., УССР — *Немерче* Вн. в.

НЕМИРА параўн. ст.-р. *мирити* 'мірыць, прымірыць' (Ср.), ст.-б. *миритися* 'тое ж' (КССБМ). І. Пан *Немира* ст. луцкі 1430, *Немира Резанович* землеўл. ва Уладз. п. 1450, *Митко Немира* землеўл. у Пярэм. п. 1450, *Немира Богданович Хренницкий* паўдн.-зах. 1503, *Грига Немиря Фомин сын Коскина* сотский 1507, *Немира Богданович* зах. 1513, *Немира Супринович* з. оўруцкі 1545, *Немиря Толпыжинский* паўдн.-зах. 1565, *Ян Немира* афіцэр зах. 1567, *Иван Немира* ўраднік смалявіцкі 1598 (Туп.), *Миколай Немира* Бр. 1625 (АВАК VI 120), *Яна Немиры* Слонім 1574 (АВАК XVIII 16), *Ян Немира* Мін. п. XVI ст. (АВАК XXXVI 385), *Ян Немира* Навагр. п. 1567 (П. 835), *Василей Немира* Маг. 1578 (ИЮМ XXXII 105). СБП *Няміра, Нямірскі* (БА II 302), СУП *Немирич* (Дав. 165). II. *Немирово* Падляшша 1625 (АВАК VI 121), *Не-*

*мерово* (тое ж, стар. 122). Суч. БССР — *Немірова* Віц. в. (2).

*НЕМОВА парау̌н. ст.-б. *мовити* 'гаварыць' (КССБМ). II. Суч. УССР — *Немовичі* Рв. в.

НЕМОГА парау̌н. ст.-р. *мочи (могу)* 'магчы' (Ср.), ст.-б. *могти, могчы* 'тое ж', *немогливый, немогучий* 'слабы, які не можа' (КССБМ). I. *Васка Немога* 1746 Маг. (ИЮМ XXX 276).

*НЕМРА парау̌н. ст.-р., ст.-б. *мьръти, мрети* 'мерці, уміраць' (Ср., КССБМ). I. *Семен Немрин* Нау̌гародская вобл. XV ст. (Туп.).

НЕПЁКА парау̌н. ст.-р., ст.-б. *печи, пещи (пеку)* 'пячы' (Ср., КССБМ). I. *Марцин Непёка* 1626 Віц. (ИЮМ XXI 78).

НЕПЕЯ парау̌н. ст.-б. *пети* 'спяваць, пець' (КССБМ). I. *Непея Григорьев* дзяк маскоу̌скі 1556, *Непея Куломзин* вотч. кастрамскога п. 1622, *Андрей Сергеев сын Непеин* пад'ячы маскоу̌скі 1680 (Туп.), *Непея Григорьевич Вологжанин* 1556, *Рудак Непеин* вотч. кастрамскі XV ст. (Вес.). II. *Непеина* Перм. г., *Непеино* Маск. г., Ярасл. г., *Непейщина* Маск. г.

*НЕПЛАТА парау̌н. ст.-р., ст.-б *платити* 'плаціць' (Ср., КССБМ). II. Суч. УССР — *Неплатине* См. в.

НЕРАДА [1] Парау̌н. ст.-р., ст.-б. *радити* 'клапаціцца' (Ср., КССБМ), ст.-б. яшчэ 'радзіць, даваць параду', *радитися* 'радзіцца, трымаць параду' (КССБМ). I. *Андрей Нерада* Пераяслау̌ 1669, *Иван Нерадин* казак белацаркоу̌скі 1654 (Туп.).

НЕРАДА [2] *ж. Нерада* халопка 1604.

*НЕРЕВА парау̌н. ст.-б. *ревети* 'рау̌ці' (КССБМ). I. *Завод Неревинич* пасаднік нау̌гародскі 1175, *Гаврило Неревинич* Ноу̌гарад 1186, *Неревин* ваявода Нау̌гародскі 1145 (Туп.).

*НЕРЕТА парау̌н. ст.-р. *ретити* 'прымушаць, застау̌ляць', 'спаборнічаць' ці *ретовати* 'імкнуцца' (Ср.). I. *Неретин Василий* сел. Арзамас 1586.

*НЕРЕША парау̌н. ст.-р. *рѣшати* '?' *рѣшити* 'развязаць', 'вызваліць, адпусціць грэх' (Ср.), ст.-б. *решити* 'ажыццяу̌ляць, здзяйсняць, выконваць' (КССБМ). I. *Василий Ульянов сын Нерешин* дв. разанскі 1642 (Туп.).

*НЕРИТА II. *Неритино* Раз. г.

НЕРОДА гл. Неред. I. *Нерода* сел. зах. 1665. II. *Неродино* Смал. г.

*НЕРОЖА параўн. ст.-р., ст.-б. *родити (рожу)* 'радзіць, нарадзіць', 'клапаціцца' (Ср., КССБМ). I. *Нерожины* сяляне курмышскія 1624 (Вес.). II. *Нерожино* Уладз. г.

НЕРОЩА параўн. ст.-р., ст.-б. *ростити (рощу)* 'расціць, гадаваць' (Ср.). I. *Нероща* халоп уладзімірскі 1492 (Вес.). II. *Нерощин* Кур. г.

*НЕСВАРА параўн. ст.-р., ст.-б. *сварити, сваритися* 'сварыць, сварыцца' (Ср., КССБМ). II. *Несваричи* Вяцк. г.

*НЕСТРА II. *Нестрино* Пск. г.

*НЕТЕКА параўн. ст.-р., ст.-б. *течи (теку)* 'цячы', 'рухацца', 'бегчы, хутка ісці' (Ср., КССБМ). II. *Нетеки* Вяцк. г., *Нетечино* Кстрм. г., Влг. г., *Нетечинцы* Пад. г. Суч. УССР — *Нетечинці* Хм. в.

*НЕТЕСА параўн. ст.-р., ст.-б. *тесати* 'часаць, выраўніваць паверхню дрэва ці каменя', 'высякаць, выдоўбліваць з дрэва ці каменя', 'рабіць зарубкі' (Ср., КССБМ). II. *Нетесины (Нетесовские)* Палт. г.

*НЕТЕША параўн. ст.-р., ст.-б. *тѣшити* 'суцяшаць, супакойваць, падбадзёрваць', 'гладзіць' (Ср., КССБМ). II. Суч. УССР — *Нетішин* Хм. в.

НЕТЯГА параўн. ст.-р., ст.-б. *тягати* 'цягаць', *тягатися* 'судзіцца, весці судовую справу' (Ср., КССБМ). I. *Нетяга* казак (Туп.). II. *Нетяжин* Палт. г., *Нетяговка* Чарн. г., *Нетяговщина (Нетяговский)* Палт. г., *Нетяговщина* Палт. г. Суч. УССР — *Нетяжине, Нетягівщина* Чрг. в.

НЕУЧА параўн. ст.-р., ст.-б. *учити* 'вучыць, навучаць, павучаць' (Ср., КССБМ). I. *Неуча Молчанов* баярын цюменскі 1633 (Туп.).

*НЕХОДА параўн. ст.-р., ст.-б. *ходити* 'хадзіць', 'ісці' (Ср., КССБМ). II. *Неходины* Палт. г. Суч. УССР — *Неходівка* Пл. в.

НЕЧЕСА параўн. ст.-р., ст.-б. *чесати* 'часаць валасы', 'гладзіць' (Ср., КССБМ), рус. *нечеса* 'непрычэсаны, неахайны' (Даль). I. СБП *Нячоса* (БА II 303). II. *Нечесово* Маск. г.

*НЕЧУХА параўн. ст.-б. *чухати* 'чухаць'. II. *Нечухина* Влг. г.

Дэрываты мадэлі «адмоўе *не-* + корань дзеяслова + канчатак *-а*» складаюць каля 11% ад усіх антрапонімаў з адмоўем *не-*. Зарэгістраваны антрапонімы: *Невея,*

*Негра, Недвига, Неделя, Нелюба* ж., *Немара, Немера, Немира, Немога, Непёка, Непея, Нерада* м., *Нерада* ж., *Нерода, Нерощa, Нетяга, Неуча, Нечеса;* рэканструяваныя па антрапонімах: *Небольса, Небра, Небуча, Невида, Невра, Негода, Недра, Нелада, Нелюба* м., *Немра, Нерева, Нерета, Нереша, Нерожа;* рэканструяваныя па айконімах: *Небда, Небыта, Невада, Неведа, Негата, Негодя, Негота, Негреба, Недага, Недеря, Нежита, Нежура, Некша, Нелга, Неледа, Неляда, Немова, Неплата, Нерита, Несвара, Нестра, Нетека, Нетеса, Нетеша, Нехода, Нечуха.* Прыведзеныя антрапонімы матываваны дзеясловамі: *бдѣти, брати, бучати//бучити, быти, вадити//вадитися, вѣдати, вѣяти, видѣти, врети* ці *врати, гатати* ці *гатити, годити//годитися, грати, гребсти, гребти, двигати//двигатися, делити, драти, жити, журити//журитися, кшитися//кошитися, ладити, лгати, любити, марити, мерети* ці *мерити, мирити, мовити, мочи//могти, мрьти, печи//пекти, пѣти, платити, радити, ревети, ретити* ці *ретовати, рьшати, родити//родитися, родити//рожати, ростити, сварити//сваритися, тесати, течи, тешити, тягати, учити, ходити, чесати, чухати.* Для антрапонімаў *Небольса, Негота, Недага, Неледа, Неляда, Нерита, Нестра* ўтваральныя асновы не выяўлены.

5. Антрапонімы, утвораныя пры дапамозе адмоўя *не-* ад прыставачных дзеясловаў + флексія *-а:*

*НЕВКЛЯ параўн. ст.-р., ст.-б. *кляти* 'клясці, праклінаць' (Ср., КССБМ). II. *Невкля* Чарн. г.

НЕВПРЯГА параўн. ст.-р., ст.-б. *въпрягати* 'ўпрагаць', 'запрагаць' (Ср., КССБМ). I. СУП *Невпряга* (Дав. 164).

НЕДОМОЛВА параўн. ст.-р., ст.-б. *молвити, мълвити* 'гаварыць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *домолвити* 'дагаварыць' (КССБМ). I. *Недомолва* сел. 1495, *Ивашко Недомолва* 1498 (Туп.). II. *Недомолвино* Яросл. г.

*НЕДОПУЗА I. *Недопузин Кузьма* дзяк Кашын XV ст. (Вес.).

НЕДОСЕКА параўн. ст.-р., ст.-б. *сѣчи (сѣку)* 'сячы, секчы' (Ср., КССБМ), ст.-б. *досечи* 'дасячы' (КССБМ). I. *Митька Берников прозвище Недосека* Валуйскі п. 1632, *Микитко Недосека* Усольск 1682 (Туп.), *Недосека Иван* маскоўскі пасадскі 1638 (Вес.), *Васку Недосеце* Маг. 1689 (ИЮМ VI 175), *Якуш Недосека* м. Маг. 1746 (ИЮМ III 315). II. *Недосеки* Пск. г. (3).

*НЕДОТКА параўн. ст.-р., ст.-б. *ткати, тькати* 'ткаць' ці *тыкати* 'тыкаць, пароць, піхаць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *ткати* 'тыкаць, пароць, калоць' (КССБМ), *доткливе* 'абразліва, адчувальна; балюча', *дотckливый* 'абразлівы, адчувальны, балючы', *недоткливе* 'неабразліва, неадчувальна', *доткненый* 'закрануты' (КССБМ). II. *Недотки* Вяцк. г.

*НЕДОТЫКА параўн. ст.-р. *тыкати* 'піхаць' (Ср.), ст.-б. *тыкати* 'тыкаць, калоць, праколваць', *дотыкати, дотыкатися* 'датыкацца, закранаць' (КССБМ). I. *Недатыкін* (БА II 298).

*НЕДОШИБА параўн. ст.-р. *шибати* 'ўдараць, біць', *шибити* 'ўдарыць, паразіць' (Ср.), ст.-б. *шибати, шыбати* 'кідаць' (КССБМ). I. *Недошибин Степан* сел. Ніжні Ноўгарад 1620 (Вес.).

*НЕЗАБУДА параўн. ст.-р., ст.-б. *забыти (забуду)* 'забыць, забыцца' (Ср., КССБМ). II. *Незабудина* Екац. г. Суч. УССР — *Незабудине* Днп. в.

*НЕЗДА параўн. ст.-р., ст.-б. *здати, зъдати, зьдати* 'ствараць', 'будаваць' (Ср., КССБМ), ст.-б. яшчэ 'здаць' (КССБМ). I. *Нездин Иван Моисеев* Кастрама 1578, *Нездин Богдан Яковлевич* Арзамас 1592. II. *Нездино* Пск. г.

*НЕЗДРА параўн. ст.-р., ст.-б. *драти, дърати* 'драць' (Ср., КССБМ), ст.-б. *здрати* 'садраць' (КССБМ). II. *Нездрино* Наўг. г.

НЕПОГОДА параўн. ст.-р. *погодитися* 'здарыцца', *годити* 'гадзіць, дагаджаць', *годитися* 'гадзіцца', 'здарацца' (Ср.), ст.-б. *погодити* 'пагадзіць, памірыць' (КССБМ). Магчыма, і ад назоўніка *непогода.* I. *Непогода Неплюев* Казань 1565 (Вес.). II. *Непогодиха* Кстрм. г.

*НЕУМОЯ параўн. ст.-р., ст.-б. *умыти (умыю, умою)* 'памыць' (Ср., КССБМ). II. *Неумоино* Кстрм. г., *Неумоина* Перм. г.

НЕУСЫПА параўн. ст.-р. *усыпати* 'ўміраць' ці *усъпити, успити* 'ўсыпіць', 'супакоіць, уціхамірыць' (Ср.), ст.-б. *усыпати* 'насыпаць' (КССБМ). I. *Лазарь Никонов сын прозвище Неусыпа* сел. пераяслаўскі 1612 (Туп.).

Дэрываты мадэлі «адмоўе *не-* + корань дзеяслова з прыстаўкай + канчатак *-а*» складаюць 2,7% ад усіх антрапонімаў з адмоўем *не-*. Зарэгістраваны антрапонімы: *Невпряга, Недомолва, Недосека, Непогода, Неусыпа;* рэканструяваны па антрапонімах: *Недопуза, Недотыка, Недошиба, Незда;* рэканструяваны па айконімах: *Нев-*

*кля, Недотка, Незабуда, Нездра, Неумоя.* У якасці матывуючых выкарыстаны дзеясловы: *впрягати, домолвити, досечи//досекати, дотыкати(ся), дошибати, забыти, здати, здрати//сдрати, погодитися, умыти, усыпати.* У антрапонімаў *Невкля, Недопуза* ўтваральная аснова няясная.

## АЛФАВІТНЫ ЎКАЗАЛЬНІК РАЗГЛЕДЖАНЫХ АНТРАПОНІМАЎ

*Небай
*Небар
*Небда
*Небольса
Небор
*Небот
*Небра
*Небрас
Небрат
Небрей
*Небуча
*Небыта
*Невад
*Невада
*Невал
Невар
Невгад
Невгод
*Невед
*Неведа
Невер(а)
Невея
*Невзвод
Невзгляд
Невзор
*Невида
*Невкля
Неворот
Невпряга
*Невра
Невстрой
*Невструй
Невылаз
*Негай
*Неган
*Негата
*Негел
*Негил(ь)
*Негода
*Негодя
*Негон
*Негость
*Негота
*Недостай
*Недостой
Недострел
*Недоступ
*Недотка
*Недотыка
*Недоход
*Недошиба
Недошив
*Недра
*Нежер
*Нежита
*Нежод(а)
*Нежура
*Незабуда
Незамай
*Незверь
*Незговор
*Незда
*Нездей
*Нездра
*Нездым
Некарь
*Неквас
*Некип
*Неклад
Неклюд
*Некох
*Некрат
*Некрест
*Некрой
Некрус
*Некша
*Нелада
*Нелай
*Нелга?
*Неледа
*Нелез(ь)
*Нелен(ь)
Нелюб
*Нелюба
*Неляда
*Неман
Непостав
*Непотяг
*Неприник?
*Неприпас
*Непряд
*Непыл
Нерад
Нерада
Нерада *ж.*
*Нерат
*Нерева
*Нерез
*Нерета?
*Нереша?
*Нерита?
Нерод
Нерода
*Нерожа
*Нерол
Нерон
Нероща
*Неруч
Неруш
Нерык
*Несвара
Несговор
*Несгреб
*Нескроч
*Неслух
*Нестра
*Нестрат
*Нестраш?
*Нестук?
*Нетека
Нетель
*Нетерп(а)
*Нетес
*Нетеса
Нетеша
*Нетрат
Нетяга
*Неугад

*Негош?
Негра
*Неграж
*Нераз
*Негреб(а)
*Надав(а)
*Недага
*Недар(а)
Недвига
*Недей
Неделя
*Недер
*Недеря
Недомолва
*Недомысл
*Недоплех(а)
*Недопуза
Недорез
Недород
Недосека
Немара
*Немен
*Немерз
Немир
Немира
*Немов(а)
Немога
*Немра
*Ненаед
*Ненарад
*Ненарок
*Неохай
Непека
Непея
*Неплата
Непогод
Непогода
*Непор
*Непосед
Неугас
Неугод
*Неумой
Неумоя
Неупокой
Неустой
Неустрой
Неусыпа
Неуча
Нехай
Нехлеб
*Нехода
*Нехот
*Нехрист
Нецвет
Нечай
Нечес
Нечеса
*Нечуха
*Нешар

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ І ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ

Ад. в. — Адэская вобласць
Арл. г. — Арлоўская губерня
Арш. п. — Аршанскі павет
Бр. — Брэст
Бр. ваяв. — Брэсцкае ваяводства
Бр. п. — Брэсцкі павет
Вар. г. — Варонежская губерня
Віц. — Віцебск
Віц. в. — Віцебская вобласць
Вл. в. — Валынская вобласць
Влг. г. — Валагодская губерня
Вн. в. — Вінніцкая вобласць
Вяцк. г. — Вяцкая губерня
Гом. в. — Гомельская вобласць
Гр. — Гродна
Днп. в. — Днепрапятроўская вобласць
Екац. г. — Екацерынаслаўская губерня
Жыт. в. — Жытомірская вобласць
Зк. в. — Закарпацкая вобласць
К. в. — Кіеўская вобласць
Клж. г. — Калужская губерня
Крв. в. — Кіравааградская вобласць
Кстрм. г. — Кастрамская губерня
Кур. г. — Курская губерня
Лв. в. — Львоўская вобласць
Лг. в. — Луганская вобласць
Маг. — Магілёў
Маск. г. — Маскоўская губерня

| | |
|---|---|
| Мін. п. | — Мінскі павет |
| Навагр. | — Навагрудак |
| Навагр. п. | — Навагрудскі павет |
| Наўг. г. | — Наўгародская губерня |
| Ніжагар. г. | — Ніжагародская губерня |
| Пад. г. | — Падольская губерня |
| Палт. г. | — Палтаўская губерня |
| Пенз. г. | — Пензенская губерня |
| Перм. г. | — Пермская губерня |
| Пін. п. | — Пінскі павет |
| Пл. в. | — Палтаўская вобласць |
| Пол. | — Полацк |
| Пол. ваяв. | — Полацкае ваяводства |
| Пол. зямля | — Полацкая зямля |
| Пск. г. | — Пскоўская губерня |
| **Пярэм. п.** | — Пярэмышльскі павет |
| Раз. г. | — Разанская губерня |
| Рв. в. | — Ровенская вобласць |
| Сарат. г. | — Саратаўская губерня |
| Слон. | — Слонім |
| См. в. | — Сумская вобласць |
| Смал. г. | — Смаленская губерня |
| Тамб. г. | — Тамбоўская губерня |
| Томск. г. | — Томская губерня |
| Тр. в. | — Тарнопальская вобласць |
| Тульск. г. | — Тульская губерня |
| Уладз. г. | — Уладзімірская губерня |
| Уладз. п. | — Уладзімірскі павет |
| Херс. г. | — Херсонская губерня |
| Хм. в. | — Хмяльніцкая вобласць |
| Цв. г. | — Цвярская губерня |
| Чарн. г. | — Чарнігаўская губерня |
| Чарн. в. | — Чарнігаўская вобласць |
| Чрв. в. | — Чарнавіцкая вобласць |
| Чрк. в. | — Чаркаская вобласць |
| Ярасл. г. | — Яраслаўская губерня |

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ КРЫНІЦ

АВАК — Акты Виленской археографической комиссии.

БА II — М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія. 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мінск, 1969.

Бенс.— M. Benson. Dictionary of Russian Personal Names, 1964.

БРС — Беларуска-рускі слоўнік. М., 1962.

Вес.— С. Б. Веселовский. Ономастикон. М., 1974.

Грынч.— Б. Грінченко. Словарь української мови, т. I—IV. Київ, 1907—1909.

Дабр.— В. Н. Добровольский. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914.

Дав.—Ю. К. Редько. Довіднік українських прізвіщ. Київ, 1969.

Даль — В. Даль. Толковый словарь живого великорусского языка.

ИЮМ — Историко-юридические материалы.

КССБМ — Картатэка слоўніка старабеларускай мовы (сектар гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН БССР).

Нас. АУ — И. И. Носович. Алфавитный указатель слов, извлеченных из актов, относящихся к истории Западной России (рукапіс); захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі АН СССР у Ленінградзе (34.2.II).

П.— Попис войска Великого княжества Литовского лета 1567.— Литовская метрика, отд. 1. ч. 3. Русская историческая библиотека, т. XXXII. Пг., 1915.

Ср.— И. И. Срезневский. Материалы для словаря древнерусского языка. СПб, т. 1—1893, т. 2 — 1895, т. 3 — 1903.

Туп.— Н. П. Тупиков. Словарь древнерусских личных собственных имен. СПб, 1908.

У.— Ухвала на великом сейме Виленском 1528 г.— Литовская метрика, отд. 1, ч. 3. Русская историческая библиотека, т. XXXII. Пг., 1915.

Фасм.— М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка. М., т. 1—1964, т. 2—1967, т. 3—1971, т. 4—1973.

## СПІС КРЫНІЦ, З ЯКІХ ВЫКАРЫСТАНЫ АЙКОНІМЫ

1. Списки населенных мест Российской империи: т. VI. Владимирская губерния. СПб, 1863; т. VII. Вологодская губерния. СПб, 1866; т. IX. Воронежская губерния. СПб, 1876; т. X. Вятская губерния. СПб, 1876; т. XIII. Екатеринославская губерния. СПб, 1866; т. XV. Калужская губерния. СПб, 1863; т. XVIII. Костромская губерния. СПб, 1877; т. XX. Курская губерния. СПб, 1868; т. XXIV. Московская губерния. СПб, 1862; т. XXV. Нижегородская губерния. СПб, 1863; т. XXIX. Орловская губерния. СПб, 1871; т. XXX. Пензенская губерния. СПб, 1869; т. XXXI. Пермская губерния. СПб, 1862; т. XXXIII. Полтавская губерния. СПб, 1862; т. XXXIV. Псковская губерния. СПб, 1885; т. XXXV. Рязанская губерния. СПб, 1862; т. XXXVIII. Саратовская губерния. СПб, 1862; т. XL Смоленская губерния. СПб, 1869; т. XLII. Тамбовская губерния. СПб, 1868; т. XLIII. Тверская губерния. СПб, 1862; т. XLIV. Тульская губерния. СПб, 1862; т. XLVIII. Херсонская губерния. СПб, 1868; т. XLVIII Черниговская губерния. СПб, 1866; т. XLIX. Ярославская губерния. СПб, 1865.
2. Список населенных мест Витебской губернии. Под ред. А. П. Сопунова. Витебск, 1906.
3. Список населенных мест Волынской губернии. Житомир, 1911.
4. Список населенных мест Киевской губернии. Киев, 1900.
5. Список населенных мест Минской губернии. Сост. В. С. Ярмолович. Минск, 1909.
6. Список населенных мест Могилевской губернии. Под ред. Г. П. Пожарова. Могилев, 1910.
7. Список населенных мест Новгородской губернии, вып. 1. Новгородский уезд. Новгород, 1907; вып. VII. Тихвинский уезд, 1911; вып. VIII. Устюжский уезд, 1911; вып. IX. Череповецкий уезд, 1912; вып. X. Кирилловский уезд, 1912; вып. XI. Белозерский уезд, 1912.
8. Указатель населенным местам Гродненской губернии. Гродно, 1905.
9. А. Крылов. Населенные места Подольской губернии. Каменец-Подольск, 1905.

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

акр. — акруга
вол.— валасць
вотч.— вотчыннік
дв.— дваранін
з.— зямянін
землеўл.— землеўладальнік
кн. — княства
мешч. — мешчанін
манаст. — манастыр, манастырскі
паг. — пагост
пам. — памешчык
паўдн.-зах. — паўднёва-заходняе
паўн. — паўночнае
сел. — селянін
СБП — сучаснае беларускае прозвішча
св. — свяшчэннік
смал.— смаленскае
СРП — сучаснае рускае прозвішча
ст.— стараста
ст.-б.— старабеларускае
ст.-р. — стараруская
СУП — сучаснае ўкраінскае прозвішча
суч. — сучаснае
цал.— цалавальнік

*А. І. Грынавецкене*

# ПРОЗВІШЧЫ І МЯНУШКІ Ў КУРАПОЛЬСКАЙ ГАВОРЦЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У курапольскай гаворцы[1], як і ў іншых беларускіх дыялектах, поруч з прозвішчамі здаўна шырока ўжываюцца мянушкі.

Фарміраванне прозвішчаў у гэтай гаворцы адбывалася рознымі шляхамі.

1. Ад уласных асабовых імён:

АЛЕ'СЕ'НКА<*Алéсь*<*Аляксáндр*.

БАГУШЭ'ВІЧ<*Богуш*<*Багуслаў*.

БАЛЮКЕ'ВІЧ<*Балю́к*<*Баляслáў* ці *Балтазар*.

КАЗЕ'НКА<*Кáзя, Кáзіо*<*Казімір*.

КАРАЛЁНАК<*Карóль*.

КУ'НДРА<*Кандрáт, Ка̀ндрáцій,* параўн. літ. прозв. *Kùndrotas, Kùndra, Kundrỹs, Kundraškà*<*Кандрацій, Konrad*. Аднак балг. *Кундрев,* на думку С. Ілчава (Ілчаў, 284), паходзіць ад апелятыва *кýндри* 'від абутку', параўн. таксама бел. дыял. *кýндра* 'ўмацаванне на плыце, у якое ўстаўляецца руль' (в. Рыбчына Вілейскага р-на Мінскай вобл.).

КУРДЗЁНАК<*Курд, Конрад,* параўн. нямецк. імёны *Kurt. Curd*<*Konrad* (Драздоўскі, 134), таксама рус. прозв. *Курдов, Курдин,* літ. *Kurdaras, Kurdulis, Kurdikas* (КЛП), эст. імя *Kurt*<*Konrad* (Раяндзі, 100). М. В. Бірыла (БА, II, 233) бел. *Курдзёнак* лічыць прозвішчам апелятыўнага паходжання і параўноўвае яго з рус. *курдъ* 'элемент амуніцыі' і з літ *kùrdinti* 'пасяляць, асноўваць'.

КУРЫЛО'ВІЧ<*Куры́л*<*Кіры́л, Кіры́ла.* На думку М. В. Бірылы (БА, I, 97, 98; II, 235), бел. *Курыла, Курылаў, Курыловіч* і іншыя прозвішчы таго ж кораня могуць мець непасрэдную сувязь з іменем *Кірыл, Кірыла.* Гэта

[1] Курапольская гаворка даследавалася намі ў 1974 г. В. Кураполле (да 1918 г. Дзевятнікі) знаходзіцца ў Пастаўскім р-не Віцебскай вобл., недалёка ад граніц з ЛітССР.

думка, на наш погляд, з'яўляецца абгрунтаванай, параўн. таксама рус. імя *Киприян* і вытворныя ад яго *Куприáн, Кýпря, Купряшка, Кýпречка* і інш. (Пятроўскі, 131, 304); эст. *Kürilus*<*Cyrillus* (Раяндзі, 101). М. В. Бірыла (БА, I, 97—98; II, 235) і В. А. Жучкевіч (Жучкевіч, 191) таксама дапускаюць, што гэта прозвішча можа паходзіць ад рускага апелятыва *курила* 'п'яніца'.

МАЦКЕ'ВІЧ<*Мáцка*<*Матвей.*

МЯДЗЮ'КА<*Мéдзя*<*Прамед* ці *Меча*<*Мéцка*<*Мечыслаў.* Нельга, аднак, адмаўляць і магчымасць паходжання гэтага прозвішча ад апелятыва, параўн. бел. *мядзяны,* 'медны', *мядзяк* 'мядзяк', рус. дыял. *медянка* 'вераценніца', *мéчка* 'мядзведзь', літ. прозв. *Medvēckas*< мядзведзь, *Medžiónis, Medžiùkas* (КЛП)<*mẽdžias* 'лес' і інш.

НЕМІ'РСКІ параўн. старажытнапрускія асабовыя імёны *Неміра* 'бессмяротная', *Немір;* параўн. таксама літ. прозв. *Nemirà* (КЛП), тапонім *Nemiraĩ* (КЛГН) *Nemirà*<*ne-miȓti* 'не памерці', рус. прозв. *Немиров.* Такой жа думкі прытрымліваецца і В. А. Жучкевіч (Жучкевіч, 255—256). Аднак рускія прозвішчы з асновай *Немир-* Унбегаун (Унбегаун, 211) звязвае з апелятывам *немирной* 'не з ліку мірных', параўн. таксама рус. *немир, немирье* 'распад, разлад, варожасць' (Даль, II, 522). Апелятыўнае паходжанне (ад мянушкі) гэтага прозвішча схільны прызнаць і М. В. Бірыла (БА, I, 239).

НІКІПЯРО'ВІЧ<*Нікіфар.*

ПАЛІКО'ВІЧ<*Паліка*<*Палікарп.*

ПРО'НЬКА<*Прóня*<*Пракопій, Пракоп* ці *Францішак;* магчыма таксама ад імёнаў *Прохар, Прокул* (Пятроўскі, 55, 183, 184, 185, 345; Унбегаун, 93, 271), параўн. таксама літ. імёны *Prãnas, Pranỹs,* прозвішчы *Prañckus, Pránka, Pranáitis, Prancìčkus* (КЛП), *Francìscus,* польск. *Franek,* эст. *Prants, Frank, Franz* (Раяндзі, 63, 144).

РАМАНО'ВІЧ<*Раман.*

РО'ШКА<*Урош* ці <*Рáша*<*Рафаіл* ці <*Рáся*<*Герасім, Рахель* (Пятроўскі, 86, 187, 350), параўн. рус. прозв. *Раскин*<*Рахель* (Унбегаун, 343), літ. прозв. *Raškà, Raškỹs, Rãškus* (КЛП). У выніку таго што адзначанае прозвішча вымаўляецца з каранёвым *ш (Рóшка),* які можа паходзіць і з *ж,* таму што стаіць перад глухім зычным *(Рóжка),* некаторыя мовазнаўцы гэты корань звязваюць з дэмінутыўным апелятывам *рожóк*<*рог*

(Ілчаў, 427; Унбегаун, 296) ці з апелятывам *рожа,* які абазначае назву хваробы або з'яўляецца зняважлівай назвай асобы (БА, II, 351).

СІДАРО'ВІЧ<*Сідар*<*Ісідар.*

ХАДЗЬКЕ'ВІЧ<*Ходзька*<*Ходар*<*Фёдар.* Непасрэдную сувязь прозвішча *Хадзькевіч* з імем *Фёдар* лепш за ўсё даказваюць утвораныя ад імя *Фёдар* беларускія імёны *Хадзько, Хадко, Ходар* (БА, I, 164—165), у якіх пачатковы *х* утварыўся з *ф* па чыста фанетычных прычынах, параўн. таксама бел. імя *Хло́рка*<*Фларыян,* рус. *Хрулёк*<*Флор*<*Флориан, Хотина*<*Фотина, Хомка*< *Фома, Ходор*<*Федор* (Пятроўскі, 378—379), польск. прозв. *Chodkiewicz, Chwedko, Chodźko*<*Teodor* (Быстран, 277), літ. *Kvedaras, Katkauskas, Chadaravičius* (КЛП)< *Фёдар.* Прозвішчы *Хатко́, Хатке́віч, Хацько́* і інш. М. В. Бірыла (БА, II, 428, 433) звязвае з апелятывамі *ха́та, хо́та* 'жаданне', а *Хадзько́, Хадко́, Хо́дзька, Хо́дка* (БА, II, 432) — з апелятывам *хо́да* 'той, хто ходзіць'. Тапонім *Хотькі́ (Хацькі)* В. А. Жучкевіч (Жучкевіч, 395) адносіць да патранімічных утварэнняў з сэнсавым значэннем 'хацець'.

У гаворцы ёсць пэўная колькасць прозвішчаў, якія верагодней за ўсё таксама могуць быць аднесены да ўтварэнняў ад старажытных асабовых імён, аднак з прычыны зацямнення семантыкі крыніцы іх паходжання няпэўныя. Да такіх прозвішчаў мы адносім:

ДЗЮ'ШКА<? *Дзюк* ці *Дзю́ша*<*Дука,* лац. *dux* 'правадыр', ці *Фёдар* (>*Фе-дзюша),* параўн. Пятроўскі, 100, 214—215, 282. Не выключаецца таксама магчымасць звязваць гэта прозвішча з апелятывам. М. В. Бірыла (БА, II, 131) бел. прозвішчы *Дзюк, Дзюка* і С. Б. Весялоўскі (Весялоўскі, 105) рус. *Дюка, Дюкин, Дюков* звязваюць з рус. апелятывам-эўфемізмам *дюка* 'маўклівы ці дбайны чалавек, мядзведзь, бэба' (Даль, I, 512), аднак слова *дюка* прыводзяць як няпэўнае. Для тлумачэння паходжання бел. прозвішча *Дзю́шка* ва ўсякім разе можна прыцягнуць таксама адзначаны намі ў беларускіх гаворках Віцебшчыны гукападражальны эўфемізм *дзю́шка* 'свіння': *дзю́шка мая, дзю́шка!* (як клічуць), параўн. таксама рус. *чу́ха, чу́шка, шушка,* лат. *cũka,* літ. *čiũkas*<*kũkas* 'тое ж'.

МА'ЛІКАЎ<?*Ма́ля*<*Малахій, Ізмаіл* ці *Мал,* параўн. Пятроўскі, 119, 149. Прозвішча *Малік* М. В. Бiры-

ла (БА, II, 271—272) звязвае з мянушкай *Малы<малы́*. Аднак, на наш погляд, гэтаму супярэчыць markednae месца націску (параўн. *Ма́лікаў, Ма́лік, Ма́лы* і *малы́*).

МУКЕ́ЛЬ<?*Мук<Непамук* ці *Мукіан*. Не выключана таксама магчымасць аднесці гэта прозвішча да ўтварэнняў ад мянушкі *Мук<мук* ’той, хто мыкае’, параўн. балг. *Муков*<дыял. *мук* ’той, хто ў час размовы нібы спявае’ (Ілчаў, 346), літ. *Mūkà, Mū̃kas, Mū̃kantas* і інш. (КЛП), таксама *mū̃kauti* ’мукаць з перапынкамі’, *mū̃kė* ’карова’ (у дзіцячай мове)’.

2. Ад мянушак, якія ў сваю чаргу ўтварыліся ад назваў жывёл, птушак і іншых істот:

БАРО́ЎКА<*баро́ўка* ’лясная пчала’ (Лексіка, 321)< *бор*, параўн. літ. прозв. *Bìtė<bìtė* ’пчала’ (КЛП). Бел. тапонім *Баро́ўка* В. А. Жучкевіч (Жучкевіч, 32—33) таксама звязвае з апелятывам *бор*. Аднак М. В. Бірыла (БА, II, 43) мяркуе, што прозвішча *Баро́ўка* паходзіць ад апелятыва *баро́ўка* ’брусніцы’. На нашу думку, не выключана таксама магчымасць звязваць гэта прозвішча з імёнамі *Барыс<Бор* ’барацьба, бароцца’ ці *Баро́<баро́* ’знатны, багаты’ (Драздоўскі, 49; Марошкін, 54), параўн. літ. *Bãras, Bãris, Barỹs* (КЛП)<*Барыс*, балг. *Ба́ров<Баро<баро* ’знатны, багаты’ (Ілчаў, 64).

ГАЛУБО́ЎСКІ<*Го́луб<го́луб*.

КАЗЛО́ЎСКІ<*Казёл<казёл*.

ЛОСЬ<*Лось*.

МУРАЎЁЎ<*мураў-ка* ’мурашка’.

САРО́КА<*саро́ка*.

СО́БАЛЬ<*со́баль*.

3. Ад назваў (часцей за ўсё мянушак), якія абазначаюць пэўную (вылучаючую) асаблівасць носьбіта такой мянушкі:

БАЛО́МЧЫХА<*Баллон<баллон*, параўн. польск. *Balon<balon* (Быстран, 125, 152).

БЕ́ЛЫ<*бе́лы*.

ДЗЕВЯТКО́ЎСКІ<*Дзявя́тка<дзевя́тка*, параўн. рус. *Девятков, Девяткин<девятый* (Унбегаун, 209), літ. *Devintáuskas* (КЛП)<*devintáuskas<deviñtas* ’дзевяты’.

ЖДАН<*Жда<жад(а)т* ’прагнуць, моцна жадаць’ ці ад *Ждан* ’той, каго чакаюць’ (параўн. Марошкін, 68; Пятроўскі, 114; БА, II, 146; Ілчаў, 203; Унбегаун, 210; Жучкевіч, 121), таксама літ. прозвішчы *Ždañkus, Ždãnys* (КЛП).

ЛЫСЁНАК<*Лысы*<*лысы*.

СКАПЦОЎ<*Скапе́ц*<*скапец*, параўн. М. В. Бірыла (БА, II, 376), таксама літ. прозвішча *Skãpas* (КЛП)< *Skãpas* 'скапец'. Аднак С. Б. Весялоўскі (Весялоўскі, 288) руск. прозвішча *Ско́па* звязвае з апелятывам *ско́па* 'драпежная птушка, від арла'.

ХМЫЛКО́<*Хмыля*<*хмыля* 'насмешнік' (Даль, IV, 555). Ёсць і іншыя этымалогіі гэтага кораня: Жучкевіч (Жучкевіч, 392) назву сяла *Хмылкі́* звязвае з апелятывам *хмылкі́* 'нізкарослы хмызняк'; С. В. Весялоўскі (Весялоўскі, 340) прозвішча *Хмыл* — з апелятывам *хмыл* 'полымя'.

ЦАЛЯ́К<*цаля́к* 'цалёвы'<ца́ля.

ЧАБУРА́НАЎ<*Чабура́н*<*чабура́н* 'той, хто зашморгвае чабурок'<*чабуро́к, чебура́к* 'вострана ці струганы драўляны шарык для цягі судна' (Даль, IV, 580, 586).

Аднак неабходна адзначыць, што ў штодзённым быту ў жывой гутарцы вёскі прозвішчы не з'яўляюцца вельмі папулярнымі і прывычнымі. Іх функцыю звычайна выконваюць тут вельмі пашыраныя розныя мянушкі. Да таго ж намі адзначана, што мянушкі маюць толькі старажылы вёскі, часцей за ўсё людзі з аднолькавымі прозвішчамі, а па прозвішчах называюць толькі тых асоб, якія пасяліліся тут пазней, часам аднаго з тых жыхароў вёскі, у якіх аднолькавыя прозвішчы. Такім чынам, не маюць мянушак наступныя жыхары даследуемай вёскі: *Алесе́нка, Багушэ́віч, Галубо́ўскі, Дзевятко́ўскі, Ждан, Казло́ўскі, Каралёнак, Курыло́віч Зінаі́да, Лось, Ма́лікаў, Му́кель, Мядзю́ха Антаніна, Немі́рскі, Рамано́віч Васі́ль, Со́баль Яста́ф, Хмылко́, Чабура́наў, Чарке́с, Шу́рпік Андрэй.* А для найменняў усіх астатніх жыхароў замест прозвішчаў, якія фактычна знаходзяцца ў пасіўным фондзе ўжывання, шырока выкарыстоўваюцца мянушкі. Намі ўстаноўлена, што мянушкі даюцца па дзвюх прычынах: а) для адрознення асоб з аднолькавымі прозвішчамі; б) для выдзялення па якой-небудзь рысе пэўнай асобы ад усіх астатніх жыхароў вёскі. Мянушкі асоб з аднолькавымі прозвішчамі выконваюць у гаворцы функцыю імя па бацьку, а фактычна выкарыстоўваюцца ў якасці прозвішчаў. Яны звычайна ўтвараюцца ад імя бацькі або свёкра (радзей), а калі адзін з тых жыхароў вёскі, у якіх аднолькавыя прозвішчы, народжаны без шлюбу, мянушка яму даецца звычайна ад імя дзеда ці

маці. У рэдкіх выпадках мянушкі ўтвараюцца і ад дзявочага прозвішча маці, а таксама ад мянушкі бацькі ці дзеда. Для ўтварэння такіх мянушак выкарыстоўваюцца суфіксы *-ін, -ок, -ёў, -(ік)аў, -оў, -авіч, -евіч.* Зняважлівага значэння гэтыя мянушкі не маюць. Да іх звычайна прыбаўляецца імя носьбіта мянушкі: *Алёнін* ці *Міхалкавіч (-Сідаровіч Уладзімір)*<*Алёна* 'імя маці' ці *Міхал, Міхалка* 'імя дзеда' (абедзве мянушкі ў аднолькавай ступені частыя); *Аляксейчыкаў Валодзя (-Хадзькевіч Уладзімір)*<*Аляксей* 'імя дзеда'>*Аляксейчык* 'мянушка бацькі'; *Аўгеевіч (-Сідаровіч Мікал*[2]*)*<*Аўгей* 'імя бацькі'; *Ванька Базылёў (-Сідаровіч Іван)*<*Базыль* 'імя бацькі'; *Пецька Дамінічкаў (-Хадзькевіч Пётр)* і *Толя Дамінічкаў (-Хадзькевіч Натоль)*<*Дамінік* 'імя дзеда'>*Дамін(ікав)іч* 'мянушка бацькі'; *Ігнаткаў (-Балюкевіч Ястаф)*<*Ігнат*>*Ігнатка* 'імя цесця'; *Коля Каралёў (-Курыловіч Мікал)* і *Васька Каралёў (-Курыловіч Васіль)*<*Караль* 'імя дзеда'; *Кішкоў (-Пронька Антон)*< *Кішко* 'дзявочае прозвішча маці', параўн. літ. *Kiškis* (КЛП)<*kiškis* 'заяц', (параўн. таксама БА, II, 204: *Кішко, Кішкоў, Кішкевіч, Кішковіч, Кішкель, Кішкун*), *Ванька Кішчычын (-Шурпік Іван)* і *Пецця Кішчычын (-Шурпік Пётр)*<*Кішко* 'дзявочае прозвішча бабулі'> *Кішчыч* 'мянушка бацькі'; *Кісялёў (-Собаль Сямён)*< *Кісель* 'мянушка цесця'; *Кароцкава (-Шурнік Анастасія)*<*Кароцкі* 'мянушка дзеда'<*кароцкі* 'кароткі' (параўн. БА, II, 187)>*Кароцкаў* 'мянушка бацькі'; *Леванцова (-Хадзькевіч Вера)*<*Леван* 'імя свёкра>*Леванцоў* 'мянушка мужа'; *Мікітка* ці *Каталік (-Хадзькевіч Пятруля)*<*Мікітка* 'імя дзеда' ці *каталік* (ён па веравызнанню католік); *Мікішка (-Скапцоў Нікіфар)*< *Мікішка*<*Нікіфар; Міхалкава (Сідаровіч Марыя)*< *Міхал* 'імя свёкра'>*Міхалка* 'тое ж'; *Сімучок (Мацкевіч Арсей)*<*Сімеон*>*Сімук* 'імя бацькі'; *Таболіха (-Сарока Ганна)*<*Таболь* 'прозвішча бацькі'; Юсцінаў *(-Хадзькевіч Віктар)*<*Юсцін* 'імя бацькі'.

Некаторыя з прыведзеных вышэй мянушак даследуемай гаворкі, на нашу думку, паказваюць працэс і шляхі фарміравання беларускіх прозвішчаў: *Алёнін, Аляксейчыкаў, Базылёў, Дамінічкаў, Кішчычын, Кароцкава* і інш.

---

[2] *Мікал* ад *Міхал (Міхаіл)*. У курапольскай гаворцы спарадычна на месцы *х* вымаўляецца *к*.

Мянушкі, якія выдзяляюць пэўную асобу сярод усіх астатніх жыхароў вёскі, звычайна характарызуюць іх носьбітаў:

а) па прафесіі, напр.: *Кавалёк Валодзя (-Хадзькевіч Уладзімір Аляксандравіч)*<*каваль*>*кавалёк* 'каваль нізкага росту'; *Рыбак (-Пронька Мікал)*<рыбак; *Шчотачнік (-Дзюшка Іван)*<*шчотачнік*;

б) па адмоўных рысах (як знешніх, так і ўнутраных) характару і г. д., напр.: *Адшчапенец (-Хадзькевіч Васіль Мікалаевіч)*<*адшчапенец* (ён пазашлюбны і пазбягае людзей); *Баран (-Хадзькевіч Канстанцін Ягоравіч)*< *баран* 'разява, разявака', *Баранаў (-Хадзькевіч Канстанцін Канстанцінавіч)*<*Баран* 'мянушка бацькі'; *Бароўчык (-Белы Пётр)*<? *борай* 'вяпрук' (Матэрыялы для слоўніка, 23)>*бароўчык* 'вепручок', параўн., аднак, *бароўка* 'лясная пчала' (Лексіка, 321); *Ванька Бацян (-Рамановіч Іван)*<*бацян* 'бусел' (ён з доўгімі нагамі і ходзіць як бусел на дыбачках); *Брадзяга (-Кундра Мікал)*<*брадзяга* 'бадзяга' (ён любіць выпіваць, а калі вып'е, блудзіць і не знаходзіць сваёй хаты); *Вашаног (-Хадзькевіч Пётр Іосіфавіч)*<*вашаног* 'крываногі'< літ. *vãšas* 'кручок'+бел. *нагá* (ён з крывымі нагамі і нізкага росту); *Вягела (-Хадзькевіч Мікал Юльевіч)*< *вягела* 'мянтуз'<літ. *vėgėlė* 'тое ж' (у яго вялікая галава); *Галавач (-Сідаровіч Антон Антонавіч)*<*галавач* 'галаваты' (у яго вялікая галава), *Пецька Гаршчок (-Курдзёнак Пётр), Віця Гаршчок (-Курдзёнак Віталь) і Юзя Гаршчок (-Курдзёнак Іосіф)*<*гаршчок* (іх бацька насіў шапку, падобную па форме на гаршчок); *Дохтар (-Палікові Пётр)*<*дохтар* 'доктар' (ён працуе ветэрынарным фельчарам); *Заяц (-Бароўка Максім)*<заяц (ён вялікі баязлівец); *Каптан (-Казёнка)*<*каптан* 'кафтан' (ён і летам ходзіць у кафтане, носіць кафтан); *Каток (-Лысёнак Іосіф)*<*каток* 'каток, коцік'<*кот* (>*Кот* 'мянушка яго бацькі', у яго была вялікая галава); *Кітаіц (-Мураўёў Мікал)*<*кітаіц* 'кітаец' (ён нізкага росту і падобны на кітайца); *Клапок (-Хадзькевіч Іван Іосіфавіч)*<*клапок*<*клоп* (у яго твар чырвоны); *Ліпця (-Баломчыха Алімпіяда)*<*ліпця* 'бруднюха, неахайная'<літ. *lipčius* 'тое ж' (яна вельмі неахайная); *Псюк (-Хадзькевіч Еўдакім)*<*псюк* (ён — як сабака, які прыбліжаецца, крадучыся, і кусаецца), *Ражок (-Собаль Іван)*<*ражок* (ён іграе на ражку); *Рэксць (-Цаляк Бра-*

*ніслáў*)<*рэксць* 'пляцёнка з вяровак у выглядзе мяшка, якой носяць сена'<літ. *rẽgztis* 'тое ж' (ён плёў такія мяшкі); *Саладýха (-Курылóвіч Ягóр)*<*саладýха* 'салоджаны ячмень для піва' (ён умеў добра саладзіць ячмень), *Сáўка (-Хадзькéвіч Мікáл Васільевіч)*<*сáўка* 'маленькая сава'<*савá* (у яго вялікая галава); *Сяўка (-Барóўка Антóн)*<*сяўка* 'сеялка, кош, з якога сеюць' (ён усё сеяў з «сяўкі»); *Унýк (-Нікіпярóвіч Аляксéй)*<*унýк* (яго жонку, сваю ўнучку, выгадаваў дзед і ўзяў зяця ў сваю хату); *Хóлад (-Рóшка Мікáл Аляксáндравіч)*<хóлад (ён эгаістычны, бяздушны да блізкіх); *Шалупіна Пятрýсь (-Хадзькéвіч Пётр Івáнавіч)* і *Шалупіна Валóдзя (-Хадзькевіч Уладзімір Івáнавіч)*<*шалупіна* (іх бацькі і яны самі жылі бедна і харчаваліся шалупіннем з бульбы);

в) па індывідуальных асаблівасцях іх мовы: *Гэдак (-Хадзькéвіч Марыя Пáўлаўна)* <*гэдак* 'гэтак, так' (у размовах, расказах яна ўсё паўтарала слова «гэдак»); *Сэйна (-Прóнька Віктар)*<*сэйна* 'хопіць, канец'<літ. *seinė, seĩnia, seinà* 'сытасць', таксама 'хопіць, канец' (ён усё паўтараў гэта слова); *Тýся (-Хадзькéвіч Івáн Мацвеéвіч)*<*тýся*<*птýшка* (ён шапялявы і замест *птушка* вымаўляў *туся*); *Цястка (-Хадзькéвіч Імпаліт)*<*цястка* 'цеста' (у яго дома гавораць па-польску і замест *цеста* вымаўляюць *цястка*); *Шыта (-Сідаровіч Пётр)*<*шыта*, літ. *šitai* 'тое ж' (ён усё паўтараў слова «шыта»); *Ялта (-Хадзькéвіч Івáн Івáнавіч*, ён у Ялце служыў у арміі і ўсё гэты горад успамінаў).

Прыведзеныя мянушкі яўна сведчаць аб тым, што гумар, народная дасціпнасць і назіральнасць носьбітаў гаворкі з'яўляюцца рашаючымі фактарамі іх утварэння і ўжывання. Яны з'яўляюцца натуральнымі прадуктамі жывога ўжывання і на канкрэтных прыкладах дэманструюць шырокія словаўтваральныя магчымасці беларускай гутарковай мовы.

## АЛФАВІТНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ПРОЗВІШЧАЎ (З ІМЕНАМІ І НАЯЎНЫМІ МЯНУШКАМІ)

| | |
|---|---|
| Алéсéнка Леанід | — |
| Багушэвіч Валенцін | — |
| Балóмчыха Алімпіяда | Ліпця |
| Балюкéвіч Ястáф Мікáйлавіч | Ігнáткаў |

| | |
|---|---|
| Баро́ўка Анто́н | Ся́ўка |
| Баро́ўка Максі́м | Зая́ц |
| Бе́лы Пётр | Баро́ўчык |
| Галубо́ўскі Іва́н | — |
| Дзю́шка Іва́н | Шчо́тачнік |
| Дзевятко́ўскі | — |
| Ждан Антані́на | — |
| Казе́нка | Капта́н |
| Казло́ўскі | — |
| Каралёнак Анто́н | — |
| Ку́ндра Міка́л | Брадзя́га |
| Курдзёнак Віта́ль | Гаршчо́к Віця |
| Курдзёнак Іо́сіф | Гаршчо́к Юзя |
| Курдзёнак Пётр | Гаршчо́к Пе́цька |
| Курыло́віч Васі́ль | Каралёў Ва́ська |
| —»— Зінаі́да | — |
| —»— Міка́л | Каралёў Коля |
| —»— Ягó р | Саладу́ха |
| Лось | — |
| Лысёнак Іо́сіф | Като́к |
| Ма́лікаў | — |
| Мацке́віч Арсе́й | Сімучо́к |
| Му́кель А́нна | — |
| Мураўёў Міка́л | Кіта́іц |
| Мядзю́ха Антані́на | — |
| Німі́рскі Пётр | — |
| Нікіпяро́віч Аляксе́й | Уну́к |
| Палі́ковіч Пётр | До́хтар |
| Про́нька Анто́н | Кішко́ў |
| —»— Ві́ктар | Се́йна |
| —»— Мі́кал | Рыба́к |
| Рамано́віч Іва́н | Баця́н Ва́нька |
| —»— Васі́ль | — |
| Ро́шка Міка́л Аляксандравіч | Хо́лад |
| Саро́ка Анна | Табо́ліха |
| Сідаро́віч Анто́н Анто́навіч | Галава́ч |
| —»— Іва́н | Базылёў Ва́нька |
| Сідаро́віч Мары́я | Міха́лкава |
| —»— Міка́л | Аўге́евіч |
| —»— Пётр | Шыта |
| —»— Уладзімі́р | Але́нін ці Міха́лкавіч |
| Скапцо́ў Нікі́фар | Мікі́шка |
| Со́баль Іва́н | Ражо́к |
| —»— Сямён | Кіселёў |
| —»— Яста́ф | — |
| Хадзьке́віч Васі́ль Мікала́евіч | Адшчапе́нец |
| —»— Ве́ра | Леванцо́ва |
| —»— Ві́ктар | Юсці́наў |
| —»— Еўдакі́м | Псюк |
| —»— Іва́н Іва́навіч | Ялта |
| —»— Іва́н Іо́сіфавіч | Клапо́к |
| —»— Іван Мацве́евіч | Ту́ся |
| —»— Імпалі́т | Ця́стка |

| | |
|---|---|
| Хадзькевіч Канстанцін Канстанцінавіч | Бара́наў |
| —»— Канстанцін Ягóравіч | Бара́н |
| —»— Мары́я Па́ўлаўна | Гэ́дак |
| —»— Міка́л Васільевіч | Са́ўка |
| —»— Міка́л Юльевіч | Вя́гела |
| —»— Натóль | Дамі́нічкаў Тóля |
| —»— Пётр | Дамі́нічкаў Пе́цька |
| —»— Пётр Іва́навіч | Шалупіна Пятру́сь |
| —»— Пётр Іóсіфавіч | Вашанóг |
| —»— Пятру́ля | Мікі́тка ці Каталі́к |
| —»— Уладзімір Аляксáндравіч | Кавалёк Валóдзя |
| —»— Уладзімір Іва́навіч | Шалупіна Валóдзя |
| —»— Уладзімір Па́ўлавіч | Аляксе́йчыкаў Валóдзя |
| Хмылкó | — |
| Царя́к Браніслáў | Рэксць |
| Чабура́наў Мішка | — |
| Чаркéс Міка́л | — |
| Шу́рпік Анастасія | Карóцкава |
| —»— Андрэ́й | — |
| —»— Іва́н | Кішчы́чын |

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ КРЫНІЦ


БА, I — М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія. Мінск, 1966.

БА, II — М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія. Мінск, 1969.

Быстран — Jan Bystroń. Nazwiska polskie. Lwów—Warszawa, 1936.

Весялоўскі — С. Б. Веселовский. Ономастикон. М., 1974.

Даль, I, II, IV — Владимир Даль. Толковый словарь живого великорусского языка, т. I, II, IV. М., 1955.

Драздоўскі — Günter Drosdowski. Lexikon der Vornamen. Mannheim — Zürich, 1968.

Жучкевіч — В. А. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Минск, 1974.

Ілчаў — Стефан Илчев. Речник на личните и фамилни имена у Българите. София, 1969.

КЛГН — Картатэка літоўскіх геаграфічных назваў (захоўваецца ў Інстытуце літоўскай мовы і літаратуры АН ЛітССР).

КЛП — Картатэка літоўскіх прозвішчаў (захоўваецца ў Інстытуце літоўскай мовы і літаратуры АН ЛітССР).

Лексіка — Лексика Полесья. М., 1968.

Марошкін — Славянский именослов..., составлен М. Морошкиным. СПб, 1867.

Матэрыялы для слоўніка — Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Мінск, 1970.

Пятроўскі — Н. А. Петровский. Словарь русских личных имен. М., 1966.

Раяндзі — Edgar Rajandi. Raamat nimedest. Tallin, 1966.

Унбегаун — R. O. Unbegaun. Russian Surnames. Oxford, 1972.

*А. К. Усціновіч*

## АНТРАПАНІМІЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

У актавых запісах Гродзеншчыны і Брэстчыны XVI—XVII стст. засведчаны антрапонімы з няясным значэннем.. Разгляду такіх антрапонімаў і прысвячаецца гэты артыкул.

БОРЕЙША — *панъ Иванъ Борейша* 1556 (АГЗС, АВК XXI 231). Параўн. рус. рэг. *борéй* 'баран' (наўг.), *борéюшко* 'малады баран' (арханг.) (СРНГ). Аналагічны суфікс і ў разан. *мальшá* 'меншы ў сям'і, апошні ў родзе' (Даль). Аднак не выключана, што мянушка гэта можа быць літоўскай па паходжанню. Параўн. літ. *barėjas* 'той, хто сварыцца' (ад *barti* 'сварыцца, лаяць').

БИРЮБА — *панъ Криштофъ Бирюба Славенскій* 1621 (АБГГС V 16). Магчыма ўтварэнне пры дапамозе рэдкага суфікса *-юба (-'уба)*. У аснове могуць ляжаць назоўнікі тыпу рус. *бырка* 'авечка, ягня', укр. *бúря* 'авечка'. Або гэта ўтварэнне ад *бир* — 'браць' (параўн. рус. *бирýн* 'хабарнік'). Утварэнні на *-'уба*, відаць, маюць значэнне павелічальнасці.

БЕЛОКОЗА — *Адама Белокоза* 1615 (АГЗС, АИК I 272). Хутчэй за ўсё мянушка ўзнікла на базе спалучэння *белая каза*. Параўн. аналагічныя прозвішчы, напрыклад, ва ўкраінскай мове: *Чорновіл, Рябокляч*. Аднак можна зрабіць спробу вывесці гэту мянушку са слоў тыпу рус. рэг. (СРНГ) *белокóска* 'мянушка русавалосай дзяўчынкі ці дзяўчыны' (наўг.): *белокоска* (ад *белая косá*) у выніку дээтымалагізацыі стала ўспрымацца як *белокозка (белая каза)*, адкуль і магло быць выведзена непамяншальнае *белокоза*>*Белокоза*.

БУКРАБА — *Теодоромъ Станиславомъ Букрабою* 1631 (АБЗС, АИАК II 57). Магчыма форма з дысіміляцыяй двух *-r-*, г. зн. з зыходнага * *Буркраба*. Гэта апошняя можа быць ідэнтычна па паходжанню са ст.-бел. *буркграбя* 'граданачальнік' (<польск. *burgrabia*<ням. *Burggraf)*. Пра польскае слова гл.: Брукнер, стар. 50.

БАРСОБА//ВОРСОБА — *Борисъ Ворсоба* 1635 (АБЗС, АИАК II 172); *панъ Иванъ Костюшковичъ Барсоба* 1589 (АБГС VI 69). Хутчэй за ўсё слова ўтворана ад бел. рэг. *барсаць, варсаць* 'варсаць аборы', 'калоць з разбегу ў бок', *ва́рсаць* 'кідаць'. Аналагічныя ўтварэнні на *-оба* сустракаюцца і ў рускіх дыялектах: *варахо́ба//вара́хола* (СРНГ). Магчыма і ўтварэнне ад літ. *varsá* 'клок шэрсці' (Фрэнкель) пры дапамозе суфікса *-оба*.

ВЫЗКГА=ВЫЗГА — *Миколай Вызкга (бояринъ господарский)* 1540 (АГЗС XVII 134). Хутчэй за ўсё гэта слова літоўскага паходжання. Параўн. літ. *virgà* 'трава тыпу асакі', *vìrgė* 'назва расліны'. Аднак больш верагодным здаецца ўтварэнне ад літ. *vìzgė* 'ветрагон, бадзяга' (ад *vìzgėti* 'шавяліцца'). Пра літоўскае слова гл. у Фрэнкеля. Форма *Вызкга* (замест * *Визкга*) тлумачыцца тым, што гэта слова стала ўспрымацца як прэфіксальнае: першая яго частка асацыіравалася са славянскім прэфіксам *вы-*. Магчыма і іншае тлумачэнне: слова * *Визкга* запазычана праз пасрэдніцтва ўкраінскай мовы (дзе *і*>*у*).

ГАМШЕЙ — *пана Яна Гамшея* 1584 (АБЗС, АИАК II 251). Магчыма нейкае экспрэсіўнае ўтварэнне пры дапамозе суфікса *-ей* ад дзеяслова. Параўн. рус. рэг. *гоноше́й* 'дрэнна адзеты, амаль голы чалавек', ***гоношить*** 'рабіць што-небудзь з астаткаў, абрэзкаў' (СРНГ). З другога боку, можна зрабіць спробу звязаць гэту мянушку (калі лічыць, што тут узрыўное *г*, не адлюстраванае на пісьме) з дзеясловамі тыпу рус. рэг. *комши́ть* 'мяць, умінаць', 'есці', 'біць, калаціць, калашмаціць' (Даль: пад словам *комъ*). Пачатковае *к-* атрымала экспрэсіўнае азванчэнне (>**г**). З'ява гэта нярэдка сустракаецца ў гаворках.

ГОЗІЮШ — *Юрій Гозіюшъ* 1589 (АБГС VI 27). Дакладна можна сказаць адно: слова гэта іншамоўнага паходжання, хутчэй за ўсё гэта латынізаваная форма на *-us*. Форма слова ўказвае, што яно прыйшло праз польскую або венгерскую мову: у венгерскай мове вымаўленне лац. *s* як *š* звычайна, а ў польскай здаўна лац. *-us* вымаўляецца як *-usz* (параўн. польск. *animusz*<лац. *animus*). Дапушчальна іншамоўнае прозвішча *Гозіюш* магло мець наступны выгляд: *Hosius, Gosius, Hozius, Go-*

*zius, Osius, Ozius* (у апошнім выпадку ў беларускай мове развіўся пратэтычны гук *г*).

ДЗЕНЧИК — *Klim Dzienczik* 1591 Дрог. (АВАК XIV 410). Магчыма памяншальнае ўтварэнне ад *дзень,* параўн. *агеньчык.* Матывы называння розныя. Можна дапусціць, што першапачаткова гэта была жартаўлівая мянушка (чалавек, якога так назвалі, можа быць, часта гаварыў слова «дзеньчык»).

ДОВОЙНА — *pana Dowoyny* 1597 Кобр. (АВАК XIV 565). Слова гэта дапускае розныя тлумачэнні: 1) мянушка першапачаткова магла ўзнікнуць на аснове спалучэння *do wojny* (>*Довойна*), магчыма, па характэрнаму для гэтага чалавека воклічу (*do wojny!*); 2) паколькі існуе суфікс *-ойна,* то можна зыходзіць з * *удов-ойна* (утварэнне ад *удова* 'ўдава', са спрашчэннем *уд-*>*д-*).

КИЛДИШ — *служебника... Килдиша* 1561 (АГЗС XVII 428). Напрошваецца параўнанне з бел. дыял. *кілдышыць* 'валтузіць, тармасіць' (Сцяшк.). Аднак, магчыма, што мянушка *Килдиш* ад літ. *kìldišas* 'вісус, гарэза, шалапут, бадзяга; чорт' (LKŽ, V, 775).

КРОМБАЛ — *Миколая Кромбала* 1586 Слонім (АВАК XIV 346). Мянушка гэта, зыходзячы з фанетыкі слова, несумненнае запазычанне. Хутчэй за ўсё гэта літоўскае слова. Параўн. літ. *krambuõlis* 'дрэнны конь, кляча' (LKŽ, VI, 409).

КУКУРКА — *паробокъ Кукурка и з жоною* 1556 (АГЗС, АВК XXI 187). Слова гэта, магчыма, літоўскага паходжання. Параўн. літ. *kukùrė* 'спіна, горб' (LKŽ, VI, 816), *kùkuras* 'частка спіны каля шыі; горб, спіна' (LKŽ, VI, 815). Параўн. таксама літоўскія дзеясловы, з якімі можа быць таксама звязана мянушка *Кукурка: kũkurti* 'часамі выць; часамі плакаць усхліпваючы'; *kū̃kurti* 'тлець, курыцца, дыміцца; падгараць' (LKŽ, VI, 817). Такім чынам, калі *Кукурка* літоўскага паходжання, то мянушка гэта абазначала 'гарбун' (калі слова звязваць з *kukùrė*) або 'равун, плакса' (калі звязваць яго з дзеясловам *kukurti*).

ЛОСОТА//ЛАСОТА — *Pan Paweł Lasota* 1665 (АБГГС V 34). Відаць, першапачаткова * *Ласота* (<*ласы*). Форма *Лосота* можа быць другаснай, з гіперкарэктным '*о*'. Параўн. рус. рэг. *ласотá* 'ласка, ласкавасць' (Даль). Суфікс * *-ota* (з націскам на канцы *-otа̄*) звычайна ўтварае абстрактныя назоўнікі ад прыметнікаў

(*высота́, широта́, ласота́, чернота́* і пад.). Пры пераняcенні націску на склад улева *(-ota)* гэты суфікс утварае зборныя назоўнікі ад прыметнікаў: *голо́та* і пад. З гэтым націскам *(-ota)* і сустракаюцца прозвішчы на *-ота* (параўн., напрыклад, рус. *Черно́та*).

ОРЯБОК — *на имя Петреля Орябка ...тотъ Орябокъ* 1540 (АГЗС XVII 82). Мянушка звязана з бел. рэг. *арабок* 'рабчык' (Інстр. 37), *орабо́к, ораб,* 'рабчык' (Дразд.). Усходнеславянскае *оряб- (orę̨b-)* мае славянскае паходжанне. Этымалогію гл. у Фасмера.

ПОЧОБУТ—*Mikołay Kundzicz Poczobut* 1664 (АБГГС V 176). Магчыма, літоўскага паходжання. Зыходнае слова павінна было мець форму **Pačiobutas (*Počiobutos)*. Без прэфікса гэта літоўскае слова ў форме *Čiobutas* зафіксавана ў якасці мясцовай назвы ў частцы латышскай *Жыемгалы?* (Буга, 582).

РЕПЕХ — *а Репехъ, мураль* 1540 (АГЗС XVII 125). Можа быць, украінскага паходжання. Параўн. укр. *реп'ях* 'лопух'. У частцы ўкраінскіх гаворак (як зрэшты і беларускіх) пасля мяккіх зычных '*а*' пераходзіць у '*е*' (**реп'ах>*реп'ех*). Відаць, гэта з'ява і адлюстравалася ў мянушцы *Репех.* З другога боку, можна думаць і аб 'гіперкарэктным' паходжанні *е* (замест *а*) у дадзеным выпадку.

СТИРП — *Стирпа Мартиновича — рыбалова* 1541 (АГЗС XVII 367). Па спалучэнню гукаў мянушка вельмі нагадвае балтыйскае слова. У літоўскай мове мы знаходзім падобнае прозвішча *Stirpejko (Stirpejko Milejkajtis* (Буга, 204). Параўн. літ. *stir̃pti* 'падрастаць, развівацца (пра дзяцей); падужэць, паздаравець' (этымалогію гл. у Фрэнкеля) і лат. *stirps* 'ствол, расліна, сцябло; патомства, паходжанне' (пра слова гл.: Фрэнкель, 935).

ЧОРНАМЫСЛА — *Mirosławu Czarnomyslu* 1662 (АБГС III 61). Па ўсяму відаць, што гэта старое складанае слова **čьrno-myslъ (*čьrnъ* 'чорны', *myslъ* — прыметнік, які суадносіцца са словам **myslь* 'мысль'). **Čьrnomyslъ,* відаць, мела значэнне 'які мае чорныя (злыя) думкі'. Утварэнні на *-myslъ* вядомы са старажытнасці. Князь Яраслаў (XII ст.) за мудрасць быў празваны *Осмомыслом* (г. зн., які мае восем умоў); *мыслъ* (як другая частка слова) часта сустракалася ва ўласных імёнах у старарускай мове *(Перемыслъ, Добромыслъ,*

